## УВОДЗІНЫ

Надрукаваныя тут народныя словы падслуханы і запісаны мною ў Глускім раёне Мінскай вобласці[1]. Рабілася гэта пачынаючы з 1945 г. З 1947 г. да верасня 1957 г. запісы вяліся несістэматычна.

У слоўнік увайшла толькі частка сабранага матэрыялу.

Розныя групы слоў па-свойму цікавыя. Адны з іх—гэта старажытныя агульнаўсходнеславянскія ці агульнаславянскія, напрыклад: *віж* (**вижь**), *віжаваць* (**вижевати**), *свесь* (**свесь**), *блашчы́ца* (**площица**); другія—узніклі як дыялектныя словы, напрыклад: *зне́хтаваць, ала́дчынка, рале́йны;* трэція—запазычаныя, іншамоўныя, напрыклад: *хвіст, штанда́ра, мітрэ́нка, пэ́йсы, шу́пель.*

Спынюся на некаторых з іх.

---

[1] Значная частка слоў з паметкаю «Глуск» запісана ў Глуску, але не ад ураджэнцаў гэтага гарадскога пасёлка.

ВІЖ. Слова запісана ў в. Клетнае. Значэнне яго—хітрун, шпіён, які «жыве́ ціхянько», заўсёды імкнецца непрыкметна выведаць пра іншых, пра суседзяў; такіх не любяць і характарызуюць як нялюдскіх у грамадзе; аб гэтым сведчаць наступныя фразы: *Віж той праклятьı. О-о-о! Ён віж* (з інтанацыяй ганьбы). Слова *віж* ад таго ж кораня, што і старажытнае агульнаўсходнеславянскае слова видѣти; вижь—з видjь (параўн.: польскае widz—глядач, сведка і інш.). У старажытнасці яно мела значэнне паняты́, сведка. Такім чынам, слова *віж* захавалася са старадаўнасці, але змяніла значэнне. Ад слова *віж* ёсць і вытворныя — *віжава́ць, вы́віжаваць, навывіжо́ўваць, віжава́нне, віжава́ты.*

ЗНЕ́ХТАВАЦЬ (у вымаўленні *зьне́хтуваць* і *зьне́хтаваць*). Запісана ў в. Слаўкавічы. Дзеяслоў I спражэння (-ую, -уеш), пераходны. Утвораны ад займенніка, на першы погляд—*нехта,* але сваім сэнсам, значэннем *знехтаваць* у сваяцтве з *ніхто. Знехтаваць*—ахаяць, зганьбіць, зусім прынізіць (каго-небудзь). Параўн.: *Ты—ніхто.* У гаворцы в. Слаўкавічы мае месца зблытванне часціц *не* і *ні,* прычым часцей ужываецца *ні,* іншы раз *не* замест *ні (нечо́га не рабілі).* Можа быць, гэтым і тлумачыцца—*зне́хтаваць* ад *ніхто.*

ХВІСТ. Назоўнік мужчынскага роду. Знак забароны пасвіць жывёлу (на сенажаці, канюшыне, пожні); гэта — тычка, на якой завязан жмут саломы, травы або закручаны вузлом галінкі з лістамі. Можна падумаць, што

*хвіст* — узятае з украінскай мовы слова: *хвіст* нагадвае падвязаны конскі хвост, а *хвост* паўкраінску—*хвіст.* Параўн. таксама укр. *хист, захист—абарона, забарона.*

Некаторыя з надрукаваных тут слоў пачуеш часцей: *кукýлька, абганя́ць* (бульбу), *паравéдаць, акалóт, алéшнік, астрóва, бач, батавáць, бáцене, брацéнік, буякí, галашчóкам, глёўкі, гýшкацца, ёмка, завішавáць, злы́гіч;*

а каторыя—радзей ці вельмі рэдка: *барлíна, віж, віжавáць, галэ́п, дóйло, зам'ёт, заўвíца, знéхтаваць, ірха, лёзная, лучнíк, лях, ляшáн, маршчáк, мітрэ́нка, тóлмач, рашэ́ціна, сахóр, сукáло, трацíна.*

Да некаторых слоў прыводзяцца паралелі з гаворак розных раёнаў Беларусі (Радашковіцкі, Заслаўскі, Карэліцкі і інш.; гг. Мсціслаў, Радашковічы). Яны або мною сабраны, або падказаны знаёмымі і калегамі, якія родам з гэтых мясцін.

Рыхтуючы гэты слоўнік да друку, мелася на мэце: даць выкладчыкам беларускай дыялекталогіі, а таксама іншых раздзелаў навукі аб роднай мове (сучасная беларуская мова, гістарычная граматыка) новыя факты і матэрыялы; даць матэрыялы і факты для студэнцкіх курсавых работ па лексіцы народных гаворак; паказаць у пэўнай меры разнастайнасць дыялектнай лексікі поўдня Беларусі; звярнуць увагу на неабходнасць неадкладнага і самага шырокага паходу студэнтаў, вучняў, выкладчыкаў, журналістаў, пісьменнікаў на збіранне, сістэматызацыю, друкаванне і вывучэнне

дыялектнай лексікі — невычэрпнага народнага багацця [1].

Шырокае збіранне дыялектнай лексікі павінна быць падпарадкавана не толькі задачам навуковага асвятлення тэарэтычных пытанняў мовазнаўства, а і задачам штодзённых клопатаў пра ўзбагачэнне і далейшую нармалізацыю нашай літаратурнай мовы. Нярэдка ў нас ужываюцца словы няправільна, часам з «хістаннямі» ў адносінах роду, ліку, націску.

Ці трэба, скажам, ужываць побач і **поезд**, і **цягнік?** Ці захоўваць у літаратурнай мове **атрымаць** (пасылку, зарплату)?

Нярэдка пішуць і гавораць *прызачыніць (пры-за-чыніць), прызакрыць (пры-за-крыць)* юшку, фортачку, дзверы і *прыадчыніць (пры-ад-чыніць), прыадкрыць (пры-ад-крыць)* юшку, фортачку, дзверы. Ці добра? Ці правільна? У Глускім, Любанскім, Старадарожскім раёнах Мінскай вобласці, у Акцябрскім і Парыцкім раёнах Гомельскай вобласці, у Асіповіцкім і Бабруйскім раёнах Магілёўскай вобласці (па маіх уласныхназіраннях) гавораць:

*прычыніць* (юшку, фортачку, дзверы),

*прачыніць* (юшку, фортачку, дзверы).

У Кандрата Крапівы: Прачыніла дзверы ў хату і яшчэ з-за парога ледзь выгаварыла... (Збор твораў, т. II, Мінск, 1956, стар. 191).

---

[1] Гэтага вымагае і сучасны ўзровень беларускай дыялекталогіі як навукі, якая мае, як ніколі, багатыя матэрыялы па фанетыцы і марфалогіі народных гаворак і мае вельмі бедныя і скупыя матэрыялы па лексіцы народных гаворак.

У Максіма Лужаніна: прачыніць... дзверцы («Моваю сэрца», 1955, стар. 81).

*Прычыніць* і *прачыніць* ужываюцца і ў некаторых раёнах вакол сталіцы, і ў шэрагу раёнаў Маладзечанскай і Гродзенскай абласцей (высветлена шляхам апытання студэнтаў—ураджэнцаў гэтых абласцей).

Чаму ж аддаць перавагу? *Прызачыніць* ці *прычыніць? Прыадчыніць* ці *прачыніць?*

Пішуць і гавораць іншы раз: *зачыніць* кніжку, *зачыніць* сход, *закрыць* вочы, *як і зачыніць* дзверы. Народная мова і пісьмовая практыка лепшых знаўцаў мовы дае іншае: *зачыніць* дзверы, фортачку, *адчыніць* дзверы, фортачку, але *загарнýць* кніжку, *адгарнýць* кніжку (дарэчы—не *лістáць* кніжку, а *гартáць* кніжку), *заплюшчыць* вочы, *расплюшчыць* вочы, *закрыць* сход, нараду, *адкрыць* сход, нараду.

У жывых народных гаворках ужываюцца ў адным значэнні часціцы *вось, вот, от*. У літаратурнай мове запанавала адна з іх—*вось*. І калі хто-небудзь, апісваючы Палессе, Случчыну, жыхароў Палесся або Случчыны (тут звычайна ўжываецца *от*), у дыялагу герояў ужывае часціцу *от* гэта не выклікае здзіўлення. Калі ж пісьменнік апісвае полацкі край, расказвае пра людзей і пра падзеі каля Полацка, то часціца *от* у мове героя—зусім нечаканая.

Да мяне, як выкладчыка, часта звяртаюцца студэнты з просьбаю вызначыць, якая форма, якое слова з'яўляецца нормаю. Як правільна — шóфер ці шафёр? цэ́мент ці цэмéнт? прóцант ці працэ́нт? і інш. Маючы перад сабою

аўдыторыю, у якой выхадцы з розных куткоў Беларусі, я меў магчымасць высветліць, што і ў Капаткевіцкім, і ў Радашковіцкім, і ў Заслаўскім, і ў Жалудоцкім, і ў Ветрынскім, і ў Дрысенскім, і ў Мсціслаўскім і без ліку іншых раёнах гавораць не *шафёр*, а *шофер* (у вымаўленні шо́фер, шо́фяр, шо́фір). Лінгвісты тлумачаць, што гэта слова з французскай мовы, у якой націск падае, як норма, на апошні склад, таму з націскам на ё(о) павінна ўжывацца яно і ў нашай мове. Ці мала ёсць запазычаных слоў, якія, падпарадкоўваючыся фанетычнай сістэме і граматычнаму ладу нашай мовы, змянілі свой выгляд, маюць націск на іншым складзе? Не *цэме́нт*, а *цэ́мент*. Ці пабеларуску гаварыць *тра́ктары?* У многіх кутках Беларусі гучыць: *трактары́ (трактары́* або *трактарэ́), трактаро́ў, трактара́мі.*

Ёсць у народных гаворках некалькі слоў, якія абазначаюць працэс уборкі ільну: *брацьлён*, *ірваць* лён, *скубці* лён і інш., і няма *церабіць* лён. *Цярэбяць, працярэбліваюць* зараснікі, лес; *цярэбяць (абцярэбліваюць)* галлё; *працярэбліваюць*—у значэнні прабіваюць, расчышчаюць—шлях, дарогу; *церабіць* ужываецца ў значэнні хутка, прагна, з добрым апетытам есці. У газетнай жа мове—*цярэбяць* лён.

У пісьмовай мове часам без разбору, без уліку канкрэтнага кантэксту ўжываецца слова *гвалтоўна,* забываюцца такія словы, як *сілком, сілаю, жывасілам* (ці *жывасіллю)* і інш.; без разбору, без уліку канкрэтнага кантэксту ўжываецца слова *наведаць,* тады як ёсць не толькі *наведаць,* а і *пераведаць, пераведацца, адве-*

*даць* (каго-небудзь), *адведацца* (параўн.: народныя *адведзіны, адведкі);* без разбору і ўліку канкрэтнага кантэксту ўжываецца кніжнае запазычанае слова *сказіць,* тады як ёсць народныя (яны зрэдку сустракаюцца і на старонках газет) *зняпраўдзіць, зняпраўджваць, няпраўдзіць.*

Лексічныя запазычанні—іншы раз простая неабходнасць у развіцці мовы. Калі ў той ці іншай мове няма адпаведнага слова для абазначэння пэўнага паняцця ці прадмета, то або ўзнікае слова — наватвор, або запазычваецца слова з іншай мовы. Але запазычанню павінны быць межы, а ўвядзенне ў літаратурную мову запазычанняў пры наяўнасці свайго, вядомага ў народна-дыялектнай ці літаратурнай мове — гэта праяўленне абыякавасці да роднай мовы, несвядомае ці свядомае не ўзбагачэнне, а збядненне роднай мовы. Часопіс «Беларусь» ужывае словы (назвы рыб) *фарэль, харыус.* Гэтыя рыбы водзяцца ў рэчках Беларусі, што бяруць пачатак галоўным чынам з крыніц Беларуска-Літоўскага ўзвышша. Л. П. Сабанееў у кнізе «Рыбы России», надрукаванай яшчэ ў сярэдзіне XIX ст., піша, што на Міншчыне, Вілейшчыне гэту рыбу называюць *стронг* (з некаторымі фанетычнымі адрозненнямі). Я пацвярджаю гэта. Гаворадь не *фарэль* (гэта—шведскае слова *forele*), а *стронг, малéнькі стрóнжык.* Гавораць не *харыус,* а *ліпéнь.*

Чаму ж не кіравацца патрабаваннем Якуба Коласа аб тым, што «перад увядзеннем кожнага новага слова трэба добра абшарыць кішэні свае памяці, перагледзець слоўнікавыя і фаль-

клорныя крыніцы, прыслухацца да жывой гаворкі—а можа і знойдзецца якраз тое, што неабходна, што ўжо ўжывалася і чамусьці забыта (ці ўжываецца і невядома нам)» [1].

Беларускае радыё, напрыклад, аб'яўляе пра «замазку для вокнаў», ігнаруючы агульнавядомае слова «кіт».

У народна-дыялектнай мове слова *скрозь* ужываецца ў значэнні ўсюды, паўсюдна. У літаратурнай мове, калькіруючы фразеалагізмы, часам ужываюць *скрозь слёзы, скрозь зубы* і некаторыя іншыя. Механічнасць калькіравання тут вельмі відавочная. У дасканалых знаўцаў мовы сустракаем *праз слёзы, праз зубы.* А ёсць жа ў беларускай мове і іншыя свае спалучэнні і словы. Ужыванне дублетных і сінанімічных спалучэнняў і слоў толькі ўзбагачае літаратурную мову. Так, у адным радзе з *праз слёзы* зусім заканамерна і абгрунтавана ўжываць сінонімы *з слязьмі, праз плач, проплач* і некаторыя іншыя.

Ці не наш грэх, што мы скрозь, усюды пішам толькі *жадаю поспеху* і забываем трапныя і разнастайныя ў стылёвых адносінах народныя, не кніжныя пажаданні (напрыклад, *спору ў працы!*)? [2]

---

[1] Якуб Колас. Публіцыстычныя і крытычныя артыкулы. Мінск, 1957, стар. 309.

[2] Гаворачы пра значэнне і ўжыванне некаторых слоў (стар. 6—10), я не маю на мэце самачынна ўзаконіць тыя ці іншыя выпадкі словаўжывання, а толькі звяртаю ўвагу на іх.

Некалькі радкоў пра геаграфічныя назвы. Дзіўна, калі чытаеш, напрыклад, добра знаёмае вядомае слова *Ждановічы*—Здановічы. Каму і для чаго трэба такая пераробка, такая вольніца?

Перадача на пісьме геаграфічных назваў—вельмі адказная справа. Правільнае напісанне іх не можа не грунтавацца на жывым вымаўленні іх. Правільна, напрыклад, зрабілі, што адмовіліся ад напісання «Менск». У старажытнасці яно гучала і пісалася *Мѣньскъ* (параўн.: *мен-а),* сям-там ля сталіцы і цяпер гавораць *Менск* (ці *Меньск*). Аднак такое вымаўленне не тыповае, яно гістарычнае, але зменена е. Тое самае трэба сказаць і пра *Заслаўе.* Горад Заслаўе меў у старажытнасці назву *Ижяславль* або *Изяславль.* З цягам часу яна змянілася. На Заслаўшчыне і ў суседніх раёнах гавораць *Заслаўе* (і *Заслоўе*). Літаратурнаю нормаю стала *Заслаўе.* У гэтым слове, як і ў словах *рубель, журавель, вецер, віхор* і падобных да іх, у старажытнасці на канцы быў галосны, які адпаў, пасля чаго атрымалася нязручнае для вымаўлення канцавое спалучэнне зычных гукаў: *рубл', журавл', карабл'*[1], *ветр, віхр* і інш. Гэтыя канцавыя спалучэнні зычных у мове беларусаў з даўняга часу змяніліся; так, з *журавль*[2] атрымалася *журавел'* або *журáў* ці *жóраў;* з *рубль—рубéл';* з *карабль—карабéл';* з *вѣтръ—вéцер,* з *вúхрь—віхóр.* У большасці

[1] Значок ' ужываю тут для абазначэння мяккасці зычнага *л*.

[2] Літараю *ь* тут абазначан галосны *ер*.

выпадкаў паміж зычных паявіўся новы галосны *(вѣтръ — вéцер);* у спалучэнні *вл'* паявіўся або ўстаўны галосны *(журавль—журавéл'),* або зычны *в* змяніўся на *ў,* а *л'*—на зычны ј *(Изяславль — Заслаўе),* або проста зычны *л'* адпаў. Гэта адбылося, напрыклад, у назве горада *Мьстиславль* (у старажытнасці слова мела значэнне прыметніка—*Мсціславаў*). На Мсціслаўшчыне і ў шмат якіх суседніх раёнах гавораць *Мсціслаў* (або *Амсціслаў),* але не *Мсціслаўль.* Варта і пісаць без *ль.* Дарэчы, на Мсціслаўшчыне, як і ў даўнія часы, гэта слова вымаўляецца з націскам на *і,* а не на *а* (параўн. народную прыказку: Мсці́слаў не аднаго сці́снуў). Няма падставы гаварыць і пісаць *Браслаўль* (параўн.: Лістоў напісаў табе многа ў твой раён, у Браслаўе [1]).

Ці правільна, што на картах і ў газетах пішуць *Вілія?* (параўн.: Гэта было ў сорак першым, восенню памятнай тою, ранкам, ад хмар пацямнеўшым, па-над ракою Віллёю [2]).

Не *Нéсвіж,* а *Нясвíж.*

Не *Сíманавічы* (вёска на поўдзень ад Бабруйска), а *Сымóнавічы.*

Не *Рогава* (вёска на мяжы Заслаўскага і Радашковіцкага раёнаў), а *Рагавá.*

Не *Асíпавічы,* а *Асіпóвічы.*

Не *Нéман,* а *Нёман.*

Не *Талачынó,* а *Талачы́н.*

---

[1] М. Танк. След бліскавіцы, Мінск, 1957, стар. 92.
[2] Там жа, стар. 17.

Нельга ігнараваць таго вымаўлення, той формы геаграфічнай назвы, якая бытуе ў населеным пункце і вакол яго.

Надышоў час і наспела самая пільная патрэба, каб мы сабралі беларускія тапанімічныя назвы, склалі слоўнікі, даследавалі і ўсебакова вывучылі іх. Неабходна сабраць народную лексіку і тэрміналогію і, не чакаючы паяўлення капітальнага слоўніка, друкаваць тое, што сабрана і паспяхова збіраецца нашымі дыялектолагамі.

Збіраючы народна-дыялектную лексіку, багацце і сінанімічная разнастайнасць якой бязмежныя і невычарпальныя, варта мець на ўвазе не толькі адрозненні тыпу *гáчка, капанíца, матыка* (гэтыя словы абазначаюць той самы прадмет, але бытуюць у розных мясцінах Беларусі), а і тую разнамаснасць лексікі, якая ствараецца адрозненнямі граматычнымі, словаўтваральнымі, фанетычнымі, акцэнталагічнымі і некаторымі іншымі.

Коратка спынюся на некаторых адрозненнях, ілюструючы іх вядомымі мне прыкладамі.

Маюцца так званыя дублетныя словы, раўназначныя: *наравíсты* і *натýрысты* (Глускі раён).

Ёсць словы, якія ў розных мясцінах маюць розныя значэнні: *лупáты — губáты* (Мсціслаўскі і Глускі раёны).

Адзін прадмет (дзеянне, прымета) мае розныя назвы: *папрýга* (Акцябрскі, Глускі раёны) і *дзяга* (Заслаўскі, Лагойскі, Радашковіцкі раёны); *заслóн* (Акцябрскі, Глускі раёны), *перадóк* (Халопеніцкі раён), *зэдаль* (Радашко-

віцкі раён), *услóн* (Нясвіжскі раён); *шýты, лабáты* і *галамóўзы* (бык); *хвóя* і *сасна́*.

Словы аднаго кораня, але адрозныя па словаўтваральных марфемах—па суфіксах ці прэфіксах: *пячáйка, печая́* (ці *печыя́*), *пякóтка; спявáк* і *пясéльнік*.

Словы, што адрозніваюцца па націску: *пéрун* (Старадарожскі, Глускі раёны) і *пярýн* (Мінскі, Радашковіцкі, Заслаўскі раёны), *гýба* (Глускі раён) і *губá* (Мінскі раён).

Словы, што адрозніваюцца граматычным родам: *навóй* — назоўнік мужчынскага роду (Дрыбінскі раён) і *навóйка*—назоўнік жаночага роду (Глускі раён); *абалачóк* і *вóблачка, асá* і *вóсел*.

Словы, што адрозніваюцца гукавым складам, несупадзеннем аднаго ці некалькіх гукаў: *я́блына* і *я́блыня, пóзны* і *пóзні, старадáўны* і *старадáўні*.

* * *

Выказваю шчырую падзяку П. Ф. Глебку, М. І. Гурскаму, М. І. Жыркевічу, М. Р. Судніку, якія дапамаглі каштоўнымі парадамі пры падрыхтоўцы слоўніка.

*Ф. Янкоўскі*



## АБ МАТЭРЫЯЛЕ І БУДОВЕ СЛОЎНІКА

У гэтым слоўніку, як ужо адзначалася, змешчаны не ўсе сабраныя словы. Адбіраючы іх, я кіраваўся правілам— не браць тых слоў, якія шырока ўжываюцца ў літаратурнай мове, якія з'яўляюцца агульнабеларускімі словамі, таму назоўнікаў тыпу *хата, крыніца, будан, сцежка, шлях, палянка, завушніца, ялаўка, дзірван;* прыметнікаў тыпу *спелы, хмарны, бацькаў, сухі, ядраны, сталы;* займеннікаў тыпу *я, ты, той, наш;* лічэбнікаў тыпу *два, сем, сто;* дзеясловаў тыпу *рабіць, араць, смактаць, смажыць, важыць, крактаць, трэсці, пытацца, псаваць, пражыць, бедаваць;* прыслоўяў тыпу *добра, хутка, моцна, брыдка* тут няма. Увага была накіравана на такія словы, якія адсутнічаюць або якія сустракаюцца рэдка на старонках кніжак, газет, часопісаў. Адсутнасць тлумачальнага нарматыўнага беларускага слоўніка ўскладняла працу. З гэтай прычыны сюды, магчыма, трапілі словы, якія не з'яўляюцца дыялектызмамі, аднак і яны цікавыя ў лінгвістычных адносінах,

тым больш, што падаюцца ў фразе, запісанай з вуснай мовы.

Уключаючы, напрыклад, слова *рана* ў значэнні *ўранні, раніцою,* зразумела, нельга было не ўключыць *рана* як антонім да *позна.*

У слоўніку змешчаны таксама словы, якія адрозніваюцца ад літаратурных фанематычным складам (напрыклад, *сталавéр* — старавер), словаўтваральнымі марфемамі (*каро́вічае* малако, *ры́бічая* луска), граматычным родам (*абалачо́к, памідо́ра*).

Словы змешчаны ў алфавітным парадку. Словы-амонімы падаюцца як асобныя артыкулы з лічбовымі паметкамі, напрыклад: **клінóк** [1], **клінóк** [2]; **кош** [1], **кош** [2]; **пушы́сты** [1], **пушы́сты** [2]; **буга́й** [1], **буга́й** [2]; **байч** [1], **байч** [2], **байч** [3]. Пасля слова-артыкула звычайна падаецца слова ў транскрыбіраваным запісу—так, як яно вымаўляецца, напрыклад: *пакуштаваць (паку́штуваць* і *паку́штаваць), замёціна (зам'ёціна), мётка (м'ётка), мулка (му́лко* і *му́лка).* Затым звычайна змяшчаецца граматычная прымета, напрыклад: назоўнік мужч. роду; дзеяслоў I спраж. (-ую, -уеш), пераходны; прыслоўе. У артыкуле даецца самае сціслае тлумачэнне слова і сказ ці некалькі сказаў, у якіх ужыта запісанае слова. Шмат якія словы не адназначныя, і значэнні іх падаюцца. Акрэслены, аднак (па зразумелай прычыне), не ўсе значэнні таго ці іншага слова.

У гаворках шмат якім прадметам і паняццям адпавядаюць дублетныя словы, напрыклад: *наравісты* і *нату́рысты* (апошняе ад лацінскага natura). Зразумела, падаюцца не ўсе

такія дублетныя словы. За 11 год, напрыклад, мною запісана (в. Клетнае) 15 фраз з словам *кукýля (кукýлька)* і толькі ўлетку 1957 г. пачута дублетнае слова *зязю́ля.*

Прыведзеныя сказы пашпартызаваны—скарочана пазначана вёска, дзе запісана слова.

Да часткі артыкулаў слоўніка прыведзены паралелі з іншых гаворак або з іншых моў (руская, чэшская, польская, украінская).

Дадатак—фразеалагічныя спалучэнні, прыказкі і прымаўкі, запісаныя таксама ў Глускім раёне,—асобнага тлумачэння не патрабуе. Адзначу толькі, што шмат якія з іх паралельна падаюцца ў транскрыбіраваным запісу.

Некаторыя фразеалагічныя спалучэнні, прыказкі і прымаўкі выкарыстаны былі ў зборніку «Беларускія народныя прыказкі і прымаўкі»[1].

---

[1] Ф. Янкоўскі. Беларускія народныя прыказкі і прымаўкі. Выд. АН БССР, 1957, стар. 452.

## ФАНЕТЫЧНЫЯ І ГРАМАТЫЧНЫЯ АСАБЛІВАСЦІ ГАВОРАК ГЛУСКАГА РАЁНА [1]

Гаворкі Глускага раёна Мінскай вобласці маюць некалькі вельмі яркіх асаблівасцей. Да ліку іх належаць:

саканне—вымаўленне цвёрдага *с* у зваротнай часціцы *ся* (*прысукраваўса, прымасціўса, налаўчыўса*);

---

[1] Аб фанетычнай і граматычнай сістэме гаворак Глускага раёна гл. мае артыкулы:

1. Глускія гаворкі. Аўтарэферат дысертацыі на атрыманне вучонай ступені кандыдата філалагічных навук. Мінск, 1954 (на рускай мове);
2. Некаторыя сінтаксічныя асаблівасці народных гаворак. Весці Акадэміі навук БССР, № 2, 1956;
3. Назоўнікі і іх формы ў гаворках Глускага раёна. Вучоныя запіскі Мінскага педагагічнага інстытута імя А. М. Горкага, вып. VI, 1956;
4. Нарыс фанетычнай сістэмы гаворак Глускага раёна. Вучоныя запіскі Мінскага педагагічнага інстытута імя А. М. Горкага, вып. X, 1958;
5. Прыслоўі і іх утварэнне ў народных гаворках. Вучоныя запіскі Мінскага педагагічнага інстытута імя А. М. Горкага, вып. XI, 1959.

змяненне *ы* на *у* пасля губных зычных: *вýпіць, памýць, папутáйса;*

недысіміляцыйнае ўмеранае аканне (з захаваннем канцавых ненаціскных *о, э*): *галавá разразáю, ажаніць, страля́ю,* але: *перабрáно, скóшано, хóрашэ, лёгянько;*

адсутнасць аглушэння звонкіх зычных перад глухім і на канцы слова: *грýзко, гразь, кніжка, калóдка, церабéж.*

Гэтыя асаблівасці—тыповыя для паўднёвай часткі Глускага раёна і не тыповыя для паўночнай часткі. Тэрыторыю раёна перасякае мяжа дыялектных адрозненняў, яна праходзіць з захаду на ўсход прыкладна праз Глуск. Гаворкі паўднёвай часткі аб'ядноўваюцца з тымі гаворкамі, якія ляжаць на поўдзень і паўднёвы захад ад Глускага раёна. А гаворкі паўночнай часткі раёна аб'ядноўваюцца з тымі, якія ляжаць на поўнач і паўночны ўсход ад Глускага раёна. Гаворкі паўночнай часткі бліжэйшыя да літаратурнай мовы, чым гаворкі паўднёвай часткі раёна.

У гаворках паўночнай часткі раёна (Сымонавічы, Гарадок, Жаўвінец, Дуброва) няма сакання, змянення *ы* пасля губных на *у*; тут поўнае недысіміляцыйнае аканне і поўнае ці амаль поўнае аглушэнне звонкіх зычных (*кнішка, лёхка, дуп*).

Для гаворак усяго раёна характэрна:

ацвярдзенне губных зычных з вылучэннем палатальнага элемента ў зычны гук j (й) перад галоснымі *о, а,* (*ё, я*): *пjаць, памjóр,* прычым на поўначы часта і *пяць, памёр;*

сцяжэнне галосных у канчатках прыметнікаў жаночага роду ў назоўным і вінавальным склонах адзіночнага ліку: *до́бра* (← *до́браа* ← *до́браја*), *ціха* (← *ціхаа* ← *ціхаја*), *до́бру* (← *до́бруу* ← *до́брују*), *ціху* (← *ціхуу* ← *ціхују*);

часцей на поўдні і рэдка на поўначы ўжываецца будучы час незакончанага трывання на -*му*: *чыта́цьму, хадзіцьму, чыта́цьмам, хадзіцьмам, чыта́цьмуць, хадзіцьмуць;*

часцей на поўдні раёна і радзей на поўначы сустракаюцца галосныя *ô* і *э̂* (*ê*), так званыя *о* і *э* (*е*) «закрытыя»; *о* «закрытае» (*ô*)— гэта *о*, набліжанае да *у*; *э* (*е*) «закрытае» (*э̂* (*ê*)—гэта *э* (*е*), набліжанае да «і», сустракаецца яно на месцы старажытнага ѣ.

Асаблівасці гаворак пад уплывам літаратурнай мовы так ці інакш сціраюцца. Так, напрыклад, побач з *паму́ць, ву́пісаць* можна пачуць і *памы́ць, выпісаць,* побач з *хо́рашэ, до́брэ, лёгко*—і *хо́раша, до́бра, лёгка.*

## УМОЎНЫЯ АБАЗНАЧЭННІ І СКАРАЧЭННІ

У слоўніку выкарыстана спрошчаная транскрыпцыя. Перад галоснымі *а, о, у, э* мяккасць папярэдніх зычных абазначаецца літарамі *я, ё, ю, е,* г. зн. як і ў арфаграфічным пісьме *(лялée, сáнячкі);* мяккасць зычных перад зычнымі і на канцы слова абазначаецца мяккім знакам *(сьвіціцца, жыцьмуць, расьці, сьню, зьехаць, сьпісаць);* зычны *j* абазначаецца літараю *й* толькі перад *і,* на канцы слова *(май)* і перад зычнымі *(стóймо).* Літараю *ô* абазначаецца «закрытае» *о;* літарамі *э̂* і *ê* абазначаецца *э (е)* «закрытае». Галосныя *ô, э̂ (ê)* ужываюцца пад націскам, і таму націск на іх не ставіцца *(абêдалі, рэ̂залі, навôйка);* падоўжаныя мяккія зычныя абазначаюцца падваеннем літар з мяккім знакам паміж імі *(мольлю)* [1]*;* літара *е* ў квадратовых дужках абазначае гук *е,* набліжаны да *я (а),* пасля мяккіх зычных; літара *э* ў квадратовых дужках абазначае гук э, набліжаны да *а,* пасля цвёрдых зычных: *чытá*[е], *пíш*[э];

---

[1] Для практычнага карыстання абазначэнне мяккасці мяккім знакам (ь) лічу зручнейшым за абазначэнне значком', параўн., напрыклад, с'п'іц', мол'л'у і сьпіць, мольлю.

літараю **г** (*г*) абазначаецца г выбухное (**галагу́цкі**);
адз.—адзіночны (лік)
агульн.—агульны (род)
арф.— арфаграфічна (калі тое ці іншае слова не ўдалося затранскрыбіраваць, то яно падаецца ў арфаграфічным запісу)
жан.—жаночы (род)
зак. тр.—закончанае трыванне
незак. тр.—незакончанае трыванне
мужч.—мужчынскі (род)
множн.—множны (лік)
нiяк.—ніякі (род)
гл.—глядзі
параўн.—параўнай
I спраж.—першае спражэнне
II спраж.—другое спражэнне
Байл.—в. Байлюкі
Балаш.—в. Балашэвічы
Барб.—в. Барбароў
Бяр.—в. Бярозаўка
Вайц.—в. Вайцяхоў
Вольн.—в. Вольніца
Дак.—в. Даколь
Зуб.—в. Зубарэвічы
Кас.—в. Касарычы
Кл.—в. Клетнае
Н.-Андр.—в. Нова-Андрэеўка
Пас. Чырвоны—пасёлак Чырвоны
Пас. Янкі Купалы—пасёлак імя Янкі Купалы
Поб.—в. Поблін
Сл.—в. Слаўкавічы
Сым.—в. Сымонавічы
Хал.—в. Халопенічы

## СЛОЎНІК

### А.

АБАЛАЧО'К *(абалачóк) мужч.* Найшóў абалачóк, і дож закáпаў. Сл. Параўн.: у стараславянскай мове **облакъ.**

АБАЛО'НЬ [1] *(абалóнь) жан.* Знешні слой драўніны, слой паміж карою і асяродкам, або «стры́жанем» (гл.). Абалóні (у хваёвым бервяне) багáто. Кл. Ні калóда—аднá абалóнь. Кл. Параўн.: блонь, болонь, блонка — рыхлые наружные слои лесины, бревна. Даль, «Толковый словарь». Параўн.: фразеалагізм пацягнула на абалонь. Чэрвеньскі раён.

АБАЛО'НЬ [2] Лугавое ўзбярэжжа ракі, якое заліваецца ў разводдзе. На абалóні лялéе. Кл. Параўн.: у старажытнай агульнаўсходнеславянскай мове **болонь, болонье** (балота, нізіна).

АБАПНУ'ЦЬ *(абапнýць) -у, -еш, пераходны.* Абкрыць што-небудзь чым-небудзь, накінуць што-небудзь на што-небудзь. Абапні хýстку: вéльмі дож. Барб. Пашлá машы́на, нéй-

ка абапну́та брызе́нтам. Кл. Параўн.: чэшскае оропа—занавеска.

АБАПНУ'ЦЦА (*абапну́цца*). Абкрыцца (хусткаю, брызентам). Абапну́са тае́ю ху́сткаю, й до́бра бу́дзе. Байл.

АБГАНЯ'ЦЬ [1] (*абганя́ць*) *-яю, -яеш, пераходны.* Абганяць (падарожніка, пешахода, фурманку, машыну). Я ні абганя́ў йіх. Сым. Абагна́лі за Малі́навам. Сл.

АБГАНЯ'ЦЬ [2] Ужываецца побач з або́рваць. Тэрмін акучваць (бульбу, буракі) не ўжываецца. Абганя́лі карто́плі. Се́лята хто по́зно се́яў (садзіў бульбу), дак ніабганя́ные булі́. Кл. Абганя́ць пашлі́. Сым.

АБДЗІ'РКІ (*абдзі́ркі*) *толькі ў множн.* Кудзе́ля, атыхо́дзіць, [е]к абдзіра́юць лён на грэ́бяні. Кл. Абдзі́ркі (абдзіркавае палатно) на м[е]шкі́, на ану́чы. Барб. Параўн.: па́часся (Ветрынскі раён), асмы́чыны (Навагрудскі, Карэліцкі раёны).

АБЕ'ДНІК (*абе́днік*) *мужч.* Невялічкі гаршчок. Абе́днік кру́пніку ўкіс. Кл.

АБЕ'РУЧ (*абе́руч*). Абедзвюма рукамі (узяць што-небудзь, каго-небудзь). Ухваціў абе́руч. Кл. Ашчапе́рыласа абе́руч, пла́ч[э]. Хал. Параўн.: Ён яшчэ ўбачыў, як Касмакоў абхапіў абеpуч нямецкага аўтаматчыка і грымнуў яго галавою і плячыма вобземлю. К. Чорны, Збор. твораў, т. 5, стар. 411.

АБЕ'ЧКА (*абе́чко*) *ніяк.* Побач з больш частым ва ўжыванні ве́ко(а), ве́чко(а). Крышка

дзежкі, каробкі; таксама ў рэшаце, сіце. Абе́чко скі́нула. Барб. Ве́чка то́е пада́й. Хал. Трэба думаць, што слова абечко таго ж кораня, што ве́ко(а).

АБІРА'ЦЬ[1] *(абіра́ць) -аю, -аеш, пераходны.* Абіра́е сьлі́вы. Абіра́лі рой. Кл. Абабра́лі йгру́шы *(зак. тр.)*. Барб.

АБІРА'ЦЬ[2] *(абіра́ць)*. Абкрадаць. Абабра́лі кра́му. Кл.

АБМЕ'ЦІ *(абме́ці, аме́ці, во́бмяці) толькі ў множн.* Аўсяная мякіна. Параўн.: мяту, месці. Пры ручной малацьбе і ручным веянні абмеці аддзялялі лёгкімі павевамі мятлою над тонка разасланым на таку аўсом. Абме́ці конь лю́біць. Мяшок во́бм[е]цяў прывёз. Кл. Аме́ці й се̂ні пад бо́гаваю страхо́ю. Сл.

АБО'ЗНЯ *(або́зьня, або̂зьня) жан.* 1. Халодная будыніна для саней і іншых прылад. Там у па́на, Рэ̂йтан зва́лі, або̂зьня була́. Сл. Нам або́зьня трэ̂ба. Хал. 2. Пераносн. Вялікая і няўтульная хата. Не́йку або̂зьню зрабілі, да ні ха́ту. Кл.

АБО'ЙКІ *(або́йкі, або̂йкі) толькі ў множн.* 1. Зношаныя прадметы, прылады. Ні кале̂сы— або́йкі не́йкія. Вільча. 2. Акалот (гл.). Або́йкаў два́ццаць прада́ў. Зуб.

АБО'РА[1] *(або́ра) жан.* Тонкая вяровачка, у тым ліку тая, якою падвязваюцца лапці. Усе̂ мае̂ збо́ры—ла́пці й або́ры. Кл, Пашука́й хоць мало́е або́ркі. Хал.

АБО'РА [2] Вялікі будынак для кароў. Абóру зрабілі. Мо трыста штук стáне ў ёй. Хал. Параўн.: чэшскае obora—абгароджаны лес.

АБО'РВАЦЬ (*абóрваць*). Гл. **абганяць [2]**.

АБРО'К (*абрóк*) *мужч.* Ужываецца як назоўнік адз. ліку ў фразеалагізме: Дай абрóку, дай бі каня́ па бóку. Сл., Кл. Аброк—корм. Параўн.: чэшскае obrok—корм, фураж.

АБРО'ЦЬ (*абрóць*) *жан.* На абрóці ні прыпінáй каня́. Лепш за шы́ю. Сл.

АБРО'ЧНАЯ (*абрóчна, абрôчна*). Ужываецца з назоўнікам торба. Аброчная торба—торба для кармоў. Абрôчна тóрба. Сл. Параўн.: аброк (гл.).

АБРЫТНІ'К (*абрытнік*) *мужч.* Павадок (вяровачка, сырыца—гл.) пры аброці (гл.). Абрытнік згубіў. Сл. Абрытнікóў купіць мóжно?

АБСАЮ'ЗІЦЬ (*апсаюзіць*) *-у, -іш.* Налажыць саюзкі (на боты, чаравікі). Апсаю́жу чóбаты. Вольн.

АБУ'ЛЕБ (*абу́леб*, часам *абылеб*). Абы, хоць. Абу́леб хто сказáў штоль, дак і навáліцца. Кл. Мне абу́леб куды́. Н.-Андр.

АБУЧА'ЦЦА (*абучáцца*) *-аю-ся, -аеш-ся.* Навучацца вайсковай справе. Салдáты абучáліса. Кл. Абучáцца ўзялі. Барб.

АБУЧЭ'ННЕ (*абучэ́ньне*) *ніяк.* На абучэ́ньне ўзялí. Кл. Васіль на абучэ́ньні. Барб. Гл. абучацца.

АБШЧАПІ'ЦЬ[1] *(апшчапіць) -плю, -піш.* Абхапіць рукамі. Што і ашчапіць (гл.), абшчаперыць, ашчаперыць (гл.). Апшчапіла ру́ч-камі, што й ру́чкі паб[е]ле́лі. Вайц.

АБШЧАПІ'ЦЬ[2] Нарабіць прышчэпак (садоўніцтва). Ён усё сяло абшчапіў (г. зн. усім аднавяскоўцам нарабіў прышчэпак садовых дрэў) *(арф.)*. Кл.

АГЛАБІ'НА *(аглабіна) жан.* Частка воза. Каб к стальма́шні на аглабі́ны падве́зьлі. Байл. Аглабіну злама́ў. Кл. Параўн.: аглабіно́ (ніякі род). Чырвонаслабодскі раён.

АГЛАМА'ЗДАЦЬ *(аглама́здаць) -аю, -аеш.* Хутка, на скорую руку (без апрацоўкі) зрабіць якую-небудзь рэч. Ні ма́йсьцяр: аглама́здае што—й у ру́кі німа́ чаго́ ўзяць. Пас. Янкі Купалы. Аглама́здаў гра́блі. Ён не́йкаго (пранік) аглама́здаў, дак і му́чуса. Кл.

АГО'НЬ[1] *(аго́нь) мужч.* Агонь, святло. У Натальлі ўжэ аго́нь. Кл. Запалі́ аго́нь. Барб. Аго́нь на ўсю ха́ту (вельмі светла ад лямпы). Кл. У людзе́й ужэ агнê, а ты сьпіш. Барб.

АГО'НЬ[2] 1. Накла́лі агню́ й пагрэ́ліся. Ідзі́ к агню́, пагрэ́йса. Кл. Параўн.: у рускай мове костер. Параўн.: у Рагачоўскім раёне цяпло́. 2. Пераносн. Ні дзе́ўка—аго́нь. Кл.

АГО'ЎТАЦЦА *(аго́ўтацца) -аю-ся, -аеш-ся.* Асвойтацца з новымі ўмовамі, новым акружэннем (звычайна аб жывёле). Сама́ бу́ду па́сьціць (карову), паку́ль аго́ўтаяцца. Кл. Параўн.:

Вы крыху агоўтарыліся тут. А. Чарнышэвіч, Світанне, 1957, стар. 109.

АДА'ЛЕ *(адáле)*. Але потым, але пасля. Нібýто (быццам бы) разьдзéліць (аддзеліць сям'ю дачкí), адáле рáзам ізнóў. Кл.

АДАЛЕ'ЦЬ *(адалéць) -ею, -ееш, пераходны*. Перамагчы, змагчы, справіцца (з кім-небудзь або чым-небудзь). Адалéлі ýсê абарáнкі? Байл.

АДВЕ'ДАЦЬ *(атвéдаць) -аю, -аеш*. Наведаць, праведаць (каго-небудзь). Атвéдаць дзéці сваê. Сл. Атвéдаю свайíх (сваякоў). Барб. Параўн.: пераведаць (гл.).

АДВЕ'ДАЦЦА *(атвéдацца) -аю-ся, -аеш-ся*. Зваротная форма дзеяслова адведаць (гл.). Даўнó булá ў вас. Дýмала, трэ́ба каб атвéдацца. Барб.

АДВЕ'ДКІ *(атвéдкі), толькі ў множн*. Хадзíла ў атвéдкі. Кл. У атвéдкі с пустымí рукáмі ні йдýць. Байл. Ісці ў адведкі—ісці наведаць парадзіху.

АДГАДЗІ'ЦЬ *(адгадзíць) -джу, -дзіш*. Аддзякаваць (матэрыяльна ці дапамогай у якой-небудзь працы). За éтае адгаджý вам калíль (гл.). Байл. Ні адгадзíла за дрóва. Ëн дóбры вôз дроў прыўéз мне. Я самá, сынóк, адгаджý йім за йíху лáску. Кл.

АДГО'ДЖВАЦЬ *(адгóджваць) -аю, -аеш*. Адгоджвала ўсё жыцьцё *(арф.)*. Байл.

АДЗЁ'НАК *(адзёнак) мужч*. Падмосткі пад

стогам. Часам ужываюць (метанімічнасць) у значэнні стог. Адзёнкаў (стагоў) дваццаць нічапаных. Кл.

АДЗЁ'Р (*адзёр*) *мужч.* Хвароба. Адзёр у хату ўкінуўса. Сл., Кл.

АДКАРА'СКАЦЦА (*аткараскацца*) *-аю-ся, -аеш-ся.* Адчапіцца; дабіцца, каб адстаў (хтонебудзь дакучлівы, назола). Такі назола, чарку возьме (вып'е), дак ужэ ні аткараскацца, прыстане, што смала. Кл. Од даўней мешчанчукі булі паскудные. На базары прыстануць ш чаголь, то ні аткараскацца. Хал.

АДЛЕ'ГА (*атлега* і *адлега*) *жан.* Мо атлега будзе? Вельмі ж даеў мароз. Кл. У адлегу й таварын[е] лёпш. Вільча. Атлегаю прыдам праведаць вас. Барб.

АДМА'ЛКУ (*адмалку* і *атмалку*). З маленства, з малых год. Атмалку нічогі (гл.). Й атмалку ні ходзіш. Кл. Адмалку жыў тут. Сым.

АДНАВО'Р (*аднавор, аднавôр*) *мужч.* Ужываецца толькі ў адзіночным ліку, у спалучэнні сеяць у аднавор. Сеяць у аднавор — сеяць у адзін раз (увесну ці ўвосень) узораную глебу. Ячмень у аднавор нядобра сеяць (*арф.*). Картоплі ў аднавôр парастуць, толькі даглёдзь. Картоплі сеюць у аднавор. Кл. Параўн.: аднораль. Капыльскі раён.

АДНАЛІ'ЧНІК (*адналічнік*) *мужч.* Ужываецца побач з аднаасобнік. Адналічнік—што й аднасобнік. Кл.

АДНЕ'КУЛЬ *(атнéкуль)*. Атнéкуль ідзé старшынѝ, брыгадзір і кіншчык. Байл. Атнéкуль прынéсла дзьве гладышкі малін. Кл. Параўн.: знéткуль (гл.).

АДНО'[1] *(аднó)*. Лічэбнік. Кл., Сл., Зуб., Хал., Сым.

АДНО'[2] *(аднó)*. Толькі. Аднó ні бáўса там, сы́нку. Хал. Пéр'я адно пасы́палася. Сым.

АДПІРА'ЦЬ[1] *(атпірáць) -аю, -аеш.* Перад тым, як «заліць плацьце» (бялізну), яго атпіраюць. Кл. Сёні атпірáць бýду, а ў сыбóту пазалю́. Кл.

АДПІРА'ЦЬ[2] Антонім да падпіраць, але не ў значэнні адмыкаць. Атапры́ дзьвéры, я ні дастáну кóліка церазь дзьвéра. Наштó йіх падпірáць кóлам? Хібá мáло зáшчапкі? Кл.

АДПЛІКНУ'ЦЦА Гл. адплікнуць. Гýзік атплікнýўса. Кл.

АДПЛІКНУ'ЦЬ *(атплікнýць) -у, -еш, пераходны.* Ні атплікнý гýзіка. Кл. Параўн.: заплікнýць.

АДРЫ'НА *(адры́на* і *андры́на) жан.* Будынак для сена, саломы, увогуле кармоў. Ідзêце ў андры́ну спаць. Кл. З вáшае адры́ны хáта вýйдзе. Барб.

АДУБЕ'ЦЬ *(адубéць) -ею, -ееш, непераходны.* 1. Вельмі змерзнуць. Й рýкі маê адубéлі. Байл. Я адубéў там. Кл. 2. Вульгарн. Памерці, здохнуць. Каб ён адубéў там. Кл.

АЗУ'ЦЦА *(азýцца) -ую-ся, -уеш-ся.* Ужы-

ваецца зрэдку, побач з больш частым абуцца. Нага́ азу́та. Азу́йся. Сл. Параўн.: антонім разу́цца.

АЗЯРО'Д *(арф.) мужч.* Прыстасаванне для сушкі снапоў—высокі пераплёт, які складаецца з 2—4 рашэцін (гл.) і жэрдак. Малінаўцы (жыхары в. Малінава) не рабілі азяродаў *(арф.)*. Кл.

АЗЯРЭ'ДЗІНА *(арф.) жан.* 1. Жэрдка ў азяродзе. Не боўт, а азярэ́дзіна цэ́лая *(арф.)*. Кл. 2. Пераносн. Высокая нязграбная жывёліна (конь, карова). З такое азярэдзіны малака не пад'ясі (арф.). Кл.

АЙЛЯ'! *(айля́!)* Побач з «аюсь!» (праганяюць свіней). Айля́ куды́! Кл.

АКАЛО'Т *(акало́т) зборны, мужч.* З большага вымалачаныя снапы жыта, але салома не сцёртая. Кл. Акало́ту пудо́ў два. Зуб. Акало́т ве́льма траўлівы. Хал. А ў акало́це есь жы́то. Кл.

АКАПАНІ'ЧВАЦЬ *(акапанічваць) -аю, -аеш, пераходны.* Акопваць (бульбу, буракі) капаніцаю (гл.). Каня́ ні было́, дак акапані́чвала капаніцаю. Кл. Параўн.: гачкава́ць. Радашковічы.

АКАПАНІ'ЧЫЦЬ Гл. акапанічваць. Ета старэ́нька (бабуля) ўсё карто́плі акапані́чыла сама́. Кл.

АКРА'ЎКА *(акра́ўка) жан.* Звычайна ўжываецца ў форме множн. ліку—акра́ўкі. Абрэзкі сукна, аўчын. Той (кравец) і акра́ўкі, усё чысь-

цянько, аддава́ў. Ве́льмі со́вясны буў. С акра́ўкаў ко́ўдру на ва́це пашы́ла. Кл.

АЛА'ДЧЫНКА *(ала́джчынка) жан.* Дзежачка, у якой рашчыняюць цеста на аладкі. Пе́калну (гл.) аддала́ дацца́, а ў ала́джчынцэ рашчыня́ю. Кл.

АЛА'ДЗЕНІЦА *(ала́дзяніца* і *ала́дзеніца) жан.* Тое, што і аладчынка (гл.). Ала́дзеніцу купілі. Сл.

АЛЕ'ЙНІК *(але́йнік) мужч.* Ето што але́й рабіў, што прадава́ў але́й. Кл.

АЛЕ'ЙНЯ *(але́йня) жан.* Завод, які выпрацоўвае алей з канаплянага, ільнянога семя. Даўне́й скрозь е́тые але́йні булі́. Кл.

АЛЕ'ШНІК *(але́шнік) зборны, мужч.* 1. Маладыя дробныя алешчыны (гл.). Але́шніку вазо́ў чатыры нагато́вілі. Байл. 2. Зараснік з дробных алешчын (гл.). У але́шніку накасі́ў капê паўтары́. Кл.

АЛЕ'ШЧЫНА *(але́шчына* і *але́шына) жан.* Вольха. Ужываецца (вельмі рэдка) і альха. Але́шчыну звалі́лі (зрэзалі). Кл.

АЛЯ'! *(аля́!)* Гл. айля́. Аля́ ў хлёў! Байл.

АМЕ'ЦІ Гл. абмеці. Аме́ці й сё́ні пад бо́гаваю страхо́ю. Сл.

АНДРЫ'НА *(андры́на).* Гл. адрына.

АНІГА'ДКІ *(аніга́дкі).* Някепска, нядрэнна, добра (каму-небудзь). Табе́ аніга́дкі на жа́луваньні. Барб. Прыўё́з лучы́ны на зі́му ўсю,—

ба́бе анігáдкі, бýдзе патпáлу. Пас. Янкі Купалы.

АНІКУ'ДЫ (*анікýды*). Ні пасылáюць анікýды. Кл.

АПА'Д (*апáд*) *зборны, толькі ў адз.* Яблыкі, грушы, слівы, якія самі апалі. Апáду насушы́ла мо мêх. Сым. Апáду я й дáрам с пуд насы́плю. Кл.

АПАЛА'НКІ (*апалáнкі*) *толькі ў множн.* Начовачкі, пры дапамозе якіх апалаюць (гл. апалаць) крупы, збажыну. Апалáнкі тваê вазьмý. Кл.

АПАЛА'ЦЬ (*апалáць*) *-аю, -аеш.* Пры дапамозе начовачак (маленькіх, лёгенькіх), падтрусваючы іх перад сабою, веяць (ачышчаць ад мякіны, пылу) крупы, збажыну. Апалáла крýпы. Кл.

АПЕРАЗА'ЦЬ (*аперазáць, апяразаць*) *-ж-у, -ж-аш, пераходны.* Выцяць, перацягнуць, сцебануць. Хацéў ап[е]разáць папрýгаю, да дýмаю, мо ён нічóга ні вінавáты. Кл.

АПІВА'КА (*апівáка*). Неадабральнае. Той, хто любіць апіваць (гл.). Я с хáты тагó апівáку прагнáла, шчэ ў савéт схадзіла й расказáла. Сл. Апівáка той швéндаўса тут. Кл.

АПІВА'ЦЬ (*апівáць*) *-аю, -аеш, пераходны.* Часта і многа піць чужое, гасцяваць у другіх (гл. апівака). Апівáў да маніў, пóкуль прагнáлі. Кл.

АПІНЯ'НКА (*апінянка*) *жан.* Вялікая хустка, якою накрываюцца ў дарозе ў халоднае ці

мокрае надвор'е. Апіня́нку забра́лі. Сл. Параўн.: чэшскае oropa—занавеска.

АПІРА'ЦЬ (*апіра́ць*) *-аю, -аеш, пераходны.* Для каго-небудзь рэгулярна, сістэматычна праць (гл.) бялізну. Уля́нка апіра́е й апшыва́[е] брата. Кл.

АПЛІ'К (*аплі́к*) *мужч.* Гаплік. Аплі́к нашла́. Кас.

АПО'ЎЗІНА (*апо́ўзіна*) *жан.* Звязаныя за шчыты лазовыя, бярозавыя ці дубовыя дубцы. Апоўзіны накладаюцца накрыж на вяршыню стога. Апо́ўзінаю прыкладзі́. Барб. Апо́ўзін трэ́ба сходзі́ць. Кл. Параўн.: стагі... з бярозавымі і дубовымі вопаўзнямі. І. Шамякін, Крыніцы, 1957, стар. 121.

АПО'ЎЗЛАЯ (*апо́ўзла*). Ужываецца ў спалучэнні з назоўнікам жаба і абазначае гэта спалучэнне (пра чалавека) нікчэмнасць. Жа́бу ту́ю апо́ўзлу ні пасыла́й. Кл. Жа́ба апо́ўзла. Байл.

АПРО'Ч [1] (*апро́ч*). Асобна. Апро́ч садзі́лі. Кл.

АПРО'Ч [2] (*апроч, апрача́*). Апрача. Апро́ч Трахі́ма, ніко́га ні было́. Кл. Апрача́ йіх і рабо́цькаў німа́. Кл.

АПУ'ДЗІЛА (*апу́дзіло*) *ніяк.* Пудзіла. На про́со апу́дзіло зане́сьці трэ́ба. Кл.

АРАБІ'НА (*арабі́на* і *верабі́на*) *жан.* Рабіна. Арабі́на яж гары́ць. Дале́ка віда́ць ва́ша арабі́на. Пас. Янкі Купалы. Арабі́ні наабіра́ла.

Ні сьсе́кай тае̂ арабіны. Кл. Верабін се́лята багáто. Кл. Параўн.: арабінніца.

АРАБІ′ННІЦА *(арабіньніца) жан.* Назва ўрочышча (ад арабіна). Арабіньніца й аццьсю́ль віда́ць. А та́м хо́раша. Пас. Янкі Купалы.

А′РХА *(а́рха) жан.* Арфа. У на́с а́рха й а́рха, як зазна́лі, а то йшчэ скажуць а́рфа. Поб.

АРХАВА′ЦЬ *(архава́ць) -ую, -уеш, пераходны.* Арфаваць. Архава́ць пашлі́. Поб.

АРША′ЎКА *(арша́ўка* і *варша́ўка) жан.* Гатунак бульбы. Кл., Вольн., пас. Янкі Купалы. Гл. ме́мка.

АСМО′Л *(асмо́л) мужч.* Гл. усмал.

АСМУ′ЗКВАЦЬ *(асму́зкваць) -аю, -аеш, пераходны.* Абрываць зярняты аўса, захопліваючы між пальцаў па адным ці колькі каліваў. Тую аштрапава́лі, хадзіла й асму́зкавала аўёс у прыпо́л. Кл.

АСТАДО′ЛІЦЦА *(астадо́ліцца) -ю-ся, -ішся.* Супакоіцца, сцішыць бег. Конь упу́дзіўса, нёс, нёс аж да грэ́блі. Ця́жко ста́ло й астадо́ліўса. Барб. Й пра чалаве́ка так гаво́раць: бег, бег да й астадо́ліўса. Кл.

АСТРО′ВА *(астро́ва) жан.* Лесвіца пры стайле (гл.). Нятоўстая елка з сучкамі па 10—15 см даўжынёй. Астро́ву зрабіў, стару́ю пастухі спалілі. Кл.

АСЦА′ *(асца́) жан.* Ужываецца ў фразеалагізме асца завіла. Завіла асца — моташ-

на, гоніць сліну, сківічныя мускулы сутаргава напружаны. Ой, ма́мко, асца́ завіла́. Кл.

АСЯНІ'НА (*ас[е]ніна*) *жан.* Збор служкамі царквы (увосень) збожжа на царкву і папа. Той дзяк, што ас[е]ніну прапіў. Барб.

АТО'ПАК (*ато́пак*) *мужч.* Зношаны абутак (боты, чаравікі). Па такой гразі да ў такіх ліхіх (гл.) ато́пках хо́дзіць! Кл.

АТРЭ'ПКІ (*атрэпкі*) *толькі ў множн.* Кудзеля, якая аддзяляецца ад кужалю пры трапанні лёну. Атрэ́пкі спраду́, мёх бу́дзе. Кл.

АТРЭ'ПКАВЫ (*атрэ́пкавы*). Атрэпкавае палатно—палатно з атрэпак (гл.). Абдзі́ркавае й атрэ́пкавае палатно́—са́мае ніціка́вае. Барб.

АЎСТРЫЯ'КА (*аўстрыя́ка*). Аўстрыец. Аўстрыя́ка тут пле́нны жыў. Кл.

АХА'ПАК (*аха́пак*) *мужч.* Ахапкамі носяць сена, салому, дробнае галлё, стружку і падобныя лёгкія рэчывы і матэрыялы, якія можна «ахапіць» і несці перад сабою. Два аха́пкі се́на пазы́чыла. Кл. Адны́м аха́пкам каня́ ні накормі́ш. Барб. Параўн.: у рускай мове охапка (*жан.*).

АЧУ'ЦІЦЦА (*ачу́ціцца*) *-ч-уся, -ц-ішся.* Раўназначнае рускаму прийти в себя. Уста́ла с пасьце́лі й ні магу ачу́ціцца. Кл.

АШАЛАПУ'ЦЕЦЬ (*ашалапу́цець*) *-ею, -ееш, непераходны.* Страціць (на некаторы час) здольнасць рэагаваць (на што-небудзь) у выні-

ку моцнай стомленасці або ў сувязі з нечаканым здарэннем. Крычаць «пажар», а я ашалапу́ц[е]ла й сь се́нцаў ні ву́йду. Кл.

АШКІ'Р (*ашкір,* радзей *ашкіра*). Выклічнік тыпу аюсь, айля (гл. айля). Ашкір (на авечак) дадо́му! Кл. Ашкіра куды́! Кл.

АШЧАПЕ'РЫЦЬ (*ашчапе́рыць* і *апшчапе́рыць*) *-у, -ыш, пераходны.* Тое, што і абшчапіць, ашчапіць. Ашчапе́рыў шы́ю. Ашчапе́рыўса за но́гі. Кл.

АШЧАПІ'ЦЬ (*ашчапіць* і *абшчапіць*) *-плю́, -піш, пераходны.* Абхапіць рукамі. Ашчапіў за шы́ю й ні атарва́ць (аб дзіцяці). Кл.

## Б.

БАГАТЫ'Р (*багаты́р*) *мужч.* Багаты (у значэнні асілак—не ўжываецца). Багаты́р, бо бага́ты. Пас. Янкі Купалы. У Малінаве (назва вёскі) ўсê багатырэ́. Кл.

БАГАЦЕ'Й (*багаце́й*) *мужч.* Багаты, багатыр (гл.). Багаты́р ці багаце́й ні ро́зьніца. Кл.

БАГО'Н (*баго́н*) *мужч.* Назва расліны. Там баго́н ве́льмі густы́. Пас. Янкі Купалы.

БАГО'ННІК (*баго́ньнік*) *зборны, мужч.* У баго́ньніку ўзагна́ў цэ́лу чэ́раду ц[е]цярукоў. Вайц.

БАЙЧ [1] і БАЧ (*бач, байч*). Глянь! Глядзі! Байч, што ро́біць? Бач, куды́ йду́ць? Кл.

БАЙЧ [2] і БАЧ Усечанае бачыш, ці бачыш. Се́лята ні завішу́е й на прако́с: бач ста-

ра́юцца. Поб. Мнê, байч, ужэ й ні трэ́ба, усе каб ва́м. Кл. Параўн.: рускае видишь ли.

БАЙЧ [3] і БАЧ У спалучэнні з «як» абазначае вельмі хутка, маланкаю, як га! Як байч прыпру́ (прынясу) вам. Кл. Як ба́чыш зро́біць! Кл.

БАЛЬШУ'Н *(бальшу́н) мужч.* Неадабральнае. Падростак, юнак, а паводзіны—дзіцяці. Бальшу́н той хіба́ ні мо́г памагці́? Кл. Усіх бальшуно́ў тых на грэ́блю (грэбці сена). Барб.

БАЛЬШУ'ХА *(бальшу́ха) жан.* Параўн.: бальшу́н (гл.). Стра́мно тако́й бальшу́се зь дзе́цьмі бе́гаць. Каб ні падбухто́рвалі (гл. падбухторваць) бальшу́хі, то ён ні зрабі́ў бу так. Кл.

БА'НЬКА [1] *(ба́нька) жан.* Бэлька. Ба́нька ў се́нцах злама́ласа. Кл. Параўн.: бэлька. Заслаўскі і Радашковіцкі раёны.

БА'НЬКА [2] Цыліндрычнае колца, якім штонебудзь замацоўваецца ці прымацоўваецца, напрыклад, пры дапамозе банькі прымацоўваецца каса да кассяя. Ба́ньку ў каваля́ папрашу́, но́ву ко́су (касу́) аса́джвацьму. Хал. Ба́ньку на кане́ц каштыля́ ўзьбі́ў. Кл.

БАРЖДЖЭ'Й *(барждж́эй).* Вышэйшая ступень ад хутка, а форма звычайнай ступені (борзда) не ўжываецца. Барждж́эй несі́. Сл. Барждж́эй гані́. Кл.

БАРЛІ'НА *(барлі́на) жан.* Вялікая лодка, баржа. Сустрэта ў вёсках, якія знаходзяцца на Пцічы, а таксама ў в. Слаўкавічы, на захад ад

якой пачынаецца Палеская нізіна. У апошняй расказваюць, што «кóлісь тут быўлó мóрэ, барліна дайшлá аж да Слáўкавіч», а як «мóрэ высахло», яна застрала і захаваліся рэшткі яе.

БАТАВА'ЦЬ (*батавáць*) *-ую, -уеш, неперадходны*. Рускае роптать. Кінь батавáць на йіх. Барб. Я ўсе на Мáр'ю гавару́ да батýю, што к сы́ну ні éдзе. Кл. Батавáла, што сьм[е]юцца Кл.

БАТАРЭ'Я [1] (*батарэ́я*) *жан.* Вайсковы тэрмін. Нáша батарэ́я аттýль біла. Сым.

БАТАРЭ'Я [2] Вялікі бурт (гл.) ці (с)капец (гл.) бульбы. Адну́ батарэ́ю (бульбы) раздадзім (на працадні). Зуб.

БАЦ (*бац*) *мужч.* Пацук. Бац с катá. Бáца забіў. Сл.

БА'ЦЕНЕ (*бáцяне*) *агульн.* Скланяецца, як пытанне, іменне. Сын ці дачка з фізічнымі ці ў характары (або з тымі і другімі) рысамі бацькі. Ёто ж бáцяне: й хóдзіць, і гавóрыць, як той бáцько. Кл.

БАЧ Гл. байч.

БЕ'ГАЦЬ [1] (*бéгаць* і *бêгаць*) *-аю, -аеш.* Наштó éта бéгаць? Кл.

БЕ'ГАЦЬ [2] Пакрывацца (аб карове), паляваць [2] (гл.). Нáша (карова) йшчэ ні бéгала, пôзна ацéліцца. Кл.

БЕ'ДНЫ (*бéдны, бêдны*). 1. Бедны. 2. Небарака. Што ж ён, бéдны, зрóбіць? Кл.

БЕ'ЖКІ (*бе́жкі*). Бяжком. А ты бе́жкі, то й нагóніш. Кл.

БЕРКУЛЁ'З (*беркулёз, бяркулёс*) *мужч.* Туберкулёз. На бяркулёс хворы. Вільча. У йіх беркулёз. Кл.

БЕСПЕРАСТА'НКУ (*б[е]сьпярастáнку*). Бесперапынна, безупынна. Ідзé дож б[е]сьпярастáнку. Поб. Ён мажэ́ бесьпярастáнку дзень чытáць. Кл.

БІЗУ'Н [1] (*бізу́н*) *мужч.* Рачная расліна, сітнік. За бізу́н зачапі́ўся кручóк (вудачка). Барб.

БІЗУ'Н [2] 1. Бізун. 2. Пераноснае: чалавек, у якога няма ніякіх матэрыяльных каштоўнасцей, вельмі бедны. Ён такí бізу́н буў, а сыны́ бач як стáлі жыць? Гóлы як бізу́н. Кл.

БІЗУ'ННІК (*бізу́ньнік*) *зборны* ад бізун [1], *мужч.* Бізу́ньнік па ўсёй рацэ́ расьцé. У бізу́ньніку акунькá злóвім, аку́нь лю́біць у бізу́ньніку. Кл.

БІКЛА'ГА (*біклáга, буклáга*) *жан.* Судзіна на вадкасць (ваду, гарэлку), па будове — маленькая бочка. Біклáга вады́ на дзéнь. А ў нас дзьве буклáгі. Кл. А дзé вáша біклáга? Пас. Янкі Купалы. Параўн.: баклага. П. Пестрак, Сустрэнемся на барыкадах, 1954, стар. 47.

БІКЛА'ЖКА (*біклáжка* і *буклáжка*). Памяншальнае ад біклáга (буклага). Кл. Параўн.: бутлáшка. Пярэжыры Радашковіцкага раёна.

БІ'ЛА (*біло*) *ніяк.* Гладка абструганая

жэрдка. 1. Вешалка, адзін канец умураваны ў печ над камінкам, другі прымацаваны да супрацьлеглай сцяны. І ў нас було́ біло. Кл. 2. Жэрдка, аб якую абіваюць што-небудзь, напрыклад, зярняты з снапоў, калі «выбіра́юць куле́». Кл.

БІТВА′ (*бітва́*) *жан.* Бойка. Даўне́й ні було́ ў Барбаро́ве кірмаша́, каб ні була́ бітва́. Хал. Параўн.: чэшскае bitka—бойка.

БІ′ТКА[1] (*бітка*) *жан.* Параўн.: фразеалагізм у біткі гуляць (гл.). Яйка, пабітае ў гульні аб другое яйка. Ве́льмі ўмеў вубіра́ць мацака́ (гл.). Ён бітак прыно́сіў на па́ску (гл.) па капе́. Кл. Хто ву́гул[е]е [е]йцэ́ на па́ску, дак е́то бітка. Сл. Параўн.: чэшскае bitka—бойка.

БІ′ТКА[2] Палка (палкі), якою «гулялі ў пігара». Кл.

БІЧ[1] (*біч*) *мужч.* Біч. Са́мо ле́п[е]й дубо́вы біч. Кл.

БІЧ[2] Патоўшчаная частка пугі (бліжэй да пугаўя). Біч ат пугаўя́ йдзе. Кл. Параўн.: чэшскае bič — пуга, бізун.

БУДЫ′НАК (*будынак*) *мужч.* 1. Будынак. 2. Зборны (побач з множн. будынкі). Буды́нак у йіх до́бры (у жыхароў в. Лучкі). Кл.

БУДЫ′НІНА (*будыніна*) *жан.* Побач з будынак. Буды́ніна харо́ша. Кл.

БУК Гл. бык.

БУКЛА′ГА Гл. біклага.

БЛА'ЗЕН (*бла́з*[*е*]*н, блазен*) *мужч.* Недасведчаны, без вопыту ці практыкі; той, хто дрэнна разумее. Два хлапчукі, адзін хітры, а другі бла́з[е]н, — вот табе́ й раве́сьнікі. Хот ты ўжэ й наста́ўнік, а бла́з[е]н: купіў се́на нідо́браго. Кл. Параўн.: Кеп, дурань, блазан — тры штукі разам. Гродзеншчына. Параўн.: чэшскае to je blazen—гэта гатовы дурань, гэта набіты дурань.

БЛАШЧЫ'ЦА (*блашчы́ца*) *жан.* Клоп. Параўн.: старажытнае площица. У на́с і даўне́й каза́лі блашчы́ца. Клоп ні па-на́шаму. Хал.

БЛІСНЯ' (*блісьня́*) *жан.* Параўн.: рускае блесна, украінскае блешня. Зачапіў за галі́ну й атарва́ў блісьню́. А ці дарага́я така́я блісьня́? Хал.

БЛЫ'НДАЦЬ (*блы́ндаць*) *-аю, -аеш, непераходны.* Бадзяцца, хадзіць без справы, без працы «швэндаць». Чаго́ той тут блы́ндае? Сл.

БЛЯША'НКА (*бляша́нка, бл*[*е*]*ша́нка*). Каробка з бляхі. Бляша́нка (газы) по́ўна. Вольн. Памяншальн. бляшаначка (*арф*). Кл., Вольн.

БЛЯ'ШКА (*бля́шка*) *жан.* Невялічкі кавалак бляхі. Бляшка блішчу́сьцянька. Вільча.

БО [1] Злучнік *бо.* Я ні бу́ду жаніціся, бо ліха́я жо́нка. З песні. Кл.

БО [2] (*бо* і *бок*). Часціца. У пытальным сказе служыць для ўзмацнення пытання, для выражэння непасрэднай зацікаўленасці прадме-

там запытання. Як бо ён? (Як яго завуць?) Кл. Часцей ужываецца не бо, а бок (гл.).

БОК[1] *(бок* і *бôк) мужч.* Бок.

БОК[2] БО[2] Ці твая бок ша́пка знашла́са? Барб.

БОЎТ *(боўт) мужч.* Рыбалавецкая прылада, гладка выструганая жэрдка з «галоўкаю» на канцы; боўтам заганяюць рыбу ў сетку (сецьк, комель, кломля, падсака — гл.). Бо́ўтам як бо́ўтнуў разо́ў тры, дак аж бе́ло стаўбуно́ў (гл.) у се́ці. Пас. Янкі Купалы.

БО'ЯЗКА *(бо́язко).* Боязна. Бо́язко паўс клады́ (гл.) йці. Кл. Ужываецца і бо́язна *(арф.).* Кл.

БРА'ГА *(бра́га) жан.* 1. Пэўным чынам прыгатаванае рэдкае месіва (вада, вараная бульба, моланы прараслы ячмень, так званы солад і дрожджы). 2. Рэшткі гэтага месіва, якія астаюцца пасля перагонкі. Кл.

БРА'ЗГАЦЬ *(бра́зкаць) -аю, -аеш, неперахodны.* Не бра́зкай. Зуб. Я ц[е]бе́ набра́зкаю. Кл.

БРАЦЕ'НІК *(браце́нік) мужч.* Дваюрадны брат. Браце́нік прыхо́дзіў, дзя́дзькаў Ана́ньня. Кл.

БРАЦІ'ХА *(брацíха) жан.* Братава жонка. Пашо́ў к маёй брацíс[е]. Вайц. Брацíха — дак ето бра́тава жо́нка. Барб.

БРУСА'К *(бруса́к і пруса́к) мужч.* Гл. прусак.

БРЫК *(брык)* Выклічнікавы дзеяслоў тыпу гоп, хваць, цоп. 1. Раптоўна ўпасці. Брык на дарóзе й паваліўса. Кл. 2. Брыкануць. Éты вол вéльмі гáдкі: стайіць, стайіць, адáле (гл.) брык нагóю. Кл.

БУГА'Й[1] *(бугáй) мужч.* Непакладаны (некастрыраваны) бык. Бугаé скарбóвые. Бугай здаравéйшы за валá. Кл. 2. Пераноснае (зневажальнае) пра чалавека. Такí бугáй, а на рабóту ні хóдзіць. Байл.

БУГА'Й[2] Назва птушкі. Бугаёў éтых німá ц[е]пéр. Кл. Параўн.: рускае выпь.

БУРАЧКО'ВЫ *(бурачкóвы* і *бурачкóву,* параўн.: вýпіць). Прыметнік ад назоўніка «бурачок». 1. У спалучэнні бурачкóвы мёд—патака з буракоў. 2. Колер. Бурачкóвае хвáрбы купíла. Барб. Набрáла (купіла) нéйкаго бурачкóваго (краму). Кл.

БУРЧА'К *(бурчáк) мужч.* Адрэзак ракі, дзе хуткае цячэнне, дзе «бурчыць» вада. На бурчакý злавíў акуня́. Кл.

БУСЛЯНЯ' *(бусьляня́, бусьл[е]ня́) ніяк.* Буслава дзіцяня. Бусьляня́ скíнулася з гняздá. Сым. Бусьл[е]ня́ нашлí дóхлае. Кл.

БУЯКІ' *(бу[е]кí* і *буякí).* Ягады. Адз. лік (адно каліва) — буя́к. Буя́к на кісéль смáшны. Буя́шны кісéль смáшны. Кл. Параўн.: дурніцы. Радашковічы, Мсціслаў.

БЫК *(бык* і *бук) мужч.* Нерабочы вол.

Адзін настаўнік Клятнянскай школы-сямігодкі (родам не тутэйшы) расказваў, як ён меўся ўбачыць расліну бук. Гаспадар, у якога сталаваўся настаўнік, паклікаў: «Хадзі́, пакажу́, які́ ў мяне бук» — і павёў не ў гарод, а ў хлеў... У загародцы стаяў сыты бык.

БЭЗ *(бэз, без* і *бэ́за) мужч.* Бэз. Без расьцьвіў. Кл. Бэ́зу ў нас бага́та. Пас. Янкі Купалы. Бэ́за. Вільча.

БЯГУ'Н *(бягу́н, б[е]гу́н) мужч.* Слупок у варотах, на якім «бегаюць» вароты. Бягу́н чуць ліпіць, падгніў. Кл.

БЯЗДО'ЛЛЕ *(арф.) ніяк.* Параўн.: без долі. Не́йкае няшча́сце ды бяздо́лле найшло́ на на́с *(арф.)*. Кл. Гл. Бяздо́лле найшло́.

БЯСКІ'ШКІ *(бяскішкі)*. Худы, з упалым жыватом, перахлябісты (гл.). Такіх бяскі́шкіх у маракі́ н[е] бяру́ць. Сым.

## В.

ВАЗА'К *(вaза́к) мужч.* Возчык. П'яць вазакі́ на аўёс. Сл.

ВА'ЛАШАЦЬ *(ва́лашаць) -аю, -аеш, пераходны.* Пакладаць, кастрыраваць. Пашо́ў парася́та ва́лашаць. Кл.

ВА'ЛАШАНЫ *(ва́лашаны)*. Пакладаны, кастрыраваны. Харо́шы парасю́к, да ніва́лашаны. Кл.

ВАЛЛЕ' *(вальле́) ніяк.* Валлё. Ка́чка нае́ласа, аж вальле́ трашчыць. Кл.

ВАНЗЭ'ЛАК *(ванзэ́лак* і *вандзэ́лак) мужч.* Звязак, вязка якіх-небудзь прадметаў. Параўн.: польскае węzeł. Вандзэ́лак на машы́ну ўскі́нула. Сл. Цэ́лы ванзэ́лак прыне́сла. Кл.

ВАР *(вар) мужч.* Ва́рам апа́ру. Ва́рам залі́ла пла́цьце. Кл. Ва́ру нальле́ й п'е, й ні го́рача. Пас. Янкі Купалы.

ВАРАВІ'ТЫ *(варавіты).* Пра самалюбівага чалавека, якому «слова не скажы». Нідо́брая тая дзе́ўка—варав́ітая, нісл́ушная, сва́рыцца. Кл. Параўн.: по́рсткі. Параўн.: рускае дерзкий.

ВАРАЖБІ'Т *(варажбіт) мужч.* Пашла́ по́галаска (гл.), што Кандра́т ве́льмо до́бры варажбі́т. З казкі. Кл.

ВАРАНЯНЯ' *(варан[е]ня́, вараняня́) ніяк.* Вараняня́т е́тых. Вільча. Варан[е]ня́ нашлі́. Поб.

ВАРНЯ'ЦЦА *(варня́цца) -яю-ся, -яеш-ся.* Ледзь жыць, існаваць, вельмі мала працуючы па слабому здароўю ці па старасці. Ні жыву́—варня́юса. Кл. Параўн.: ліпець (гл.).

ВАРСАНУ'ЦЬ *(варсану́ць) -у, -еш, пераходны.* Шпурнуць каго-небудзь ад сябе. Ву́піў да ўсе ле́зьці к Мацьве́ю. Дак е́ты засе́рдзіўса да [е]к варсану́ў ат с[е]бе́, дак ледзь узгро́бса на но́гі. Кл.

ВАРТ *(варт).* 1. А ці ва́рт таку́ю рабіць? Пас. Янкі Купалы. Ну й варт йім. Кл. 2. Хто капе́йкі ні беражэ́, той сам рубля́ ні ва́рт. Кл.

ВА'РТА *(ва́рта) жан.* 1. Варта, ахова. Пашоў на ва́рту. На ва́рту хо́дзіць. 2. Старажоўства, вартаванне. Ка́ж[э], абры́дла ва́рта. Кл 3. Чарга вартаваць. Мая́ се́ні ва́рта. Кл. 4. Кій, які перахо́дзіў па чарзе́ з ха́ты ў ха́ту, як жазло́ вартаўніка́ (у дакалгасныя часы). Гэты кій кім-небудзь з вяскоўцаў упрыгожваўся разьбою, выпальваннем узораў, фігур. Кл. 5. Лясок пры шляху на Глуск, дзе год 60—70 назад у сувязі з нейкаю эпідэміяй «стая́ла ва́рта». Кл. Да ва́рты дайдзі́ й жджы. Кл.

ВАРША'ЎКА *(варша́ўка і арша́ўка) жан.* Гатунак бульбы. Кл., Вольн., пас. Янкі Купалы. Гл. арша́ўка, ме́мка.

ВА'РЫВА [1] *(ва́рыво, ва́рыва) ніяк.* Гародніна, якая прызначаецца для стрававання. Ва́рыво мае́ ў сто́паццэ ўсе ды́мам пракýрало. Кл.

ВА'РЫВА [2] Гатаванне (страў). Хіба́ та (гэта) ва́рыва ў грýбцы? Пас. Янкі Купалы. Твае́ ва́рыво (гатаванне) далікатне́йшае. Кл.

ВАТЭ'ТАЧКІ *(ватэ́тачкі* і *ваце́тачкі).* Памяншальнае ад ватэты. Ватэ́тачкі. Кл. Ваце́тачкаму мало́му. Сл. Ватэ́тачка була́. Сл.

ВАТЭ'ТТА *(ватэ́тта, ваце́тта; ватэ́ттах* і *ваце́ттах).* Вось тут. Ватэ́ттах палажы́. Кл.

ВАТЭ'ТЫ *(ватэ́ты* і *ваце́ты).* Вось гэты. Ватэ́ты Хвіро́д (імя). Ватэ́та мала́я кýрачка. Ватэ́тае трэ́ба сажа́ць (зжаць). Кл.

ВАЎКАЎНЯ' *(ваўкаўня́) жан.* Так гавораць пра вялікую, але халодную пустую хату. У тваёй ваўкаўні зімо́ю мýка. Кл.

ВАЎКАЧЭ'ЧА (*ваўкачэ́ча*) *жан., толькі ў адз., зборны* ад воўк. Ваўкачэ́ча ў пілі́паўку цяга́яцца. Поб.

ВАША'Н (*вашан*) *мужч.* Ад вош. 1. Маленькая вош. 2. Лiтота пры ацэнцы малой хатняй жывёлы. Два вашаны́ гаду́ю (двух маленькіх кабанчыкаў). Сл.

ВЕ'ДРАНА (*ве́драна* і *ве́драно*). Зорна і ясна (на небе). На не́бе ве́драно-ве́драню. Ве́драно—е́то бага́то зо́рак, я́сно ўно́чы, зо̂рно. Кл. Параўн.: я́драна. Кліны Бялыніцкага раёна. Параўн.: рускае вёдро.

ВЕ'ЗАЦЬ (*ве́заць*) *-аю, -аеш.* Неадабральнае. Няўмела рабіць што, квэцаць (галоўным чынам пра гатаванне страў). От, ве́зае, а ні ро́біць. Наве́зала, што хіба́ то́лькі парася́там. Кл.

ВЕ'КА (*ве́ка* і *ве́ко*) *ніяк.* Крышка скрыні, дзежкі. Ве́ко раскі́даласо. Кл. Гл. абечка.

ВЕЛІЦУ'ЗАЗНЫ (*веліцу́зазны*). Побач з вялізазны, з адценнем — большы за вялізазны. Кл.

ВЕРАБІ'НА (*верабі́на*) *жан.* Рабіна. Верабі́ну на ду́жку зрэ́заў. Верабі́н се̂лята бага́то. Кл. Часцей — арабі́на.

ВЕРАЎЧА'НЫ (*вераўча́ны*). З вяроўкі. Вераўча́ны гуж. Вольн.

ВЕРАЎЧЫ'НА (*вераўчы́на*) *жан.* Кавалак, абрывак старой вяроўкі, якую нельга назваць ні ўласна вяроўкаю (гл.), ні повадам (гл.), ні вожкамі (гл.). Найдзі́ вераўчы́ну. Байл. Вераўчы́наю прыкруці́. Кл.

ВЕ́РВЫ (*вéрвы* і *вéрву*) *толькі ў множн.* Вяроўка, на якой вісіць калыска. Кл. Параўн.: старажытнае вървь.

ВЕСЛАВА́ЦЬ (*в[е]славáць*) *-ую, -уеш.* Гнаць вяслом лодку. А в[е]славáць хто? Я хіба бýду? Ты йдзéш ні на рыбу, а па рыбу. Кл.

ВЕ́ТРЫЦЬ (*вéтрыць* і *вêтрыць*) *-у, -ыш, пераходны.* Ачышчаць збожжа ад пылу і смецця: сыпаць зверху тонкаю струёю, пыл зганяецца ветрам у бок, а збожжа сыплецца ў начоўкі ці на посьцілку (гл.). Вéтрыла жыто й ні бачыла, што па агарóдзе спýтаные кóні пасýцца. Кл.

ВЕ́ЧАР [1] (*вéчар*) *мужч.* Вечар. Прыдзе вéчар. Хал.

ВЕ́ЧАР [2] Увечары, вечарам. Ужываецца побач з увéчары, увéчарэ, вечарóм і вéчарам. Кл. У такім значэнні ўжываецца толькі ў спалучэнні з рáно (гл. рана). Рáно й вéчар даю (карове) сéна. Рáно й вéчар пáліць печ. Кл. Рáно й вéчар хаджý. Хал. Параўн.: старaславянскае вєчєръ —увечары.

ВЕ́ЧКА (*вéчко, вêчко*) *ніяк.* Гл. века. Вéчко раскідаласо ў вацéтай дзéжаццэ. Кл.

ВІД [1] (*від*) *мужч.* Твар. Ужываецца побач з *твар* і *ліцó.* Цёмны ў відý. Кл. Від нéйкі— што з вóску. Пас. Янкі Купалы.

ВІД [2] Ужываецца ў спалучэнні з прыназоўнікам *на.* На від і побач (у тым жа значэнні) на пагляд. На від харóша карóва. Кл.

ВІЖ (*віж*) *мужч.* Шпіён, хітрун, які «жы-

ве́ ціхянько» (Кл.) і заўсёды імкнецца непрыкметна выведаць пра другіх. Такіх людзей характарызуюць як нядобрых у грамадзе. О-о! ён віж. Кл. Віж той праклятьі. Кл. Параўн.: старажытнае вижь—панятьі́, сведка.

ВІЖАВА'ЦЬ (*віжава́ць*) *-ую, -уеш, неперах*о*дны*. Выведваць, выглядаць. Хітра така́я, ўсе віжу́е. Віжава́ць хо́дзіць. Кл. Параўн.: віж.

ВІ'ЛАЧНІК (*вілачнік* і *вілашнік*). Вілашнік злама́ла. Кл. Вілашнікам даў. Барб.

ВІ'ЛЬЧЫК (*вільчык*) *мужч*. Стык дзвюх частак страхі, канёк. Ш чыта́льні зь вільчыка ўпаў. Кл.

ВІ'ТКА (*вітка*) *жан*. Скручаная лазіна, якою прывязваюць салому да латы і пошвы ці пошвіны (гл. по́шва, пошвіна). Вітак пада́й. Вайц. Віткі тваê то́ўстые. Во! Хоць адну́ до́бру вітку скруці́ў. Кл.

ВІШ (*віш*) *жан*. Зазімавалая на корані (няскошаная) трава. Прынясу́ вішьі́. Вішьі́ таê. Кл. Параўн.: віша́ (1-е скланенне). Чырвонаслабодскі раён. Вішар. Парыцкі раён.

ВІШАВА'ЦЬ (*вішава́ць*) *І спраж., неперах*о*дны*. Заставацца няскошанаю (аб сенажаці, канюшыне). Вішу́юць сенако́сы. Зуб. У праклёне: Каб твая́ сыно́жаць завішава́ла. Кл. Параўн.: віш, завішава́ць.

ВО'Б'ЕДЗІ (*арф.*) *толькі ў множн*. Аб'едкі сена. Во́б'едзі ў гной вьі́кінь (*арф.*). Кл.

ВО'БМАЛЬ (*во́бмаль, вôбмаль*). Сінонім да малавата. Во́бмаль — з невялічкім недахопам.

Во́бмаль лу́чч[э]й в[е]чэ́раць, здараве́й. Ты, ба́бо, дава́й кабану́ (есці) во́бмаль. Кл. Параўн.: старажытнае въмалѣ—на кароткі час, ненадоўга, небагата.

ВО́ДДЫШКА *(во́ддышка) жан.* Адпачынак. Во́ддышкі мне німа́. Вільча. Ётака во́ддышка ў даро́зе (у вагоне). Кл.

ВО́ДКІДАК *(во́ткідак) мужч.* Небагата ніткі на верацяне. Як толькі становіцца цяжкае ад нітак верацяно, пралля перастае на яго прасці, хоць яшчэ і можна на яго навіваць нітку. Звітыя на адно верацяно два воткідкі — пачы́нак (гл.). Усе́ (напрадзеныя ніткі) у во́ткідках, у мяне́ верацён бага́та. Вайц. Во́ткідкаў тры напра́ла. Кл.

ВО́ДКІДАЧАК Ад во́дкідак (гл.).

ВО́ДКІДАЧКІ Во́ткідачкі пасушы́ць трэ́ба. Кл.

ВО́ЖКІ *(во́жкі* і *вôжкі) толькі ў множн.* Лейцы. Во́жкі — тое, што й ле́йцы. Хто—во́жкі, хто—ле́йцы. Кл.

ВО́ЛАК *(волак) мужч.* Рыбацкая прылада — сетка-мех на двух шастах. Паехалі ў во́лака на ры́бу *(арф.)*. Пас. Янкі Купалы.

ВО́НЬДЗЕКА *(во́ньдзяка, во́ньдз[е]ка).* Вунь, вунь дзе. Во́ньдзяка пасу́цца ко́ні. Кл. У тым жа значэнні: унё, вуняка.

ВО́ПІНКА *(во́пінка) жан.* Тое, што і апінянка (гл.). Во́пінку до́бру прыўе́з мне. Кл.

ВО́ПСА *(во́пса).* У значэнні рашуча, раз'юшана, энергічна пры дзеяслове кінуцца,

накінуцца. А ён (сабака) во́пса на мяне́. Кл. Я мата́ю па́лкаю, а ён (бык) во́пса на мяне́. Кл. Параўн.: во́бсас. Танежыцы Чырвонаслабодскага раёна.

ВО′РЫВА *(во́рыво* і *во́рыва) ніяк.* Тваé во́рыва до́брае. Хал. На во́рыве зараблю́ больш. Поб.

ВУ′БАВІЦЬ *(ву́бавіць* і *вы́бавіць).* Гл. выбавіць.

ВУ′БАРСАЦЬ *(ву́барсаць* і *вы́барсаць).* Гл. выбарсаць.

ВУ′ВАРАЦІНА *(вуварацiна* і *вываракіна).* Гл. вываpaціна.

ВУ′ГАН *(ву́ган* і *вы́ган) мужч.* Гл. выган.

ВУ′ДУБІЦЬ Гл. вы́дубіць.

ВУДЗІ′ЛЬНА *(вудзілно, вудзільно, вудзільна) ніяк.* Вудзільно зламáў. Байл. Вудзі́лнам аччапіў кручо́к. Кл. На вудзі́льне. Кл.

ВУДЗІ′ЛЬНЕЧКА *(вудзільнячка, вудзільнячко) ніяк.* Памяншальнае ад вудзільна. Вудзі́льнячка до́брае. Кл.

ВУЖО′ЎКІ *(вужо́ўкі* і *вужôўкі).* Не прыдатныя да яды грыбы. Грыбо́вік... Не́йкіх вужо́вак назьбірáў. Кл.

ВУ′ЗВАРАТ *(ву́зварат* і *вы́зварат) мужч.* Гл. вы́зварат.

ВУ′ЗВАРАЦІНА *(ву́зварацiна* і *вы́звара-цiна) жан.* Гл. вызварацiна.

ВУ'ЛАДЗІЦЬ (*ву́ладзіць* і *вы́ладзіць*). Гл. вы́ладзіць.

ВУ'ЛАЧКА (*ву́лачка*) *жан.* Памяншальнае ад вулка. Праезд паміж двума дварамі. У ву́лачку заля́жце (гл.). Кл.

ВУ'ЛІВАК (*ву́лівак* і *вы́лівак*). Гл. вылівак.

ВУ'ЛКА (*ву́лка*) *жан.* Завулак. У ту́ю ву́лку трэ́ба йці. Кл.

ВУЛЛЕ' (*вульле́*) *ніяк.* Побач з ву́лей (*мужч*). Вульле́ скінулі з ду́ба й спалі́лі. Ву́ляй купілі. Кл.

ВУ'СКІДЗЬ (*ву́скідзь* і *вы́скідзь*). Гл. выскідзь.

ВУ'СЦВІЦА (*ву́сьцьвіца*) *жан.* Гладышка. Сустрэта толькі ў в. Слаўкавічы. Ву́сьцьвіцаю заву́ць. Сл.

ВУ'СЬЦЕЛЬГА (*ву́сьцяльга*) *жан.* Вяз (гл.), які звязвае «галоўку» полаза з першым (пярэднім) капылом. Ву́сьцяльга мая́ ло́пнула. Вайц.

ВУЧЫЦЕЛЯВА'ЦЬ (*вучыц[е]лява́ць*) *-юю, -юеш.* Сустрэта толькі ў в. Слаўкавічы, ужываецца рэдка; звычайна: наста́ўнічаць ці вучы́ць. Вучыц[е]ляваць пашо́ў. Сл. Ву́чыць у Дако́лі. Сл. Наста́ўнічаў да вайны́. Сл.

ВЫ'БАВІЦЬ (*ву́бавіць* і *вы́бавіць*) *-ўлю, -віш, пераходны.* З вялікімі цяжкасцямі дастаць што або каго-небудзь з цяжка праходнага, загубнага месца, увогуле з загубных умоў.

Наліло́ ваду́ по́ўны[е] браду́, то ні маглі́ мы вы́бавіць (воз сена) на га́й. Кл. Угру́зла (карова) у канюшні́цкім бало́це, ледзь вы́бавілі. Байл. Каб як каро́ўку вы́бавіць. Кл. У Бабруйску ў цюрме́ буў, аддала́ ўсе чы́сьцянько паліца́ю, але ву́бавіла сынка́ свайго́. Кл.

ВЫ'БАРСАЦЬ (*ву́барсаць, вы́барсаць*) *-аю, -аеш, пераходны.* Выцягнуць з чагонебудзь абору.

ВЫ'ВАРАТ (*ву́варат, вы́варат*) *мужч.* Вывернутае з карэннямі дрэва. Пуд ву́варатам ваду́ нашлі́. Барб. Ста́лі пад вы́варат, што пат стрэ́ху. Кл. Часцей—вы́вараціна (гл.).

ВЫ'ВАРАЦІНА (*ву́вараціна, вы́вараціна*) *жан.* Што і выварат (гл.). Ву́вараціна на дро́ва до́бра. Кл.

ВЫВІЖО'ЎВАЦЬ (*вувіжо́ўваць* і *вывіжо̂ўваць*). Выведваць, выглядаць. Параўн.: віж (гл.). Вывіжо́ўвае, як што зьзем. Кл. Прыхо́дзіла вувіжо́ўваць. Барб.

ВЫ'ГАН (*ву́ган* і *вы́ган*) *мужч.* На ву́гане калёса ўгру́зьлі. Кл. Ву́ган харо́шы. Хал.

ВЫ'ДУБІЦЬ [1] (*вы́дубіць, ву́дубіць*) *-блю, -біш, пераходны.* Выцягнуць, вывалачы. Што так наму́чыласа, што так наму́чыласа: угру́з конь, насілу ву́дубілі, до́бр[э], што найшлі́ не́йкі[е] лю́дзі. Байл. Упра́віў не́вад у кало́дзьдзе, чуць вы́дубіў. Каб стары́ не́вад, то там бы й аста́ўся. Кл.

ВЫ'ДУБІЦЬ [2] Вырабіць скуру. Кл.

ВЫ'ЗВАРАТ (*вўзварат* і *вызварат*) *мужч.* Прамежак паміж плотам і полем. На вўзвараце цяля́ прыпні. З вы́звaратаў се́на до́брага нанасі́ў. Кл.

ВЫ'ЗВАРАЦІНА (*вўзварацiна* і *вызварацiна*) *жан.* Гл. вызварат. Вўзварацiну скасі́ў. Кл.

ВЫ'ЛАДЗІЦЦА (*вўладзiцца, вы́ладзiцца*) *-джу-ся, дзіш-ся.* Зваротны ад выладзіць (гл.). Куда́ ты вы́ладзілася? Пас. Янкі Купалы.

ВЫ'ЛАДЗІЦЬ (*вўладзiць, вы́ладзiць*) *-джу, -дзіш, пераходны.* Выправіць у дарогу, на працу, на вучобу, у салдаты (параўн.: Выпраўляла маці сына з калгаснае хаты. Я. Купала), забяспечыўшы неабходным. Вўладзіць па́сьціць— накарміць пастуха, сабраць у торбу на дзень есці. Вўладзіла па́сьціць тава́р. Вўладзіў сы́на вучы́цца, дак памага́й. Кл.

ВЫ'ЛІВАК (*вўлiвак, вы́лiвак*) *мужч.* Яйка, не абцягнутае вапністаю шкарлупінаю. Прада́ць трэ́ба е́ту ку́ру, адны́ вы́ліўкі льле. Байлі Вы́лівак — е́та ні яйцэ́. Кл.

ВЫ'МАРСКАЦЦА (*вўмарськацца, вымарськацца*) *-аю-ся, -аеш-ся.* Выпрацавацца, затраціць многа сілы і мець патрэбу неадкладна папоўніць сілы. Здэ́цца й лёгко касі́ласо, а вўмарськаўса за ра́ніцу, што й но́гі ні слу́хаюць. Кл. Параўн.: намарска́цца (гл.). Параўн.: чэшскае mrskati — біць, хвастаць, сцябаць; mrsknouti—хвасянуць, сцебануць, выцяць.

ВЫ'ПУСТАК (*выпустак* і *вýпустак*) *мужч.* Цяля, жарабя, якому год ці другі год; выпустак — першы год выпускаецца разам са статкам на пашу; сысуны на пашу са статкам не выпускаюцца. Адны́х вýпусткаў сóрак. Байл. Вýпустачак сы́ты (мяса з выпустка) смашнéйшы за сьвіньнíну. Кл.

ВЫ'САДКІ (*вы́садкі, вýсадкі*) *толькі ў множн.* Параўн.: у «Русско-белорусском словаре»—высадак. Маê вýсадкі пасьпéлі. Трэ́ба на вы́садкі вы́браць буракá і мóркву. Кл.

ВЫ'СКІДЗЬ (*вýскідзь, вы́скідзь*) *жан.* Тое, што выварацíна (гл.). Вýскідзь нашлí дóбру. Зуб.

ВЫХАВА'НЕЦ (*выхаван*[*е*]*ц*) *мужч.* Прыёмны сын, выхаванец. Так любіў выхавáнца, што й часьць гаспадáркі атпісáў. Кл. Параўн.: чэшскае chovanec.

ВЫХАВА'НКА (*выхаванка*) *жан.* Прыёмная дачка.—Хіба як?—Выхавáнка й выхаванка. Так здáўна ў нас кáжуць. Кл. Параўн.: чэшскае chovati — выхоўваць; chovanka — выхаванка.

ВЯЛІ'ЗАЗНЫ (*вялíзазны, в*[*е*]*лíзазны*). Форма суб'ектыўнай ацэнкі прыметніка вялікі. Ад гэтага прыметніка ўжываюцца такія формы суб'ектыўнай ацэнкі з павелічальна-ўзмацняльным адценнем: вялізны, вялíзазны, велічэ́зазны, веліцýзазны (*арф*). Кл. Вялíзазны-в[е]лізазны кабáн. Барб. Ох, і вяліцýзазнага сóма злавілі. Баян.

ВЯРЭ'НЯ (*в*[*е*]*рэ́ня*) *агульн.* Ацэначнае. Ня-

кемлівы, мешкаваты чалавек. Параўн.: Ускінуў за плечы вярэньку (стар. 31), закусваў з вярэнькі (стар. 32). Адносіў у вызначаны час вярэньку, альбо торбу (стар. 33). «Маладняк» № 1, 1933. Вярэ́ня ты. Кл.

ВЯРО'ЎКА *(арф.)*. Ужываецца ў звужаным значэнні, не як родавае, а як відавое: не любая вяроўка, а тая, якою звязваюць снапы, сена, салому на возе. Кл.

ВЯСЕ'ЛІК *(арф.)* *мужч.* Смаржок. У на́с вясе́лікаў не яду́ць, а як былі́ бе́жанцы, дык тыя елі *(арф.)*. Кл.

ВЯСЛО' [1] *(в[е]сло́) ніяк.* Вясло. В[е]сло́ трэ́ба зрабі́ць но́ва[е]. Пас. Янкі Купалы.

ВЯСЛО' [2] Нізка (грыбоў, абаранкаў). У Цяско́х (Цяскі—урочышча) бага́то баравіко́ў. Га́нна до́брае в[е]сло́ нанізá́ла на дубе́ц. Кл.

## Г.

ГАВАРА' *(гавара́) жан.* 1. У значэнні рускага речь. У яго́ гавара́ нехаро́шая, неяк спяша́е, слоў не разбяра́ш *(арф.)*. Сл. Гавара́ харо́ша. Кл. 2. Гутарка, выказанае. Уся́ку гавару́ запіса́ць трэ́ба. Хал. Таго́ staро́га манькута́ гавару́ піса́лі. Зуб. 3. Адпавядае рускаму молва. Пусьцілі лю́дзі гавару́. Кл. Гавара́ пашла́. Барб. Са́мі нарабі́лі гавары́. Кл.

ГАВАРКІ' *(гаваркі́)*. Філіпо́віч ве́льма гаваркі́. Зуб. Ве́льмі гаваркі́ хлапчу́к. Кл.

ГАДО'ЎЛЯ *(гадо́ўля, гадôўля) жан.* Кінула тро́е парася́так на гадо́ўлю. Кл. Не́шта німа́

на йіх (куранят) гадôўлі. Пас. Янкі Купалы.

ГА′ЛА *(гáло, гáла) ніяк.* 1. Шырокая балотная сенажаць між лясоў. Там гáло — й канца німá. Байл. 2. Вялікая прастора між лясоў. Кл.

ГАЛАБАРО′ДЗЬКА *(галабарóдзько, галабарôдзька) мужч.* Мужчына, у якога не расце барада і вусы. Галабарóдзько ў Барбарóве буў. У галабародзька. Кл.

ГАЛАГУ′Т (*галагýт*) *мужч.* Вялікі пародзісты певень. Гл. галагуцкі. **Г**алагýту нагý зламáлі. Кл.

ГАЛАГУ′ЦКІ (*галагýцкі*). Называюць пародзістых буйных курэй з голымі (без апярэння) шыямі. **Г**алагýцкі пéв[е]нь. Кл.

ГАЛАШЧО′К *(галашчóк) мужч.* Замерзлая голая (без снегу) зямля, балота. Галашчóк, хоць кацíся бóкам. Кл.

ГАЛАШЧО′КАМ Галашчóкам замéрзла. Кл. Параўн.: галашчóк.

ГАЛЭ′П *(галэ́п) мужч.* Голае (без апярэння) птушаня. Галэ́паў знашóў. Сл.

ГАМЗА′ЛА *(гамзáло* і *гамзáла).* Гл. гóмзала.

ГАМЗА′ТЫ *(гамзáты).* Пра чалавека, які гамзае, гугнявіць. Я тагó гамзáтаго ні разабрáла. Барб.

ГАМЗА′ЦЬ *(гамзáць* і *гóмзаць) -аю, -аеш, непераходны.* Непрыемна гаварыць у нос, гугнявіць. Гл. гóмзала. Гóмзало гóмзае. Кл.

ГА'НАЧКІ Памяншальнае ад ганкі (гл.). **Га́**начкі на чаты́ры ў́схо́ды. Сл.

ГАНДЗІ'НА (*ганьдзі́на) жан.* Гонціна. Вазьмі́ тую ганьдзі́ну. Кл.

ГА'НІЦЦА Зваротная форма ад ганіць (гл.). А чаго́ ён га́ніцца? Га́ніцца пача́ў. Зуб. Можа ў́жывацца не ў зваротным значэнні. На йі́х усяк га́ніцца стаў. Кл.

ГА'НІЦЬ (*га́ніць) -ю, -іш, пераходны.* А нашто́ вам было́ га́ніць йіх? Кас.

ГА'НКІ (*га́нкі) толькі ў множн.* Ганак. **Га́**нкі мае́ згнілі́. Кл.

ГАРБУ'ЗІКІ (*гарбу́зікі). Адз. лік*—гарбузік. Гарбузовае семя. Бу́дам луза́ць гарбу́зікі. Кл. Гарбу́зікаў ба́ба дась. Байл. На ко́ляды даўне́й гарбу́зікамі частава́лі. Кл. Параўн.: гарбузяняты *(арф.).* Карэліцкі раён.

ГАРО'ЎЛЯ (*гаро́ўля, гаро̂ўля) жан.* Бесперапынная напружаная праца пры нястатку. С тае̂ гаро̂ўлі нічо́га ні ву́йшло. Сл. Каму́ шанцу́я на гадо́ўлю, а каму́ на гаро́ўлю. Вольн.

ГАРЭ'ЛІК (*гарэ́лік) мужч.* Крыху прыгарэлая печаная ці (верхняя ў гаршку) вараная бульбіна. Хадзі́ гарэ́ліка дам. Кл.

ГАСПАДА'Р [1] (*гаспада́р) мужч.* Гаспадар. Ён до́бры гаспада́р, усе́ даглє́дзіць, сад лю́біць. Вільча.

ГАСПАДА'Р [2] Муж. Слова муж ужываецца толькі ў сем'ях інтэлігенцыі. Сл., Кл., Вольн.

ГАЦІ'ЦЬ (*гаці́ць) -ч-у, -ц-іш.* 1. Закідваць

яму, балаціну. Трэба гаціць. Кл. 2. Многа і бескарысна дапамагаць матэрыяльна (прычым дапамога не паляпшае справу таго, каму дапамагаюць). Гаціў, гаціў, і ўсе прапáло, ні кóнчыў (вучыцца), тупы́ вéльма. Барб.

ГІЧ *(гіч) жан.* Ужываецца побач з націна (гл.). Гіч дóбра, а картóплі дрóбные. Барб. Параўн.: Гічанамі пуза ўздута. Я. Колас.

ГЛЁ′ЎКА *(глёўко, глёўка).* Глёўка—многа вільгаці ў глебе. На паля́нцэ йшчэ глёўко, ра́но ара́ць. Кл. Там глёўка было́, мы кінулі, ні ара́лі. Кл. Параўн.: глеўка. Слуцкі раён.

ГЛЁ′ЎКІ *(глёўкі).* 1. Ужываецца з назоўнікам хлеб. Глёўкі хлеб — нявыпечаны хлеб. Дала́ нéйкаго глёўкаго (хлеба) кава́лак с кіло́. Кл. 2. З назоўнікам поле, зямля (у значэнні глеба). Параўн.: глёўка (гл.). Глёўкае пóле. Глёўка з[е]мля́. Кл. Глёўкае поле—вільготнае поле.

ГЛУМІ′ЦЦА *(глуміцца) -млю-ся, -міш-ся.* Зваротная форма глуміць (гл.). У значэнні здзекавацца, зневажаць чэсць чалавека. І ні жыві зь йім, хіба́ ма́ло наглуміўса? Кл.

ГЛУМІ′ЦЬ *(глуміць) -млю, -міш, пераходны.* Псаваць, пераводзіць што-небудзь. Наштó глуміць дóшку? Хал. Саглумілі такіе лóткі. Барб. Глуміць людзей — знішчаць, калечыць людзей. Бага́то людзéй (нямецкія акупанты) паглумілі. Хал.

ГЛЯК *(гляк) мужч.* Гаршчок з вузенькім горлачкам. Вацéтаму гляку́ мо два́ццаць гадо́ў. Кл. Параўн.: укр. глéчик (глэчык).

ГЛЯЎКА́Ч *(арф.) мужч.* Глёўкі хлеб. Глеўкачў кава́лак дала́. Сл. Параўн.: глёўкі (гл.).

ГНЕ́ВАЦЦА *(гнéвацца) -аю-ся, -аеш-ся.* Крыўдзіцца. Чагó ты загнéвалася? Барб. Усé (усё) на бáцька гнéваюцца. А чагó гнéвацца? Кл. Параўн.: чэшскае hněvati se — злавацъ, hněvivy—злы.

ГНІ́ЛКА *(гнілка) жан.* Паляжалая груша. Ёсць гатункі груш, галоўным чынам дзікіх, якія набываюць смак і становяцца прыдатнымі да ежы, калі паляжаць і стануць сочныя. Катóрые гнілкі й вéльма смáшные. Барб. Параўн.: гнілка і (у тым самым значэнні) лéжанка. Мсціслаў.

ГНЯЎЛІ́ВЫ Гл. Гневацца. А囲 наштó такóму гн[е]ўлíваму буць? Кл. Параўн.: чэшскае hněvivy.

ГО́МЗАЛА *(гóмзало, гóмзала).* Чалавек, які гаворыць непрыемна ў нос, гамзае, гугнявіць. Гóмзала нéйкі. Пас. Янкі Купалы. Гамзáло — éто хто гамзáе. Гóмзало гóмзае. Кл. Ужываецца з хістаннямі ў адносінах націску *гóмзало(а)* і *гамзáло(а).*

ГО́НДА *(гóнда* і *гóнта) жан., толькі ў адз.* Гонты. Гóндаю накрóй, дак да сьмéрці пяракрывáць ні трэ́ба бýдзе. Кл. Параўн.: пад гонтаю. А. Чарнышэвіч, Світанне, 1957, стар. 406. Параўн.: дóбры гонт. Карэліцкі раён.

ГО́НКА [1] *(гóнка* і *гôнка) жан.* Назва дзеяння па дзеяслову гнаць. І наштó так бéгці? Наштó гóнка такáя? Кл.

ГО'НТА (*гонда* і *гонта*). Гл. гонда.

ГО'РЛЕЧКА (*горлячко* і *горлячка*) *ніяк.* Памяншальнае ад горла, горлачка. Горлячко адбілася. Хал.

ГРА'ВЕЛЬ (*арф.*) *мужч.* Гравій. Гравель вазілі (*арф.*). Барб.

ГРА'ЗКА (*гразко* і *гразка*). Гразка на вуліцы, на балоце, на дарозе. Параўн.: гразна (гл.). Вельма гразка на вуліцы. Кл.

ГРА'ЗНА (*гразно* і *гразна*). Брудна ў хаце, на стале. У йіх пастаянно гразна ў хаце. Кл. Параўн.: гразка.

ГРО'ЗЬБА (*грозьба*) *жан.* Я й у прозьбу, я й у грозьбу, а ён ні шманае. Кл. Параўн.: чэшскае hrozba—грозьба.

ГРУБІНЯ' (*грубіня*) *жан.* Таўшчыня. Ужываецца побач з таўшчыня і тэўшч. Мой брус будзе такі грубінёю. Кл.

ГРУ'ЗКА (*грузко* і *грузка*). Гразка. Тудою не ганеце, там грузко, угрузнуць (каровы). На балаціне крэпко грузко, цяжко копы насіць, грузьнеш за калено. У Канюшнішчах заўсёды грузко було. Кл.

ГРЫМЕ'ЦЬ (*грымець*) *-млю, -міш, непераходны.* 1. Грымець. Грыміць усю раніцу. Байл. 2. Пераноснае. Крычаць, лаяцца, бушаваць, абвінавачваць. Прышоў, кажу, сюды грымець? Кл.

ГРЭ'ЦКІ (*грэцкі*). Дзе ты етых круп на-

бра́ла грэ́цкіх? Кл. Грэ́цкіх ала́дак ні люблю́. Байл. Грэ́цкае ка́шы. Кл. Грэ́цкі кру́пнік. Барб.

ГУ'БА [1] (*гу́ба*) *жан.* Губа. Гу́бу закапы́ліў. Кл. Гу́бу ап'ёк. Хал. Гу́ба баліць. Хал.

ГУ'БА [2] (*гу́ба*). Грыб на дрэве. Ко́лісь курцэ́ насілі крэ́м[е]нь, крэ́сіво й гу́бу. Вы́красае агню́ й прыку́рыць. Хал. Параўн.: чэшскае houba — грыб.

ГУБЕ'ЛЬ (*губе́ль*) *мужч.* Зневажальнае. Чалавек з вялікімі губамі. Кл.

ГУ'БКА [1] (*гу́бка*) *жан.* Памяншальнае ад губа. Кл.

ГУ'БКА [2] Мера палатна або асновы (ткацкае) па даўжыні сцяны, на якой «снава́лі асно́ву». Гу́бак два́ццаць палатна́ натыка́ла. Кл. Твая́ гу́бка мала́я. Байл.

ГУ'КАЦЦА (*гу́кацца*) *I спраж.* Пакрывацца (толькі аб свінні). Сьвіньня́ гу́каяцца, а каро́ва бе́гае ці палю́е. Кл.

ГУКА'ЦЬ (*гука́ць*) *-аю, -аеш, пераходны.* Хто́ то (хто гэта) ў ле́се гука́е?—Та́тко дзяцё́й шука́е. З песні. Кл. Загубілі каро́ву, мо два часы́ гука́лі. Кл.

ГУЛЕ'Ц (*гуле́ц*) *мужч.* Ігрок. Той Іва́нчык гуле́ц ве́льмі ў ша́шкі. Параўн.: гулё́к (гл.).

ГУЛЁ'К (*гулё́к*) *мужч.* Ігрок. Ён до́бры гулё́к у ша́хматы. Зуб. Параўн.: гуле́ц.

ГУЛЯ'КА (*гуля́ка*) *агульн.* 1. Той, хто гуляе (у каго-небудзь). У ва́с по́ўно гуля́каў. Гуля́-

каў поўнянька хата. Кл. 2. З адценнем адабрэння, — пра таго, хто прыгожа і многа гуляе (скача). Ваш Карп гуляка буў, а пеў як! Кл. 3. З адценнем неадабральнасці. Гуляка той нічагенькі ні робіць. Кл.

ГУРДА'Н *(гурдáн) мужч.* Курган. Гурдáн там высóкі. Вольн.

ГУ'СКА [1] *(гýска) жан.* Памяншальнае ад гусь. Гýску прадалá. Барб.

ГУ'СКА [2] Белая лілея. Гýскі цьвітýць ужэ́. Пас. Янкі Купалы. Гýсак нарвáў пук. Кл.

ГУСТЫ'Ш *(густы́ш) мужч.* Гушча, радзей густыш. Густы́ш кінуў, а юшку сцадзíў. Кл.

ГУСЯ'ЧЫНА *(гуся́чына) жан.* Гусінае мяса. Гуся́чыну купля́юць. Зуб.

ГУ'ТА *(гýта) жан.* На дне рэчкі Дóкалька (Кл.) ёсць нейкія выгаркі, шлак. Гýта булá, бы́тто завóд які. Яно й ведáць, што зь нéйкаго п[е]рапáлу. Кл.

ГУТАТА'ЛКА *(гутатáлка* і *гýшкалка) жан.* Арэлі. Зачапí за бáньку лéйцы, вазьмí дóшку— й гутатáлка. Кл. Параўн.: гутарэ́лі. Мсціслаў. Параўн.: гушкалка, ужываецца часцей за гутаталка.

ГУТАТА'ЦЦА *(гутатáцца) -аю-ся, -аеш-ся.* Тое, што і гушкацца.

ГУ'ШКАЛКА *(гýшкалка* і *гутатáлка) жан.* Арэлі. Гýшкалка — ета гутатáлка. Кл. Гл. гутаталка.

ГУ'ШКАЦЦА *(гу́шкацца) -аю-ся, -аеш-ся.* Гу́шкаліся на гу́шкалцэ. Кл. До́бра гу́шкацца на бяро́зе (на апушчанай галіне). Кл.

ГУ'ШЧА *(гу́шча) жан.* 1. Гушча. Гу́шча наве́рх ні ўсплываáе. Кл. 2. Крупы. Панцак, груца. Параўн.: груца і пансак. Заслаўскі раён. Гу́шчы надра́лі пудо́ў два. Пас. Янкі Купалы. Гу́шча й зь м'я́сам ці хоць ш чым сма́шна. Кл. 3. Крупнік з пансаку. Кл.

## Д.

ДАБРА'НАЧ *(дабра́нач).* Дабра́нач ні сказа́ла. Кл. Дабра́нач, стара́я ха́та, дабры́дзень но́вая. З песні. Кл.

ДАГЛЕ'ДАК *(даглёдак) мужч.* Догляд. Даглёдку ні було́. Сл.

ДАЕ'СЦІ [1] *(дае́сьці і даёсьці) пераходны.* Даесці. Кл.

ДАЕ'СЦІ [2] *Непераходны.* Дапячы, даняць. Так ён ужэ даеў мне, што й жыць ні хо́чу. Дак.

ДАК *(дак)* Дык. Дак хіба́ німа́? Кл. Дак чаму́ маё атаўкі ні ўскінулі на вôз? Пас. Янкі Купалы.

ДАМАВІ'НА *(дамавіна) жан.* Труна. Сам сабё дамавíну Дзюдзю́н зрабіў. Кл.

ДАЎБЕ'ШКА *(даўбе́шка) жан.* Доўбня. Ужываецца даўбе́шка і доўбня. 1. Даўбе́шка (доўбня)—прылада. Іншы раз—любы кавалак палена, якім можна стукнуць. Падай даўбе́шку. Пас. Янкі Купалы. 2. Пераноснае. Тупіца, няздара, дурань. Кл.

ДВО'ЙКІ (*двойкі*). Двойчы (побач з двойчы). Двойкі к старшыні хадзіла. Кас.

ДЛЯ [1] Каля, ля. Нехта стаў для нас. Кл.

ДЛЯ [2] Для. Хіба для вас касіў? Кл.

ДО'ЙЛА (*дойло* і *дойла*) *ніяк*. Вымя. Дойло добрае, а малака мало. Кл.

ДО'ЛЕ (*доле*). Закасцянелая форма меснага склону адз. ліку назоўніка дол (долъ). На падлозе, на зямлі. Сакера дол[е] пад лаваю. Вайц. Найшло парцізанаў паўнютка хата. Я ўнесла саломы й доле ўпокат леглі ўсе. Сл. Параўн.: чэшскае dole—унізе.

ДО'ЧАЧКА (*дочачка*) *жан*. З мае дочачкі. Кл. Побач—дачушка (але не дочанька).

ДРАБІ'НА (*драбіна*) *жан*. 1. Лесвіца. Я прыстаўлю драбіну, загарну яйца ў карзіну. Верш. апавяд. Кл. 2. Ацэначнае. Называюць вялікую тонкую і худую карову, каня, ад якіх мала карысці. Ты б малую (карову) купіў, а то прыцёг такую драбіну. Кл.

ДРАБІ'НКА [1] (*драбінка*) *жан*. Часцей у множн. драбіны (гл.). Лёгкі воз для паездак. Драбінка нічога (слабая) сусім. Кл.

ДРАБІ'НКА [2] Трошку чаго-небудзь. Й драбінка сытаго памагае. Хал. Сама драбінку вазьмі. Кл.

ДРАБІ'НЫ (*драбіны*). Лесвіца. Слова драбіна ў форме жан. роду сустрэў у в. Клетнае толькі ў прыведзенай цытаце з вершаванага апавядання «Бяда». Звычайна ж—драбіны.

Драбіны нéхта сьцёг. Пас. Янкі Купалы. Прыстáў драбіны. Драбіны зрабіў. Кл.

ДРАБО′К *(драбóк) мужч.* Маленькі кавалачак чаго-небудзь, звычайна пра цукар. Драбóк сáхару ўкінула ў кáшу. Барб. Прышлá, прóсіць хоць малéнькі драбóк сáхару дзіцяці. Кл. Параўн.: драбінка 2 (гл.).

ДУБЕ′Ц *(дубéц) мужч.* Дубéц зламáўся. Байл. Дубцá даць. Кл.

ДУБЕ′ЦЬ *(дубéць, дубêць) -ею, -ееш, непераходны.* Мерзнуць на холадзе. І пáльцы дубéюць. Зуб. Хвáціць дубéць ёй (карове на двары). Кл. Параўн.: адубéць (гл.).

ДУ′ЛЯ [1] *(дýля) жан.* Садовая груша, не дзічка. Ігруша — дзічка-груша. Дуль нараслó багáто. Кл.

ДУ′ЛЯ [2] Дуля, фіга. Сл.

ДЫ′БАЧКІ *(дыбачкі) толькі ў множн.* Ужываецца з прыназоўнікам *на* пры дзеясловах стаць, ісці, хадзіць. Стаць на дыбачкі, ісці на дыбачках — стаць, ісці на пальцах. На дыбачках дóўга ні пастаю́. Стáнь на дыбачкі, дак углéдзіш. Кл.

## ДЗ.

ДЗЕ′ВЕР *(дзéвер, дзéв[е]р) мужч.* Брат гаспадара (мужа). Барб., Байл., Кл. Дзéв[е]р прасіў у гóсьці. Дак. Дзéверу атнесý. Хал.

ДЗЕЛЬ *(дзель).* Дзе-небудзь. Дзель знайдý. Вольн. Дзель пастáўлю éту прáсьніцу нáнач. Мо дзель дась скасіць крóшку? Кл.

ДЗЕ′РАВА[1] *(дзéраво, дзéрава, дрэ́во, дрэ́ва) ніяк.* Дрэва. Кл., Пас. Янкі Купалы.

ДЗЕ′РАВА[2] *(дзéрава* і *дзéраво).* Стрэмка. Ні вы́няла дзéрава, дак падрываé (палец). Пас. Янкі Купалы. Вýймі ты дзéраво; вуймáла, вуймáла—й ніяк. Кл.

ДЗЕРАВЯ′КА *(дзераўя́ка* і *дзеравя́ка) жан.* Бервяно. Дзераўя́ку палажы́лі. С-пуд (з-пад) дзераўя́кі. Я б занёс ету дзеравя́ку, але мýлка ў плячó. Кл.

ДЗЕСЯЦІ′ННІК *(дзес[е]ці́ньнік) мужч.* Той, хто жыў на купленай у пана дзесяціне зямлі. Дзес[е]ці́ньнікі булí. Кл.

ДЗЫГА′ТЫ *(дзыгáты).* Высокі і тонкі (аб чалавеку). Той дзыгáты сюды́ прыхóдзіў. Ідзе— толькі дзы́г-дзы́г-дзы́г. Барб.

ДЗЫ′ГАЦЬ *(дзы́гаць) -аю, -аеш.* Гаварыць аб хадзе вялікімі крокамі высокага даўганогага чалавека. Той дзыгáты сюды прыхóдзіў. Ідзé—толькі дзы́г-дзы́г-дзыг. Барб.

ДЗЮБА′ТЫ *(дзюбáты).* З доўгім вострым носам (пра чалавека). Дзюбáтаму тамý аддалá. Хал. Нéйкае ніхарóшае, дзюбáтае (дзіця). Сл.

ДЗЯВУ′ЛЯ *(арф.) жан.* З адценнем зняваги—дзяўчына. Такóй дзявýлі парá на рабóту хадзíць *(арф.).* Барб. Параўн.: дзявóя. Сіняўская Слабада Карэліцкага раёна.

ДЗЯДО′К[1] *мужч.* Дзядок.

ДЗЯДО′К[2] Колік (іх два), да якога прывязваецца край сеці (трыгубіцы). На ніжні ка-

нéц дзядкá трэ́ба·бáньку (гл.) набíць *(арф.)*. Кл.

ДЗЯ'ННА *(дзя́нна) жан.* Жо́нка дзядзькі. Дзя́нну сваю́ бáчыла. Кас. У дзя́нны папрашу́. Кл. Дзя́нна мая́ казáла. Барб.

ДЗЯРЖА'ННЕ[1] *(дзяржáньне) ніяк.* Трыманне (таксама ўжываецца). Па рукáх даць за такóе дзяржáнне. Каб што? Дзяржáць ні ўмéе. Кл.

ДЗЯРЖА'ННЕ[2] Асадка (палка) у такіх прыладах, як рыдлёўка, вілкі і падобныя. Дзяржáньне зламáла. Дак.

ДЗЯРЖА'ЦЬ[1] *(дз[е]ржáць) -у, -ыш, пераходны.* 1. Трымаць. Слова трымаць таксама ўжываецца. Памажы́ дз[е]ржáць. Кас. 2. Мець (жывёлу). Сьвíньне дзяржáлі (мелі свіней, гадавалі свіней). Кл.

ДЗЯРЖА'ЦЬ[2] Быць кумою ці кумам. Я дзяржáла мéншу (была кумою, калі нарадзілася меншая дачка). Вайц.

ДЗЯРКА'Ч[1] *(дз[е]ркáч, дзяркáч) мужч.* Птушка. Дз[е]ркáч сваю́ пéсьню дурнýю задрáў. Вайц.

ДЗЯРКА'Ч[2] 1. Зношаны венік. Дзеркачэ́ пат плóтам валя́юцца. Кл. 2. Пераноснае. Задзірлівы чалавек. Сідóр вéльмі задзíрлівы, такí дзяркáч, што ні ўжывé ні с кíм. Кл.

ДЗЯТЛУ'К *(дз[е]тлýк) мужч.* Зніжальнае. Малы ростам, нямоцны фізічна юнак. Йшчэ зь [е]го ні запамагáты, слабéнькі нéйкі дз[е]тлучóк. Кл.

ДЗЯ'ЦЕЛЬНІК (*дзяцяльнік*) *мужч.* Дзікая расліна, нагадвае канюшыну. Называюць часам—дзікая канюшына. Дзяцяльнік ко́ні лю́бяць. Кл.

ДЗЯЦЮ'К (*дз[е]цю́к*) *мужч.* Падростак, юнак. Тагды́ ўжэ ла́дны быў дз[е]цю́к. Поб.

## Е.

ЕЗ (*ез* і *ê*з) *мужч.* Прыстасаванне для лоўлі рыбы: рака перагароджваецца каламі ці дошкамі (забіваюцца ў дно), а на самым глыбокім месцы пакідаецца прасвет, куды і застаўляюць нерат або кош. Там ужэ ні рабі́ў ёзу. С твайго́ ёзу нічо́га ні асталóся. Кл. Параўн.: гаток. Карэліцкі раён. Параўн.: чэшскае jez — плаціна, гаць.

Е'РНІК (*ёрнік*) *мужч.* Аер. Ёрніку нажáла. Кл. Ёрнік расьцé скóра. Барб. Параўн.: я́рый. Папаратнае Жлобінскага раёна.

Е'ТТА (*ётта*). Тут. Ётта стань. Байл. Ётта ні ву́рас аўёс. Кл.

Е'ТТАКА (*ёттака*). Тут. Ёттака ні расьцé пшані́ца. Барб.

Ё'МАЧНІК (*ёмашнік*) *жан.* Палка, на якую насаджваецца ёмка (гл.). Ёмашнік найці́ трэ́ба. Кл.

Ё'МКА (*ёмка*) *жан.* Чапяла. Ёмкаю ву́грабі. Хал. Ёмку купі́ла. Кл. Ёмка мая́ спахáлася. Барб. Параўн.: чапля́ (гл.).

## Ж

ЖА'ГЛЯЎКА *(жáгляўка) жан.* Маленькая чырвоная мурашка. Жáгляўка ў рукáў улёзла. Кл.

ЖАЛЕ'ЗЗЕ[1] *(жалёзьзе) зборны, ніяк.* Жалёзьзе ні пакрáдуць. Зуб. У жалёзьзі пашукáй. Кл.

ЖАЛЕ'ЗЗЕ[2] Металёвая пастка. Жалёзьзе на вóўка пастáвілі, а карóва нагý ўправіла й прастаяла два дні. Пас. Янкі Купалы.

ЖА'ЛЕЦЬ *(жáл[е]ць* і *жáляць) -яю, -яеш, неперaходны.* Гарэць (без полымя). Сінонім да тлець. Запалíлі ў грýбцэ й пашлí, а дзьвéрцаў ні зачынíлі. Прыхóджу, а падлóга жáляе. Вы́жаляла мо спóдак (з сподак) пля́ма. Пас. Янкі Купалы.

ЖАЛЯ'ЗКА *(жаля́зко* і *жаля́зка) ніяк.* Прас. Бытуе побач з прас. Жаля́зко сваé булó. Барб. Як новае, сустракаецца і ўцюг. Кл.

ЖУРАЛО' *(журалó) ніяк.* Ручаіна на вуліцы пасля дажджу. Журалó цераз вýліцу. Сл.

ЖЫВАСІ'ЛАМ *(жывасíлам).* Гвалтоўна, сілком. Жывасíлам у гóрло ўлілí (лякарства карове). Кл.

ЖЫ'ТКА *(жы́тка) жан.* Жыццё. Хібá жы́тка булá? Мýчыліса, дай усé. Кл.

ЖЫТЛО' *(жытлó) ніяк.* Жыццё. Сустрэта ў праклёне. Што б вы жытлá ні знáлі. Кл.

# З.

ЗАБІЦЦЕ′ *(забіцьцé) ніяк.* Заклапочанасць, поўная адданасць справе, якая патрабуе разумовага напружання. Дзень і нôч то чытáе, то піша, я батýю: наштó табé éтае забіцьцé? Кл.

ЗАВАЛЮ′ШЧЫ *(завалю́шчы).* Пра зношаны ці проста нягодны прадмет, які «валяецца на ўсякі выпадак». Нéйдзе завалю́шчы прáнік буў тут. Сл. Мо сакéра есь завалю́шча? Грýбку разьбівáцьмам. Кл.

ЗА′ВЕРЦЕНЬ *(зáвярц[е]нь) мужч.* Вяроўка, часцей скручаны распараны дубовы, бярозавы ці лазовы дубец, якім прымацоўваецца аглабля да саней (пярэдняга капыла). Зáверцень трэба новы завярцець *(арф.)*. Пас. Янкі Купалы. Зав[е]ртнê нігóдна штýка. Лéп[е]й на залéзных крукóх. Кл. Параўн.: зáвертка *(арф.)* Карэліцкі раён. Галóднаму ваўкý й зáверта па нутрý. Беларускія народныя прыказкі і прымаўкі, 1957, стар. 133.

ЗАВІ′ТАК *(завітак) мужч.* Завітак, залом у жыце. Кáжуць мáці йіха завіткі ў жы́це завівáла, дóхлі кóні, карóвы, вéльмі в[е]дзьмáрка былá. Кл. Даўнéй вéрылі ў éтые завіткі, баяліся йіх, ні дай бог. Хал.

ЗАВІХА′ЦЦА *(завіхáцца) -аю-ся, -аеш-ся.* Хутка, з лёгкасцю і спрытам працаваць, каб хутчэй закончыць працу. Хмáра нахóдзіць, дак я завіхáцца, завіхáцца й зьнéсла (сена ў будынак). Кл.

ЗАВІ'ЦА *(завіца) жан.* Сястра гаспадара (мужа). Залвіца. Завіца тут тры дні сядзе́ла. Кл. Гл. заўвіца.

ЗАВІШАВА'ЦЬ *(завішава́ць) -ую, -уеш, непераходны.* Зазімаваць траве няскошанаю. Завішава́ло бало́то як во́кам даста́ць. Байл. Адзі́н год ве́льмі бага́та сенако́саў завішава́ла. Як заме́рзла, дык лю́дзі касі́лі па лёдзе. І ела тава́рына, бо гало́дная была́. *(арф.).* Кл. Сёлета ні завішу́е й на прако́с: бач, стара́юцца. Поб. Гл. віш, вішава́ць.

ЗАВО'З *(заво́з* і *завôз) мужч.* Прывезенае ў млын мліва (гл.), збожжа. За́ўтрэ да заво́зу прые́дзяце. Кл. Заво́зу ніба́гатко було́. Кл. Заво́зу на п'яць дзён хо́піць. Вайц. По́ўно й по́ўно заво́зу. Байл.

ЗАВО'ЗНА *(заво́зно, завôзно, заво́зна, завôзна).* Багата завозу (гл.). Е́ту ўсю зіму заво́зно й завôзно. Кл.

ЗАВО'ЗНІК *(заво́зьнік* і *завôзьнік) мужч.* Той, хто прывёз у млын збожжа малоць. У заво́зьніка аха́пак саломы вазьму́. Кл.

ЗАГНЕ'ВАЦЦА *(загне́вацца* і *загнêвацца) -аю-ся, -аеш-ся.* Пакрыўдзіцца. Ве́льмо ж на вас загне́валаса Ма́рхвачка. Барб.

ЗАГУБІ'ЦЬ [1] *(загубі́ць) -блю, -біш, пераходны.* Загубіць. Загубі́лі дзіця́ мнê. Барб.

ЗАГУБІ'ЦЬ [2] *(загубі́ць).* Згубіць. Каро́ву загубі́лі, пашлі гу́ртам шука́ць. Кл. Ішла́ к вам да не́йдзе загубі́ла ключэ́. Барб.

ЗАДАЛЯГО'ДЗЬ (*задалягóдзь, задал*[*е*]-*годзь*). У значэнні зараней. Параўн.: рускае заблаговременно. Можно меркаваць, што гэта складанае слова—ад каранёў даль і годз' (параўн.: гадзіна, ліхая гадзіна, чорная гадзіна, згадзіўся). Задалягóдзь усé сабрáў. Кл. Задал[е]гóдзь нагатавáла ўс[е]гó на сьвято. Байл.

ЗАДЗЕ'ЦЬ (*задзéць* і *задзêць*) *-у, -еш, пераходны*. Дзець, падзець. Куды́ вы йіх задзéлі ётые нôжны? Кл.

ЗАЖА'ЛЕЦЬ (*зажáляць* і *зажáл*[*е*]*ць*) *-ею, -ееш, непераходны*. Загарэцца без полымя ад высокай тэмпературы на адлегласці ад агню або ад іскры. Стаялі й грэліся пры агні́, адáл[е] засмалíла (запякло)... зажáляла калóша (калашына). Кл.

ЗАЗІ'МКАВАТЫ (*зазíмкаваты*). Тое, што зазімкавы. Зазíмкаватае (каровы) ні купляй. Кл.

ЗАЗІ'МКАВЫ (*зазíмкавы* і *зазíмкавуй*). Пра чалавека, жывёлу, якія к канцу зімы, асабліва ў пачатку вясны, становяцца слабыя, худыя. Прадáць трэ́ба: зазíмкава (карова). Кл. Ён у нáс змáлку нéйкі зазíмкавуй (пра хлапца). Барб.

ЗА'ЗУБЕНЬ (*арф.*) *мужч.* Барадка рыбацкага кручка. Тады́ кручкí дóбрыя, як зáзубень у іх вялíкі. (*арф.*). Пас. Янкі Купалы.

ЗАКАЛЁ'ННЫ (*закалённы*). 1. Жорсткі, люты, злосны (пра чалавека, пра зіму). Ні рáз ні атлёг марóз, от закалённа зімá. Вéльмі ж

ён закалённы буў, єты Андрэй, пастухі й дўху баяліса. Кл. 2. У мове моладзі—і ў значэнні загартаваны (побач з загартаваны). Закалённы стану, што сталь. Пас. Янкі Купалы.

ЗАКАПУ'ЛІЦЬ (*закапуліць* і *закапыліць*). Нешто ні так сказала, дак і закапуліла губу (губы). Кл.

ЗАКО'БАЦЬ (*закобаць*) *-аю, -аеш, пераходны.* Закінуць, закідаць што-небудзь між іншых рэчаў. Закобала ў рызьзі маю хустку, што шукаю й ні знайду. Кл. Параўн.: чэшскае kobka (кобка)—каморка.

ЗАКО'ВАНКА (*закованка*) *жан.* Гульня ў хованкі. У нас у єту закованку й вêк гуляюць. Той, хто знайшоў, «закоўвае», стукае па лаўцы і крычыць: «кую-кую!» (каго-небудзь). Параўн.: хавалка (гл.).

ЗАЛЕ'ГЧЫ[1] (*залегці* і *залегчы*) *-у, -аш, пераходны.* Залегчы. Паклалі косы да залеглі мо на тры часы. Кл.

ЗАЛЕ'ГЧЫ[2] Грозна пагнацца (за кім-небудзь). Увайшлі ў сад, дак вот я йіх залёг, шапак аццураліса. Сл.

ЗАЛЕ'ТАСЬ (*залётась* і *залêтась*). Два гады назад. Яны залётась ня булі. Залётась накрыла хату. Кл.

ЗАЛЕ'ТКАВЫ (*залёткавы, залêткавы, залёткавуй, залêткавуй*). Мінулагодні, той, які ўжо быў у мінулае лета. Ужываецца звычайна пры назоўніках, якія абазначаюць назвы сельскагаспадарчых культур; залеткавая культура (насенне)—культура (насенне) з ураджаю мі-

нулага года. Залёткавым жы́там ні сêй, бо мо́жа ні ўзыйсці. Пас. Янкі Купалы. Залёткавае жы́то. Кл.

ЗАЛІ′ЦЬ (*залі́ць*) *-ю, -іш, пераходны.* Вываргваць у лузе (бялізну). Залі́ць пля́цце трэ́ба. Зо́ляць у лу́зе, альбо́, ка́жуць, зо́ляць у шчо́лаку. Кл.

ЗАЛЫГА′ЦЬ (*залыга́ць*) *-аю, -аеш, пераходны.* 1. Узяць на повад (гл.) валоў (вала). Ты ні залы́гваў вала́ йшчэ? Зуб. Залыга́й Сідо́равы валы́. Кл. 2. Пераноснае. Узяць каго-небудзь у рукі, запрэгчы. Пачака́й, вот у салда́ты по́йдз[е]ш, перасьці́хнеш бушава́ць да грымéць, распу́сьнік,—там залыга́юць. Барб.

ЗАЛЫ′ГВАЦЬ (*залы́гваць*) *-аю, -аеш, пераходны.* Незак. тр. ад залыгаць. Гл. залыгаць.

ЗАМЕ′СНІК (*замéсьнік, замêсьнік*) *мужч.* Намеснік. Ён жэ замéсьнікам. Кл. Параўн.: намеснік і рускае заместитель.

ЗА′МЕСЬ (*за́м[е]сь*). Быццам, як быццам, нібыта, быццам бы. Гаво́раць пуд акно́м, а я за́м[е]сь ні чу́ю, да ўсе й чу́ла. Кл.

ЗАМЁ′Т (*зам’ёт*) *мужч.* Агарожа з бярвенняў. Цяпер сустракаецца рэдка. Зам’ёт рабі́ўса надо́ўго. Ён крапчэ́йшы за ўся́кі плôт. Кл.

ЗАМЁ′ЦІНА (*зам’ёціна*) *жан.* Бервяно з замёту. Зам’ёцінаю напалі́ла ў ха́це.

ЗАНО′ЗА (*зано́за*) *жан.* Частка ярэмца (1)—моцная палка, якая закладаецца ў ад-

ґуліны ярэмца (гл.) і кульбакі (гл.). Занôз, хлóпч[э], не выкідáй, хай у ярэ̂мцы бýдуць. Кл. Гл. ярэмец, кульбака.

ЗАНЯДУ'ЖАЦЬ *(зан[е]дýжаць, занядý-жаць) -аю, -аеш, непераходны.* Захварэць, нядужка захварэць. Занядýжаў, а на трэ̂йці дзень—і німá. Барб. Нéшто зан[е]дýжала нáша Анютка. Кл.

ЗАПАМАГЧЫ'СЯ *(запамагціса, запамагці-ся) -у-ся, -аш-ся.* Дапамагчы сабе, пажывіцца, разжывіцца. Қалі хто й вóзьме éту пустýю тóрбу, то хібá запамóжацца? Балаш. Чужы́м цяжко запамагціса. Ні вéльмі запамóжасса. Кл.

ЗАПАРВА'ЦЬ *(запáрваць) -у, -еш, пераходны.* Застаць, захапіць, набыць што-небудзь. Запарвý ў грáдах, то зьдз[е]рý шáпку. Сл. Қаб запарвáла дзе на людзя́х, то ўсе чы́сьцянько б расказáла б пра ц[е]бé. Сл. Қалі запарвýць які рубéль, то ўсе на шшы́ткі, на кніжкі. А ці бýдзе што зь éстаго. Кл.

ЗАПІСА'ЦЦА *(запісáцца) -у-ся, -аш-ся.* 1. Запісацца, зарэгістравацца (у нейкі спіс). Кл. 2. Зарэгістравацца ў шлюбе, юрыдычна аформіць шлюб. Паéхалі ў Глýск запісацца. Кл. Запісáліса, а назáўтра й павéстку ў салдáты йці прынéсьлі. Барб.

ЗАПЛЕ'СЦІ *(заплéсьці) -у, -еш, пераходны.* 1. Заплесці (касу). 2. Заштукаваць. Дзіркі ў кашóх заплёў. Байл. 3. Пачаць плесці. Заплёў аж два кашэ̂ й ніяк ні кóнчу. Кл.

ЗА́ПЛІКНУ'ЦЦА (*заплікну́цца*) *-у-ся, -еш-ся.* Зашпіліцца. Заплікніса на ўсê гу́зікі. Байл. Параўн.: адплікнуцца.

ЗАПЛІКНУ'ЦЬ (*заплікну́ць*) *-у, -еш, пераходны.* Зашпіліць. Заплікні́ піжа́к, ні хварсі́. Кл. Параўн.: адплікнуцца.

ЗАРАБО'ТЛІВА (*зарабо́тліва* і *зарабôтліво*). Добра аплочваецца праца. У Сібе́ры зарабо́тліво було́. Кл. Дзе зарабо́тліва, там бесь цябе́ е (ёсць) каму́ палуча́ць гро́шы. Пас. Янкі Купалы.

ЗАРАБО'ТНА (*зарабо́тно і зарабôтна*). Што і заработліва. Гл. заработліва. На вадзе́ (на плытах) зарабо́тно було́, але ця́жко. Хал.

ЗАСЛО'Н (*засло́н* і *заслôн*) *мужч.* Параўн.: 1. Латае халацік на ўслоне матка. Я. Колас. Збегала да суседак, назносіла ўслонаў. А. Чарнышэвіч, Світанне, 1957, стар. 266. 2. Зэ́даль. Радашковіцкі раён. 3. Перадок. Халопеніцкі раён.

ЗА'СТАЎКА (*за́стаўка*) *жан.* Шлюз, дошчачка. 1. За́стаўкі заста́вілі, мало́ць бу́дуць. Кл. Было́ п'яць за́ставак, а но́вы мôст зрабі́лі тôлькі на чаты́ры за́стаўкі. Кл. 2. К кашôм (сплеценым з лазы скрыням) трэ́ба за́стаўкі парабі́ць, у сыбо́ту капа́ць карто́плі бу́дам. Кл.

ЗА'СЦІЦЬ (*за́сьціць*) *-шчу, -сц-іш, непераходны.* Ні трэ́ба было́ за́сьціць. Я табе́ хіба́ за́сьціў? Ні за́сь, атыйдзі́. Кл.

ЗАЎВІ'ЦА *(заўвіца) жан.* Гл. завіца. Заўвіца хадзіла ў Глуск. Барб.

ЗАХВІСТАВА'ЦЬ *(захвіставаць) -ую, -уеш, пераходны.* Паставіць знак забароны пасвіць жывёлу. Гл. хвіст. Цімошак (ляснік) захвіставаў усе балотц[э]. Кл. Забыў захвіставаць. Кл.

ЗАХВІЦО'НЫ *(захвіцоны).* Узбаламучаны, кручаны, неўраўнаважаны. Ні дурная, да захвіцона. Кл. Параўн.: вірутнік. Барысаўскі раён.

ЗАЦУГЛЯ'ЦЬ *(зацугляць) -яю, -яеш, пераходны.* Закілзаць (ужываюцца абодва словы). Мусіць, каб зацугляць каня: машын баіцца. Кл.

ЗА'ШМАРГАМ *(зашмаргам).* Зашмаргай. Завязаць зашмаргам—завязаць так, каб, пацягнуўшы за кончык (ніткі, вяровачкі), можна было лёгка развязаць. Заўязвай зашмаргам. Кл. Параўн.: завязаць бантам *(арф.).* Мсціслаў.

ЗАШПУЛІ'ЦЦА *(зашпуліцца).* Гл. зашпуліць, а таксама заплікнуць, заплікнуцца. Кл.

ЗАШПУЛІ'ЦЬ *(зашпуліць* і *зашпыліць) -ю, -іш, пераходны.* Зашпіліць. Ці заплікнуць ці зашпуліць—тое самае. Кл. Гл. заплікнуць, заплікнуцца.

ЗАШЭ'РХНУЦЬ *(зашэрхнуць) -у, -еш, непераходны.* Пакрыцца (вадзе, гразі, іншай вадкасці) тоненькім лёдам. Толькі зашэрхла (вада ў возеры). Кл.

ЗАЯ'ДА *(заяда) агульн.* Чалавек, які заядаецца. Вайц. Параўн.: дзяркач.

ЗАЯ́ДЛЫ (*заядлы*). Самаадданы ў працы, які кіруецца жаданнем як мага больш зрабіць, больш атрымаць. Ба́цько буў ве́льма зая́длы, дзень і нôч хвата́ў (рабіў), а сыны́ ўжэ ні такіе. Байл.

ЗВАЖА́ЦЬ (*зважа́ць*) *-аю, -аеш.* Паважаць. Тро́хі баяцца, а тро́хі зважа́юць, але ні чапа́юць. Кл.

ЗВА́ЛАШАЦЬ (*зва́лашаць*) *-ю, -еш, пераходны.* Гл. валашаць. Зва́лашалі бугая́. Н.-Андр.

ЗВЕ́РВАЦЬ (*зьве́рваць, зьвêрваць*) *-аю, -аеш, пераходны.* Давяраць (каму-небудзь штонебудзь). На мяне́ ўсе зьве́рвае (на мяне ўсю маёмасць пакідае, мне давярае ўсю маёмасць). Сл.

ЗГАРУ́СЦІЦЬ (*згару́сьціць*) *-шч-у, -сц-іш, пераходны.* Абыякава скідаць, злажыць, заваліць. Згару́сьціць сыро́е жы́то ў сьвіран, што б прапа́ло. Хал.

ЗГЛЕ́ДЗЕЦЬ (*зглéдз[е]ць, зглéдзяць*) *-дж-у, -дз-іш, пераходны.* Заўважыць. Так ху́тко шчыта́е гро́шы, што й зглéдз[е]ць ні мо́жна. Хал. Я й ні зглéдзяла, як ён праско́чыў на ліса-пе́це. Кл.

ЗГЛУМІ́ЦЬ (*зглуміць*) *-мл-ю, -м-іш, пераходны.* Гл. глуміць. Бес пары́ забілі (кабана), то́лькі зглумі́лі. Кл.

ЗДЭ́ЦЦА (*здэ́цца* і *здае́цца*). Здаецца. Ужываецца побач з здаецца. Ты, здэ́цца, на палі́цу палажы́ў напілак. Кл.

ЗЕ'ЛЛЕ [1] *(зе́льле) ніяк., толькі ў адз., зборны.* 1. Пустазелле. Зе́льля бага́то на гра́дах. Хал. У карчо́х назьбіра́ла зе́льля. Зе́льле ў про́се. Кл. 2. Расліннасць у рэчцы. Акунê ў карчôх, а шчукі́ ў зе́льлі. Кл. За зе́льле зачапіў ву́дачку. Хал.

ЗЕ'ЛЛЕ [2] *(зе́льле, зяльля́) у адз. і множн.* Лякарства. Зяльлёў прыўёз (фельчар). Кл.

ЗІ'МКА [1] *(зімка) жан.* Памяншальнае ад зіма.

ЗІ'МКА [2] Пшаніца-зімка. Зі́мка (пшаніца) ў нас сла́бо расьце́. Зуб.

ЗІ'МКА [3] Садовае дрэва (яблыня, груша, сліва), плады якога спеюць позна і добра захоўваюцца зімою. Пасадзі́лі дзьве зі́мкі (слівы) і дзьве ра́ньніе. Барб. Зі́мка даражэ́йша за ўся́ку йгру́шу. Пас. Янкі Купалы.

ЗІМНЯ'К *(зімня́к) мужч.* Дарога праз балота, па якой ездзяць толькі ўзімку, з наступленнем марозаў. На зімня́к пашлі́. Кл. Зімняко́м во́зяць *(арф.)*. Кл. Параўн.: Гэта быў зімнік, а не летняя дарога. А. Чарнышэвіч, Світанне, 1957, стар. 236.

ЗЛЕ'ГЧАНЫ *(зьлёгчаны)*. Спакладаны, звалашаны (гл.). Зьле́гчаных бычко́ў штук шасна́ццаць. Зьле́гчаных бычкôў лягчэ́й прывучы́ць к рабоце. Кл.

ЗЛЕ'ТАВАЦЬ [1] *(зьле́таваць, зьлêтуваць) -ую, -уеш, непераходны.* Прабыць лета. Часта— пералётаваць. Калёса й зьле́тавалі на дварэ́.

Кл. Пашо́ў на во́ду (гнаць плыты) й зьле́туваў на вадзе́. Хал.

ЗЛЕ'ТАВАЦЬ [2] Ледзь-ледзь падагрэць ваду, давесці да летняй тэмпературы. Зьлêтавала вады́ каро́ве. Барб. Зьле́таваць вады́ но́гі паму́ць. Кл.

ЗЛЕ'ТКАВАЦЬ Што і злетаваць [2]. Звычайна ўжываецца злетаваць. Гл. злетаваць.

ЗЛЫГА'ЦЬ *(злыга́ць) -аю, -аеш, пераходны.* Звязаць за рогі двух валоў, дзвюх кароў. Йшчэ ні ўмеў валы́ злыга́ць, а па́сьціў і до́брэ пасьці́ў. Кл. Хо́дзяць (ідуць), як злы́ганыя *(арф.)*. Барб., Кл.

ЗЛЫ'ГВАЦЬ *(злы́гваць)*. Незак. тр. ад злыга́ць (гл. злыгаць). Кл.

ЗЛЫ'ГІЧ *(злы́гіч) мужч.* Повад (гл.), на які злыгваюць (гл. злыгваць) валоў. Вазьмі́ злы́гіч да злыга́й валы́. Байл. Параўн.: злыга́ч Слуцкі раён.

ЗЛЯГЧА'ЦЬ *(арф.) -аю, -аеш, пераходны.* Спакладаць, звалашаць (гл.). Кл.

ЗМАКРЭ'ЦЬ *(змакрэ́ць) -эю, -эеш, неперахадны.* Зрабіцца мокрым, наскрозь прамокнуць. Усе́ змакрэ́ло на на́с. Кл.

ЗМУ'СЦІЦЬ *(зму́сьціць) -шч-у, -сц-іш, пераходны.* Спакусіць, рускае соблазнить. Сата́на зму́сьціць я́сна сакала́. Касар.

ЗНАЦЬ [1] *(знаць)*. Ведаць. Ужываюцца і ведаць і знаць. Барб., Хал., Кл., Сл. Я зна́ю а́драс, да сказа́ў, што ні ве́даю а́драсу. Кл.

ЗНАЦЬ [2] Відаць. І зна́ць, што ён підо́бры чалавêк. Н.-Андр. Знаць, што маро́зы прападу́ць. Зуб. Знаць (відаць), што даўно́ це́лна (карова). Кл.

ЗНА′ЧЫ′ЦЬ *(зна́чы́ць) II спраж., непераходны.* Выразна відаць (аб карове), што цельная. Ні палю́я й ні зна́чыць на́ша карова. Н.-Андр. Ско́ра малачка́ дась каро́ўка, до́бра значы́ць ужэ́. Кл. Параўн.: Каро́ва ўжо значы́цца *(арф.)*. Віцебскі раён.

ЗНЕ′КУЛЬ *(зьне́куль,* радзей *зьне́скуль* і *зьне́ткуль)*. Аднекуль. Зьне́куль жо́нку сабê прыўе́з. Кл.

ЗНЕ′СКУЛЬ *(зьне́скуль)* Гл. знекуль. Кл.

ЗНЕ′ТКУЛЬ *(зьне́ткуль)*. Гл. знекуль. Кл.

ЗНЕ′ХТАВАЦЬ *(зьне́хтаваць, зьне́хтуваць) -ую, -уеш, пераходны.* Зганьбіць, прынізіць (каго-небудзь), як нікчэмнага, нявартаснага. Прыўе́з (жонку) з Расе́йі, маладзі́ца харо́ша, здаро́ва, на́шае жы́зьні ні зна́е, дак зьне́хтавалі сусі́м. Сл. Каб зьне́хтаваць, ро́зуму ні трэ́ба. Сл.

ЗНО′САК *(зно́сак) мужч.* Зносак, незвычайна малое яйка. Зно́скі быва́юць ве́льмі такі[е] мацакі́. Пас. Янкі Купалы.

ЗНЯБУ′ЦЦА *(зьнябу́цца)*. Гл. знябыцца.

ЗНЯБЫ′ЦЦА *(зьнябу́цца, зьнябы́цца, зьн[е]бы́цца)*. Выбіцца з сіл (у дарозе, з бессані, з голаду, з бесперапыннай працы, адзіноцтва ў чужых людзях). Загна́лі (немцы) ако́пы ка-

па́ць, хо́ладно, е̂сьці німа́ чаго́, от зьнебулі́са. Сл. Зьнябу́уса, е́таку даро́гу прайшо́ў. Кл.

ЗНЯВЕ′РЫЦЬ *(зьнявéрыць, зьне[я]вéрыць)*. Жорсткім абыходжаннем выклікаць (у чалавека, жывёліны) страх, боязь. Ето ж ты, Вало́дзік, зьнявéрыў вала́ лы́саго, што й ні патпуска́е блі́зко. Кл.

ЗНЯПРА′ЎДЗІЦЬ *(зьніпра́ўдзіць) -джу, -дз-іш.* Расказваючы (перsuccessfully) адступаць ад праўды, расказваць (пераказваць) на шкоду каму-небудзь. Ён усé (усё) зьніпра́ўдзіў, хіба́ так і було́? Кл. Параўн.: рускае исказить. Гл. няпраўдзіць.

ЗНЯЧЭ′ЎКУ *(зьнячэ́ўку, зьн[е]чэ́ўку)*. Ужываецца ў значэнні і побач з знянацку. Зьнячэўку вéльмі напужа́ў. Вольн.

ЗЯЗЮ′ЛЬКА *(арф). жан.* Ці ж е (ёсць) гро́шы на зязю́льку *(арф.)*. Кл. Параўн.: зяўзю́ля, куку́ля, куку́лька.

ЗЯКРА′ТЫ *(зякра́ты, з[е]кра́ты)*. 1. Зякраты (пра чалавека)—з вялікімі вачыма; уставіўшыся, доўга глядзіць нерухомымі вачыма. На свайі́х дачо́к сва́рыцца, ла́е йіх: «Чаго́, зякра́ты[е], ву́лупіліса?» Кл. 2. Зякратае бёрда—рэ́дкае бе̂рда. Кл.

ЗЯЛО′ *(арф.) ніяк.* Насенне пустазелля. Зяла́ кура́м прынéсла *(арф.)*. Кл.

ЗЯЎЗЮ′ЛЯ *(зеўзю́ля)*. Зеўзю́ля куку́е йшчэ. Сл. Гл. зязю́ля.

## І.

ІГЛІ'ЦА *(ігліца) зборн., жан., толькі ў адз.* Іглы хвоі. Па йгліцу паехалі: у кабана ўтапіцца можно. Кл. Параўн. шыльнік. Радашковічы.

ІМСЦІ'ЦЬ *(імсьціць) -шчу,-сц-іш, неперaходны.* Нічога ні дай, дак імсьціцьме. Кл.

ІНДЫ'К *(індык) мужч.* Індыкоў дваццаць ў йіх. Байл. Індык думаў, думаў, пашоў у мох дай здох. Кл. Малы, пасі валы, а ты, вялікі, пасі індыкі *(арф.)*. Кл., Сл., Поб. Множн. лік—індыкі. У прыведзеным жарце: вялікі—індыкі. Кл.

І'РХА *(йірха) жан., толькі ў адз.* Вузенькая палоска скуры, якая закладваецца ў шво кажуха. Йірха добра. Барб. На йірху пойдзе ета аўчынка, вельмі ніўдала. Кл. Параўн.: чэшскае jircha—замша, лайка.

## К.

КА *(ка* і *каа)*. Скарочанае кажа. Так, ка, мне ліхо було. Кл.

КАБАНО'К *(кабанок) мужч.* Кабанчык. І кабанка ўкарміла. Байл. Кабанок харошы, але нам малаваты. Кл.

КА'ДАЎБ [1] *(кадаўб) мужч.* Судзіна для збожжа, мукі, выдаўбаная з суцэльнага кавалка дрэва. У гэтым жа значэнні кадыр. Барб., Кл.

КА'ДАЎБ [2] 1. Глыбокая яма ў рэчцы. У кадаўбе язя злавіў. Кл. 2. Калдобіна на дарозе.

Кадаўбу паўбівалі (павыбівалі) на дарозе. Барб.

КАДАЎБІ́НА (*кадаўбіна*) *жан.* Калдобіна на дарозе. Барб., Байл. Уся (дарога) на кадаўбінах. Пас. Чырвоны.

КАДО́ЎБЧЫК (*кадоўбчык* і *кадаўбчык*). Памяншальнае ад кадаўб. Кл.

КАДЫ́Р (*кадыр*) *мужч.* Што і кадаўб (гл.). Часцей — кадыр. Кадырэ на пашню (збожжа) булі. Кл.

КАЗЁ́НКА [1] (*казёнка*) *жан.* Невялікая кадушка, па форме (часцей)—усечаны конус, аб'ём—на пуд-два збажыны, з адным ці двума вухамі; карыстаюцца, калі перасыпаюць, пераносяць збажыну. Твой дзёд вуняс казёнку жыта, сьвітку й аўчыну. Кл.

КАЗЁ́НКА [2] Сякера заводскага выпуску. Толькі ў мове старых. Цяпер кавалі не робяць сякераў. Казёнка вельма войстра, але цяжка. Кл.

КАЗЛЫ́ (*казлы*) *толькі ў множн.* Прылада, на якой перапілоўваюць дрэва. Казлы зламаў. Вайц. Параўн.: козлы. Пярэжыры Радашковіцкага раёна.

КА́ЙСТРА (*кайстра*) *жан.* Торба. Кас.

КАЙСТРЫ́ЦА Гл. кастрыца. Кл.

КАЛАВУ́РЫЦЬ (*калавурыць*) *-у, -ыш, пераходны.* Вартаваць, сцерагчы. Часцей ужываецца вартаваць. Па парадку калавурылі калгаснаго двара. Кл. У слове перастаноўка *р* і *л* (з цюркскага kara(v)ul—дазор).

КАЛАСАВА'ЦЬ[1] (*каласаваць*) *-ую, -уеш, пераходны.* Каласавацъ, выплываць (пра каласы збожжа). Ужэ́ й жы́то каласу́е. Кл.

КАЛАСАВА'ЦЬ[2] Пры абмалочванні ячменю цэпам на зярнятах застаюцца асцюкі; каласаваць—абіваць асцюкі. Скаласава́лі й згарну́лі ў ку́чу. Байл. Каласава́ць ніця́жко. Кл.

КАЛАТУ'ША (*калату́ша*) *жан., толькі ў адз.* Зацірка. Калату́шы звару́. Кл. У фразеалагічным спалучэнні—калату́шы нарабілі. Сл.

КАЛАЧО'НІК (*калачо́нік*) *мужч.* Стрэсены (скало́чаны—Кл.) арэх: у верасні—кастрычніку арэхі лёгка страсаюцца (кало́ц[е]цца. Кл.). Калачо́нікі са́мые сма́шные. Йшла́ й ду́мала сама́ сабе̂: каб узя́ў і прада́ў. І гро́шы трэ́ба, й калачо́нікаў шко́да. Кл. Параўн.: труханец. Клімавіцкі раён.

КАЛІ'ЛЬ (*каліль*). Калі-небудзь (ужываюцца абедзве формы). Калі́ль пашкаду́юць, аду́маюцца, што ма́ці шкадава́ла йіх, гультае̂ ты́е. Барб. Калі́ль прыду́. Кл.

КАЛНО'Е (*кално́е*) *жан.* Назва ўгоддзя (балотная сенажаць). Расказвалі пра паходжанне назвы: Наш ба́цько гавары́ў, што пры па́ншчыне во̂йта закало́лі насілаю (гл.). Во̂йт ліхі буў. Войт, лёгшы на беразе ракі, піў ваду, прыгонны яго праткнуў, закалоў насілаю (апошні сказ запісаў не літаральна). Кл.

КАЛЫ'ШКА (*калы́шка*) *жан.* Калыска. Адно́ (дзіця) на лане̂, друго́е за ру́ку, а трэ́йцяго (хлопчыка)—ў калы́шку. У калы́сцэ. Кл.

КАЛЯСНІ'К (*калясьнік, кал[е]сьнік*) *мужч.* Невялічкі воз (летні, на калёсах) сена, саломы, канюшыны. Кал[е]сьнік се́на купіў. Кл. Параўн.: настра́мак (гл.).

КАМЕ'НЬКА (*каме́нька*) *жан.* Палка, якою апіраюцца пры хадзе; яна загнутая або мае сучок і нагадвае камяню́ (гл.). Кл.

КАМЯНЯ' (*кам[е]ня́*) *жан.* Качарга. Кам[е]ня́ мая́ пярагарэла. Кл. Дзед за е́ю с камяне́ю. Жартоўная песня. Кл.

КАНАВА'Л (*канава́л*) *мужч.* Чалавек, які пакладае (кастрыруе) жарабцоў, быкоў. У Дако́лі канава́л жыў, ліцьві́н не́йкі. Кл. Параўн.: рускае коновал—знахарь, лечащий лошадей. С. І. Ожагаў, «Словарь русского языка».

КАНАЗА' (*каназа́*) *агульн.* Дзіця, якое крыўляецца, сюсюкае, любіць і вымагае ўвагу ад дарослых. Каназа́ та́я гаво́рыць ні ма́ма, а мя́мя, гавалю́, пляўда,—хіба́ ні ўме́е гавары́ць? Кл.

КАНАЗІ'ЦЦА (*каназіцца*) *-ж-уся, -іш-ся.* Крыўляцца (аб дзіцяці) у гутарцы, сюсюкаць, прыкідвацца зусім маленькім. Ве́льма раздурны да кано́зіцца. Кл. Параўн. каназа́.

КАНАПЛЯ'НІК (*канапля́нік*) *мужч.* 1. Верабей. Канапля́нік шпако́ўню заня́ў. Кл. 2. Пераноснае. Маленькі, худзенькі, слабы, але спрытны (чалавек, дзіця). Кл.

КАНЕ'ЧНЕ (*кане́шне*). 1. Што і ко́нча (гл.). Хіба толькі, абавязкова. Ужываецца ў пытальных сказах. Хіба́ то (гэта) кане́шне та-

бê êхаць? Кл. 2. Зразумела, вядома, безумоўна, бясспрэчна. Канéшне, канюшы́ну трэ́ба на вéсну прыхава́ць. Барб.

КАНЧА′ (канча́ і радзей канчó) ніяк. Скланяецца з яц (як цяля — цяляці). 1. Невялікі слабы конік. Былó нéйкае дóхлае канча́. Сл. 2. Аб сваім уласным кані (своеасабліва табу): Аднó канча́ прадалí, хапíло з нас і аднагó канча́ці. Сл.

КАНЧА′НЕЦ (арф.) мужч., множн. — канча́нцы і канча́не. Жыхар з супрацьлеглага канца вёскі. Кл.

КАНЧА′НСКІЯ [1] (канча́нскіе, канча́ньскіе). Субстантаваны прыметнік. Жыхары супрацьлеглага канца вёскі. Кл. Параўн.: канча́нец.

КАНЧА′НСКІЯ [2]. Якія належаць жыхарам супрацьлеглага канца вёскі. Канча́нскіе сьвíньне пасу́цца на калга́снай канюшы́не. Кл.

КАПАНІ′ЦА (капаніца) жан. Матыка. Капаніцаю акапанíчыла. Вайц. Капаніцаю тра́ктар пужа́ць (арф.). Кл. Параўн.: га́чка. Радашковічы.

КАПАНІ′ЧЫЦЬ (капанíчыць) -у, -ыш, пераходны. Акапанічваць (гл.). Кл.

КАПА′ЦЬ [1] (капа́ць) -аю, -аеш, пераходны. Сл., Кл.

КАПА′ЦЬ [2] У значэнні газетнага ўбіраць (бульбу, буракі, моркву) — толькі капа́ць. Параўн.: кóпка. Кл., Сл., Хал. П'яць баб капа́лі картóплі. Кл. Паку́ль дзéці ні йду́ць у школу

(пачатак навучальнага года), картóпл[е]ў ні капáюць. Кл.

КАПЕ'Ц (*капéц*) *мужч., множн.*—капцэ́(э̂) і капцы́. 1. Куча бульбы, накрытая саломаю і прысыпаная зверху зямлёю. Капéц картóпляў сагніў. Такіе маразы́, — што б у капéц мой ні пралêз марóз. Кл. 2. Невялікі насып зямлі. Хто тут накапáў капéц? Кл. 3. У фразеалагічным спалучэнні: Там табé й капéц бýдзе. Кл. Капец тут у значэнні канец, магіла. Гл. скапéц.

КА'ПКА (*кáпка*) *жан.* Кропля (ужываецца і кропля), прычым кропля звычайна ў сэнсе крошку, трошку. Хмáры німá, а мнê кáпка на рýку кáпнула. Пас. Янкі Купалы. Параўн.: чэшскае kapka—кропля.

КАПСАНУ'ЦЬ (*капсанýць*) *-у, -еш, пераходны.* Штурхнуць, піхнуць. Йшлі ш шкóлы, дурэ́лі, некатóры й капсанýў майгó (сына) й зьвіхнýў. Байл. Параўн.: піргнуць. Радашковічы.

КАПСА'ЦЬ (*капсáць*) *-аю, -аеш, пераходны.* Штурхаць, піхаць. А наштó ты капсáў? Ты ж бóльшы! Барб. Параўн.: піргаць. Радашковічы; вв. Угляны, Маславічы, Казекава Заслаўскага раёна.

КАПШУ'К (*капшýк*) *мужч.* Мяшочак з скуры ці ткані на тытунь. Пóўны капшýк лёгкага табакý. Н.-Андр. Пераноснае. Жывёліна, якая многа есць, вельмі наядаецца. Кл.

КАРАБО'К (*карабóк*) *мужч.* Карабок запалак — пачак запалак. Бытуюць абодва гэтыя

словы. Мо п'яць карабкі (запалак) на дзе́нь па́ліш. Кл.

КАРАБ'Я' (*караб'я́*) *жан.* Вялікая лубяная каробка для бялізны. Караб'йі той гадо́ў сто́лькі, ско́лькі ба́цьку. Кл.

КАРА'ВАЧНІК (*кара́вашнік*) *мужч.* Зборшчык утылю, кара́вак (гл.). Ко́нь у вас—што даўнêй у кара́вашнікаў булі́. Кл.

КА'РАК (*ка́рак*) *мужч.* Карак. Надава́ць па ка́рку. Вайц. Ка́рак баліць. Кл.

КАРА'К (*кара́к*) *мужч.* Брудная, карэлая, зношанаяануча, рубіна (гл.). Каракі́ е́тые ву́н[е]сьці трэ́ба на сьме́тнік. Сл. На каракі́ йго́лак набра́ла. Кл.

КАРАСІ'НА (*карасіна*) *жан.* Газа. Бытуюць абодва словы. Карасі́ны прыве́зьлі? Хал. Карасі́наю аблі́ва́лі й палі́лі. Поб. Карасі́на не́йка чо́рна. Зуб.

КАРА'ЎКА (*кара́ўка*) *жан.* Тое, што кара́к. Кара́вак назьбіра́ла да зане́сла ў кра́му. Хал. Ні суке́нка, а кара́ўка не́йка. Барб.

КАРА'ЧЧА (*кара́ччэ* і *кара́чча*) *зборны* ад кара́к (гл. кара́к), *ніяк.* Кара́чча е́таго назьбіра́ласо. Сл. А што́ зь е́стаго кара́чча бу́дзе? Пра́ўда, што кні́жкі рабі́цьмуць? Кл.

КАРО'БКА (*каро́бка, каро̂бка*). Скрынка з лубу. Каро́бку гаро́ху, а дзьвê жы́та. Хал.

КАРО'ВІЧЫ (*каро́вічы*). Прыналежны прыметнік. Каро́вічае малако́. Кл. Каро́вічае малако́ смашне́йшае за казі́нае. Сл.

КАРПА'ЦЬ[1] *(карпáць) -аю, -аеш.* Калупаць (ужываюцца абодва). Карпáў, карпáў у нóсе, пóкуль пашлá кроў. Пас. Янкі Купалы.

КАРПА'ЦЬ[2] Павольна, па-дзедаўску рабіць што-небудзь. Хібá сабé? Людзям карпáю (не для сябе—для людзей робіць),—трóхі вóчы бáчаць. Кл.

КАРТАВА'ЦЬ *(картавáць) -ую, -уеш, пераходны.* Раздаваць карты. Камý картавáць? Кл.

КАРУ'ЗА *(карýза) агульн.* Неадабральнае. Задзірлівы, неадчэпны чалавек (гл. заяда, дзяркач). Малы́ буў, дак вéльмі карýза. Кл.

КАРУ'ЗЛІВЫ *(карýзьлівы).* Прыметнік ад каруза (гл.). Такі́ карýзьлівы той Гáньнін сын. Кл.

КАРЦЕ'ЦЬ *(карцéць) безасабовы, II спраж., неперахóдны.* Непакоіць, турбуе які-небудзь клопат, не выходзіць з галавы. Ето табé карціць, дак ты й ёсьці ні ёў. Кл.

КАРША'К *(кóршак* і *каршáк) мужч.* Гл. коршак.

КАРЭ'ЛЫ *(карэ́лы).* Каравы (ужываецца і карэлы і каравы). Вазьмі́ чы́сту анýчку, дак лéп[е]й за той карэ́лы бінт. Пас. Янкі Купалы.

КАСІ'ЛЬНА *(касілно, касільно, касільна) ніяк.* Кассё. Касілно вýстругаў. Кл. Касілнам стýкнуў. Байл. Гл. кассе.

КАССЕ' *(касьсé) ніяк.* Побач з касілна. Пас. Янкі Купалы. Кл.

КАСТРЫ'ЦА (*кастрыца* і *кайстрыца*) *жан., зборны.* Кайстрыцы набрала. Барб. Я посьцілак п'яць прынесла кастрыцы. Кл.

КАСЦЕРУХА' (*касьц[е]руха, касьцеруха*) *жан.* Расліна-пустазелле. Касьцеруха на сено пойдзе. Барб.

КАТА'НКА (*катанка*) *жан.* Калыска, якая не падвешваецца, а стаіць на падлозе і прыстасавана для калыхання. Сл.

КАЎНЕ'РЫК [1] (*каўнерык*) *мужч.* Памяншальнае ад каўнер. І каўнерык харошанькі. Хал.

КАЎНЕ'РЫК [2] Манжэта ў верхняй ці споднягй кашулі. Сарочкі с каўнерыкамі шыла. Кл.

КАЎНУ'ЦЬ (*каўнуць*) *-у, -еш, пераходны.* Глынуць чаго-небудзь (адзін раз) вадкага. Я паперод каўнула таё. Сл. Вады цёплае каўнула. Кл.

КАЎТА'ЦЬ (*каўтаць*) *-аю, -аеш, шматкратны.* Глытаць. Вол каўтае зразу па кубку вады. Кл. Параўн.: каўнуць.

КАЎЦЯ'Ш (*каўцяш*) *мужч.* Засохлы або замерзлы кавалак конскага ці каровічага памёту. Барб., Кл.

КАХА'НКА (*каханка*) *жан.* 1. Любая дзяўчына. Кл. 2. Палюбоўніца. Кл. На просьбу растлумачыць значэнне слова каханка адны дзяўчаты называлі першае, другія—другое.

КАЦ (*кац.*). Побач—псік (гл.). Вайц. Барб., Кл.

КАЧАНІ'СТАЯ (*качаніста*). Прыметнік ад качан. Ужываецца з назоўнікам капуста. Качаніста капу́ста. Зуб.

КВАТАРАВА'ЦЬ (*кватараваць*) *-ую, -уеш, непераходны*. Кватараваў камо́рнік у йіх. Кл.

КВАТАРА'НЕЦ (*кватара́н[е]ц*) *мужч*. Кватарант. Лу́чч[э]й у ха́це бо́рану паста́віць, як квата́ранца пусьці́ць. Зуб. Параўн.: кватара́нт. Вайц., Байл. Вы тут за кватара́нта? Кл.

КВО'ЛІЦЦА (*кво́ліцца*) *-юся, -ішся*. Параўн.: рускае недомогать. Не́шта ўсе кво́ліцца. Вільча.

КЕ'ЎЛЯЦЬ (*ке́ўляць*) *-яю, -яеш, непераходны*. Ледзь жыць, ледзь дыхаць, без здароўя, вельмі нядужаць. То́лькі што ке́ўляюць. Кл.

КІДУ'Н (*кіду́н*) *мужч*. Эпілепсія, прычым ужываецца толькі ў спалучэнні з дзеясловам кідаць. Кіду́н каб кінуў! Трэ́ба ду́маць! Кінуў сваê да йдзе на чужы́[е] (дзеці). Пас. Янкі Купалы. Што б йіх кіду́н кі́даў. Нашто́ кі́даць на йгру́шу па́лкі? Кл. Параўн.: паду́чая (хвароба).

КІДЗЬ (*кідзь*). Выклічнікавая дзеяслоўная форма (тыпу гоп, хоп) ад кідаць. Тая кі́дзь мнê, а я й ні злаві́ла. Байл.

КІЙ (*кій*) *мужч*. 1. Кій. Хал., Сл., Байл. 2. З прыназоўнікам *у* ў форме меснага склону множн. ліку (у кіёх—Барб., Кл.) абазначае ў кутку, паміж сценкаю і печчу, дзе стаяць прылады гаспадыні: ві́лкі, камяня́, ёмка (гл.) і інш. Пры́дзе, ста́не ў паро́зе або сусі́м у кіёх.

Чагó ето ты так? Кл. 3. У прыказцы: І на вас, ой, бýдзе кій, да нé такі! Кл.

КІНЬДЗЮ'К (*кіньдзю́к*) *мужч.* Страўнік. Гвазды́ былі ў кіньдзюкý. Хал. Усé éтае (вантробы) у кіньдзю́к да абварý. Кл.

КІ'НШЧЫК (*кіншчык*) *мужч.* Кіномеханік. Кіншчык прыéхаў, бýдз[е] кінó. Пас. Янкі Купалы. Кóсьцікаў (сын) кіншчыкам. Кл.

КІ'ПЕЦЬ (*кіп*[*е*]*ць, кіпяць*) *мужч.* Пазногаць. Конь наступіў на нóгу, дак кіп[е]ць зла́зіць. Барб. А кіпці, што ў кóршака. Кл.

КІРПА'ТЫ (*кірпáты*). Кірпаносы. Той кірпáты Кайтáнаў сын. Кл.

КІСЛЯ'К (*кісьля́к*) *мужч.* 1. Сыракваша, кіслае малако. Кісьля́к ні наéдак (гл.). Сл. У раёне ёсць і прозвішча Кісляк. 2. Пераноснае, зневажальнае. Такóга кісьл[е]кá за брыгадзíра зрабілі, хібá тóлькі на зíму, а ўвéсну ён не гаспадáр. Барб.

КІЯ'ЖЫНА (*кія́жына*) *жан.* Выпадковая палка, не апрацаваная, не абгладжаная. Хоць што каб у рукáх былó, а то й блíска ні былó якó[е] кія́жыны. Вольн. Ухапíў нéйку кія́жыну. Ледзь абаранíўса. Кл. У фразеалагізме: даць кія́жыны.

КІЯ'К (*кія́к*) *мужч., множн.*—кіякí (*арф.*). Кукуруза, пачатак кукурузы. Стары́ кія́к ні смáшны. Кл. Сустракаў на Гомельшчыне кія́х. Параўн.: кійкé—як форма множн. ліку, у адз. ліку не ўжываецца. Любонічы Кіраўскага раёна.

КІЯ'ЧНІК (*кія́шнік) зборны, мужч.* Ужываецца толькі ў адз. ліку. Сцяблы кукурузы, кукурузнік. Кія́шнік мо ў чалаве́ка (на рост чалавека), а кі[е]ка́ ніго́днаго. Барб. Кія́шніку дала́ (карове). Кл.

КЛАДЫ' (*клады́) толькі ў множн.* Могільнік. На кладо́х не́хто хо́дзіць. На кладо́х не́хто стоўб закапа́ў. Кл. Бо́язко паўс клады́ йці. Кл. Гл. могілкі.

КЛА'ДЗІНА (*кла́дзіна) жан.* Пакладзеная канцамі тоўстая жэрдка, бервяно. Ку́ры не́што кра́ло, дак я кла́дзіну пат страхо́ю пакла́ла. Кл. Кла́дзіну нашлі́ дай перайшлі́. Барб. У апошнім выпадку—выпадковая, часовая кладка.

КЛАПТАВА'ЦЬ (*клаптава́ць) -ую, -уеш, непераходны.* Клапаціцца, непакоіцца. Клапту́е, што жо́нка нічо́га (гл.). Каза́ў Васіль, што клапту́е, пахуда́ла. Ці ва́рт сто́лькі клаптава́ць? Кл.

КЛЕ'ЙКА (*клёйка) жан.* Рыба, верхаводка. На клёйку шчу́ка бра́ла. Хал. Клёйку вы́хваціў (вудачкаю). Кл. Параўн.: рускае уклейка.

КЛЕ'ЙНЯ (*клёйня) жан.* Плытніцкі тэрмін, звяно плыта. Клёйню адну́ на бе́раг вы́гнала вада. Кл. У плыт вяжуць 8—10 клейняў *(арф.)*. Кл.

КЛЕ-КЛЕ Гукапераймальнае. Так перадаюць буславу «песню». Бу́сел кле-кле. Кл.

КЛЕ'СЦІ (*клёсьці) -н-у, -н-еш, пераходны.*

Клясці. Клёсьці бу́ду, пака́ й памру́. Барб. За што́ йіх так клёсьці? Кл.

КЛІНО'К[1] *(клінóк) мужч.* Памяншальнае ад клін. Клінóк раскалóўса. Байл. Тут каб дóб-ры клін на такóе сукава́тае палёна. Пас. Янкі Купалы.

КЛІНО'К[2] Падобная да конуса торба, у якой адцэджваюць тварог. Ты ні вы́льліла ат-тóплянага малака́ ў клінóк? Кл.

КЛО'МЛЯ *(клóмля) жан.* Рыбацкая пры-лада. У клóмлю лавíў. Зуб. Параўн.: комель. Кл., Байл., Н.-Андр., пас. Янкі Купалы.

КЛУ'НЯ *(клу́ня) жан.* Гумно. Сустрэта ў в. Слаўкавічы, прычым і тут часцей—гумно.

КЛЯВА'ЦЦА Йіхні гуса́к вёльмі клюёцца. Кл.

КЛЯВА'ЦЬ *(кл[е]ва́ць) -юю́, юёш, пера-ходны.* 1. Рыбацкі тэрмін. Там клюю́ць клёйкі. Хал. Сёні ні клюё ры́ба. Кл. 2. Ку́ры клюю́ць кабанóвае цесто. Кл. 3. Пераноснае. Вельмі ма-ла, патрошку есці. Нічóгі (гл.), уста́не, клю́не чагóль і цэ́лы дзень так (без яды) хóдзіць. Кл. 4. Пераноснае. Слаба, памалу стукаць, біць, выбіваць, разбіваць. Клюй і клюй пама́лячку, то й перас[е]чэ́ш. Пас. Янкі Купалы. 5. У фра-зеалагічным спалучэнні носам кляваць — дра-маць, спаць седзячы. Хлóпцы, ні клю́йце наса́-мі, малатарня́ пуста́я хóдзіць. Сл.

КЛЯВЕ'Ц *(арф.) мужч.* Малаток—інстру-мент для апрацоўкі каменю, граніту. Зуб.

КЛЯКТА'ЦЬ *(кл[е]ктáць) -у, -аш, непераходны.* А сéні ўнóчы бýсял кл[е]ктáў. Кл.

КЛЯПО'ЧНІК *(кл[е]пóчнік) мужч.* Назва асобы па роду заняткаў, спецыяльнасць,—той, хто клёпкі робіць. Бáцька кл[е]пóчнік быў. Сл.

КЛЯСЦЬБА' *(клязьбá) жан.* Ад клéсьці, тыпу просьба, касьба. Клязьбá твая́ ні памóж[э]. Кл.

КНАК *(кнак) мужч.* 1. Нясцёртыя новыя грошы. 2. Нясцёртыя вялікія грошы. Кл. Сабрáў кнак. Барб.

КНЫР *(кныр) мужч.* Сустракаецца таксама кнораз. Для праверкі здатнасці хутка гаварыць прапануюць часта паўтарыць: Ішóў кныр з кныраня́тамі *(арф.)*. Кл.

КО'БАЦЦА *(кóбацца) -аю-ся, -аеш-ся.* Марудзіць, мешкаць, калупацца. Ну, бýдзе ўжо табé кóбацца, лю́дзі ўсê на пóлі ўжэ. Кл. Параўн.: закóбаць (гл.). Параўн.: чэшскае kobka—каморка.

КО'ЛАС *(кóлас) мужч.* 1. Колас. Зуб., Кл. і інш. 2. Зборны. Пры архаванні каласавых асобна адыходзяць каласы і кавалачкі саломы—колас. Разóў на двá кóласу бýдзе (хопіць коласу два разы пакарміць карову). Зуб. Кóлас згнайíлі. Вайц.

КО'ЛІСЬ *(кóлісь).* Калісь, калісьці. Кóлісь хадзілі ў адны́х штанóх. Хал.

КО'МЕЛЬ *(кóм[е]ль, кóмяль) мужч.* Рыбац-

кая прылада, што і кло́мля (гл.). У ко́м[е]ль загна́лі два лі́ны́. Кл.

КО'МІНАК (*ко́мінак*) *мужч.* Барб., Байл., Кл., Н.-Андр. Параўн.: Ярка на камінку смольны корч палае. Я. Колас.

КО'ННІЦА [1] (*ко́ньніца, ко̂ньніца*) *жан.* Тут ко́ньніца по́льска йшла. Кл.

КО'ННІЦА [2] Начлег, весці коней на конніцу—весці на начлег. На ко̂ньніцу вадзілі́ ко́ні. С ко́ньніцы прые̂дам да й на рабо́ту. Ця́жко було́. Кл.

КО'НЧА (ко́нча). Хіба толькі, абавязкова. Ко́нча се̂ні схадзі́ць? Байл. Ко́нча мне рабіць? Кл.

КО'ПАНКА (*ко́панка*) *жан.* Сажалка. У ко́панцэ й каро́ве й ка́чкам вада́. Барб. У йі́х німа́ ракі́, то́лькі ко́панка. Кл. Гл. копань.

КО'ПАНЬ (*ко́пань*) *жан.* Сажалка. Там ко́пань була́, зарасла́ сусі́м. Сл. Гл. ко́панка.

КО'ПКА [1] (*ко́пка, ко̂пка*) *жан.* Памяншальнае ад капа. Ко́пак шэсь накасі́ў (сена). Сл.

КО'ПКА [2] 1. Уборка (бульбы, морквы, буракоў). Кл., Барб., Хал. На ко́пку (бульбы) выладжа́й. Кл. 2. Назва дзеяння. Кл., Барб.

КО'ПЧЫК (*ко́пчык* і *ко̂пчык*). Памяншальнае ад капец (абодва значэнні). Закапа́ла ко́пчык (бульбы), [е]кура́т на насе́ньне. Таго́ ко́пчыка бу́дзе на насе́ньне, шчэ й на про́даж застане́цца. Кл.

КО'РМА (*кóрма*) *жан.* Корм. Дзе таê кóрмы браць? Вільча.

КО'РМІК (*кóрмік*) *мужч.* 1. Побач і ў тым жа значэнні, што кормны кабан (кабан, якога кормяць на сала). У вáс два кóрмікі. Кóрмнага кабанá забілі. Кл. 2. Пераноснае. Зневажальнае. Гультаяваты поўны чалавек, які любіць багата есці і стараецца не пахудзець. Кл.

КО'РШАК (*кóршак* і *каршáк*) *мужч.* Каршун. Кóршак задрáў кýру. Кл. Пабéце вы ётые кóршакі. Хал.

КО'ЎЗАНКА (*кóўзанка*) *жан.* Расчышчанае месца (лёд) для катання, каток. Хадзём на кóўзанку на вóзяро. Кл. Параўн.: чэшскае klusiště—каток.

КОЎЦЬ (*коўць*). Выклічнікавая дзеяслоўная форма (тыпу хоп, гоп, топ) ад каўтáць. (гл.). Узяў пляшку, нагнýў, коўць-коўць—і німá. Кл.

КО'ХЛІК (*кóхлік*) *мужч.* Коклюш. Кóхлік так змýчыў дзіцá... Кл.

КОШ [1] (*кош* і *кôш*) *мужч.* 1. Кош. Нéсла ў кашы́ грыбкóў п'яць. Байл. 2. Сплеценая з лазы скрыня на 0,5—1 $м^3$, якая ўстанаўліваецца на возе для перавозкі бульбы, мякіны ці іншых сыпкіх прадметаў. Кл. 3. Рыбацкая прылада. Кл.

КОШ [2] Скрынка з дошак, якая ўстаноўлена ў млыне над каменямі, у яе засыпаюць збожжа, адкуль яно трапляе на камяні. Кл.

КО'ШЛЯ (*кóшля* і *кôшля*) *жан.* 1. Касьба

(ужываюцца абодва словы). Ідзé с кóшлі. Зуб. 2. З ацэначным адценнем—добрая (кепская) касьба. Кл.

КРАСЕ'Й (*красéй*) *мужч.* 1. Вол чырвонай масці. 2. Ацэначна-зневажальнае. Паўнакроўны, чырвоны, некалькі непаваротлівы чалавек. Красéю таму́ скажы́, каб рабіў скарэ́й. Кл.

КРАСУ'ЛЯ (*красу́ля*) *жан.* Клічка (каровы). Кл.

КРО'ІЦЬ (*крóйіць*) *-ю, -іш, пераходны.* 1. Кроіць матэрыял. Наўчы́уса крóйіць. Барб. 2. Рэзаць (хлеб, сала, каўбасу). Накрóйіла хлéба, сáла палажы́ла... Кл. 3. Пераноснае. Што б вас рэ́зало да крóйіло. Каб йіх крóйіло пагáнцаў тых, усé п[е]раéлі тут. Кл.

КРО'ЛІК (*крóлік*) *мужч.* Ветлівае, ласкальнае пры звароце да чалавека, звычайна да маладзейшага. Мôй крóлік, пазабывáла пра пáншчыну. Вільча. Андрэйко, мой крóлік, памажы́ загнáць авéчкі. Кл. Параўн.: рускае кролик.

КРО'ЛІЧАК (*крóлічак*). Гл. кролік. Зьбегáй, крóлічак, к тáту. Кл.

КРУГЛАВІ'ДЫ (*круглавíды*). Харóшы, круглавíды хлóп[е]ц. Барб. Гл. від.

КРУНПЕ'ЛЬ (*крунпéль*) *мужч.* Моцна збіты, прысадзісты чалавек. Кл.

КРУПЯ'НКА (*круп'янка*) *жан.* Страва; налітая ў тоўстую кішку і запечаная кроў з грэцкімі крупамі і прысмакамі. Казáла, круп'я́нкі ёй дам. Кл.

КРУЦЕ'ЛЬ (*кру́цель*) *мужч.* Ні бу́ду с табо́ю гуля́ць у ка́рты, бо ты круцэ́ль. Барб. Бог не цяля,—убачыць круцяля́ (*арф.*). Кл.

КРЫВО'ТА (*крыво́та*) *жан.* Ужываецца толькі ў адз. Зайздрасць. С крыво́ты нагава-ры́ў на на́с, чаго́ й ні было́. Кл.

КРЫВО'ТЛІВЫ (*крыво́тлівы*). Зайздросны чалавек, здольны прычыніць шкоду другому «с крывоты» (гл.). Таго́го крыво́тліваго сусе́да далі́ нам. Кл. Параўн.: крыўда, крывы. Гл. крыво́тны.

КРЫВО'ТНЫ (*крыво́тны* і *крывôтны*). Гл. Крывотлівы. Звычайна крывотны, радзей крывотлівы. Бес канца́ крыво́тны буў. Бу́дзе йці, дак пашню́ (збожжа) пато́пч[э], хоць раз да ўсту́піць у чужы́ аўе́с ці жы́то. Кл. Параўн.: крыўда, крывы. Параўн.: падэ́сны. Пярэжыры Радашковіцкага раёна.

КРЫВЯ'НКА (*крыўя́нка, крывя́нка*) *жан.* Крываная каўбаса (запечаная ў кішках з прысмакамі кроў). Крыўя́нкаю накармі́ла. Барб.

КРЫ'ГА[1] (*кры́га*) *жан.* Рыбацкая прылада. У кры́гу налаві́лі бага́та ры́бы. Пас. Янкі Купалы. Кры́гаю ўно́чы лепш лаві́ць. Пас. Янкі Купалы. Параўн.: тро́йнік. Свінка Капыльскага раёна.

КРЫ'ГА[2] Ільдзіна. Кл., Байл., Н.-Андр., пас. Янкі Купалы.

КРЫ'СА (*кры́са*) *жан.* Пала верхняй вопраткі, крысо. Мата́[е]цца кры́са. Сл. Кры́су ўрабі́ў у не́што. Кл.

КУБЛЕ'ЧКА (*кублéчко* і *кублéчка*) *ніяк.* Памяншальнае ад кубло́ (гл. кубло). На кублéчку злавіў вераб'я́. Кл. Кублéчко нашлі. Кл.

КУБЛО' (*кубло́*) *ніяк.* Гняздо птушкі, у тым ліку хатняй. Ето курá (і кýра) нагатаўляе кубло́. Кл. З лáстаўчынаго кублá. Кл.

КУДА'С (*кудáс*) *мужч.* Кутас. Нéйдзе есь с кудасáмі (пояс), зáраз найдý. Кл.

КУДЫ'ЛЬ (куды́ль, кудáль). Куды-небудзь. Ты кудыль схадзіў бу, а то ўсе чытá[е] й чытáе. Кл. Ужываецца і куды-нéбудзь.

КУДЗЕ'ЛЯ (*кудзéля*) *жан.* 1. Адыходы пры выпрацоўцы кужалю са сцёртага ільну. Яе разнавіднасці—атрэпкі (гл.) і абдзіркі (гл.). Кл. 2. Любое прадзіва (кужаль, кудзеля, каноплі, а таксама — воўна, вата), прыгатаванае да прадзення: пэўным чынам згорнутае і прывязанае да прасніцы. Такíх малы́х кудзéль вóўны я ні раблю́. Барб. Кудзéлю вóўны спрáла за дзéнь. Кл.

КУКУ'ЛЯ (*кукýля*) *жан.* Зязюля. Больш гаворáць кукýля. Барб.

КУКУ'ЛЬКА (*кукýлька*) *жан.* Памяншальна-ласкальнае ад кукуля. Кукýлька кукýе. Кл. Параўн.: рускае кукушка, чэшскае kukačka, польскае kukułeczka.

КУЛІ'ДА (*кулíда*) *жан.* Вялікая буханка хлеба. Пазы́чыла кулíду хлéба. Кл.

КУЛІ'ДКА (*кулíдка*) *жан.* Буханка хлеба. Кл.

КУЛЬ[1] *(куль) мужч.* Тоўсты сноп нясцёртай саломы. Нараблю кулёў. Байл. Кулê (кулі) прадала́. Кл. Твае̂ ні снапы́, а кулê. Кл.

КУЛЬ[2] Мяшок. Куль мукі ў ла́ўцы купілі. Вайц.

КУЛЬ[3] Частка невада. Кл., Хал., Параўн.: рускае мотня́.

КУЛЬБА'КА *(кульба́ка) жан.* Частка ярэмца (гл.), па форме — вугольнік, адзін бок вугольніка наглуха прымацаваны да ярэмца, у другім маецца адтуліна, у якую закладаецца заноза (гл.). Е́халі з Глу́ска й ву́валіласа кульба́ка, так наму́чыласа; я закладу́ — йзно́ў вы́валіцца, й ніхто́ ні натра́піўса, каб памо́г. Кл.

КУЛЬТУ'РА[1] *(культу́ра).* Культура. Кл., Зуб., Поб.

КУЛЬТУ'РА[2] Культурныя сеяныя травы. Культу́ры табе̂ накасі́ў. Кл.

КУЛЯВА'Я *(арф.).* Прыметнік ад назоўніка куль (саломы). Ужываецца з назоўнікам салома. Гл. куль. Некулявая салома на стрэхі не гадзіцца *(арф.).* Кл.

КУ'ПЧА *(ку́пча) жан.* Куплены (не спадчынны) участак зямлі. На ку́пчы жылі́ тут адны́. Байл. Ку́пчу купі́ў. Кл.

КУРАВО'ДЗІХА *(курав́одзіха) жан.* Курыца, якая выседзела і водзіць куранятаў. Така́я до́бра курав́одзіха,—што та́к гл[е]дзі́ць кура-ня́так. Пас. Янкі Купалы. Мая́ курав́одзіха ужэ̂ ўво́с[е]нь не́сьціса пачала́. Кл.

КУРА'К (*курак*) *мужч.* Гермафрадыт. Кл.

КУРА'ЧЫНА (*кура́чына*) *жан.* Курынае мяса. Кура́чыну лю́біць. Зуб.

КУРО'ДЫМ (*куро́дым*) *мужч.* Густы дым пры гарэнні не полымем, а пры тленні. Куро́дыму нарабілі, што й вакна́ ні віда́ць. Пас. Янкі Купалы. На пчо́лы каб куро́дыму. Кл. Параўн.: чэшскае kouř—дым.

КУСО'К (*кусо́к*) *мужч.* 1. Побач і ў тым жа значэнні, што і кавалак. Кл. 2. Пры ацэначных п'яніца, гультай, манеЙ (гл.), манькут (гл.). Гультая́ кусо́к. Кл., Зуб. Манькута́ кусо́к. Кл.

КУХА'ЙКА (*куха́йка, кухва́йка*) *жан.* На́ша ма́ма куха́йку купі́ла. Хал.

КУ'ХАН (*ку́хан*) *мужч.* Пячэнне з прэснага цеста на содзе, поснае або з тлушчамі, з цукрам ці мёдам або без іх. Сма́шны ку́хан. Барб.

КУ'ХАР[1] (*ку́хар*) *мужч.* Тое, што і скрыня, у якую складаюць адзенне, крам, ніткі (нявесты, гаспадыні). Не́йдзе ку́хара дзе́ці,—Скіда́ймо дадо́лу, Пае́дам дадо́му. З песні. Кл.

КУ'ХАР[2] *мужч.* Повар. Лāво́н у салда́тах быў за ку́хара. Дак яго й празва́лі ку́хар. Кл.

КУХМА'Р (*кухма́р*) *мужч.* Крухмал. Кухма́р чы́сты, што со́да. Пас. Янкі Купалы. Кухма́рам прыкле́йвала. Кл. Ужываецца і крухмал. Крухма́лу зраблю́. Кл.

КУ'ШТАВАЦЬ (*ку́штаваць, ку́штуваць*) *-ую, -уеш, пераходны.* Вызначаць, дробненька

стукаючы аб зубы, ці моцнае яйка. Ты й кўштуваць ні ўмé[е]ш. Кл.

КУШЭ'РКА (*кушэ́рка*) *жан.* Акушэрка. Схадзіла па кушэ́рку, да нéшта німа́ й німа́, нéшта пóзьніцца. Пас. Янкі Купалы. Кушэ́рчыны дзéці. Кл.

## Л.

ЛАВА'ЦЬ (*лава́ць*) *-аю, -аеш, пераходны.* Лавіць. Ужываецца побач з лавíць. Кл., Хал.

ЛА'ДНАГА (*ла́днаго, ла́днага*). Прыслоўе тыпу багата, шмат, многа. Ла́днага — не мала, даволі шмат чаго-небудзь, напрыклад, часу, матэрыялу, людзей і г. д. Дай карóве тагó (сена), што ла́днаго ў куткý. Кл. Тут ла́днаго (бежанцаў) былó. Зуб.

ЛАЗУРКАВА'ЦЬ (*лазуркава́ць*) *-ую, -уеш, пераходны.* Падсіньваць (бялізну). Лазуркава́ць вучы́ла. Што лазуркава́ць—што пацьсíньваць. Кл.

ЛАКІ'ЗА (*лакі̀за*) *агульн.* Бесклапотны, неахайны, апушчаны чалавек. За такóго лакíзу (замуж) ніхтó й ні пóйдзе. Кл.

ЛАНО'[1] (*ланó*) *ніяк.* Бярэма (дроў, бацвіння). Аднó ланó (дроў) унéсла ў ха́ту, аднó на сьцíрту ўсклáла. Кл.

ЛАНО'[2] Ужываецца ў він. і месн. склонах у спалучэнні з дзеясловамі сядзець, несці, трымаць, браць і прыназоўнікам *на:* на ланó, на ланé (і на ланê)—у значэнні на руках (на ру-

цэ). Ся́дзе, дзіця́тко на лано́ во́зьме. Ідзе́, дзіця́ на лане́. Не́сьці на лане̂ (дзіця) перад сабо́ю ця́жко. Кл.

ЛАНО′М (*лано́м*). Прыслоўе ад лано́ (гл.). Нанасіла трэсак по́ўну паве́ць і ўсе лано́м. Кл.

ЛА′СІЦА (*ла́сіца*) *жан.* Звярок ласка. Кл. Гл. падласіца.

ЛА′ТА[1] (*ла́та*) *жан.* Лата. Ла́та на ла́ц[е]. Сым.

ЛА′ТА[2] *Множн.* — латы. Тоўстыя жэрдзі, на якія насцілаецца страха і да якіх прывязваецца віткаю (гл.) салома. Лат навазі́лі й куле̌ў нагатава́лі, — то́лькі крыць. Байл.

ЛАХУ′ДРА (*лаху́дра*) *агульн.* Неахайны, апушчаны, няспрытны чалавек, лакі́за (гл.). Хіба́ та́я лаху́дра агле́дзіць ха́ту? Ці дагле́дзіць гра́ды? Дак.

ЛА′ШЧЫЦЦА (*ла́шчыцца*) *-уся, -ышся.* 1. Выяўляць, выражаць ласку да каго-небудзь. Дзе́ці ску́чылі, дак ла́шчацца. Барб. Каб здох (на сабаку)—бач, ла́шчыцца. Кл. 2. Паддобрывацца, падлізвацца (насуперак прыказцы: Не лай і не перапрашай). Кл. То наніпра́ўдзіў бо́гвед чаго́, а тагды́ ла́шчыцца прышо́ў. Кл.

ЛЕ′ГАР (*ле̌гар*) *мужч.* Бервяно, на якім спускаюць ці ўсцягваюць дах гонтавы; легараў два ці больш, залежыць ад памераў даху. Легар злама́ўса. Кл.

ЛЕ′ГЧАНЫ (*ле̌гчаны*). Гл. злегчаны. Кл.

ЛЕ′ЙЦЫ (*ле́йцы*). Побач вожкі. Ле́йцы ўсе̂ парва́ліся. Зьвілі́ п'я́цяро ле́йцаў Кл.

ЛЕ'ТНІК[1] *(лётнік* і *лêтнік) мужч.* Летняя лёгкая жаночая вопратка без падкладкі. Лéтнік мôй ужэ́ ліхéнькі сусíм. Барб. Тóлькі ў аднóм лéтніку. Кл.

ЛЕ'ТНІК[2] Дарога, па якой можна ехаць летам (у супрацьвагу зімняку). Наяўнасць слоў зімня́к і лéтнік звязана з балоцістасцю мясцовасці і бездарожжам у гэтым краі. Лéтнікам далéка éхаць. Зуб.

ЛЁ'ЗНАЯ *(лёзная* і *лёзна).* Лёзная карта— неказырная карта. Зуб.

ЛЁ'ПЕНЬКА *(лёпянько, лёпянька).* Прыслоўе ад лёпенькі. Лёгенька, у падагнатую да стану вопратку (апрануцца). Такí хóлад, а так лё́пянька адзéласа. Новы быт. Лё́пянька надзéласа, дак як на карцíнцэ харóша дзéўка. Кл. Лё́пянько—éто лё́гянько, шчы́льнянько. Кл.

ЛЁ'ПЕНЬКІ Прыметнік. Ужываецца з назоўнікамі, якія абазначаюць назвы адзення. Лёпенькая (сукенка, паддзеўка, летнік) — лёгенькая, падагнаная да стану. Вéльмі ужэ лё́пенька сукéнка, дак ні насíласа. Ён усе лёпенькіе касьцю́мы нóсіць. Лё́пянько—ето лё́гянько, шчы́льнянько. Кл.

ЛЁ'СТАЧКА *(лёстачка) жан.* Лёстачкі — дошчачкі ў драбінцы (частцы воза, панарада). Нараблю́ лё́стачак. Байл. Усê лё́стачкі паламáў. Кл. Лё́стачка перабíласа. Вайц.

ЛІГО'ТА *(лігóта) жан.* Ільгота. Лігóта, кáжуць, бýдзе. Сл.

ЛІПЕ'ЦЬ *(ліпéць) -пл-ю, -п-іш, неперавод-*

*ны.* 1. Ледзь трымацца (чаму-небудзь). Ліпе́цьме (будзе ліпець) гадко́ў п'яць (старая хата). Хаце́лі шчэ залêтась перарабі́ць (студню), а вот ліпі́ць і се̂ні. Кл. 2. Пра чалавека — жыць не падаючы́ надзей на сілу, магчымасць працаваць і на працяглае жыццё. Ліпі́ць тро́хі, хіба́ тôлькі ў грыбу́ сходзі́ць. Барб. Параўн.: варня́цца.

ЛІСАПЕ'Т (*лісапе́т*) *мужч.* Веласіпед. На лісапе́тах пакаці́лі не́куды. Хал. У Глу́ск лісапе́там пап'ёрса. Кл. У мове моладзі — веласіпе́д.

ЛІТО'Ш (*літо́ш, літôш*) *мужч.* 1. Літо́ш — хто громка, моцна гаворыць. 2. У вв. Клетнае і Байлюкі было па адной сям'і, членаў гэтых сямей называлі літашы́ (літашэ́ — множн. лік). Тлумачаць, што гэтыя сем'і паходзяць з Літвы. Можна думаць: літо́ш, літашэ́ — літо́вец, літоўцы. Аб мове іх расказваюць, што тро́шкі ні так гавары́лі, тро́шкі ні така́я гавара́. Кл.

ЛІХІ'[1] (*ліхі́*). Злы, сярдзіты. Ве́льмі ліхі́ бугáй, заб'е́, ні йдзі́ ты. Байл. Гадзі́, што ліхо́й скуле́. Сл.

ЛІХІ'[2] Дрэнны, зношаны прадмет, прылада. Ліхо́ю сакéраю. Байл. Ліха́я сьві́тка. Сл.

ЛІ'ХА (*лі́хо, лі́ха*) *ніяк.* Бяда, няшчасце. Лі́ха на ва́с німа́. Барб. Хай на вас лі́хо но́йдзе. Кл. Параўн.: Аднойчы ў Клятнянскай бібліятэцы была група моладзі, вучняў, слухалі перадачы мінскага радыё. Дыктар сказаў: «лі́ха танцава́лі», «лі́ха сплясалі». Гэта выклікала

пытанні: Што такое за «ліха»? Які гэта танец? Як яго танцуюць? (Параўн.: танцавалі польку).

ЛІХО' (*ліхо́*). Кепска, дрэнна, нядобра. Там ліхо́ спаць. Кл. Ліхо́ жыць аднаму́. Кл., Барб. Лажы́са ту́така, бо там табê ліхо́ спаць. Кл.

ЛІЦВІ'Н (*ліцьвін*) *мужч.* Літовец. Булі ліцьвіны́. Сл.

ЛІ'ШНЯГА (*лішняго, лішняга*). Больш за норму. Лішняго, сыно́чак, ні дава́й. Ужэ̂ й лішняго (мякіны) прынёс. Кл. Параўн.: во́бмаль.

ЛО'КШЫНА (*ло́кшына*) *жан.* Макарона, локшына. Кл., Барб., Байл. Слова локшына бытуе ў шмат якіх раёнах Беларусі. Ло́кшыну з'еў. Пружанскі раён. Ло́кшыны навары́лі. Карэліцкі раён. Ло́кшыну люблю́ сваю́ ляпе́й, як з ла́ўкі. Радашковіцкі раён.

ЛУЗА'ЦЬ [1] (*луза́ць*) *-ж-у, ж-аш, пераходны.* Абчышчаць гарбузікі, фасолю. Луза́лі гарбу́зікі. Барб. Хай ма́ці табе́ лужэ̂. Кл.

ЛУЗА'ЦЬ [2] Біць, караць. Ве́льмі разду́рны сын буў; ён што ні рабі́ў!—стра́шыў, êсці ні дава́ў, луза́ў—што шку́ру спушча́ў. Кл.

ЛУЗО'НІК (*лузо́нік*) *мужч.* Арэх, які сам вывальваецца, вылузваецца (гл. лузаць) з шапачкі. Кл. Параўн.: калачо́нікі. Параўн.: лузане́ц. Кліны Бялыніцкага раёна. Параўн.: лусканец. Клімавіцкі раён.

ЛУПА'І (*лупа́йі*) *зборны, толькі ў множн.* Абчысткі ад бульбы. Лупа́йі аддае́ сусе́ду,—а сама́ хіба́ хварэ̂е гадава́ць парася́? Гл. лупайкі. Гл. лушпайкі, лушупайкі.

ЛУПА'ЙКА *(лупа́йка) жан.* Звычайна ўжываецца ў множн. Што і лупа́і, г. зн. абчысткі ад бульбы. Абраза́ньніца така́я, па па́льцу лупа́йкі (тоўстыя як палец). Пас. Янкі Купалы. Лупа́йкі й каро́ва зьесь. Кл.

ЛУПА'ТЫ *(лупа́ты).* З вялікімі вытрашчанымі вачыма. Ве́льмі лупа́та да ніхаро́ша. Барб. Сава́ та́я лупа́та. Кл.

ЛУСКА' *(луска́) жан., толькі ў адз.* 1. Скурка з грэчкі ці проса, якая аддзяляецца пры апрацоўцы на крупы. Луско́ю гусе́й карміла. Кл. 2. На рыбе (параўн.: рускае чешуя). Ры́бу чы́сьцілі, дак луски́ мо рэ́шато,—вот ры́бы налавілі! Хал. 3. На целе чалавека (параўн.: рускае шелуха). Луска́ не́йка на шы́йі. Кл.

ЛУТ *(лут) мужч.* Што і лу́цце (гл.). Кл.

ЛУ'ЦЦЕ *(лу́цьце) зборны, ніяк.* Ліповае лыка. Лу́цьце ў Сла́ўкаўшчыне расьце́. Барб. Мы с Трахімам хадзілі ў лу́цьце (г. зн. хадзілі, каб надраць ліповага лыка). Кл.

ЛУЧНІ'К *(лушнік) мужч.* Прыстасаванне для асвятлення ў хаце, захаваўся толькі ў памяці. У в. Вольніцы адзін дзед захаваў «лушнік на пака́с».

ЛУЧО'К *(лучо́к) мужч.* Ручка на кассі. Лучо́к сагніў. Сл. Лучко́ў нарабіў на ўсіх. Кл.

ЛУЧЫ'НА *(лучы́на) зборн. жан., толькі ў адз.* Цёскі (гл.) з хваёвага смольнага карча, з усмала (гл.) або асмола (гл.), якія выкарыстоўваюцца для падпалу дроў і для асвятлення на комінку (гл.); такі від асвятлення ў апошнія

дзесяцігоддзі вышаў з ужытку, адноўлены быў толькі ў часе вайны. Прыўёз лучы́ны на зі́му ўсю, ба́бе анігáдкі, бу́дзе патпа́лу. Пас. Янкі Купалы. Лучы́ны насêк кашôў тры. Кл. Параўн.: сініца.

ЛУШПА'ЙКА (*лушпáйка* і *лушупáйка*) *жан.* Звычайна ўжываецца ў множн. Што і лупаі, лупайкі (гл.). Зьêўшы адны́х лушпа́як, ні не́сьцімуцца (не будуць несціся куры, калі карміць толькі лушпайкамі). Кл.

ЛУШУПА'ЙКА (*лушупáйка* і *лушпáйка*). Гл. лушпайка. Кл., пас. Янкі Купалы.

ЛЯЖА'ЦЬ (*л[е]жáць, ляжáць*) *-у, ыш.* 1. Ляжаць. Кл., Поб. 2. Хварэць, быць прыкаванаму да пасцелі хваробаю. Ляжа́ў ця́жка (*арф*). Кл. Ве́льма ляжа́ў крэ́пко. Кл.

ЛЯМЕ'НЕВЫ (*ляме́нявы* і *ляме́няву*). Алюміневы. Л[е]ме́нявае пасу́ды ўся́кае наве́зьлі. Барб. Ляме́нявы кацяло́к нашла́ ў ле́се. Кл.

ЛЯНЫ' (*ляны́, л[е]ны́*). Гультай, лянівы. Ужываюцца ляны́ і лянівы. Кл., Хал., Кас. Гаспада́р ляны́ буў. Кл.

ЛЯПЕ'Ш (*л[е]пéш*) *мужч.* 1. Няўда́лы аце́слівы хлеб. Лепяша нейкага спякла (*арф.*). Кл. 2. Тоўсты, нязграбны (як злеплены) чалавек. Ні жані́х, а л[е]пе́ш не́йкі. Пас. Янкі Купалы. Калі ідзе гутарка пра малое дзіця ці іншую жывую істоту, слова ляпеш не мае неадабральнага адцення. Хло́пчык як ляпе́ш (*арф.*). Кл.

ЛЯПІ'ТА (*л[е]пíта*) *мужч.* Пячнік. Бага́то хто рабілі пе́чы, дак л[е]піты ні нашла́. Кл. Л[е]піту згадзіла. Кл. Параўн.: дзеяслоў ляпіць.

ЛЯ'САЧКА (*лясачка*) *жан.* Трысцінка, палачка. Зь лясачкаю хадзіў па вуліцы. Зуб.

ЛЯСЁ'НКА (*арф.*) *жан.* Посцілка, прыстасаваная (да рагоў прышываюцца вяровачкі) пераносіць сена, салому, траву. Склала ў лясёнку (*арф.*). Кл.

ЛЯХ (*лях*) *мужч.* Польскі вайсковец, паляк. Ляхоў—ляхôў наêхало (з успамінаў аб акупацыі ў 1920 г.). Кл.

ЛЯША'Н (*арф.*) *мужч.* Паляк, лях. Сустрэта толькі ў вершаваным апавяданні «Бяда». Прыêхалі лешаны, замянілі (бяду) на гарох. Кл.

## М.

МАГІЛЁ'ВЕЦ (*магілевец*) *мужч.* Чалавек з Магілёва ці з Магілёўшчыны. Кл.

МАГІЛЁ'ЎКА (*магілеўка*). Жанчына з Магілёва ці з Магілёўшчыны. Кл.

МАГІ'ЛЬНІЦА (*магільніца*) *жан.* Назва вёскі, каля яе багата панасыпаных курганоў.

МАКАЗЫ'Н (*маказын*) *мужч.* У дарэвалюцыйны час тры вёскі—Клетнае, Байлюкі і Нова-Андрэеўка—арганізавалі «маказын», своеасаблівую касу ўзаемадапамогі: кожны гаспадар засыпаў вызначаную колькасць збожжа; калі была патрэба, укладчык мог атрымаць, узяць у пазыку пэўную колькасць збожжа. Кл.

МАЛАВУ'МНЫ (*малавумны*). Той Мікодым малавумны, прастак. Мучыўса бêдны. Кл.

МАЛАДЗІ'ЦА (*маладзіца*) *жан.* Маладзіца нейка прасіласа пераначаваць. Сл. Маладзіца харо́ша й рабо́цько. Кл.

МАЛЕ'ЧА (*малéча*) *ніяк., толькі ў адз.* Дробнае што-небудзь, а таксама пра дзяцей. Драбно́та да малéча. Кл.

МАНЕ'Й (*манéй*) *мужч.* Хлус, манюка. Ты манéй, ні хо́чу й гавары́ць с табо́ю. Хал. Гл. манькýт, манéка.

МАНЕ'КА (*манéка*) *агульн.* Хлус. Сходзé-ц[е] к тамý манéку. Зуб.

МАНІ'СТЫ (*маністы*). Каралі. Маністы прывéзла. Сл. Гл. пáцаркі.

МАНІ'ЦЬ (*маніць*) *-ю, -іш.* Націск на канчатку толькі ў 1-й асобе адз. ліку (маню́), у астатніх—на á (мáніш). Хлусіць. А нашто́ ты мáніш, скажы́ ты нам? Хал. Мо ты мáніш? Кл.

МАНЬКУ'Т (*манькýт*) *мужч.* Хлус, манюка. Манькýт? Той, хто мáніць. Кл. Гл. Маніць, манéй, манéка, хлус.

МАРКА'ЛЬ (*маркáль* і радзей *маркáч*) *мужч.* 1. Баран-вытворнік. Маркáль ж жараб'я́. Кл. Адзін год Рыго́ру далі маркаля́ за тоé, што бугая́ до́браго вýгадаваў,—прамíро́ўку. Кл. 2. Пераноснае, зневажальнае. Пра чалавека, які гаворыць непрыемным хрыпатым голасам. Кл.

МАРКА'Ч (*маркáч*) *мужч.* Гл. маркаль. Кл.

МАРШЧА'К (*маршчáк*) *мужч.* Лапаць з скуры. Маршчакі ўсе шыў нéкалі. Кл.

МАСНІ́ЦА (*масьніца*) *жан.* Дошка падлогі. Масьніцы гнісьці ста́лі. Кл. Гл. памасніца.

МАТКІ́ (*маткі*) *толькі ў множн.* Каноплінасеннікі, жаночыя каліўы канапель. То пло́скуні, а е́то—маткі́. Кл. Параўн.: рускае матерка.

МАЦА́К (*маца́к*) *мужч.* 1. Яйка з моцнай шкарлупінаю. Гл. бітка. Зно́скі (гл. зносак) бываюць ве́льмі мацакі́. Пас. Янкі Купалы. 2. Пераноснае. Моцны, дужы чалавек. Кл.

МА́ЦЕНЕ (*ма́цяне*) *ніяк.* Сын ці дачка з фізічнымі ці ў характары (або з тымі і другімі) рысамі маткі. Ма́цяне дай (дый) го́дзі, уся́ ма́ці. Кл. Параўн.: чысты бацька, чыстая маці. Параўн.: бацене.

МАЦЬ (*маць*) *-аю, -аеш.* Мець. Трэ́ба маць сваê (граблі). Хал. Гарава́ў, таму́ й маў. Кл.

МАЦЯРКІ́ (*мацяркі, мац[е]ркі*). Множны лік ад ма́ці. Мац[е]ркі́ сабра́ліса. Сл. Хай ва́шы мацяркі́ са́мі насе́юць гаро́ху. Кл.

МАЧЫ́ЦЬ [1] (*мачы́ць*) *-у, -ыш, пераходны.* Мачыць.

МАЧЫ́ЦЬ [2] Засольваць гуркі, капусту. Ву́чысьціла то́е вядро́, што гуркі́ мачы́ла. Кл.

МАШЫ́НКА [1] (*машы́нка*) *жан.* 1. Памяншальнае ад машына. Кл., Хал. 2. Прылада для стрыжкі. Кл., Хал. У ва́с е машы́нка? Барб.

МАШЫ́НКА [2] Кнопка ў лёгкай вопратцы. Машы́нка атарва́лася. Вайц.

МЕ́МКА (*ме́мка*) *жан.* Гатунак бульбы, які

называюць яшчэ варша́ўка. Ме́мка до́бра була́. Сл. Гл. арша́ўка і варша́ўка.

МЕ'НШЫЦЬ (*ме́ншыць) -у, -ыш, пераходны.* Памяншаць, змяншаць. Я саро́чку ме́ншаму купі́ла, да каўне́р шыро́кі, трэ́ба ме́ншыць. Хал. Нашто́ ты ме́ншыш аго́нь? Кл.

МЕ'СТА[1] (*ме́сто, мêсто, ме́ста, мêста) ніяк.* Месца.

МЕ'СТА[2] Горад, мястэчка. У Слу́цку на ме́сьце танцава́ло шаўцо́ў дзьве́сьце. Вершаванае апавяданне. Кл.

МЕ'СЯЧКА (*ме́сячко, ме́сячка) мужч.* Памяншальнае ад месяц. Ужываецца і месячык. Сьвяці́, сьвяці́, ме́сячко (з песні). Ме́сячко сьве́ціць. Кл.

МЁ'ТКА (*м'ётка) жан.* Нізка дробнай рыбы; звычайна ніжуць на нізкі ўюноў. Адзі́н год м'ётак со́рак уюно́ў було́. Кл.

МІТРЭ'НКА (*мітрэ́нка) жан.* Непакой, трывога. Ётака мітрэ́нка цяпе́р па сьве́це (у сувязі з падзеямі ў Карэі і пагрозаю сусветнай вайны). Зуб. Тры гады́ така́я мітрэ́нка була́ (гады нямецка-фашысцкай акупацыі). Зуб.

МЛІ'ВА (*мліва, мліво) ніяк., толькі ў адз.* Збожжа ў млыне; збожжа, якое прывезена, каб змалоць яго. Млі́ва по́ўны млін. Кл. [Е]зыко́вае мліво нігадзіво. Кл.

МЛІН (*млін) мужч.* Млын. У млін пашо́ў. Кл.

МЛЫН (*млын).* Млын. Пас. Янкі Купалы. Гл. млін.

МО'ГІЛКІ (*мо́гілкі*) *толькі ў множн.* Могілкі, калі гавораць пра клады (гл.) не для праваслаўных (яўрэйскія, каталіцкія). За по́льскімі мо́гілкамі. Кл. Гл. клады.

МО'ЛЛЮ (*мо́льлю, мо̂льлю*). Сплаўляць лес моллю—сплаўляць не звязваючы ў плыты, а пускаючы бярвенні па цячэнню. А мы мо́льлю гна́лі. Хал. Дале́ко мо̂льлю ні заго́ніш. Кл.

МОЛЬ[1] (*мо́ль, мо̂ль*) *жан.* Моль (насякомае). Мо́лі ў вас бага́то. Хал.

МОЛЬ[2] *жан., зборны, толькі ў адз.* Рыбымаляўкі. Калі ідзе гутарка пра адну штуку—мо́лька. Гл. молька. Што зь е́стаю ры́баю? Мо́лі й тае̂ німа́. Кл.

МО'ЛЬКА (*мо́лька, мо̂лька*) *жан., множн.*—мо́лькі (*мо́лькі, мо̂лькі*). *Зборны жан.*—моль (гл. моль[2]). Рыбка-маляўка. На мо́льку акуня́ вы́цяг (вывудзіў). Пас. Янкі Купалы. Кашо́м налаві́лі глады́шку мо́ляк. Кл. Параўн.: рускае малёк.

МУ'ЛІЦЬ (*му́ліць*) *II спраж.* 1. Пашкоджваць нагу, бок чым-небудзь. Чо́баты сухі́я, дык ве́льмі му́ляць (націраюць ногі) (*арф.*). Кл. Не́што му́ліць (на возе пад сенам нейкі цвёрды прадмет), с[е]дзе́ць ні мо́жна. Кл. 2. Не цярпіцца. Кл. Параўн.: му́лка.

МУ'ЛКА (*му́лко* і *му́лка*). 1. Цвёрда (спаць, сядзець, трымаць што-небудзь у руцэ, на плячы). На пе́чы му́лко спаць. Барб. Я б зане́с ету дзерав́яку, але му́лка ў пл[е]чо́. Кл. 2. Пераноснае. Не цярпіцца. Му́лко ў ха́це? Кл.

МУЛЬМО′ *(мульмо́) ніяк.* Мазоль. Шчэ ні зажыло́ мульмо́ ў лы́сага (вала), ярмо́м наму́ліў. Кл. Гл. мулка.

МУ′СА *(му́са* і *мыса) жан.* Морда ў каровы, цяляці, сабакі. Му́су абадра́ла каро́ва. Байл. Што то (што гэта) на му́се ў каро́вы? Кл. Мы́са ўся ў крыві. Пас. Янкі Купалы.

МУХАМО′РА *(мухамо́ра) жан.* Мухамо́ру зьёла (кошка) й здо́хла. Пас. Янкі Купалы.

МЫ′СА *(му́са* і *мы́са).* Гл. муса. Кл., пас. Янкі Купалы.

МЯНТА′ШКА *(м[е]нта́шка) жан.* 1. Прылада, якою вострацъ касу. Кл. Барб. М[е]нта́шка мая́ спаха́ласа. Кл. 2. Пераноснае. Балбатун, трапло. Пас. Янкі Купалы.

МЯНТА′ШЫЦЬ *(арф.) -у, -ыш, пераходны.* 1. Вастрыць мянташкаю касу. Ты мянта́шыш не так *(арф.).* Кл. 2. Хутка есці, як за сябе закідаць. Кл.

МЯТЛА′ *(мятла́, м[е]тла́) жан.* 1. Венік, насаджаны на палку. Мятла—для працы ў гумне, свірне. Мятла звычайна робіцца таўсцейшая за венік і з даўжэйшых розгаў. Мятлу́ ні кідай у гумне́. Кл. М[е]тла́ нам ні трэ́ба. Кл. 2. Пераноснае. Чалавек, які хутка, спрытна ходзіць, робіць. Кл.

МЯ′ЧЫК *(м'я́чык, мя́чык) мужч.* У м'я́чыка гуля́лі. Байл. М'я́чык у на́с е. Кл.

## Н.

НА′БА *(на́бо* і *на́ба).* Добра што. Бра́цьмуць—на́бо што пазво́ліў. На́бо е каму́ дроў аць́се́кці. Зуб. На́бо, ка́ж[э], ўзялі. Кл.

НАБАСО'НАК (*набасонак, набасонач*). Набасонак абуў чобаты, дак ногі памерзьлі. Кл.

НАБАСО'НАЧ (*набасонак* і *набасонач*). Кл. Гл. набасонак.

НАБГО'М (*набгом* і *набгôм*). Піць (жлукціць) набгом—піць не шклянкаю, а з бутэлькі, збана ці іншай судзіны, нахіліўшы яе. Набгом—з нагібам. Набгом вўжлукціў. Хал. Набгом вып'ю. Кл.

НАБІ'ЛІЦЫ Гл. набілкі.

НАБІ'ЛКІ (*набілкі*) *толькі ў множн.* Частка ткацкага варштата, у якую ўстаўляецца бёрда. Набілкі забрала й ні прынесла. Барб. Набіліцы. Зуб.

НАБІ'РАК (*набірак* і *наберак*) *мужч.* Маленькая каробачка з лубу, з бяросты. Набірак малін назьбірала. Кл. Параўн.: наберак. П. Панчанка. Выбраныя творы, 1956, стар. 70.

НАБІ'РАЧАК (*набірачак* і *наберачак*) *мужч.* Памяншальнае ад набірак. Кл., Байл. Гл. набірак.

НАВЕ'ЗАЦЬ (*навезаць*) *-аю, -аеш, неперахodны.* Няўмела нагатаваць стравы. Навезала, што хіба толькі парасятам. Кл. Параўн.: везаць.

НАВЕРАДЗІ'ЦЬ (*арф.*) *-дж-у, дз-іш, пераходны.* Ужываецца з прамым дапаўненнем (рука, нага, спіна). Натаміць, натрудзіць аж да пашкоджання, да захворвання (рукі, нагі, спіны). Наверадзіў руку, дык шосты дзень рабіць няма як (*арф.*). Барб.

НАВО'ЙКА (*навойка* і *навôйка*) *жан.* Часткі ткацкага варштата (іх дзве), на адну навіваецца аснова — падпражная навойка (патпра́жна — ад пража, Кл., Зуб.); а тая, на якую навіваецца палатно,—палатняная (палатня́на—Кл., Зуб.). Параўн.: наво́й (*мужч.*) — падпражная навойка; навойчык (*мужч.*)—палатняная навойка. Дрыбінскі раён.

НАВУ'ЛЕТ (*наву́лят, наву́л[е]т*). Кл. Гл. навы́лет.

НАВУ'ПЯРАДКІ (*наву́пярадкі* і *навы́п[е]радкі*). Гл. навыперадкі.

НАВЫ'ЛЕТ (*навы́лят, навы́л[е]т*). Наву́л[е]т ба́чу. Наву́л[е]т прастрэ́ліў. Зуб. Навы́лят ні прайшла́. Байл.

НАВЫ'ПЕРАДКІ (*навы́(у́)пярадкі, навы́(у́)п[е]радкі*). Наперагонкі. Ужываюцца або два словы. Кінуліса наву́п[е]радкі. Байл.

НАВЯСНЕ' (*навясьне́, навесьне́, нав[е]сьне́*). Вясною, увесну. Ужываецца (Кл., Сл., Байл., Барб.) побач з вясною, увесну, але часцей за апошнія. Навесьне́ прада́ў адно́ канча́. Сл. Ле́тась навясьне́ купі́ў. Нав[е]сьне́ прыхо́дзіў гно́ю. Кл.

НАГАНЯ'ЦЬ (*наганя́ць*) *-яю, -яеш, пераходны.* Гл. нагнаць.

НАГАТАЎЛЯ'ЦЬ (*нагатаўля́ць*) *-яю, -яеш, пераходны.* Падрыхтоўваць, наладжваць. Кура нагатаўля́е кубло́. Кл. Нагатаўля́юць са́ні ў дро́ва е́хаць. Са́ні нагатаўля́й уле́тку, а кале́са (воз) ўзі́мку. Кл.

НАГАТО'ВІЦЬ (*нагатовіць*) *-ўл-ю, -в-іш.* Зак. тр. ад нагатаўляць (гл.). Кл.

НАГНА'ЦЬ[1] (*нагнаць*) *-ю, -іш, пераходны.* Нагналі паліцая на міну, й пётраху не засталося. Зуб.

НАГНА'ЦЬ[2] Дагнаць. Нагнаў за Вартаю (гл.). Кл.

НАГО'ДКА (*нагодка*) *жан.* Ужываецца часцей у множн. — нагодкі. Наготкі. Нагодкі ўзышлі густо. Пас. Янкі Купалы.

НАГУ'ЛЯНЫ (*нагуляны*). 1. Набыты, нарошчаны гуляючы. Нагулянае пузо на рабоце зьёдзе. Кл. 2. З назоўнікам яйка—яйка з зародкам. Кл.

НАДА'ЦЬ (*надаць*) *-м, -сі.* Набіць, надаваць. Кот вельма шкадлівы, кожны раз за правіннасць надам, а ён ні лёпшае. Кл.

НА'ДСЫР (*натсыр* і *нацсыр*). Сыравата, не зусім згатавана. Натсыр картоплі смашнейшые за развараные. Кл. Як мяса натсыр, трохі нідасмажана[е], то нічога ні зашкодзіць. Вайц.

НАДУБЕ'ЦЦА (*надубецца*) *-ю-ся, -еш-ся.* Намерзнуцца. Ужэ загане́це (карову) ў хлёў, надубеласа (на дварэ), холадно. Кл.

НАЕ'ДАК (*наёдак* і *наêдак*) *мужч.* Спажыўнасць (прадуктаў харчавання, кармоў). Етакі наёдак памідоры,—каб сала зьеў; сало ці м'ясо—дак ето наёдак. Кл.

НАЗНАРАКІ' (*назнаракі*). Знарок. Назнаракі вурваў. Сл. Гл. назнарок.

НАЗНАРО'К (*назнарóк*). Знарок. Назнарóк так сказáў. Сл. Назнарóк стаў дай (дый) стáю. Вольн. Гл. назнаракí.

НА'ЙМІЧКА (*нáймічка*) *жан.* Наймітка. Калі за нáймічку булá, дóўжан заплацíць; калі за мíлую, дóўжан чóбаты пашы́ць. Вершаванае апавяданне. Кл.

НАЙПЯРВЕ'Й (*найпярвéй, найп[е]рвéй*). Прыслоўе. Найлепш. Найпярвéй—каб сам ты схадзíў. Кл. Параўн.: найпярвéйшы (гл.). Параўн.: чэшскае najperve—перш за ўсё.

НАЙПЯРВЕ'ЙШЫ (*арф.*). Прыметнік, форма найвышэйшай ступені. Найлепшы. Найпярвéйшы (чалавек) з вáмі не ўрáдзіць (гл. урадзіць). Кл.

НАКАПА'ЦЬ Гл. капáць.

НАКІДА'ННІК (*накідáньнік*). *мужч.* Той, хто накідае (сена, салому, гной на воз). А дзé ж ваш накідáньнік? Адны́м воз ця́жка наклáсьці. Кл.

НАКРО'ІЦЬ (*накрóйіць*) *II спраж.* (*-ою, -оіш*). 1. Нарэзаць (пра хлеб). Чаму́ мáло хлéба накрóйіў? Кл. Накрóйце, тáта, хлéба. Кл. 2. Накроіць (кравецкае). Сам (майстар) накрóйіць, а шы́юць дз[е]вачкí. Баян. Параўн.: чэшскае nakrájeti—нарэзаць.

НА'КРЫЖКІ (*нáкрыжкі*). Від дужання, барацьбы: праціўнікі абхопліваюць адзін другога так, што адна рука аказваецца пад пахаю (пад рукою) другога, а другая—на плячы. Давáй вóзьмамса нáкрыжкі. Хал.

НАКУЛЕ'ШКАЦЬ (*накулёшкаць*) *I спраж.* (*-аю, -аеш*), *пераходны.* Набіць, але не моцна, без асаблівай злосці. Кл.

НАЛА'ПІЦЬ (*налáпіць*) *II спраж.* (*-плю, -п-іш*), *пераходны.* Залапіць, залатаць, калі латка (лата) накладаецца зверху. Мêх налáпіла. Кл.

НАЛІ'СНІК (*налісьнік*) *мужч.* Блінчык (тонкі) з пшанічнае мукі. Такíх смáчных налісьнікаў з двáццаць мóжна зьéсьці. Пас. Янкі Купалы.

НА'ЛІХА (*нáліхо(а)*. Ужываецца, як і нáпусто(а), ва ўстойлівым спалучэнні: Дварý твайму нáліхо да нáпусто. Кл. Параўн.: Налíхо мне такáя хéўра? Кл.

НАМАНІ'ЦЬ (*наманíць*) *II спраж.* Гл. маніць. Наманíў на ўсíх (нагаварыў няпраўды на другіх). Пас. Янкі Купалы. Наманíў, што й у карóбку ні зьбярэ́ш. Кл.

НАМАРСКА'ЦЦА (*намарскáцца*) *I спраж,* (*-аю-ся, -аеш-ся*). Напрацавацца; затраціць многа сілы на такой працы, як касьба, капанне канавы, ямы і мець неадкладную патрэбу пад'есці—папоўніць сілы. Пóкуль сóнячко ўзнялóсо, дак ён ужэ намарскáўса й сьнéдаць прышоў. Кл. Параўн.: вымарскацца (гл.). Параўн.: чэшскае mrskati—біць, хвастаць, сцябаць; mrsknouti—хвасянуць, сцебануць, выцяць.

НАМЕ'ТКА (*намéтка*) *жан.* Пазнавальны знак (напрыклад, на вуху ў авечкі, на лапцы ў гусі). Вазьмí да намéтку зрабí. Кл.

НАМУЛІЦЬ (*намýліць* і *намулíць*) *II спраж.* Намуляць, сцерці нагу, бок чым-небудзь. Далéка йці, каб нôг ні намýліў. Сл. Намуліў рýку: дзяржáньне такóе нідóбрае. Кл. Гл. мульмó.

НАПАВІДО'ЦЫ (*напавідóцэ, напавідóц*[э], часам *напавідоцы*). Прыслоўе. У полі зроку; так, што відаць, бачна. Хай хóдзіць тавáр напавідóцэ. Кл. Параўн.: widok—светлая, адкрытая мясціна. А. Селішчаў, Старославянский язык, II, стар. 63.

НАПАДБУКРО'ЙВАЦЬ (*напудбукрóйваць, нападбукрóйваць*) *I спраж.* (*-аю, -аеш*), *пераходны.* Нападбухторваць (таксама ўжываецца), нападгаворваць. Нападбукрóйвалі п'ýных паліцáяў, дак тые валацýгі (паліцэйскія) й давáй спаганяць чагó ні було́. Кл.

НАПАДО'РВАЦЬ (*нападóрваць* і *нападвóрваць*) *I спраж.* (*-аю, -аеш*). Навыворваць барознаў бульбы, буракоў. Ужэ́ нападóрвалі (барознаў) з двáццаць. Кл. Гл. падорваць.

НАПА'ШКІ (*напáшкі*). Ужываецца пры дзеясловах надзець, накінуць, апрануць (верхняе адзенне). Надзець напашкі—надзець (накінуць) толькі на плечы. Хварсýн той напáшкі нóсіць піжáк. Кл. Хоць напáшкі ўскінь што. Барб. Параўн.: ускінуўшы на апашкі паліто. А. Чарнышэвіч, Світанне, 1957, стар. 40.

НАПЕ'РЫЦЬ (*напéрыць*). Гл. перыць. Вот напéрылі твайго Хвéдара. Кл. Параўн.: напярыць. Радашковічы.

НАПРО'СТ (*арф.*). Ужываецца з дзеясло-

вам жаць; жаць напрост—жаць і не звязваць у снапы, а рассцілаць жменькамі. Кл.

НАПРО'ЦІ (*напро́ці*). Насупраць. Стаў напро́ці й стайі́ць. Кл. Параўн.: чэшскае naproti—насупраць.

НА'ПУСТА (*на́пусто(а)*. Ужываецца, як і прыслоўе на́ліхо(а), ва ўстойлівым спалучэнні: Дварў тваймў на́ліхо да на́пусто. Кл.

НАПУ'ШЫЦЦА (*напу́шыцца*). Гл. пу́шыцца. Напу́шыцца й хо́дзіць, дзень маўчы́ць. Кл.

НАПЯРЭ'СЦІКІ (*напярэ́сьцікі, нап[е]рэ́сьцікі*). Напярэсцігі, наўпрасткі, карацейшым шляхам, наперарэз (ісці, бегчы). Бяжы напярэ́сцікі (*арф.*). Кл. Параўн.: напрасцік. А. Чарнышэвіч, Світанне, 1957, стар. 73. Параўн.: напярэсцігі. Карэліцкі раён. Параўн.: (кветкі) напярэсцігі кланяліся і заклікалі спыніцца палюбавацца. Я. Скрыган, Наталя, 1957, стар. 27.

НАРАЎЦЭ' (*нараўцэ́*) *ніяк.* Сустрэта толькі ў прыказцы: Дзе сяльцэ́, там і нараўцэ́. Зуб., Сл., Кас.

НАСІ'ЛА (*насіла*) *жан.* Гладка абструганая яловая жэрдка; на дзвюх насілах носяць копы на грузкай (гл.) сенажаці. Узя́лі насі́лы й пашлі́ ко́пы насі́ць. Хал.

НА'СКІ (*на́скі, на́ські*). Прыметнік ад займенніка *наш.* На́ськіе гаво́раць (слухаючы радыё). Кл.

НАСТО'ЙНІК (*насто́йнік* і *насто̂йнік*) *мужч.* Судзіна на 2—5 літраў, у якой адстойваецца малако (аддзяляюцца вяршкі). Кл

НАСТРА́МАК (*настра́мак*) *мужч.* Невялічкі, меншы за каляснік (гл.) воз (сена, канюшыны, саломы). Настра́мкаў тры паткіну́лі вам. Байл. На дзе́нь цялятам настра́мак се́на. Кл.

НАТАСАВА́ЦЬ (*натасава́ць*). Зак. тр. ад тасаваць. Кл.

НАЎЗДАВА́ЦЬ (*наўздава́ць*) *I спраж.* (*-аю, -аеш*), *непераходны*. Набіць, наўскладаць (гл.), накулешкаць (гл.), усыпаць. Што б здагна́ў, то ні дарава́ў бы, ото́ наўздава́ў бы. Кл.

НАЎЗДАГО́Н (*наўздаго́н*). Ужываецца пры дзеясловах ісці, ехаць. Кіда́йма, ўсе й бяжэ́м наўздаго́н, мо шчэ здаго́нім дзель на пасе́лку. Пас. Я́нкі Купалы. Слова наўздагон у такім самым значэнні адзначыў некалькі разоў у г. Мсціславе.

НА́ЎЗНАЧ (*на́ўзнач*). Дагары (упасці, плысці). На́ўзнач упала. Кл.

НА́ЎСКАЧ (*на́ўскач*). Параўн.: рускае вскачь. На́ўскач папе́рліся на вы́ган. Кл. Баюса на́ўскач,—давай трушко́м. Байл.

НАЎСКЛАДА́ЦЬ (*наўскла́даць* і *наўсклада́ць*) *I спраж.* (*-аю, -аеш*). Набіць, наўздаваць (гл.), накулешкаць (гл.), усыпаць. Раз злаві́лі зло́дзея, ну й білі, до́бра наўскла́далі. Барб.

НАЦІ́НА (*наці́на*) *жан.* Наці́ну ву́гнало на ро́ст чалаве́ка, а карто́плі—арахі́. Кл.

НАЦЯ́ГІЧ (*нацягіч*) *мужч.* Бандарская прылада, якой карыстаюцца, калі набіваюць (нацягваюць) абручы на бочку, цэбар. Нацягіч

трэ́ба ў каго́ль узя́ць. Кл. У на́с ка́жуць: нацягіч. Барб.

НАЧО'ЎКІ (*начо́ўкі* і *начо̂ўкі*) *толькі ў множн.* Побач і но́чвы (гл.). Барб., пас. Янкі Купалы, Кл.

НАЯЗДЖА'ЛЫ (*наяжджа́лы, на*[*е*]*жджа́лы*). Супрацьлеглае тутэйшаму—прыезджы. Ён на[е]жджа́лы. Сл. У Барбаро́ве бага́та на[е]жджа́лых, усе́ (усё) прымакі́. Барб.

НЕБАГА'ТКА (*нібага́тко(а), нябага́тко(а)*. Памяншальнае ад небагата. Я нібага́тко не́сла. Кл.

НЕБАРА'КА (*небара́ка*). Няўдалец, чалавек, якога сустракаюць няўдачы, якому спачуваюць, калі ён у бядзе. Кл., Вайц., Хал. Е́ты н[е]бара́ка Па́в[е]л,—і хво́ры, й до́ма абіжа́юць. Кл.

НЕГАДО'ЎНЫ (*нігадо́ўны* і *нігадо̂ўны*). Які (пра дзяцей, пра маладых хатніх жывёл) «не гадуецца» (хвароба, няшчасныя выпадкі і інш.). Ве́льмі хло́пчык нігадоўны. Кл.

НЕГАЛЮ'ЗНЫ (*нігалю́зны, н*[*е*]*галю́зны*). Няўклюдны (пра чалавека, жывёлу). Не́йкі нігалю́зны Ма́рйін жані́х. Барб.

НЕГАНЬБІ'ТНЫ (*ніганьбітны, неганьбітны*). 1. Паслухмяны, памяркоўны, хоць каму дапаможа. 2. Не грэблівы. Кл.

НЕДАПІ'ТКІ (*нідапіткі* і *недапіткі*) *толькі ў множн.* Рэшткі таго, што пілі. Усе̂ нідапіткі зьлілі́ таму́ п'яніцу. Пас. Янкі Купалы. Параўн.:

рускае опивки. С. І. Ожагаў, «Словарь русского языка».

НЕЗДАЛЕ′ТНЫ (*нездалé(ê)тны, ніздалé(ê)тны*). Нямоглы, фізічна слабы. Ніздалéтнаму такому. Барб. Вéльма ніздалêтны стаў. Кл.

НЕЗДАЛЕ′ЦЬ (*ніздалéць, нездалéць*) І *спраж*. Нядужаць, быць фізічна слабым, нямоглым. Ужэ ніздалéе й пчóлак даглéдз[е]ць. Барб. Сáмі як зрабéце, я нездалéю ўжэ. Хал.

НЕ′ЙДЗЕ [1] (*нéйдзе*). Недзе, дзесьці. Нéйдзе лес гарыць. Хал. Нéйдзе пашóў. Кл.

НЕ′ЙДЗЕ [2] Мусіць, мабыць. Нéйдзе ён брытву сапсавáў. Зуб.

НЕНАВІ′ДНЫ (*нінавíдны*). Ненавісны. Ужываюцца і ненавісны і ненавідны. Такíх нінавíсных, скажы бо, й дóхля ні пабрáла. Кл. Параўн.: ненавідны. К. Чорны, Збор твораў, 5, стар. 256.

НЕПЯРЭ′ЛІЎКІ (*ніпярэ́ліўкі*). Дрэнь справы; бяда будзе. Бачыць, што ніпярэ́ліўкі—да хóду. Кл. Параўн.: не піва, а пярэліўкі. Я. Брыль, Дзеля сапраўднай радасці, стар. 167.

НЕ′РВА (*нéрва, нэ́рва*) *жан.* Нерв. Нэ́рва хвóра, пэ́ньсяю прасíў. Вольн. Нéрва, сказáлі, прастýджана. Кл.

НЕЦІКА′ВЫ [1] (*ні(е)цікáвы, ні(е)цікáву*). Нецікавы. Сусíм ніцікáва кнíжка. Хал. Тáто вéдаў багатó цікáвых слоў. Кл.

НЕЦІКА′ВЫ [2] Слабы, малавартасны, ужываецца з назоўнікамі, якія абазначаюць назвы

сельскагаспадарчых, гароднінных культур або назвы хатніх жывёл. Ніцікáва мая цыбýля. Ніцікáвае парасятко, але хай жывé. Два гадьí гарбузы ніцікáву[е]. Кл.

НЕ'ШТА[1] (*нéшто, нéшта*). Нешта. Нéшта стýкнула. Кл.

НЕ'ШТА[2] Чамусьці. Нéшто ні гóніць Таця́на тавáру. Кл.

НІБУ'ТА (*нібýто* і *нібы́то*). Гл. нібыта.

НІБЫ'ТА (*нібуто, нібыто, нібыта*). Быццам, быццам бы. Яна нібýто разьдзéліць (аддзеліць ад сябе сям'ю дачкі), адáле йзноў разам. Кл.

НІВО'ДЗІН (*нівóдзін* і *нігóдзін*). Гл. нігодзін.

НІГО'ДНЕНЬКІ[1] (*нігóдняньki* і *нівóдняньki*). Памяншальнае ад нігодзін (гл.). Нігóдняньkае німа. Кл.

НІГО'ДНЕНЬКІ[2] Памяншальнае ад нягóдны. Тóе парася́ нігóднянькае, нічóго с такóго н[е]бýдзе. Барб.

НІГО'ДЗІН (*нігóдзін* і *нівóдзін*). Утворана ад ні адзін. Нівóднай сьлíўкі німá. Барб. Нігóдзін сын ні прышóў з вайны́. Кл.

НІЧАГЕ'НЬКІ (*нічагéнькі*). Памяншальнае ад нічога. Нічагéнькі ні купíла. Барб.

НІЧО'ГІ (*нічóгі*). Прыметнік ад нічóга. Слабы, малавартасны (пра неадушаўлёныя прадметы), слабы здароўем (аб чалавеку, жывёле). Нічóгі лён наш (Кл.)—слабы, неўрадлівы лён.

Нічо́гае, ба́цька, дзіця́ на́шае, трэ́ба г доктару. Барб.

НІШТО′ [1] (*нішто́*). Нішто. Кл., Байл., Барб., Сл., Хал.

НІШТО′ [2] Нядрэнны, зусім нядрэнны, нядрэнна.—Ці до́бру ха́ту зрабілі?—Нішто. Зуб. Ду́мала зь естаго кабана́ нічо́га ні бу́дзе, а ён нішто́ ву́рас, то́ўсты, са́ла з нас—па са́мае го́рло. Кл. Ці шчэ стары́ ваш ро́біць што, ні асла́б?—Не, нішто́ йшчэ, йшчэ ры́бу ло́віць. Хал.

НІШЧЫ′МНІЦА (*нішчы́мніца*) *жан., толькі ў адз.* Посніца. У во́йну нішчы́мніца була́, дак захварэ́ў на беркулёз дай (дый) пам'ёр. Касар.

НІШЧЫ′МНЫ (*нішчы́мны*). Посны. На нішчы́мным шча́ўлі ні нако́сіш, трэ́ба са́ла сква́рку. Сл.

НО′САЛЬ (*но́саль*). Назоўнік мужч. роду. Зневажальнае. З вялікім носам. Кл., пас. Янкі Купалы.

НО′ССАМ Ужываецца пры дзеяслове біць і яго сінонімах (выцяць, тасаваць і інш.). Но́ссам біў — біў нагою, наском бота (Кл.). У м. Глуск, у в. Вайцяхоў—насцако́м.

НО′ЧВЫ (*но́чву* і *но́чвы, но̂чву* і *но̂чвы*) *толькі ў множн.* Побач—начо́ўкі. Кл., пас. Янкі Купалы, Барб. Параўн.: начва́ч. Карэліцкі раён.

НЯБО′ГА (*нябо́га, н[е]бо́га*) *жан.* Пляменніца. Зуб., Хал., Сл., Кас., Кл.

НЯБО′Ж (*нябо́ж, н[е]бо́ж*). Пляменнік. Зуб., Хал., Сл., Кас., Кл.

НЯДУ'ЖЫ (*нідўжы, нядўжы*). Хворы; часцей—не цяжка хворы. Не́што нядўжы, чацьвóрты дзень кáшляе. Кл. Параўн.: занядўжаць (гл.). Параўн.: чэшскае nedůživy—хворы, хваравіты.

НЯЛЮ'ДСКІ (*нялюдзкі*). Дрэнны, не такі—як трэба, не такі—як звычайна. Ён ве́льмі нялю́дзкі быў (аб чалавеку). От не́йка нілю́дзка карóва, заўсе́ды трэ́ба йці па ее́, нікóлі самá дадóму ні йдзе́. Нілю́дзка пе́чка, дыміць. Кл. Ні мóжно лю́дзкае клáдкі паклáсьці? Дак не́йку крывўлю паклáлі, — хібá гóлаву скруціць на ёй. Кл.

НЯМАВЕ'ДАМА (*німаве́дама, н[е]маве́дама*). З «няма вядома». Невядома, нямаладу (гл.). Німаве́дама кудьí закобалі. Кл. Н[е]маве́дама аткўль узя́лі е́ту пôзву. Кл.

НЯМАЛА'ДУ(*німалáду*). З «няма ладу». Німалáду—невядома. Ужываецца ў спалучэннях: Німалáду што рабіць. Німалáду дзе шукáць. Німалáду кагó прасіць. Німалáду як рáды даць. Німалáду за штó ўспаў на нáс. Кл. Нямалáду дзе й брáць усе́. Сым.

НЯМА'ШАКА (*німáшака, нямáшака*). Няма. Кл., Зуб., Сл., Поб., Байл., Барб., Вайц.

НЯПЕ'ЎНЫ (*н[е]пе́ўны, непе́ўны, ніпе́ўны*). Што і нецікавы. Ніпе́ўна пшаніца, але трóхі бўдзе. Н[е]пе́ўнае сáло. Кл.

НЯПРА'ЎДЗІЦЬ (*ніпрáўдзіць*) *II спраж.* (*-дж-у, -дз-іш*). Зняпраўджваць (параўн.: часам у публіцыстыцы—скажáць), расказваць не

па праўдзе, не так, як было сапраўды. То нанiпра́ўдзiў богве́д (абы) чаго́, а тагды́ ла́шчыцца прышоў. Кл.

НЯРО'Т *(нярóт, н[е]рóт) мужч.* Нерат. Барб., Зуб., Хал., Кл. Як у нярóт: нi ўза́д, нi ўпярóд *(арф.)*. Кл.

НЯЎМЕ'КА *(нiўмéка, няўмéка). агульн.* Нiўмека ты. Няўмéка та́я. Кл.

## П.

ПАБЕ'ГАЦЬ[1] *(пабéгаць* i *пабêгаць)*. Зак. тр. ад бегаць. Пабегаць. Кл.

ПАБЕ'ГАЦЬ[2] Зак. тр. ад бегаць. Пакрыцца (аб карове). На́ша карóва нi пабéгала, малака́ нi бу́дзе. Вайц. У гэтым значэннi ўжываецца папалявала (гл.).

ПАБI'ЦЦА[1] *I спраж.* Пабiцца. Кл.

ПАБI'ЦЦА[2] Пакрыцца (толькi аб кабыле). Кл.

ПАБО'ЛЬШАЦЬ *(пабóльшаць, пабôльшаць) I спраж. (-аю, -аеш)*. Павялiчыцца, падрасцi. Трóшкi пабóльшала нôч. Барб. За зíму нi пабóльшаў наш Вiця. Зуб. Вада́ пабóльшала ў рацэ́ (прыбыла). Кл.

ПАБО'ЛЬШЫЦЬ *(пабóльшыць, пабôльшыць) II спраж. (-у, -ыш), пераходны.* Павялiчыць. Трэ́ба агóнь у ля́мпе пабóльшыць. Н.-Андр.

ПАВАЛI'ЦЦА[1] *(павалíцца) II спраж. (-юся, -iшся)*. Паваліцца, упасцi. Там павалíцца мóжна, га́нкi круты́[е]. Поб.

ПАВАЛІ'ЦЦА[2] Злегчы, цяжка захварэць, быць у безнадзейным становішчы, памерці. Гарýе, пóкуль сусíм не павáліцца. Байл. Трэ́ба глядзéць сябé, а то без пары́ павáлішся *(арф.)*. Барб.

ПАГЛУМІ'ЦЬ Гл. глуміць. Кл.

ПАГО'Н *(пагóн* і *пагôн) мужч.* Месца прагону жывёлы (праз поле, сенажаць). Там пагóн зрабілі. Барб. Хібá пагóн тут? Кл.

ПАГУ'КАЦЦА *(пагýкацца) I спраж.* Пакрыцца (аб свінні). Кл.

ПАГУКА'ЦЬ Гл. гукаць. Я пагукáла йіх. Кл.

ПАДАВА'ННІК *(падавáньнік) мужч.* Той, хто падае на стог, воз, скірду (сена, салому, снапы). Падавáньнікаў прышлí нам. Пас. Янкі Купалы.

ПАДАРА'ЦЬ *(падарáць) I спраж. (-у, -эш), пераходны.* Гл. падорваць, нападорваць. Сёні падóрваю, а зáўтра за сваê картóплі. Байл. Мо дзéсяць баразьнê падарáў. Кл.

ПАДАТКНУ'ЦЬ *(падáткнуць) I спраж. (-у, -еш)*. 1. Падаткнуць. 2. Ціхенька, па-здрадніцку падказаць (пра каго-небудзь), выдаць. Хтоль штоль падаткнé, дак тады́ кры́ку пóўна хáта. Кл.

ПАДБУКРО'ІЦЬ *(падбукрóйіць* і *пудбукрóйіць) II спраж. (-ою, -оіш), пераходны.* Падгаварыць, падбухторыць (ужываецца і падбухторыць). Каб ні пудбукрóйілі бальшуны́, то ён ні зрабíў бу так. Кл.

ПАДБУКРО'ЙВАЦЬ (*пудбукро́йваць* і *падбукро́йваць*) *I спраж.* (*-аю, -аеш*), *пераходны.* Падгаворваць, падбухторваць (ужываецца і падбухторваць). Ня трэ́ба падбукро́йваць дзіця́. Кл.

ПАДВАЛІ'НА (*падваліна* і *пудваліна*) *жан.* Падваліны—брусы, на якія насцілаецца падлога. Падвалі́на сагнілá. Вільча. Тры падвалі́ны дубо́вы[е]. Вайц.

ПАДГЛЯ'ДАЦЬ [1] Падглядаць. Кл.

ПАДГЛЯ'ДАЦЬ [2] *I спраж.* (*-аю, -аеш*). Паглядзець і дастаць (з нератаў) рыбу. Хо́дзіць да падгля́дае чужы́[е] няро́ты. Барб.

ПАДДЗЕ'ЎКА (*падзьдзе́ўка* і *пудзьдзе́ўка*) *жан.* Кароткая верхняя цёплая вопратка. Падзьдзе́ўку купі́ла. Сл.

ПАДЗЁ'ННІК (*падзё́ньнік*) *мужч.* Падпасак, які вылучаўся па чарзе на дапамогу пастуху. Пастухá наймáлі, а памагáтаго—падзё́ньніка—даваáлі па чарзê, чыя́ чаргá, той і падзё́ньніка дае́. Кл. Гл. падпасіч.

ПАДЗІ'РВАЦЬ (*падзірваць*) *I спраж.* (*-аю, -аеш*). Падглядаць (ужываюцца абодва словы: падзірваць і падглядаць). П[е]растáнь падзі́рваць (у гульні́). Кл.

ПАДЛА'СІЦА (*арф.*). Ласка. Часцей—лáсіца (гл.). Кл.

ПАДМАЎЛЯ'ЦЬ (*падмаўля́ць* і *пудмаўля́ць*) *I спраж.* (*-яю, -яеш*), *пераходны.* Падгаворваць, падбіваць. Яны́ пілí і гуля́лі, чарнабро́ву падмаўля́лі. Вершаванае апавяданне. Кл.

ПАДМЁ'ТАК (пудм'ётак, падмётак) мужч. Падносак. Часцей—падносак, прычым у множн. (падноскі). Падмёткі купіў. Вайц. Параўн.: рускае подметка—*жан.*

ПАДНО'САК Падмётак. Падно̂скаў ні нашо́ў на база́ры. Хал. Ты й падно̂скаў майіх ні ва́рты. Кл.

ПАДО'РВАЦЬ (*падо́рваць* і *падво́рваць*). *I спраж. (-аю, -аеш)*. Выворваць барозны бульбы, буракоў. Мікала́й падо́рвае до́бра. Н.-Андр. Я вазі́ў (бульбу), а ты падво́рваў. Кл.

ПАДПА'СІЧ *(арф.) мужч.* Падпасак, які вылучаўся па чарзе на дапамогу пастуху. Кл. Гл. падзённік.

ПАДПА'ШКІ (*патпа́шкі* і *путпа́шкі*). 1. Від дужання, барацьбы, калі адзін бярэ другога пад рукі (падпашкі). Патпа́шкі й я цябе апсаджу́. Кл. Тое, што і падсілу (гл.). 2. Узяць (абхапіць) каго-небудзь пад рукі. Кл.

ПАДПРА'ЖНАЯ (*патпра́жна*). Прыметнік. Тая навойка (гл.), на якую навіваецца аснова. Кл. Параўн.: навой *(мужч.)*. Дрыбінскі раён.

ПАДРУБІ'НА (*падрубі́на* і *пудрубі́на*) *жан.* Подруб—першы вянок хаты, які кладзецца на штандары. Падрубіна—адно з 4 бярвенняў подрубу. Падрубі́н дзьве прыўёз. Кл.

ПАДРУ'ЧНЫ (*падру́чны, пудру́чны*). Падручны вол—той з двух, які «пад рукою», злева (калі быць за валамі, ззаду за імі). Параўн.: ралейны. Рале́йнаго трэ́ба крапчэ́йшаго вала́.

Байл. Ралéйны трэ́ба каб разумнéйшы буў за падру́чнага. Кл.

ПАДСА'КА (*патса́ка* і *путса́ка*) *жан.* Рыбацкая прылада—сетка, нацягнутая на асадку, якая нагадвае палову разрэзанага конуса. Хадзілі на ры́бу с патса́каю. Н.-Андр. У патса́ку самка́ й я́зя ўвагна́лі. Кл.

ПАДСІ'ЛУ (*патсілу, пацьсілу, путсілу, пуцьсілу*). 1. Від дужання, барацьбы. Тое, што і падпашкі (гл.). Міша ж мéншы й слабéйшы, то вы патсілу бо́райцяся, а на́крыжкі ні на пра́ўду. Кл. Пацьсілу й я гра́кну тако́го. Байл. 2. Узяць падсілу—узяць пад рукі. Тое, што і падпашкі (гл.). Дай я патсілу вазьму́. Байл.

ПАДУ'ШЧАНІК (*паду́шчанік*) *мужч.* Навалачка. Надзéла но́вы паду́шчанік. Хал. Паду́шчанік ці нава́лачка, дак то́е са́мае. Кл.

ПАДЦІКАВА'ЦЬ (*пацьцікава́ць, пуцьцікава́ць*) *I спраж.* (*-ую, -уеш*), *пераходны.* Падпільнаваць. Ужываюцца абодва словы. Трэба пацьцікава́ць йіх (дзікіх свіней). Сл.

ПА'ЖА (*па́жа*) *жан.* Паша. У на́с до́бра па́жа. Кл.

ПАЖАРНІ'ЦА (*пажарніца*) *жан.* Расліна, расце ў хваёвым лесе пасля пажару, на лясным пажарышчы. Пажарніцы ко́ні ні хо́чуць есьці. Кл.

ПАЗАЛЕ'ТАСЬ (*пазалéтась*). У пазамінулым годзе, тры гады назад. Параўн.: залéтась. Кл., Зуб. Пазалéтась купіла. Зуб.

ПАЗАПРАЦО'ЎВАЦЦА (*пазапрацо́ўвацца*) *I спраж.* Му ж пазапрацо́ўваліса. Кл.

ПАЗДАРО'ЎКАЦЦА (*паздаро́ўкацца*) *I спраж.* (*-аю -ся, -ае -шся*). Ён ніганьбітны, пры́йдзе й за ру́ку паздаро́ўкаяцца. Кл.

ПАЗІРНУ'ЦЬ (*пазірну́ць*) *I спраж.* (*-еш, -уць*). Глянуць. Пазірну́лі да ху́цянько пашлі. Кл.

ПАЗО'РНЫ (*пазо́рны, пазốрны*). Вартасны на выгляд, прыгожы на выгляд. Пазо́рну каро́ву купіў, да што ж—далікáтна, ні ў нас ёй пáсьціцца. Дак. Каро́ва на від пазốрна ве́льмі. Кл.

ПАКЛАДА'ЦЬ (*пакладáць*) *I спраж.* (*-аю, -аеш*), *пераходны.* Кастрыраваць. Кл. Гл. спакладаць, спакладаны, валашаць, звалашаны.

ПАКУ'ШТАВАЦЬ (*паку́штаваць, паку́штуваць*) *I спраж.* (*-ую, -уеш*), *пераходны.* Дробненька стукаючы яйкам аб зубы, вызначыць, ці моцнае яно. Даўне́й на пáску ў біткі гуля́лі; перш чым гуля́ць у біткі, трэ́ба паку́штуваць. Барб.

ПАЛА'ТКІ (*палáткі*) *толькі ў множн.* 1. Насціл з дошак пры печы, звычайна над полам (гл. пол) пры глухой сцяне; палаткі—для сну, адпачынку. Цяпер—сустракаюцца рэдка. На палáтках сьпíцца лêпш, на пе́чы гóрач[э]. Кл.

ПАЛЕ'ГЛЫ (*пале́глы*). Жы́то ніпале́глае. Сл. Пале́глы (ячмень) ця́жко жаць. Кл.

ПАЛЕ'ТКУ (*пале́(ê)тку*). Улетку, летам. Ужываецца побач з уле́тку і летам. Пале́т-

ку назьбіра́ла, й до́брэ. Кл. Пале́тку булі́ тут. Зуб.

ПАЛО'К (*пало́к*) *мужч.* Памяншальнае ад пол (гл.), невялічкі пол. Мы вы́кінам свôй пало́к, на чо́рта ён? Кл.

ПАЛУ'ДНАВАЦЬ (*палу́днаваць* і *палу́днуваць*) *I спраж.* (*-ую, -уеш*). Абедаць. Хадзе́м, ба́бо, палу́днуваць. Кл. Хіба й ні палуднуваць праз вас? Барб.

ПАЛЬНІ'ЦА (*пальні́ца*) *жан.* Дошка з полу (гл. пол). Пальні́цы сухі́е, лё́гкіе, ле́пшые за но́вые до́шкі. Кл.

ПАЛЯВА'ЦЬ[1] (*палява́ць*) *I спраж.* (*-юю, -юеш*). Паляваць. А дзе паляв́алі? Кл.

ПАЛЯВА'ЦЬ[2] Пакрыва́цца (толькі пра карову), бе́гаць (гл. бегаць[2]). Ба́бо, ваша каро́ва палю́е. Сьвіньня́ гу́ка[е]цца (гл.), а каро́ва палю́е. Кл.

ПАМАГА'ТЫ (*памага́ты*). Субстантаванае слова (параўн.: араты). Памочнік; той, хто дапамагае. Пастуха́, найма́лі, а памага́таго... давалі па чарзê. Кл. Тако́го памага́таго й н[е] трэ́ба тут. Кл. Параўн.: памага́ч.

ПАМАГА'Ч (*памага́ч*) *мужч.* Памочнік. Іду́ к вам за памагача́. Кл. Параўн.: памага́ты (гл.). Параўн.: чэшскае pomahač—памочнік.

ПАМА'ЛЕЧКУ[1] (*пама́ля*[*е*]*чку* і *пама́ле́чку*). Паціхеньку. Пама́лячку тэ́пае (пра старога). Кл.

ПАМА'ЛЕЧКУ[2] Патрошку. Ве́льма памалячку êсь. Кл.

ПАМАНІ'ЦЬ. Гл. маніць.

ПАМАСНІ'ЦА *(памасьніца) жан.* Дошка падлогі. У гэтым значэнні—і масніца. Памасьніцы л[е] парóгу пагнілí. Барб. Гл. масніца, цясніца.

ПАМЕ'ЦЦА *(памéцца) І спраж.* Сустрэта толькі ў форме прошлага часу (памéўся, памéліся). Намерыцца, што-небудзь паабяцаць, дакляраваць. Былá й памéласа, адáле назáд. Кл.

ПАМІДО'РА *(памідóра) жан.* Параўн.: рускае помидор (мужч. род). Я памідóраю ні пад'ём. Пас. Янкі Купалы. За памідóраю гóніцца. Кл. Параўн.: памідорына. Ветрынскі раён.

ПАМЯНТА'ШЫЦЬ *(арф.) ІІ спраж. (-у, -ыш).* Павастрыць мянташкаю касу. Кл.

ПАНАЖЫ' *(памнажэ́(э̂). толькі ў множн.* Частка ткацкага варштата; дошчачкі, адны канцы якіх ляжаць на падлозе, другія—падняты і падвязаны да нітоў. Панажэ́ дастáнь. Кл. Ёто панажэ́. Зуб.

ПАНАРА'ВІЦЦА *(панарáвіцца) ІІ спраж.* Спадабацца. Калі мне там панарáвіцца, той ні жджы́ дадóму. Вільча.

ПАНАРАВІ'ЦЬ *(панаравіць) ІІ спраж. (-ўлю, -іш).* Пачакаць. Панаравéце, зáраз пры-н[е]сé зéркало. Касар.

ПАНІМА'ТНЫ *(панімáтны).* Пра чалавека, які добра разумее (у навуцы, у вытворчасці). Параўн.: рускае понимающий. Ніпанімáтна, тупáя дзéўка нáша. Хал. О! Ён панімáтны хлапчýк і ў навýцэ, й у рабóце. Кл.

ПАПАЛУ'ДНАВАЦЬ (*папалўднаваць* і *папалўднуваць*) *I спраж.* (*-ую, -уеш*). Паабедаць. Папалўднаваць каб, дай е́хаць. Барб. Папалўднаваць мо́жна й пасьле́й. Кл. Гл. палўднаваць.

ПАПАЛЯВА'ЦЬ [1] Гл. паляваць [1]. Кл.

ПАПАЛЯВА'ЦЬ [2] (*арф.*) *I спраж., неперaходны.* Гл. паляваць [2]. Нядо́бра, як папалю́е (карова) ра́на, тады за зі́му малако́ ады́йдзе, а ле́та ўсё без малака (ацеліцца ўвосень ці ў пачатку зімы) (*арф.*). Пас. Янкі Купалы.

ПАПАПЕРЫЦЬ (*папаперыць*). *Шматкратны, II спраж.* (*-у, -ыш*), *пераходны.* Гл. Перыць. Што́ ні гна́ў, што́ ні гна́ў—і ні ўвагна́ў (карову ў рэчку); так папапе́рыў, што ўся на пісяго́х ста́ла. Кл.

ПАПА'РЫНА (*папа́рына*) *зборны, жан.* Расліннасць на папары. Папа́рыну до́бра е̂сь каро́ва. Кл.

ПАПАТА'ЛАВАЦЬ (*папата́лаваць* і *папата́луваць*). *Шматкратны, I спраж.* (*-ую, -уеш*), *пераходны.* Гл. талаваць. Бе̂дну папата́лавалі паліца́йі. Байл.

ПАПІХА'ЙЛА (*папіха́йло* і *папіха́йла*). Зневажальнае. Ётакі жані́х, папіха́йло не́йкае. Байл.

ПА'ПЛІСКА (*па́пліска*) *жан.* Палка. Па́пліскаю ву́ц[е]ў. Барб. Хоць па́пліску вазьмі́. Кл. Параўн.: папліска—тонкая жардзіна, якая накладаецца на разасланую кулявую салому і прывязваецца да латы (гл. лата). Карэліцкі раён. Параўн.: по́шва, по́швіна (гл.).

ПАПУ'ША (*папу́ша*) *жан.* Скрутак тытуню (лісця). Цэ́лу папу́шу дала́. Пас. Янкі Купалы. Папу́ш два́ццаць на зі́му нагатава́ў. Кл.

ПА'РАНКА (*па́ранка*) *жан., толькі ў адз.* Спецыяльна прыгатаваны для коровы корм: колас (гл. колас[2]), сечка, або рэзка (гл. рэзка), мякіна, залітая варам. Па́ранка асты́ла, мо́жно не́сьці. Барб.

ПАРУШО'К (*парушо́к*) *мужч.* Парушынка. Ужываюцца абодва словы. Парушо́к ву́ймі мне з во́ка. Барб.

ПАРЭ'БРЫНА (*парэ́брына*) *жан.* Рабро з мясам, рабрынка. Капу́ста с парэ́брынаю смашне́йша. Пас. Янкі Купалы. Парэ́брыну ўкі́нула ў кру́пнік. Кл.

ПА'СКА (*па́ска*). Пасха. Барб., Хал., Кл.

ПАСТАНАВІ'ЦЬ[1] (*пастанаві́ць*) *II спраж.* (*-ўлю́, -віш*). 1. Пастанавіць, парашыць (напрыклад, на сходзе). Кл., Байл. 2. Прызначыць (каго-небудзь на якую-небудзь пасаду). За брыгадзі́ра пастанаві́лі. Пас. Янкі Купалы. Пастанаві́лі збачо́м. Кл.

ПАСТАНАВІ'ЦЬ[2] Паставіць (што-небудзь). Ужываецца паставіць і пастанавіць. Пастанаві́ла ў се́нцах. Кл.

ПАСТАНАВІ'ЦЬ[3] Пабудаваць. Хамі́ха пастанаві́ла сабе́ ха́ту. Кл.

ПАСТА'Ў (*паста́ў*) *мужч.* Скрутак, вялікі кавалак сукна. Ка́жуць у нас: паста́ў, ну, цэ́лы паста́ў. Кл.

ПАСТАЎНЯ′ *(пастаўня́) жан.* Рыбацкая прылада—вудачка, наматаная на рагульку (вілачку). Параўн.: рускае жерлица. Пастаўню́ днём ні ста́ў,—на нôч. Кл. Гл. старожня.

ПАСТРО′ЙКА *(пастро́йка* і *пастрôйка) жан.* Будынак, а таксама як зборны назоўнік, у значэнні будынкі, страенне (гл.).

ПАТА′ЛАВАЦЬ *(пата́лаваць* і *пата́луваць) I спраж. (-ую -уеш), пераходны.* Гл. талаваць. Такі́ буў гад, што й глядзе́ў, штоб пата́луваць каго́. Кл.

ПАТКНУ′ЦЬ *(паткну́ць) I спраж. (-у, -еш), пераходны.* Гл. патыкаць. Паткну́ць, дак ён злуе́. Кл.

ПАТО′М [1] *(пато́м* і *по́тым).* Прыслоўе. Потым. Пато́м схаджу́. Зуб.

ПАТО′М [2] Часціца. Але, але ж, усё ж, аднак, а ўсё ж. Нашко́дзілі (дзеці) да сказа́лі, што ні хадзі́цьмам, а пато́м (але ж) прышлі́: ску́чылі. Кл.

ПАТЫКА′ЦЦА *(патыка́цца) I спраж. (-аю-ся, -аеш-ся).* Дражніцца, жартаваць. Патыка́юцца сабра́ўшыся, хіба́ ву́чацца? Кл. Хіба́ ён напра́ўду гавары́ў? Ён патыка́уса. Кл. Параўн.: потыкати ся—спотыкаться, заблуждаться. С. П. Абнорскі і С. Г. Бархудараў, Хрестоматия по истории русского языка, ч. 1, 1952, стар. 381.

ПАТЫКА′ЦЬ *(патыка́ць) I спраж. (-аю, -аеш), пераходны.* Дражніць, злаваць (каго-небудзь). Патыка́лі саба́ку. Барб. Патыка́юць,

дак ён злуе́. Кл. Ні патыка́й бугая́, бо да́сь Барб.

ПАЎДУ'ЛЬКА (*паўду́лька*) *жан.* Груша-дзічка, на якой растуць смачнейшыя і большыя грушы, як звычайна бываюць на дзічках. Ва́ша паўду́лька сасхла́. Кл. На паўду́льцэ бага́то було́ што год. Кл. Параўн.: дуля.

ПАЎРО'ЗА (*паўро́за*) *жан.* Матузкі пры фартуху (іх два), якімі падвязваюць фартух. Паўро́зу атарва́ла. Байл. Дзе маê паўро́зы? (Пагроза). Кл.

ПАХА'ТНАЯ (*паха́тная*). Субстантаваны назоўнік. Што і паха́туха (гл. паха́туха). Ве́льма паха́тная. Зуб.

ПАХА'ТУХА (*паха́туха*) *жан.* Ацэначна-неадабральнае. Жанчына, якая не любіць працаваць і часта ходзіць па хатах у рабочыя і святочныя дні без справы, пасядзець, пагаварыць. Ідзе́ ўжэ та́я паха́туха. Кл.

ПА'ЦАРКІ (*па́царкі*). Каралі, пацеркі. Па́царкі расы́пала й ні пазьбіра́ла. Пас. Янкі Купалы. Гл. маністы.

ПАЦЫ'РКАЦЬ (*пацы́ркаць* і *пацырка́ць*). Падаіць карову. Пацы́ркаю каро́ўку, да й спа́ць ля́жам. Кл.

ПАЧЫ'НАК (*пачы́нак*) *мужч.* 1. Звітыя на адно верацяно два водкідкі (гл. водкідак). 2. Пераноснае. Сытае, тоўстае парася, цяля (наогул пра маладняк). Парася́та, што пачы́нкі. Кл. Параўн.: починокъ (у старажытнай мове)— выселок, поселок. С. П. Абнорскі і С. Г.

Бархударау, Хрестоматия по истории русского языка, ч. 1, 1952, стар. 381.

ПАШНЯ′ (*пашня́*) *жан.* Збажына. Пашня́ ў йіх (у в. Малінава) пастая́нна ўрадлі́ва. Кл. І пашня́ до́бра ўся, й карто́плі, як ла́ва, йдуць (растуць). Барб. Град упе́нь зьбіў пашню́. Кл.

ПЕ′КАЛЬНАЯ (*пе́кална*). Прыметнік. Ужываецца толькі ў спалучэнні з назоўнікам дзежка. Пе́кална дзе́жка—дзяжа, у якой рашчыняюць цеста на хлеб і замешваюць яго. Пе́калну дзе́жку памы́ць трэ́ба. Пе́калну аддала́, а ў ала́джчынцэ (гл.) рашчыня́ю. Кл.

ПЕ′ЛКА (*пе́лка* і *пêлка*). Памяншальнае ад пель (гл. пель). Пêлка та́я ні ву́кашана. Сл.

ПЕЛЬ (*пель* і *пêль*) *жан.* Нізіна сярод поля, звычайна круглая або авальная. У Надда́тках пель ву́кашана. Кл. Параўн.: пе́ля. Парыцкі раён.

ПЕ′ЛЬКА (*пе́лька*) *жан.* Палонка. У пе́льку ўско́чыў. Пас. Янкі Купалы. Параўн.: Ды глядзі ў палонку, сынку, не ўваліся. Я. Колас.

ПЕЛЯНА′ (*арф.*) *жан.* Ніз (спераду) кашулі, сукенкі, спадніцы. Ужываецца ў спалучэннях: сып (насып) у пеляну, несла ў пеляне, насіла пеляною. У пе́лену накла́ў я́блык. Барб. Як та́я гаспады́ня, што ў пел[е]не́ жар насі́ла. Кл.

ПЕРАБАРСА′ЦЬ (*перабарса́ць* і *пярабарса́ць*) *І спраж.* (*-аю, -аеш*), *пераходны.* Перабарсаць што-небудзь — выцягнуць абору з аднаго і зацягнуць у другі. Пажджы́: перабарса́ю й пашлі́. Хал.

ПЕРАБРО́Д (*арф.*) *мужч.* Брод (мясціна, дзе пераязджаюць рэчку). К перабро́ду йдзі й пажджы́ там. Кл.

ПЕРАВЕ́ДАЦЦА (*перавéдацца* і *перавê-дацца*). Зваротны дзеяслоў ад пераведаць (гл.). Пашла́ ў Глуск перавéдацца. Барб.

ПЕРАВЕ́ДАЦЬ (*перавéдаць* і *перавêдаць*). Наведаць (каго-небудзь), зайсці спецыяльна, каб даведацца аб жыцці-быцці. Перавéдаць зайшла́. Вільча. Трэ́ба перавêдаць свайіх (радню). Кл.

ПЕРАГАВО́РШЧЫК (*перагаво́ршчык*) *мужч.* Перакладчык. Перагаво́ршчык за грошы вýпусьціў (арыштаванага нямецкімі гестапаўцамі). Кл.

ПЕРАДО́ЙКА (*п*[*е*]*радóйка* і *пярэ́дайка*). Карова, што не «папалявала», «ніцельна» і доіцца другі год. Параўн.: ялаўка (гл.). Бува́е, што пярэ́дайка дае́ (малака) лепш за тýю, што ац[е]лíласа. У перадóйкі малакó смашнéйшае. Кл.

ПЕРАДО́ЎКА (*перадóўка* і *пярадóўка*) *мужч.* Вяз, які звязвае «галоўкі» палазоў (у санях). Вільча. Пярадóўка ні пада́сься. Вільча. Параўн.: пярэдняя.

ПЕРАЖА́БІЦЬ (*пеража́біць* і *п*[*е*]*ража́-біць*) *I спраж.* (*-бл-ю, -б-іш*). Надламаць гнучы, згінаючы (дугу, полаз, вобад), але без знешняга пералому. Дóбрые палазы́, ды (гнýчы) паглумілі, палавíна п[е]ража́бляных. Кл.

ПЕРАЛЕ́ТАВАЦЬ (*паралé(ê)таваць* і *пе-ралé(ê)туваць*) *I спраж.* (*-ую, -уеш*), *неперахоð-*

*ны.* Пражыць, прабыць лета. Пералётаваў у сына, а на зіму дадому. Кл. Хіба ето гаспадáр? Сáні пералётувалі пад дажджэ́м. Барб.

ПЕРАСМІХА'ЦЬ (*перасьміхáць* і *пярасьміхáць*) *I спраж. (-аю, -аеш), пераходны.* Дражніць, здзекліва ці жартоўна, перадаваць чыю манеру гаварыць, хадзіць і інш. Бóкі парвáць! Так ужэ перасьміхáлі да вытварáлі, сабрáўшыса. Кл.

ПЕРАСТАРЭ'ЛЫ (*перастарэ́лы*). Тата ўжэ перастарэ́лы. Зуб.

ПЕРАСЯ'ДКА (*перася́дка*) *жан.* Перасадка (на чыгуначнай станцыі). Кл., Байл.

ПЕРАХЛЯ'БІСТЫ. Худы, з вельмі ўпалым жыватом. У гэтым жа значэнні бяскішкі (гл. бяскішкі). Вéльмі перахля́бістага каня́ далí. Ці ж на ім даéдзеш? (*арф.*). Барб.

ПЕ'РУН (*пéрун*) *мужч.* Пярун. Пéрун стýкнуў. Барб. Ат пéруну згарэ́ло. Кл.

ПЕ'РЫЦЬ (*пéрыць*) *II спраж. (-у, -ыш), пераходны.* Біць. Лупцаваць. Параўн.: пярыць. Радашковічы. Загнáў у стругý (карову) й пéрыць. Байл.

ПЕ'ТРАХ (*пéтрах*) *мужч.* Вантробы. І пéтраху б не булó б. Зуб.

ПЕ'ЧЫВА (*пéчыво* і *пéчыва*) *ніяк.* Выпечка. (Тут — толькі печыва). Тваé пéчыва над усíм сялóм (найлепшае ў вёсцы). Кл. Дзьве пéчыве сьпяклá. Кл.

ПІ'ГАР (*піґар* і *пíкар*). Назва гульні, падобная да рускіх гарадкоў. Гуля́лі ў пігара. Гуля́лі ў пікара. Кл. Гл. бітка.

ПІСЯ'Г (*пісяг*) *мужч.* Крывавы доўгі след (у выглядзе палоскі) на целе каровы, быка ад удару рогам другой жывёліны; пісягамі называюць таксама крывавыя сляды ад моцных ударaў пугаю. Пісяг ц[е]раз увесь бок. Кл.

ПЛАСКУ'ХА (*пласкýха*) *жан.* Рыба, падобная да ляшча. Пласкух налавіў. Пас. Янкі Купалы.

ПЛА'ЦЦЕ (*плáцьце*) *ніяк.* 1. Бялізна. Плáцьце прáла. Кл. Плáцьце сабрáла, памýць уздýмала. Хал. 2. Побач (у адным значэнні) з сукенка. Кл., Хал., Сл., Поб.

ПЛЁ'НКА (*плёнка*) *жан.* Сіло. У плёнку злавіў сіньдзіка. Кл. Там плёнка мая́. Байл.

ПЛО'СКУНІ (*плóскуні*) *толькі ў множн.* Маніцы (мужчынскія калівы канапель). То плóскуні, а éто—маткí. Кл. Параўн.: рускае посконь. Параўн.: пасканí. Толькі ў множн. ліку. Мсціслаў.

ПЛУ'ХА (*плýха* і часцей *плáха*) *жан.* Адколаная частка бервяна, палена. Тýю плýху не прынясéш. Барб. Плáха на начóўкі дóбра. Кл.

ПО'ВАД (*пóвад*) *мужч.* Нядоўгая, досыць тоўстая і моцная вяроўка, якою залыгваюць (гл. залыгваць), злыгваюць (гл. злыгваць) валоў. На адным канцы повада ёсць вуха, якое надзяваецца на рог вала. Пóвад зьвіў. Кл. Дáйце мне аднагó пóвада. Пас. Янкі Купалы.

ПО'ГАЛАСКА (*пóгаласка*) *жан.* Рэха, пошчак. Ні ўся́кі раз пóгаласка па лéсе йдзе. Пас. Янкі Купалы. 2. Чуткі, пагалоска, (пашла) гутарка. Пашлá пóгаласка, што Кандрáт вéльмо

до́бры варажбі́т. З казкі. Кл. А нашто́ нарабі́ў по́галаскі на ўве́сь сьвет? Пас. Янкі Купалы. Пусьці́лі по́галаску, што ба́чылі пры не́мцах у Міньську. Кл. Параўн.: пошла писать губерния, понеслась молва.

ПО́ДБІЎКА (*по́дбіўка* і *по̂дбіўка*) *жан.* Падкладка ў вопратцы. По́дбіўка знасі́лася. Кл.

ПО́ДЛЕТАК (*по́длетак, по(о̂)длятак* і *по́(о̂)дл[е]так*) *мужч.* 1. Птушаня, якое крыху лятае. По́дл[е]ткаў налаві́ў. Сл. 2. Пераноснае. Дзіця дашкольнага, малодшага школьнага ўзросту, жвавае, лёгкае, шчуплае, лёгка бегае (параўн.: лятаць). Кл.

ПО́ЖАР (*по́жар*) *мужч.* Лясны пажар. По́жарам ву́каціло бага́то ле́су. Кл. Увогуле пажар—пажа́р. Кл.

ПО́ДПЛЕТКА (*по́тплятка*) *жан.* Завостраная цвёрдая (яловы сук) палачка або костка, своеасаблівае шыла, з дапамогаю якога шыюць каробку. По́тплятка жыве́ мо со́рак гады́. Кл. Параўн.: спіча́к.

ПО́ДРУБ (*по́друб* і *по̂друб*) *мужч.* Першы вянок хаты, звычайна—з дубу. Подруб кладзецца на штандары. Гл. штандара. По́друб добры прыве̂с. Вайц. По̂друб гнілы́ ўжэ. Пас. Янкі Купалы. Трэ́ба й по́друб м[е]ня́ць. Кл.

ПО́ЗНЫ (*по́зны* і *по̂зны*). Каб ні такі по́зны, то б до́бры б лу́бін быў. Вольн. Іду́ць у по́зны абе̂д ка мне́. Кл.

ПО́КАЗКА (*по́казка*) *жан.* Прыказка, байка. Стара́я ўжэ ето по́казка. Кл.

ПО'КАНКА *(поканка) жан.* Груша, яблык (часцей спелыя), у якіх лопнула скурка. А я й поканку (грушу) нашоў. Пас. Янкі Купалы.

ПОЛ *(пол* і *пôл) мужч.* Насціл з дошак, на якім спалі (цяпер палоў у хатах няма), звычайна ад печы да супрацьлеглай сцяны. Цяпер дак ложкі, ці бо караваці, а бувало—пôл, у ўсякай хаце пол. Кл. Параўн.: пальніца, палок.

ПО'ЛУДЗЕНЬ *(арф.) мужч.* Абед. А мо пара на полудзень? *(арф.).* Кл.

ПО'ЛЫМЕНЬ *(арф.) мужч.* Вялікае полымя ў печы; дровы палаюць. Сухіх дроў паклала багата, дык полымень аж у комін *(арф.).* Вайц. Параўн.: чэшскае plamen—полымя.

ПО'ПАР *(попар,* радзей *папар).* Папар. На попары добра напасьцілі тавар. Кл.

ПО'РСТКІ *(порсткі, пôрсткі).* Пра няўжыўчывага чалавека, які балюча і рэзка рэагуе на папраўкі, заўвагі ці парады. Такі порсткі ні будзь, бо хтоль выб'е такую натуру. Пас. Янкі Купалы. Вельмі порстка, й слова ні скажаш. Кл. Параўн. варавіты.

ПО'СІЛКА *(посілка* і часам *восілка) жан.* Вяровачка, дрот, скручаная лазіна на вядры, за якую носяць вядро (дужка вядра). Посілку атарвала. З дроту зрабіў посілку. Кл. Параўн.: восілка. Капыльскі раён.

ПО'ТУЛЬ *(потуль* і *патуль).* Прыслоўе месца і часу. Датуль, да таго месца, да таго часу.

По́туль ско́шана трава́. По́туль хадзіцьме, по́куль пава́ліцца. Паку́ль жыць бу́ду, пату́ль ні забу́ду. Кл.

ПОЎСЦЬ (*поўсь* і часам *поўсьць*, ва ўскосных склонах *ц* захоўваецца—поўсьцю, поўсьці і да таго падобныя) *жан., толькі ў адз.* 1. Шэрсць, якая выпала ці вырвата з каня, каровы. Параўн.: воўна (авечая), шчаціна (свіннячая). Ліня́е (конь), дак усю́ сьвіту ўрабіў у по́ўсь. Байл. По́ўсьці ла́ставачка назьбіра́ла й пане́сла. Кл. 2. Валаконцы, якія збіраюцца пад кроснамі, калі ткуць палатно, або пры апрацоўцы нітак ці кужалю. По́ўсьці пад кро́снамі цэ́лые пры́гаршчы. Вайц. Ні сукно́ (вельмі тонкае і няякаснае), а не́йка поўсь. Н.-Андр.

ПО'ШВА (*по́шва* і *пôшва*) *жан.* Пошва— і са зборным значэннем, і са значэннем адзінкавасці. Тонкая жардзінка, якая накладаецца на разасланую кулявую салому і прывязваецца віткаю (гл. вітка) да латы (гл. лата). По́шва ні ско́ра гніе. Пас. Янкі Купалы. По́шву (пошвы) трэ́ба но́выя. Кл. Параўн.: по́швіну с каро́ю ні кладзі. Вайц. Параўн.: по́швіна і па́пліска.

ПО'ШВІНА (*по́швіна* і *пôшвіна*) *жан.* Гл. пошва. По́швіну с каро́ю ні кладзі. Вайц. Параўн.: по́шва і па́пліска.

ПРА'ВЫ [1] (*арф.*). Правы (супрацьлеглы леваму). Кл., Сл.

ПРА'ВЫ [2] Драўніна (дуб, бяроза і інш.), у якой прамыя, нязвітыя валокны, роўна расколваецца. Ве́льмі пра́ваго ду́ба трэ́ба. Сл. Найдзі пра́ву бяро́зу. Кл.

ПРАГО'НЕНЫ (*прагоняны*). Дзеепрыметнік залежнага стану. Ён буў тады́ ўжэ прагоняны. Кл.

ПРАЕ'Х (*праёх* і *праêх*) *мужч.* Прарэха. Ня ўмее праяха́ зашы́ць. Кл.

ПРАКАРПА'ЦЬ (*пракарпа́ць*) *I спраж.* (*-аю, -аеш*). Ужываецца побач з пракалупаць, часцей—другое. Пракарпа́лі дзірачку ў зашы́тым мяшо́чку і гарбу́зікі вы́цягалі (*арф.*). Кл.

ПРА'ЛЛЯ (*пра́льля*). Папрадуха. Пра́льлі зьбіра́ліса на в[е]чо́ркі. Кл.

ПРАМІРО'ЎВАЦЬ (*праміро́ўваць*) *I спраж., незак. тр., пераходны.* Параўн.: у літаратурнай мове прэміраваць. (У Барбарове) се́но даю́ць, праміро́ўваюць дая́рак. Кл.

ПРАМІРО'ЎКА (*праміро́ўка* і *праміро̂ўка*) *жан.* Прэмія. Праміро́ўку даю́ць. Барб. Адзі́н год Рыго́ру далі́ маркаля́ за то́е, што буга́я до́браго ву́гадаваў,—праміро̂ўку. Кл.

ПРА'НІК (*пра́нік*) *мужч.* Прылада, якою пяру́ць (гл. праць) бялізну, абіваюць насенне лёну, часам іншых культур. Пра́ніка ні нашла́, хаце́ла лёну тро́хі абабі́ць. Пас. Янкі Купалы. Ні ўся́кае пла́цьце (гл.) пра́нікам вубіва́ць. Кл.

ПРАННЕ' (*праньне́*) *ніяк.* Ад дзеяслова праць (гл.). Тва́е праньне́ нідо́брае. Барб.

ПРАС (*прас*) *мужч.* Побач з жаля́зко і уцюг. Барб., Кл.

ПРАСТАРЭ'КА (*прастарэ́ка*) *агульн.* Па-

раўн.: няўмека, калека. Што і прастак, але абавязкова з адценнем знявагі. Кл.

ПРА'ТВА (*прáтва*) *жан.* Сталае месца на рэчцы, дзе пяру́ць (гл. праць) бялізну. Байлю́цка прáтва (байлюцка — ад назвы вёскі). Дзе прáтва, там печкурá злóвіш. Кл.

ПРА'ЎДЗІЦЦА (*прáўдзіцца*) *II спраж.* Збывацца (не збывацца), здзяйсняцца (не здзяйсняцца). Тваé (меркаванне, прагноз) нічóга (ані, ніяк) ні прáўдзіцца. Кл.

ПРАЎКО'М (*праўкóм*). Прыслоўе, ужываецца ў фразеалагічным спалучэнні з дзеясловамі стаяць, ставіць. Паставіла (шыю, спіну, чалавека) праўком—страчана ад захворвання рухомасць. Сьпіну пастáвіло праўкóм. Кл. Вось гэтак праўком стаяць і глядзець. «Полымя» № 2, 1958, стар. 90.

ПРАЦЬ (*праць*) *I спраж.* (*пяру́, пярэ́ш*), *пераходны.* Мыць (бялізну). Прáла плáцьце. Панéсла (на рэчку) плáцьце, будуць удзьвóх праць. Кл. Параўн.: пранне. Гл. апіраць.

ПРАЧЫНІ'ЦЬ (*прачыніць*) *II спраж., пераходны.* Параўн.: рускае приоткрыть (дзверы). Прачынéце дзвéра, мо ні тáк камарôў бу́дзе. Сл. Прачыні ю́шку, а то чáдно. Кл.

ПРО'ПЛАЧ (*прóплач*). З плачом, з слязьмі; параўн.: рускае сквозь слёзы. Ужываюць з дзеясловамі казаць, гаварыць і падобнымі. Ён (кажа) прóплач: дзе мáма? Кл.

ПРУГЛО' (*пруглó*) *ніяк.* Частка збудаван-

ня пры студні. Сл. У вв. Вайцяхоў, Клетнае гэтага слова няма.

ПРУ'ДКІ (*пру́дкі*). Пругкі, дужы, з жалезнымі мускуламі. Малы́, а бач пру́дкі. Кл. Ско́лькі тут яго́ е, а пру́дкі які́. Пас. Янкі Купалы.

ПРУСА'К (*пруса́к, прус* і *пруша́к,* а таксама *бруса́к*). Насякомае. Кл., Барб. Абыйдзі ўсê ха́ты, то прусака́ ні ўба́чыш: зьв[е]лі́. Кл.

ПРЫДА'ЧНЫ (*прыда́чны*). Удалы і ўдачны. Прыда́чны хлеб у цябе́. (*арф.*). Ве́льмі прыда́чны чалавêк (моцны, вынослівы і практычны чалавек). Кл. прыда́чна гарэ́лка—моцная, чыстая і смачная гарэлка. Кл.

ПРЫДО'БА (*прыдо́ба*) *жан.* Багатыя прыродныя ўмовы. У Малі́наве ве́льмі прыдо́ба: па́жа до́бра, я́гады пад бо́кам, по́ле до́брае, а сенакôс? Кл.

ПРЫДУМЛЯ'ЦЬ (*прыдумля́ць*) *I спраж.* (*-яю, -яеш*). Жартаваць, вытвараць, штукарыць. Прыдумля́юць зь яго́. Кл. От штука́нт, як прыду́мае, прыду́мае! Кл.

ПРЫЗЬМО' (*прызьмо́*) *ніяк.* Вяровачка, якою пры запраганні валоў прывязваюць аглоблі да ярма. Зьвіў п'я́цяро ле́йцаў і пры́зьмаў. Кл.

ПРЫЛАБУ'НІЦЬ (*прылабу́ніць*) *II спраж.* (*-ю, -іш*), *пераходны.* Прытуліць, дапамагчы ў бядзе, у цяжкім становішчы. Дзякуй вам, ба́бу прылабу́нілі. Вайц.

ПРЫЛА'ЦІЦЬ (*прыла́ціць*) *II спраж.* (*-у, -іш*), *пераходны, зак. тр.* ад прылачваць. (гл.).

Се́ні прыла́цім. А па кулê й без нас е каму́ зьё́зьдзіць. Вайц.

ПРЫЛА′ЧВАЦЬ (*прыла́чваць*) *І спраж.* (*-аю, -аеш*), *пераходны.* Прыбіваць латы (гл. лата[2]). Канча́йце прыла́чваць да па кулí е́дзьце. Вайц.

ПРЫМА′К (*прыма́к*). Параўн.: прыма́ка. Радашковіцкі і Заслаўскі раёны.

ПРЫМАНІ′ЦЬ (*прыманíць*) *ІІ спраж.* (*-ю, -іш*). Гл. маніць. Тро́хі пра́ўды, а тро́хі прыманíў. Пас. Янкі Купалы.

ПРЫПА′ДНЫ (*прыпа́дны*). 1. Хворы на эпілепсію. Па́вел ніўда́лы буў і прыпа́дны зма́лку. Кл. 2. Халерык, істэрык. Кл.

ПРЫСУКРАВА′ЦЦА (*прысукрава́цца*) *І спраж.* (*-ую-ся, -уеш-ся*). Прыладзіцца, прысуседзіцца (да каго-небудзь, да чаго-небудзь) дзеля сваёй выгады, карысці. Кл.

ПРЫСТА′ВІЦЬ[1] (*прыста́віць*) *ІІ спраж.* (*-ўл-ю, -ві-ш*), *пераходны.* Прыставіць. Прыста́ў драбíны. Барб.

ПРЫСТА′ВІЦЬ[2] Прыбудаваць. Прыста́ўлю се́нцы й кладо́вачку. Хал.

ПРЫ′ТНАМ (*пры́тнам* і *прытно́(ô)м*). Штодзень, часта. Прытно́м хадзíў тут. Кл. Пры́тнам захо́дзіць,—ідзе́ й ідзе́. Кл.

ПРЫТНО′М (*прытно(ô)м* і *пры́тнам*). Кл. Гл. пры́тнам.

ПРЫТЫ′КА (*прыты́ка*) *жан.* Тонкі шост пры рыбацкай снасці—падсацы (гл. падсака),

няроце (гл. нярóт). На чóрта такýю даўжэ́разну прыты́ку прыўя́зваць? Пас. Янкі Купалы. Прыты́ка ў патсáцэ зламáласа. Кл.

ПРЫ'ХВАТКАМ (*пры́хваткам*). Рабіць што-небудзь прыхваткам—рабіць пакрысе, сяды-тады ў вольную часіну. Мая́ сець і згніé недарóбляна,—усé чáсу німá, усé пры́хваткам, дак другí год пашóў, [е]к пачáў рабíць. Хал.

ПРЫЧЫНІЦЬ (*прычыніць*) *II спраж., пераходны.* Параўн.: рускае призакрыть (дзверы). Ні зачыняй зусім, толькі прычынí дзвéра. Кл. Я ж прычынíла ю́шку. Пас. Янкі Купалы.

ПРЫЮ'Т (*прыю́т*). Дзяржаўны дом для дзяцей-сірат і перастарэлых. Зуб., Кл.

ПСІК (*псік! а псік!*) Выклічнік. Што і кац. Барб., Кл.

ПУГАЎЕ' (*пугаўé*) *ніяк.* Ужываецца побач з пугóлцэ. Пугаўé караткавáтае. Кл.

ПУГО'ЛЕЧКА (*пугóлячко, пугóлячка*). Памяншальнае ад пуголца (гл.). Кл.

ПУГО'ЛЦА (*пугóлцэ* і *пугóльцэ*) *ніяк.* Пугаўё. Пугóлцэ вýразаў. Кл.

ПУДМАЎЛЯ'ЦЬ. Гл. падмаўляць.

ПУЗА'Ч (*пузач*) *мужч.* Пузачý тамý ця́жко й сагнýцца. Сл. Параўн.: рускае пузан. Параўн.: начвач. Карэліцкі раён.

ПУЛ (*пул* і *пыл*) *мужч.* Пыл. Пýлу, што й сьвêту ні ўбáчыш. Кл.

ПУ'ПЛІК (*пýплік*) *мужч.* 1. Што-небудзь маленькае, падобнае да шарыка. І пýплік на

ша́пцэ. Кл. 2. Ацэначнае, калі гавораць пра недарослую, дробненькую бульбу, садавіну і нават пра жывых істот. Пу́плікаў тых наскрэ́бла (бульбы). Сл.

ПУ'РАЙ Гл. пы́рай.

ПУ'РНІК Гл. пы́рнік.

ПУСТАДО'МАК (*пустадо́мак*) *мужч.* 1. Пусты чалавек. Ні бу́дзе дабра́ зь йіх, пустадо́мкі не́йкіе. Кл. 2. Сем'янін, які не лічыцца з чэсцю сям'і, не аберагае ні чэсці, ні маёмасці сям'і. Таму пустадо́мку й хле́ба с ква́сам ні трэ́ба дава́ць. Кл.

ПУСТЭ'ЧА[1] (*пустэ́ча*) *жан.* Пустая, неўрадлівая глеба, бедны край (па прыродных умовах). У ва́с там балаты́ да пустэ́ча. Сым.

ПУСТЭ'ЧА[2] Пусты чалавек, пустадомак (гл.). Пустэ́ча ты, да й усе́! Кл.

ПУТЛЯ'Р Гл. пытляр.

ПУХО'ЎКА (*пухо́ўка* і *пухо̂ўка*) *жан.* Гатунак яблык. Пухо́ўкі расту́ць вялі́кія і не по́зныя. (*арф.*) Кл.

ПУЦ (*пуц*) *мужч.* Цяслярская прылада, цяжкая сякера, якою ачэсваюць тоўстыя бярвенні. Шклюд ы пуц цяга́ў. Вольн.

ПУЧКІ'[1] (*пучкі́*) *толькі ў множн.* Падсядзёлак. Пучкі́ усі́м парва́ные. Побач ужываецца сядзёлка (гл.).

ПУЧКІ'[2] Паплаўкі, зробленыя з бізунніку (гл. бізуннік) і прыстасаваныя для плавання

на іх. Пучкі зрабілі нам (малым хлапчукам), дак мы й яму п[е]раплывалі. Кл.

ПУ'ШКА [1] (*пу́шка*) *жан.* Каробка. Пушачка—каробачка, пенал. У мацяры парадак буў: у адной пушаццэ ніткі, ў другой гузікі, ў трэйц[е]й вôск, напарстак ці йшчэ там якое што. Кл.

ПУ'ШКА [2] Вайсковае. Гармата. А ў войну там пушка ўгрузла. Кл.

ПУШЫ'СТЫ [1] (*пушы́сты*). Пушысты. Лісіны хвôст пушысты вельмі. Кл.

ПУШЫ'СТЫ [2] Той, хто ў выпадку нездавальнення дзьмецца, «пушыцца» (гл. пушыцца). Ён у нас пушысты ат малку. Кл.

ПУ'ШЫЦЦА (*пу́шыцца*) *II спраж.* (*-у-ся, -ыш-ся*). Дзьмуцца на каго-небудзь. Чаго ты пушысса? Німа чаго тут пушыцца. Кл. Ні пушыся, бо напушуся. Пас. Янкі Купалы.

ПУ'ШЫЦЬ (*пу́шыць*) *I спраж.* (*-у, -ыш*). Чаго так жывôт пушыць? Вольн. Тут на травê буваюць павучкі, ззесь тарына (гл.), дак і пушыць.

ПЫ'РАЙ (*пу́рай* і *пы́рай*). Пырнік. Ужываецца і пырнік. Байл., Барб., Кл.

ПЫ'РНІК (*пу́рнік* і *пы́рнік*). Пырнік. Байл., Барб., Кл.

ПЫТЛЯ'Р (*пу́тляр* і *пытля́р*) *мужч.* Рабочы на млыне, які пытлюе пшаніцу. Тут путляр жыў. Кл.

ПЯРЭ′БІРАК (*пярэ́бірак* і *п*[*е*]*рэ́бірак*) *мужч.* Адзі́н п[е]рэ́бірак се́на аста́ўса, на ра́з каро́ве. Зуб. Параўн.: шчын. Сіняўская Слабада Карэліцкага раёна

ПЯРЭ′ДАЙКА. Гл. перадо́йка.

ПЯРЭ′ДНЯЯ [1] (*п*[*е*]*рэ́дня, пярэ́дня*). Пярэдняя. Ты й на се́не (на ўборцы сена) ні бу́дзеш п[е]рэ́дня. Хал.

ПЯРЭ′ДНЯЯ [2] Субстантаваны прыметнік. Гл. перадо́ўка.

ПЯРЭ′ЛЕТАК (*пярэ́летак*) *мужч.* Цяля, жарабя, якое пражыло лета, пералетавала. П'яць пярэ́леткаў прапа́ло. Кл. Параўн.: выпустак, трайцяк, чацвярта́к.

ПЯРЭ′РУБ (*пярэ́руб, п*[*е*]*рэ́руб*) *мужч.* Капітальная сцяна, якая падзяляе хату на дзве палавіны. Хата велі́ка й п[е]рэ́руб,—сь пярэ́рубам. Барб.

ПЯСЕ′ЛЬНІК (*пясе́льнік, п*[*е*]*се́льнік*) *мужч.* Спявак. Алё́ш ве́льмі пясе́льнік буў. Кл.

ПЯТРЭ′ЦЬ (*пятрэ́ць, п*[*е*]*трэ́ць*) *I спраж.* (*-эю, -эеш*), *непераходны.* Жыць надгаладзь, прычым працяглы час. Трэба думаць, ад назвы летняга посту—пятроўка. Даўнêй пятрэ́лі, а ц[е]пе́р са́мі ўсе прадаю́ць. Кл. Папап[е]трэ́лі за во́йну. Поб. Параўн.: Другія выпетрылі ў палку. Я. Колас.

ПЯЧКУ′Р (*пячку́р, п*[*е*]*чку́р*). Печкуро́ў налаві́ў цэ́лую даё́нку (*арф.*). Кл. Параўн.: песькіж. Мсціслаў.

# Р.

РАБА'К (*рабáк*) *мужч.* Гліст, рабак. З рабакóў памёр. Кл.

РАБО'ЦЬКА (*рабóцько* і *рабóцька*). Здатны да працы і працавіты чалавек, Тáя глухáя рабóцько дóбры. Маладзіца харóша й рабóцько. Кл.

РАДАБО'ДДЗЕ (*радабóдзьдзе, радабôдзьдзе*) *зборны, ніяк.* Грубая рэдкая тканіна. Такое радабóдзьдзе, а дарагóе. Байл. Вýткала нéйкаго радабôдзьдзя, хібá мо мêх пашые. Кл.

РАДЗІ'НЫ (*радзíны*) *толькі ў множн.* Хрэсьбіны. На радзíнах пагулялa. Поб. Паéдам на радзíны. Сл.

РАЗБАРСА'ЦЬ (*разбарсáць*) *I спраж.* (*-аю, -аеш*), *пераходны.* Выцягнуць абору з чаго-небудзь. Кл.

РАЗБУ'ДРАЦЬ (*разбýдраць*) *I спраж.* (*-аю, -аеш*), *непераходны.* Разбэсціцца, раздурэць. Разбýдралі,—тóлькі што б êсьці й гуляць, да па вечарынках швéндаць. Кл.

РАЗБУ'ДРЫЦЬ (*разбýдрыць*) *II спраж.* (*-у, -ыш*), *пераходны.* Разбэ́сціць, раздурыць. Разбýдрыла сына, дак на голаву лезе. Кл. Параўн.: разбудраць.

РАЗВЕ'ЗАЦЬ (*разьвéзаць*) *I спраж.* Размазаць, расквэцаць. Ні памýла, а тóлькі гразь разьвéзала па хáце. Кл.

РАЗГА'Ч (*разкáч*) *мужч.* Зношаны, спаха-

ны (гл. спаханы) венік. Разкача́ задам. Барб. Разкача́ прынесла. Разка́ч—ето што спаха́ны ве́нік. Кл.

РАЗЛІ'ВА (*разьліва*) *жан.* Разводдзе, паводка, разліў. Разьліва була́ велі́ка. Хал. Була́ разьліва бальша́я. Сл. Параў.: разлі́ў.

РАЗЛІ'Ў (*разьліў*) *мужч.* Разьлі́ў пача́ўся. Вільча. Параўн.: разліва.

РАЗЛУ'ЧНІК (*разлу́чнік*) *мужч.* 1. Мужчына, які «разлучыўся» (развёўся) з жонкаю, пакінуў жонку. Разлу́чніку вêры німа́. Барб.

РАЗЛУ'ЧНІЦА (*разлу́чніца*). *жан.* Жанчына, якая развялася з (мужам) гаспадаром. Барб., Кл. Параўн.: разлу́чнік.

РАЗРАЗНІ'ЦЬ (*разразьніць*) *II спраж.* (*-ю, -іш*), *пераходны.* Раздзяліць (што-небудзь) на часткі; прымусова разлучыць некалькі асоб у незвычайных абставінах. Разразьні́ ніткі. Кл. У пле́н ра́зам тра́пілі, да разразьні́лі нас. Касар.

РАЗУМЕ'ТНЫ (*разуме́тны* і *разумêтны*). Здатны, здатны да навукі, які хутка і добра разумее. Што да́л[е]й бу́дзе, ні ўгада́ць, але відаць, што разуме́тны, бо́йка зада́чкі раша́е. Вайц.

РАЗУМЕ'Ц (*разуме́ц*) *мужч.* Чалавек, які стараецца паказаць свой розум, паказваць, што ён разумнейшы за другіх. Побач сустракаецца разу́мнік. Кл., Барб. Разуме́ц такі́. Сл. О́! ён разуме́ц ужэ! Кл.

РАЛЕ'ЙНЫ (*рале́йны*). Ралейны вол—той, які, калі аруць, ідзе баразною, справа (калі

быць за запрэжанымі валамі, ззаду за імі). Параўн.: падру́чны. Ралейнаго трэ́ба крапчэ́йшаго за падручнаго. Кл. Рале́йны каб разумне́йшы буў за падру́чнаго. Кл. Параўн.: рале́йны хамут. Крычаўскі раён.

РАМО'НАК (*рамо́нак*). Расліна. Рамо́нак і ў ча́й гадзі́цца. Сл.

РА'НА [1] (*ра́но*). Рана. Шчэ ра́но, й сьце́жкі ні віда́ць. Пачака́ймо, хоць сьце́жка віда́ць бу́дзе. Сл. Му́сіць, ішчэ́ ра́но абганя́ць (бульбу). Барб.

РА'НА [2] (*ра́но*). Раніцою. Магу днём і ра́но. Вільча. Ра́но й ве́чар па́ліць у пе́чы. Ра́но й ве́чар даю́ каро́ве се́на. Кл. У гэтым значэнні ўжываецца пара́ну, ра́нкам, ра́ніцаю. Кл.

РАСАМА'ТЫ (расама́ты). Непрычэсаны, з доўгімі валасамі, ад расамаха. Расама́таго таго́ злаве́це (хлапчука). Кл.

РАСАМА'ХА (*расама́ха*) *жан.* 1. Звер. Кл. (Гэты звер тут не водзіцца). 2. Фальклорны вобраз—страшыдла ў вобразе жанчыны, у якой распушчаныя валасы і стальныя грудзі, ёю страшаць малых дзяцей. Ні йдзі́: там у кано́пл[е]х расама́ха, дась стально́е цы́цкі пасса́ць. Кл.

РАСПІСАВА'ЦЬ (*расьпісава́ць*) *І спраж.* (*-ую, -уеш*), *пераходны.* Зрабіць пісяг (гл.) на целе жывёліны. Ёты чо́рны (бык) ве́льма стра́шно расьпісава́ў маладзе́нькаго, пiся́г цераз уве́сь бок. Кл.

РАСПІСА'ЦЦА[1] (*расьпісáцца*). Распісацца. Кл.

РАСПІСА'ЦЦА[2] Ануляваць шлюб. Гадо́ў тры жылі па сабе́, ні разáм. А на в[е]сьнê сышлíса, пашлí й расьпісáліса. Ужэ, казáлі, ён ажаніўса з другóю. Кл.

РАСТАНЦЫ' (*растанцы́*) *толькі ў множн.* Ростані. На растанцóх пачакáй нас. Кл. Параўн.: назва рамана «На ростанях» Я. Коласа.

РАСЦУГЛЯ'ЦЬ (*расцугля́ць*) *I спраж.* (*-яю, -яеш*), *пераходны.* Раскілзаць, выняць з роту каня цуглі. (гл.) Ужываецца і раскілзáць. Ты ні вучы́ нас, а раскажы́ як каня забу́ў расцугля́ць да су́ткі галадáў (конь),—гаспадáр такí. Зуб.

РАШЭ'ЦІНА (*рашэ́ціна*) *жан.* Частка азярода—высокае шула (іх бывае 2—4) з выдаўбанымі дзіркамі, у якія ўпускаюцца азярэдзіны—жэрдкі. У рашэціне выдаўбаны праз кожныя 40—55 см. дзіркі. Параўн.: рэшата. Пасьле́дня рашэ́ціна на дрóвы пашлá. Кл.

РУБЕ'ЛЬ[1] (*рубе́ль*) *мужч.* Рубель (грошай).

РУБЕ'ЛЬ[2] Жэрдка, якая выкарыстоўваецца для ўвязвання на возе сена, саломы, снапоў. Кл., Байл., Барб., Вайц., Нарабíў рублёў на ўсю брыгáду. Пас. Янкі Купалы.

РУБІ'НА (*рубíна*) *жан.* Кавалак тканіны, звычайна не новай. Пóсьле вайны́ й рубíны ні булó. Хал. Параўн.: старажытнарускае рубъ — кусок, отрывок ткани; у множн.—ветхая одеж-

да, рубище. С. П. Абнорскі і С. Г. Бархудараў, Хрестоматия по истории русского языка, ч. 1, 1952, стар. 386.

РУБІ'НКА. Памяншальнае ад рубіна (гл.). Кл.

РУДАЧКІ' *(рудачкі) толькі ў множн.* Прыхвачаная засухаю (у часе ці хутка пасля цвіцення) грэчка, на ёй мала зярнят або зярняты вельмі дробныя, плоскія; такую грэчку і называюць рудачкамі. Рудачкі тые сабралі. Кл.

РУКА'ТЫ *(рукаты)*. Нячысты на руку, схільны да дробнага крадзяжу. Вельма рукáта бáба. Кл.

РУЧА'ЙКА *(ручáйка) жан.* Жменя лёну (валакна). Атрапáла двáццаць ручáяк лёну. Кл.

РУ'ЧЫ *(рýчы)*. Здатны да працы (чалавек), можа выканаць любую працу ў гаспадарцы, рабоцька (гл. рабóцька). І разýмные, й рýчые, дай харóшые ўсё. Барб. Яны́ вéльмо рýчые. Кл.

РЫ'БІЧЫ *(ры́бічы)*. Прыналежны прыметнік ад рыба. На ры́бічае вóко ры́бу злавíў. Баян. Ры́бічаю лускóю кáчкі накармíла. Кл.

РЫ'ЗА [1] *(рыза) жан.* Старая падраная вопратка. Нéйка ры́за на плéчах. Барб. Ры́зу тýю скінь. Кл.

РЫ'ЗА [2] Вопратка служкі царквы, раса. Папóўска ры́за. Кл.

РЫКА'ЦЬ *(рыкáць) І спраж. (-аю, -аеш), непераходны.* Малады́ бугáй хóраша рыкáе.

Хал. На малако́ до́бра (карова), да ўсе рыка́е—й уно́чы й удзе́нь. Кл.

РЫ'ЛЬЦА (*ры́лцэ і ры́льцэ) ніяк.* Горлачка (гл. го́рлечка). Ры́льцэ (бутэлькі) адбіла. Ры́льцэ знайдзі́, кілба́сы рабіцьмам. Кл.

РЫСАКО'М (*рысако́м*). Рыссю. На ём (на кані) рысако́м да Глу́ска за со́рак міну́т зае́ду. Барб.

РЭДЗЬ[1] (*рэдзь) жан. (рэ́дзі, рэ́дзьдзю).* 1. Складзі́ ану́чу ў дзьвê рэ́дзі — складзі ў дзьве столкі. Кл. 2. У дзьвê рэ́дзі даражэ́йшы. Кл.

РЭДЗЬ[2] Рэдкае палатно ў трохсценнай сеці. На рэ́дзь трэ́ба то́ўсты шпага́т. Кл.

РЭ'ЗКА[1] Прыслоўе. Рэзка. Усі́м так рэ́зко гаво́рыць. Сл.

РЭ'ЗКА[2] *жан.* Зрэзаная сячкарняю салома, канюшына. Рэ́скі даю́ (карове). Вільча. Рэ́зка до́бра да йшчэ мукі́ ўсы́плю. Кл. Гл. сечка[2].

РЭ'ЧАЧКА (*рэ́чачка*). Параўн.: Ой, рэчанька, рэчанька. З народнай песні.

## С.

САВА' (*сава́) жан.* 1. Птушка. Пас. Янкі Купалы. Кл. 2. Пераноснае. Лупа́ты (гл.) чалавек; чалавек з вялікімі, маларухомымі вачыма.

САГЛУМІ'ЦЬ. Гл. Глуміць. Кл.

САЛАПА'ЙКА (*салапа́йка) жан.* 1. Няздатны жвава ўспрыймаць і рэагаваць, глядзіць і слухае разявіўшы рот. У таê салапа́йкі папута́й.

Кл. Параўн.: Эх, Савось, шалапай, ты мяне не чапай. Я. Колас.

САЛО'МШЧЫК *(салóмшчык) мужч.* Псаломшчык. Багáто гадóў за салóмшчыка буў. Кл.

СА'НЕЧКІ *(сáнячкі).* Саначкі. Пастáўлю пут павéцьцю сáнячкі, вýйду й німá,—ўзяў, штоб жывôт узяў. Кл.

СА'НЬКІ *(сáнькі).* Санкі. Сáнькі жыцьмуць да тваê сьмéрці. Кл.

САРАМЯ'ЖЫ *(сарам'яжы і сарамяжы).* Прыметнік. Такí сарам'яжы ў нас. Зуб.

САРВІ'ЦЕЛЬ *мужч.* Тое, што і слова ўрвіцель (слова ўрвіцель ужыта толькі ў некаторых беларускіх пісьменнікаў; яно адпавядае рускаму хапýга). Ой, нарвéцца ватэты сарвíцель! Гл.

САХО'Р *(сахóр і сахôр) мужч.* Вілы, якімі накідаюць на воз гной. Часцей вілкі. Кіпці, што сахарэ́. Кл.

САЦВІ'ЦА *(сацьвíца) жан.* Сачавіца (сачыўка). Ужэ й ні сéюць сацьвíцы, й зáваду німá. Кл.

СВЕ'РДЛІК *(сьвéрдлік) мужч.* Маленькі свердзел. Ты ні браў майгó сьвéрдліка? Хóчу грáблі зрабíць. Пас. Янкі Купалы.

СВЕСЬ *(сьвесь і сьвêсь) жан.* Швагерка. Мая сьвесь прыхóдзіла. Параўн.: свесь—свояченица. Ф. І. Буслаеў. Историческая грамматика русского языка, ч. 1, М., 1875, стар. 30.

СВІНА'РНІЦА *(сьвінáрніца) жан.* Свінар-

ка, даглядчыца свіней. Ганна усê гады́ сьвіна́рніцаю. Кл.

СВІ́НКА[1] *(сьві́нка) жан.* Памяншальнае ад свіння. Кл.

СВІ́НКА[2] Грыб. Побач назвы таўсту́ха, кабу́лка (і кабылка). Сьві́нкі чы́стые, нічарві́вые. Кл.

СВІННУ́Х *(сьвіньню́х) мужч.* Хляўчук для свіней. А ў ха́це ў йіх як у сівіньнюху́. Кл.

СВІННУ́ШНІК *(сьвінну́шнік) мужч.* 1. Хлеў для свіней. Кл. Пераноснае. Брудная хата. Запусьці́лі, што сьвінну́шнік. Кл.

СВІЦЕ́ЦЦА *(сьвіцêцца) II спраж. (-іш-ся, -яц-ца).* Прасвечвацца. Ужэ́ страха́ сьвіці́цца. Кл. Дай пала́плю штаны́, бо сьвіця́цца. Байл.

СЕ́ДАЛА *(се́(ê)дало і се́(ê)дала) ніяк.* Месца, дзе начуюць куры. На сêдало пара́. Кл.

СЕ́МЕНЕ *(се́мяне) ніяк.* Ільняное семя. Прывéзьлі мêх аўса́ і мêх се́мяня. Хал.

СЕ́МЕЧКІ *(се́мячкі).* Насенне (толькі) сланечніку. Се́мячкі прадава́лі. Кл.

СЕРАДО́ЛЬШЫ *(серадо́льшы).* Прыметнік. Сярэдні (сын, дачка, дзіця) у сям'і па ўзросту. Ета серадо́льша (адна з трох дачок) худа́я, мала́я. Барб.

СЕ́РКА *(се́рка) жан.* Сера. Кл. Барб.

СЕ́ЧКА[1] *(се́чка і сêчка) жан.* Прылада,

якою сякуць бульбу, траву. Вазьмі сéчку: сéчка лепш за сакéру. Кл.

СЕ'ЧКА[2] Зрэзаная на корм салома, канюшына. Гл. рэзка[2]. Сéчка й каню́, й карóве гадзíцца. Вольн.

СЁНІ *(сёні)*. Сёння. Кл., Сл., Хал., Зуб.

СІБІ'Р *(Сібéр* і *Сібір)*. Ужываецца як назоўнік мужч. роду. За Сібéрам. Кл. Сібíр той багáты Кл.

СІВУ'ХА *(сівýха) жан.* Дзяўчына, якая вытварае, робіць, як дзіця. Пас. Янкі Купалы. Гл. бальшýха.

СІНІ'ЦА[1] *(сініца) жан.* Птушка сініца, сíньдзік (гл.). Сінíца—харóша пцíца. Вайц.

СІНІ'ЦА[2] Лучына. Сінíцы надрáў пучóк. Кл. Параўн.: лучы́на.

СІ'НЬДЗІК *(сíньдзік)*. Сінічка, сіньдзік (гл.). Сíньдзікаў багáта, а шчыглá ні бáчыў. Пас. Янкі Купалы.

СІ'ТКА (сíтка) *жан.* Птушка сітаўка, пліска. Сíтка ўсе па дарóгах лю́біць. Кл. Нóгі тонкія, якраз як у сíткі *(арф.)*. Пас. Янкі Купалы.

СКАВАРО'ДНІК *(скаварóднік і скаварôднік)*. Печыва з хлебнага цеста (на скаварадзе, перад полымем). Сам скаварóднікаў нап'ёк. Кл.

СКАПЕ'Ц Што і капец (у двух значэннях). Гл. капец. Там скапéц і за гумнóм тры. Кл. На мяжы́ ўкапáлі стоўб і скапéц насы́палі. Кл.

Параўн.: скопе́ц—кастрат. С. І. Ожагаў, «Словарь русского языка».

СКАПІ'ЦЬ (*скапіць*) *II спраж.* (*-пл-ю, -п-іш*), *пераходны.* Скласці (сена) у копы. Мы скапі́лі канюшы́ну ране́й за ва́с. Хал. Скапі́лі ўсю Балаці́ну (назва ўчастка сенажаці). Кл. Параўн.: рускае скопить.

СКАРАДЗІ'ЦЬ (*скарадзіць*) *II спраж., пераходны.* Баранаваць. Скарадзі́ць у на́с малава́то называ́лі. Кл.

СКНА'РЫЦА (*скна́рыца*) *жан.* Скупая жанчына. Хіба́ вы́прасіш у таê скна́рыцы. Вільча.

СКО'ПЧЫК (*скóпчык* і *скôпчык*). Памяншальнае ад скапец (гл. скапец). У абодвух значэннях. Е́таго скôпчыка бу́дзе (хопіць) на насе́ньне, шчэ й на про́даж застане́цца. Кл.

СКРОЗЬ[1] Прыслоўе. Заўсёды. Ён скро́зь буў такі́. Кл.

СКРОЗЬ[2] Прыслоўе. Усюды. Скрозь аж да Бо́лбатаў (урочышча) ско́шано, згрэ́бляно, у стагі́ скі́дано. Кл.

СКУПЫ'[1] (*скупы́*). Скупы. Скупы́ два разы траціць (*арф.*). Н.-Андр., Кл., Хал. Скуп ні глуп. Кл.

СКУПЫ'[2] Недастатковы, невыстарчальны, з маленькаю нястачаю. Скупы́ хунт. Байл. Скупы́е п'яць ху́нтаў. Кл. Параўн.: во́бмаль.

СЛА'БКА (*сла́бко* і *сла́бка*). Не туга, свабодна; так, што дрэнна трымае, трымаецца.

Сла́бко ўсці́снуў снапы́ (на возе). Н.-Андр. Сла́бко абу́ўса, трэ́ба йшчэ ану́чу адну́, ато мазалі́ натру́. Кл.

СЛА′БКІ (*сла́бкі*). Слова гэта сустракаў не толькі на поўдні Беларусі, а і на паўночным усходзе — у Мсціславе. Слабкі — які дрэнна трымае, трымаецца, слабкі — не тугі, свабодны. Шука́й друго́е ба́нькі (гл.), бо е́тые абе́дзьве сла́бкіе. Кл. Пацьці́сьні папру́жку (гл.), сы́нку, а то сла́бка, шчэ загу́біш бе́гаючы. Пас. Янкі Купалы. Адну́ зі́му панасі́ла й сла́бкі(е) ста́лі (гумовыя подвязкі). Хал.

СМАЖО′НІКІ (*смажо́нікі*). Смажаная бульба. Люблю́ смажо́нікі. Вольн. Смажо́нікамі частава́цьму. Кл.

СМЕ′ТНІК (*сьме́тнік* і *сьмêтнік*) *мужч.* Месца ў дварэ, дзе высыпаецца смецце. На сьме́тнік ву́кінь. Кл. Параўн.: Куча сметніку ляжыць. Я. Колас.

СМЯТА′ННІК (*сьмята́ньнік, сьм*[*е*]*та́ньнік*). Неадабральнае. Лізун; слабы на здароўе пястун. С такі́м сьмята́ньнікам бо́рацца німа́ чаго́. Пас. Янкі Купалы. У камсамо́льцы такі́х сьмята́ньнікаў ні на́да. Кл.

СНЯГУ′РКА (*сьнягу́рка, сьн*[*е*]*гу́рка*). Сінічка, сіньдзік (гл.). Сьнягу́рка—е́та пта́шачка, быва́ла на́ша ба́ба па сьнягу́рц[э] пазнава́ла, калі́ сьне́гу чака́ць. Кл.

СО′НЕЧКА (*со́нячко, со́нячка*). Сонейка. З суфіксам *-ейк*—рэдка, часцей з *-ечк*. Со́нячка схава́лася. Вайц. Со́нячко брыдзе́. Кл.

СО'ЎГАЦЦА (*со́ўгацца*) *I спраж.* Хадзіць павольна, ледзь перастаўляючы ногі, як без мэты, працаваць без прыкметных вынікаў у працы. Хіба́ то рабо́та? Со́ўгаюцца сюд-туд. Байл.

СПАВЯСЦІ'ЦЬ (*спавесьціць*) *II спраж.* Паведаміць. Спавесьцілі зімо́ю. Хал.

СПАКЛАДА'ЦЬ (*спакладаць*) *I спраж. (-аю, -аеш), пераходны.* Скастрываваць. Гл. звалашаць, злягчаць. Спаклада́ць трэ́ба (парасяты). Кл.

СПАЛЯВА'ЦЬ (*спалява́ць* і *спал[е]ва́ць*) *I спраж. (-юю, -юеш), пераходны.* Забіць каго-небудзь на паляванні. Му́сіць нічо́го ні спаляўа́лі. Кл.

СПАМЫЛІ'ЦЦА (*спамуліцца і спамыліцца*) *II спраж.* Памыліцца. Ужываецца і памыліцца. Спамуліласа да ні ў то́е б'ёрдо накіда́ць ста́ла. Кл.

СПАМЫЛЯ'ЦЦА (*спамуляцца і спамыляцца*) *I спраж. (-яю-ся, -еш-ся).* Памыляцца. Кл. Параўн.: мыля́юся, мыля́ешся, мыля́юцца. Путнікі, Шалухі, Поравічы Радашковіцкага раёна.

СПАРАЖНІ'ЦЬ (*спаражніць*) *II спраж. (-ю, -іш), пераходны.* Спаражні́ кашэ́. Кл.

СПАРЫЖАВА'ЛА (*спарыжава́ло* і *спарыжава́ла*). Безасабовы дзеяслоў. Разбіў паляруш. Яго́ спарыжава́ло. Кл.

СПА'СНЫ (*спа́сны*). Ужываецца з назвамі жывёл, а таксама з назваю асобы чалавека, у

значэнні непераборлівы на яду (чалавек, конь), вынослівы, расходуе мала энергіі пры выкананні працы. Вот спа́сны е́ты чалавек, ро́біць штодзе́нь, і красе́й такі́ (гл. красей). Кл. Рабе́нькі во̂л ве́льмі спа́сны: ра́но грызану́ў разо́ў п'яць і ні прыстае́. Байл.

СПАСО'Б'Е (*спасо́б'е*) *ніяк.* Пенсія. Ужываецца ў мове малапісьменных і непісьменных, побач — пенсія (пэ́ньсяя, пе́ньсяя). Спасо́б'е пераста́лі дава́ць. Сл. Бага́то спасо́б'я палуча́ла. Кл.

СПА'СЦІЦЬ (*спа́сьціць*) *II спраж.* (*-у, -іш*). Стравіць, з'есці, спасвіць (жывёлаю) збажыну ці сенажаць. А по́мніш [е]к спа́сьцілі ата́ву, да ён бучкі́ (бычкоў) заня́ў у хле́ў? Кл.

СПАХА'НЫ (*спаха́ны*) Дзеепрыметнік. Зношаны (пра яку-небудзь прыладу, напрыклад, венік). Разка́ч—дак ето, што спаха́ны ве́нік. Кл.

СПАХА'ЦЦА (*спаха́цца*) *I спраж.* (*-аю-ся, -аеш-ся*). Знасіцца (ад ужывання) веніку, цэпу. Сустракаецца ў мове старых. Спаха́ласо мае́ весло́. Хал.

СПІРА'ЦЦА (*сьпіра́цца*) *I спраж.* (*-аю-ся, -аеш-ся*). Не згаджацца і аспрэчваць (чужую думку). Ні бу́ду сьпіра́цца, мо й так, як ты ска́заў. Барб.

СПІЧА'К (*сьпіча́к*) *мужч.* Прылада (завостраная палачка або костка), якою карыстаюцца, калі шыюць каробкі з лубу. Сьпіча́к злама́ў. Сл. У в. Клетнае—падплетка (гл.).

СПЛАДЗІ'ЦЬ (спладзіць) II спраж. (-у, -іш), пераходны. Ужываецца побач з «пусціць на свет» (дзіця). Барб., Кл.

СПО'ДАК (спóдак) мужч. Спóдачкаў прывéзьлі. Сл.

СПО'РНЫ (спóрны) мужч. Тóўстые (дровы), дак спóрные. Кл. Балóтнае сéно ні спóрнае, канюшы́на ці с пóплава (сена) спарнéйшае. Сл. Параўн.: чэшскае sporý—беражлівы, sporiti—берагчы, эканоміць.

СПРА'ВІЦЬ[1] (спрáвіць) II спраж. (-ўлю, -віш), пераходны. Набыць (рэчы). Спрáвіў валёнкі сабê. Кл.

СПРА'ВІЦЬ[2] Спагнаць (пазы́чанае, доўг), ужываецца побач са спагнаць (апошняе часцей). Мо п'яць гады́ пазы́чыла (грошы) й ні магý спрáвіць. Кл.

СПРА'ВІЦЬ[3] Паправіць, выправіць. Кл.

СПРАДА'ЦЬ (спрадáць і спрóдаць) спрадáм, спрадасí, пераходны. Распрадаць, прадаць. Усе спрадáў і ў гóрад сам. Барб.

СПРА'ЎДЗІЦЦА (спраўдзіцца). Збыцца (надзеі, прагнозу, меркаванню). Гл. прáўдзіцца. Калі спрáўдзіцца, то ты маладзéц. Кл.

СПРА'ЎНЫ[1] (спрáўны). Прыгодны, не сапсаваны, не патрабуе рамонту (аб якой-небудзь прыладзе, рэчы). Спрáўных калёс трóе. Байл. Спрáўна аднá малатарня́. Кл.

СПРА'ЎНЫ[2] Паваротлівы, здатны да працы, спрытны (ужываецца побач). І да работы, й да навýкі спрáўные хлóпцы. Сл.

СПРО'ДАЦЬ (спрада́ць і спро́даць). Гл. спрада́ць.

СПУСК[1] (спуск) мужч. У фразеалагічнай адзінцы не дай спу́ску (арф.). Кл.

СПУСК[2] Фуганак. У ва́с ні пазы́чу я спу́ска? Пас. Янкі Купалы. На ўсе́ с[е]ло́ два спу́скі. Кл.

СПЯЛІ'ЦЬ (арф.) II спраж. (-ю, -іш), пераходны. 1. Чакаць даспявання (збажыны, садавіны), не спяшацца з уборкаю. Сп[е]лілі, паку́ль крышы́цца ста́ў (ячмень). Хал. 2. Я спялю́ паміду́ры ў се́не (арф.). Кл.

СТАЕ'ННІК (стае́ньнік) мужч. Сыты вызны конь, якога не пасуць, а трымаюць на стайні, добра даглядаюць. У йіх стае́ньнік буў, бо карміць було́ чым. Кл. Параўн. (такое ж значэнне): Гняды хвост угору задраў, нібы стаеннік які. А. Чарнышэвіч, Світанне, 1957, стар. 350.

СТА'ЙЛА (ста́йло і ста́йла) ніяк. Прыстасаванне на тоўстым дрэве для ўстаноўкі вулея-калоды. Усе̂ стайла́ абла́зіў. Зуб. Там ста́йло стая́ло. Кл. На ста́йло ла́зіў. Хал.

СТА'ЙНЯ (ста́йня) жан. Вялікі хлеў для коней, канюшня. Ста́йня й або́ра па́нска там стая́лі. Кл.

СТАЛАВЕ'Р (сталаве́р і сталаве̂р) мужч. Стараве́р (з дысіміляцыяй). Сталаве́р го́нду рабіў тут. Вайц.

СТАЛО'ЎКА (стало́ўка і стало̂ўка). Га́ля ў стало́ўцэ була́. Кл. У стало̂ўку хо́дзіць. Хал. За

сталоўку пасадзілі (за растрату грошай на працы ў буфеце сталоўкі). Байл.

СТАЛЬМА́ШНЯ (*стальма́шня*) *жан.* Майстэрня, дзе рамантуюць ці робяць колы, вазы, сані. У стальма́шню заве́зьлі до́шкі. Пас. Янкі Купалы. Ламашка ў стальма́шню пашо́ў. Пас. Чырвоны.

СТАЛЬНІ́ЦА [1] (*стальні́ца*) *жан.* Верх стала. На стальні́цы кабана́ (забітага) уно́сілі. Байл.

СТАЛЬНІ́ЦА [2] Дошка з столі. Вазьмі́ е́ту (дошку), стальні́ца до́бра, ўдзе́ржыць. Кл.

СТАЛЮ́ГА (*сталю́га*) *жан.* Бандарскі станок, на якім апрацоўваюць стругам абручы, клёпкі. У в. Вільча сталю́га—тое, што казлы (гл.). Сталю́га раскі́далася. Кл.

СТАНАВІ́ЦЬ [1] (*станаві́ць*) *II спраж. (-ўл-ю, -ов-іш), пераходны.* Ставіць. Наштó ты станавіў пілу́ так? Кл. Побач ужываецца і ста́віць.

СТАНАВІ́ЦЬ [2] Будаваць. Пасла́лі гро́шай па́сынку ха́ту станаві́ць. Кл. Побач—ста́віць. Хве́дар ха́ту ста́віць но́ву. Кл.

СТА́НІК (*ста́нік*) *мужч.* Бюстгальтар. Ста́нік сама́ пашы́ла. Кл.

СТАРО́ЖНЯ (*старо́жня* і *старо̂жня*) *жан.* Рыбацкая прылада—вудачка, наматаная на рагульку (вілачку). Параўн.: рускае жерлица. Усе адно́—пастаўня́ ці старо́жня. Кл. Постаражня. Карэліцкі раён.

СТАРЫ'ЗНА *(старызна)*. Назоўнік. 1. Старое, непрыгоднае (пра якую-небудзь рэч). Купіў нейку старызну. Пас. Янкі Купалы. 2. Пра старога чалавека. Такая старызна, а йшчэ гуляць. Кл. Параўн.: рускае старина.

СТАЎБУ'Н *(стаўбун)*. Ялец (рыба). Боўтам як боўтнуў разоў тры, дак аж бело стаўбуноў у сеці. Пас. Янкі Купалы.

СТО'ЙКА *(стойка) жан.* Прыстасаванне, дзе ставяць дзіця. Нашае стойкі й дома німа. Аддала сама ні ведаю каму. Кл. Параўн.: стоелка і стойка. Ражанка Гродзенскай вобласці.

СТОЛЬ [1] *(столь* і *стôль) жан.* Столь. У сьвінарніку такая столь, як у хаце. Кл.

СТОЛЬ [2] З прыназоўнікам *у* (у столь) ужываецца ў спалучэнні з дзеясловамі ісці (пайсці), гнаць (пагнаць). Пашлі (пагнала) буракі ў столь, пашла морква ў столь—буракі, морква далі сцяблы. Кл.

СТО'ПКА *(стопка) жан.* У хаце горш холадна, як у стопцэ. Кл.

СТОРЧ *(сторч)*. У значэнні галавою ўніз пры дзеясловах упасці, зваліцца, паляцець і падобн. Таксама старчака. Дурэлі на мосьце. А тагды той большы сторч галавою з мосту й бубухнуў просто ў рэку. Кл. Параўн.: 1. Стоць. Радашковічы. 2. Стоцьма. Пярэжыры Радашковіцкага раёна.

СТРАЕ'ННЕ *(страеньне) зборны, ніяк. роду.* У значэнні будынкі (калгаса, вёскі, гаспа-

дара), а таксама ў значэнні адзін будынак, будыніна, пастройка (гл. пастройка). Усé страéньне згарэ́ло. Кл.

СТРЫГМА'Ч (*стрыгмáч*) *мужч.* Насмешліва-зневажальнае ў сэнсе павыстрыганы, абстрыжаны як авечка. Кл.

СТРЫ'ЖАНЬ [1] (*стры́жань*). 1. Стрыжань, шпень. Кл. 2. Асяродак у хвоі. Вéльмі стрыжнёву хвóю знашлí, — адзíн стры́жань. Вайц. Я ўмéю стры́жань з хвайíны вы́круціць і стрэ́льбачку зрабíць. Байл.

СТРЫ'ЖАНЬ [2] (*стры́жань*). Бруд, гной цыліндрычнай формы ў нарыве, скулянцы. Стры́жань мо с пáляц вы́давіўся. Вольн.

СТРЫХАВА'ЦЬ [1] (*стрыхавáць*) *I спраж.* (*-ую, -уеш*), *пераходны.* Страхаваць. Хадзíлі стрыхавáць багáцьце (гутарка пра добраахвотнае страхаванне). Кл.

СТРЫХАВА'ЦЬ [2] Раўняць спецыяльнаю прыладаю, якая называецца стрыхоўка (гл. стрыхоўка), разасланую кулявую салому, якою накрываюць будынак. Стрыхавáць нíмá чым. Кл.

СТРЫХО'ЎКА [1] (*стрыхóўка*). Страхоўка. Стрыхóўку заплацíла. Барб.

СТРЫХО'ЎКА [2] (*стрыхóўка* і *стрыхôўка*). Прылада, пры дапамозе якой крыюць кулявою саломаю будынкі, стрыхуюць (гл. стрыхаваць[2]). Нéйдзе былá сваá стрыхóўка. Кл.

СТРЫ́ЧКА (*стры́чка*) *жан.* Пстрычка. Стры́чку за то́е, што прагуля́ў. Кл.

СТУПА́К (*ступа́к*) *мужч.* Ступня. Баліць нага́ ў ступаку́. Кл.

СТЭ́ЛЬМАХ (*стэ́льмах*) *мужч.* Той, хто робіць, рамантуе воз, сані і іншыя прылады. Ла́машко ўсе (увесь час) за стэ́льмаха быў, у стальма́шні рабіў хоць што. Пас. Чырвоны.

СУ́ДАЧКІ (*су́дачкі*) *толькі ў множн.* Вузкі праход паміж двума будынкамі або дварамі. У су́дачках тхара́ злавіў у па́стку. Кл.

СУКА́ЛА (*сука́ло,* часам *сука́йло, сука́ла*) *ніяк.* Прылада, пры дапамозе якой навіваюць, сучуць (гл. сукаць) нітку на цэ́ўку. Без сука́ла ця́жко насу́кваць цэ́ўку. Кл.

СУКА́ЦЬ (*сука́ць*) *І спраж.* (*-у, -аш*), *пераходны.* 1. Навіваць нітку на цэўку пры дапамозе сукала (гл.). Кл., Барб. 2. Звіваць дзве, тры ніткі ў адну. Кл., Барб. 3. Хутка і добра, роўнымі баразнамі араць. Вы йшчэ́ спа́лі, а ён уссука́ў го́ні. Кл.

СУКРА́К [1] (*сукра́к*). Вельмі смольны кавалак хваёвага карча, валокны якога сплецены, звіты. Вайц., Байл., Кл.

СУКРА́К [2] (*сукра́к*) *мужч.* Ткацкае. Скручаная пятля, вузел на сукне, на палатне. Е́така тка́льля, вы́ткала сукно́, дак усе́ ў сукрако́х. Кл. Гл. су́крутка.

СУМАРО́К (*сумаро́к*) *мужч., толькі ў адз.* Памяшанне, вар'яцтва. Як пабілі немцаў, дык

прышлі і жалуюцца, што партызаны нядобра робяць, б'юць з-за кустоў, а не ідуць на фронт ваяваць, дык я і кажу: Ага, паночак, праўда, а чаго ж ты ішоў сюды, што б на цябе сумарок найшоў! *(арф.)*. Барб.

СУ'НАЗКІ *(су́назкі) мужч.* Ткацкае. Дзве планкі, як часткі набілак (гл. набілкі, набіліцы), з шпара́мі, у якія ўстаўляецца бёрда (гл.). Кл.

СХВАТА'ЦЬ *(схвата́ць) -аю, -аеш.* Хутка, спешна змайстраваць (што-небудзь). По́куль ба́цько ко́пу жы́та змалата́ў, дык я ла́пця схвата́ў. Кл.

СХУДНЯ'ЦЬ *(схудня́ць) I спраж. (-яю, -яеш), непераходны.* Пахудзець, схудзець. Ма́ло дава́ла (кармоў), дак (карова) схудня́ла. Байл.

СХУДЗІ'ЦЬ *(схудзі́ць) II спраж. (-дж-у, -дз-іш), пераходны.* Зрабіць худою (жывёліну) дрэнным доглядам. Я ў пілі́паўку каро́ву схудзі́ла. Кл.

СЦАНАВА'ЦЬ *(сцанава́ць) I спраж. (-ую, -уеш), пераходны.* Устанавіць цану, за якую прададуць. Кл.

СЦЕ'ЖАР *(сьцёжар) мужч.* Жэрдка, вакол якой звіваюць стог. Пас. Янкі Купалы, Барб., Байл.

СЦЕНАВЫ' *(сьценаву́, сьценавы́)*. Сустрэты ў спалучэнні з назоўнікам пояс. Сьценаву́ по́[е]с—шырокі пояс, вытканы пры сцяне. Кл.

СЦІ'РТА *(сьці́рта) жан.* Укладка дроў, звы-

чайна паўз сцяну. Ту́ю сьці́рту ні чапа́й, хай на зі́му бу́дуць дро́вы. Кл.

СЦЯНУ'ЦЦА (*сьцяну́цца, сьц*[*е*]*ну́цца*) *I спраж.* (*-у-ся, -еш-ся*). Так калóла ў бок, што й сьцяну́цца не магла́. Барб. Не магла сцянуцца—не магла паварухнуцца, крануцца. Так, ста́ло, што й сьц[е]ну́цца ні мóжно. Кл.

СЦЯНУ'ЦЬ (*сьцяну́ць, сьц*[*е*]*ну́ць*) *I спраж.* (*-у, -еш*). 1. Страсануць, скалатнуць (садовае дрэва, каб зваліліся плады; чалавека). Сьцяні́ сьлі́ву. Кл. Ён сьцяне́ цябе́, што й зубы заля́скаюць. Байл. 2. Безасабовы дзеяслоў. Прасты́ла, дак то го́рачэ, то сьцяне́, сьцяне́. Кл.

СЦЯПА' (*сьцяпа́*) *жан.* Стэп. Сьцяпа́ сьцяпóю. Вольн.

СЫБО'ТА (*сыбóта*). Субота. Кл., Гл., Сл., Хал., Байл., Барб., Н.-Андр., Вайц.

СЫНО'ЖАЦЬ (*сынóжаць*) *жан.* 1. Сенажаць. 2. Палоска, дзялянка сенажаці (у дакалгасныя часы), у гэтым выпадку абавязкова з словам (прыметнікам, прыналежным займеннікам), якое вызначае прыналежнасць сенажаці. Мітрахва́нава сынóжаць, там на́ша була́ сынóжаць. Кл.

СЫРО'ВАДКА (*сырóвадка*). Сыроватка. Кл.

СЫРЫ'ЦА (*сыры́ца*) *жан.* Ужываецца таксама як зборны. Вымачаная, перамятая скура, якая ідзе на збрую, прывязкі. Параўн.: сырамец у Заслаўскім і Радашковіцкім раёнах, у рускай

мове сыромять. Параўн.: рускае сырица—сырая, неапрацаваная скура.

СЫРЫ'ЧНЫ *(сырычны)*. Прыметнік ад сырыца (гл.). Сыры́чны гуж мо два́ццаць вераўча́ных ва́рты. Хал. Уся́ збру́я сыры́чна. Байл.

СЯДА'К *(сяда́к, с[е]да́к) мужч.* Пасажыр. Балаго́лы ўсе вазілі з Бабру́ску (у Глуск) й седако́ў бра́лі. Гл. Зарабіў, як на вало́х седако́ў во́зячы *(арф.)*. Кл. Параўн.: Машы́на йдзе́ ў Хо́дасы, но й бісь цябе́ сідако́ў хвата́йіць. Мсціслаў.

СЯДЗЁ'ЛКА *(арф.) жан.* Падсядзёлак. Сядзёлка перакруцілася і стала дагары. *(арф.)*. Кл. Побач ужываецца пучкі́ (гл.).

СЯСТРУ'ЛЯ *(сестру́ля, с[е]стру́ля) жан.* Сястра, з адценнем непашаны. Твая́ сестру́ля ўсе сто́гне да бе́дніцца. Барб.

СЯСТРУ'НКА *(сястру́нка, с[е]стру́нка) жан.* Дваюрадная сястра. Сястру́нка хадзіла. Зуб. Параўн.: браце́нік.

## Т.

ТАБУРЭ'ТКА *(табурэ́тка) жан.* Табурэт. На табурэ́тку ста́ла. Пас. Янкі Купалы. Та́я табурэ́тка жыве́ мо два́ццаць гадо́ў. Кл.

ТАВА'Р [1] *(тава́р) зборны, мужч.* Буйная рагатая жывёла. Тава́р пасу́. Сл. Тава́р даўно́ пагна́лі. Кл.

ТАВА'Р [2] 1. Тавар. Кл. 2. Камплект матэрыялу на абутак (боты, бацінкі, туфлі). Кл.

ТАВА'РАЧЫ (*тавáрачы*). Прыналежны прыметнік. Таварáчы сьлêд — след жывёліны (таварыны). Гл. тавáрына. Кл. Параўн.: тавáрачы бабоўнік. Чарацянка Жыткавіцкага раёна.

ТАВА'РЫНА (*тавáрына*) *жан.* 1. Буйная рагатая жывёліна. Кл., Поб., Хал., Зуб. 2. Зневажальнае пра чалавека. Такóе тавáрыны ні бáчыў. Гл. Параўн.: рускае скотина.

ТА'ЛАВАЦЬ (*тáлаваць* і *тáлуваць*) *I спраж.* (*-ую, -уеш*), *пераходны.* Здзекавацца, мучыць, цягаць. Кіньце тáлаваць каткá. Хал. Затáлавалі каткá. Кл. Бéдну папатáлавалі паліцáйі. Байл.

ТА'МАКА (*тáмака*). Там. Поб., Сым., Хал., Н.-Андр., Вольн., Вільча, Вайц.

ТАРА'Н (*тарáн*) *мужч.* 1. Рыба. Таранá купіла, дак вéльма вадá п'éшча. Кл. 2. Пераноснае. Таран—сухі, худы, бяскроўны (чалавек, жывёліна). Тараны́, а ні кóні. От у нáс стаéньнікі. Вайц.

ТАСАВА'ЦЬ[1] (*тасавáць*) *I спраж.* (*-ую, -уеш*). Мяшаць карты перад раздачаю удзельнікам гульні. Хал., Зуб., Кл.

ТАСАВА'ЦЬ[2] Штурхаць, штыляць. І тасýе, й тасýе, пóкуль той ні заплáкаў. Кл.

ТАЎСМА'ТЫ (*таўсмáты*). Ужываецца пры назвах асобы, жывёлы, дрэва; таўсматы—прысадзісты, моцны. Я кажý: ні тагó вусóкаго, а éтаго таўсмáтаго (кабана) купéм. Барб. Такí таўсмáты. Байл.

ТО'ЛЕЧКІ[1] (*тóлячкі*). Толькі што, вось-вось (было што-небудзь). Тóлячкі быў. Вайц.

ТО'ЛЕЧКІ [2] Памяншальнае ад столькі (побач з сто́лечкі). Мо й то́лячкі (паказваючы на малую меру) ні бу́дзе про́са. Кл.

ТО'ЛМАЧ (*то́лмач*) *мужч.* Перакладчык (ужываецца побач з перагаворшчык). У на́с ка́жуць — хто то́лмач, а хто перагаво́ршчык. Зуб.

ТОП (*топ*). Выклічнікава-дзеяслоўная форма. Што лётам нôжкаю топ, то́е зімо́ю б ру́чкаю хоп. Кл.

ТО'ПЕНЬ (*то́п*[*е*]*нь*) *мужч.* Рыбацкая прылада, сплеценая з лазы. Тут патса́ка ні гадзі́цца, каб то́п[е]нь, то ўюна́ б узя́ў. Кл.

ТО'ЎСТАЯ [1] (*то́ўста*). Тоўстая. То́ўста калода. Вольн.

ТО'ЎСТАЯ [2] Цяжарная (аб жанчыне), у гэтым жа значэнні цяжкая (гл. цяжкая). Ле́тась радзі́ла да йзно́ў то́ўста. Барб. Була́ то́ўста Ка́рпам. Кл.

ТРАЙЦЯ'К (*трайця́к* і *траця́к*) *мужч.* Цяля, жарабя на трэцім годзе. Кл., Байл., пас. Чырвоны.

ТРАЛЯВА'ЦЬ (*тралява́ць, трал*[*е*]*ва́ць*) *І спраж.* (*-юю, -юеш*). Вывозіць з балота (штонебудзь) малымі часткамі. У сыбо́ту тры падво́ды тралява́ла. Вільча. Шчэ бало́та сла́ба ўме́рзла, трал[е]ва́лі на сабе́, мо па капе́ кла́лі, бôльш бая́ліся. Кл.

ТРАННЕ' (*траньне́*) *ніяк. роду* ад церці (лён, каноплі). Якое там траньне́? Кл.

ТРАЎЛІ'ВЫ (траўлівы і траўліву). Ужываецца з назоўнікамі, якія абазначаюць збажыну (ячмень, авёс, пшаніца і інш.), з назоўнікам салома. Траўліва саломa (Кл.) — салома з травою (з пустазеллем). Ячмéнь крэпка траўлівы. Сым. Акалóт вéльма траўлівы. Хал.

ТРАЦІ'НА (трацíна) жан. Трэцяя частка надзела (надзел у в. Клетнае—12 дзесяцін). На трацíне хлéба ніхватáло. Кл.

ТРАЦЯ'К Гл. трайцяк.

ТРАШЫ'ЦЬ (трашыць) ІІ спраж. (-у, -ыш). Патрашыць рыбу. Ты трашы рыбу, а то прасьмéрдне. Пас. Янкі Купалы.

ТРО'НКА (трóнка) жан. Тронкі. Трóнку адну пярабíў. Кл.

ТРО'ІЦЬ (трóйіць) ІІ спраж. (-ою, -оіш). Тройчы араць поле: увосень, у раннюю вясну і перад сяўбою. Кл.

ТРУ'ХАМ (трýхам). Гл. трушкóм.

ТРУ'ШАНКА (трýшанка) жан. Сена, змешанае з саломаю, корм для жывёлы. Трýшанкі далá, пасьля дам пáранкі. Кл. Параўн.: Тарасавы сыны... уходжваліся на дварэ: загатоўвалі каровам трасянку... Я. Колас, Збор твораў, т. 3, стар. 52.

ТРУШКО'М (трушкóм). Ужываецца з дзеясловамі бегчы, ехаць у значэнні павольнаю рыссю, без напружання. Бéгу ў éтаго каня німá, шаг ніспóрны. Але паганяць ні трэба: як выладзіцца, то п'яць ўёрст бýдзе трушкóм і трушкóм. Кл.

ТРЫРО'ГІЯ *(трырóгіе)*. Ужываецца з назоўнікам вілкі. Трырóгіе вілкі на тры́ рагí. Сл. Тут трырóгіе трэ́ба. Кл.

ТРЫСЦІ'ЦЬ *(трысьціць) II спраж. (-у, -іш)*. Зводзіць разам дзве ці больш нітак. Ніткі трысьціла. Вайц.

ТРЭ'ЙКІ *(трэ́йкі)*. Тройчы. Ужываецца побач з тройчы. Мо трэ́йкі ў Глу́ску булá. Сл. Трэ́йкі хадзіла. Кл.

## У.

УАДНАВО'Р *(уаднавóр* і *ўаднавôр)*. Гл. аднавор. Картóплі ўаднавôр парасту́ць, тóлькі даглéдзь. Кл.

УВАЗНА'ЦЬ *(увазнáць) I спраж. (-аю, -аеш), пераходны.* Пазнаць (побач з пазнаць). Вы́ б мянé ні ўвазнáлі. Кл.

УВЕРАДЗІ'ЦЦА *(арф.)*. Стаміцца аж да захворвання. Часцей сустракаецца як папрок, калі сцвярджаюць, што хто-небудзь не стаміўся, бо не працаваў ці працаваў мала. Хібá ўверадзíўса, лéжачы пад я́блынаю? Н.-Андр. Абéдаць і пачакáяц[е], мо ні ўверадзíліса. Кл.

УВО'СЕ *(увóсе)*. Ужываецца абавязкова з часціцаю *ці* (ці ўвосе). Прыслоўе. Ці ўвóсе пашлá, й німá. Байл. Ці ўвóсе—даўно, ужо час зрабіць, вярнуцца.

УГАДА'ЦЬ *(угадáць) I спраж. (-аю, -аеш)*. 1. Угадаць. Кл. 2. Пазнаць. Я й ні ўгадáла вас, стары́е стáлі. Кл.

УГАРТА'ЦЬ (*угартáць*) *I спраж.* (*-аю, -аеш*). Угортваць (побач з угортваць). Трэ́ба ўгартáць (хворы палец). Кл.

УГРУ'ЗНУЦЬ (*угрýзнуць*) *I спраж.* (*-у, -еш*), *неперахoдны*. Уехаць глыбока ў гразь, балота. Карóва ўгрýзла, чуць вýбавілі на бéраг. Кл.

УДА'ЎНІЦЦА (*удáўніцца*) *II спраж.* Гадóў вóсім, [е]к ўзяў тры сóтні й не аддаé. Хочу на сýд падáць. Дак, кáжуць, нічóго ні бýдзе, вéльмо ўдáўніласо. Хал.

УЖЫ'ЦЬ *I спраж., неперахoдны*. Наладзіць жыццё ў згодзе (з кім-небудзь). Хібá чорт с табóю ўжывé. Вольн. Памýчыласа, вéдамо, ў чужóй, сям'і, але патóм (гл. патом) ужылá ж. Йшчэ бýдзе відáць, ці ўжывé, ці ні ўжывé, аднý зімку тóлькі жывýць. Кал. Параўн.: рускае разве черт с тобой уживется.

УЗАХАПКІ' (*узахапкí*). Параўн.: прыказку—У тым гаму, што ўхапіў, тое таму. Ні трэ́ба былó ўзахапкí бéгці. Дóбр[э] й чынілі, што на сýд падалí. Кл.

УЗВА'Р (*узвáр*). Назоўнік мужч. роду. Кампот. Узвáру ні любіць, а расóл п'е. Глуск.

УКМЯЦІ'ЦЬ (*арф.*) *II спраж.* (*-чу, -ціш*). Запамятаць, уцяміць. Я не ўкмяціла, што гаварылі (*арф.*). Сл.

УЛЕ'ГЦЫ (*улéгцэ(ы)*. Форма меснага склону адз. ліку кароткага прыметніка льгъкъ (въ льгъцѣ). Без кладзі ехаць, паражняком.

Улéгцэ за чáс то й у Барбарóў зóйдз[е]ш. Хал. Улéгцэ паêхаў, ён бы й вас заўêз. Сл.

УЛЕ'ГЧЫ (*улéгці*) *I спраж.* (*-у, -аш*). Пагрозна пагнацца (за кім-небудзь). Хамóў сабáка ўлёг за нáмі, чуць нóгі ўнесьлі. Кл.

УНЁ' Часціца. Вунь. Унё рыбакí з вýдкаю-аўтамáтам (спінінгам). Байл. Параўн.: вýньдзека, вýнека.

УПАРА'НУ (*упарáну*). Прыслоўе. Тое, што рáно, урáнні (гл. уранні), уранку, раніцою. Упарáну схадзíла ў грыбы́. Кл.

УПЕ'НЬ (*упéнь*). Ужываецца ў фразеалагічным спалучэнні збіць упень. Збіць упень— збіць, з'есці, стравіць жывёлаю (коньмі, каровамі) сенажаць, пасеў. Вáшае прóсо ўпéнь зьбíлі валáмі. Хал. Упéнь, бáбо, зьбíлі грáды (гарод). Кл.

УПЕ'РЫЦЦА (*упéрыцца*) *II спраж.* (*-у-ся, -ыш-ся*). 1. Выцяцца. Упéрыўса аб бáньку. Байл. 2. Раўназначнае рускаму втюрился. У Гáнну па вýшы ўпéрыўса. Кл.

УПЕ'РЫЦЬ (*упéрыць*) *II спраж.* (*-у, -ыш*). Выцяць, ударыць. Трэ́ба быдó пáлкаю ўпéрыць дóбра. Кл. Параўн.: упярыць. Радашковічы.

УПІ'РЫ (*упíры*) *толькі ў множн.* Упартасць. Надаêлі éтые тваê ўпíры. Н.-Андр. Бес твайíх упíраў ні абышлóся. Кл.

УПРА'ЎНЫ (*упрáўны*). Ужываецца з назоўнікамі, якія абазначаюць назвы асоб. Упраўны чалавек—чалавек, які ўсё робіць спрыт-

на, хутка, без спазнення. Упра́ўныя лучкаўцэ́ (жыхары в. Лучкі), ужэ німа́ нічо́га на по́лі. Кл.

УПРО́ЧКІ (*упро́чкі*). Ужываецца з дзеясловам ісці і сінонімамі да яго. Пайсці́ ўпро́чкі—пайсці ад сям'і. Той Максі́м, што ўсе ўпро́чкі хадзі́ў. Дзель пярабу́дзе дзён тры й дадо́му ця́гняцца. Кл.

УПЯ́ЦЦА (*уп'яцца*) *І спраж.* У асабовых формах паяўляецца суфіксальнае *н*, як і упнуцца (ужываецца і упну́цца). Трэ́ба ўп'я́цца до́брэ. Кл. У адно́м ме́сьце ўгруз вốз, ду́маў заначу́ю, але ўпну́ліся (валы) й вы́хвацілі. Байл.

УРАБІ́ЦЦА (*урабіцца*) *ІІ спраж.* (*-ю-ся, -іш-ся*). Хаця́ б ні ўрабіласа ў гра́зь. Кл.

УРА́ДЗІЦЬ (*ура́дзіць*) *ІІ спраж.* (*ура́джу, ура́дзіш*). Даць рады. Ні накрыча́ўшы, з йімі (дзяцьмі) нічо́га ні ўра́дзіш. Кл.

УРА́НЬНІ (*ура́ньні*). Тое, што і ўпара́ну, ра́но (гл. рана), уранку, раніцою. Ура́ньні сếў і паếхаў. Кл.

УСЕ́ (*усе́*). Займеннік ніяк. роду і часціца. Усе́ на́шае прапа́ло. Сл. Маршчакí ўсе шыў не́калі. Кл. Усе́ й гаво́рыць і гаво́рыць. Хал.

УСЕ́ЯЦЦА (*арф.*). Правесці ўсю сяўбу, закончыць сяўбу. Се́лета ўсе́яліся зараней. (*арф.*). Сл.

УСМА́Л (*усма́л*) *мужч.* Амярцвелая частка ствала хвоі, усохлая і налітая смалою, добра гарыць і выкарыстоўваецца як падпал і для ас-

вятлення на комінку. Усма́ла пашука́ю. Кл. Гл. асмол.

УХВА′Т *(ухва́т) мужч.* 1. Чорт; у праклёне: каб йіх ухва́т ухваціў: ужэ́ са́нячкі ўхвацілі. Кл. 2. Злодзей, хапун. Той бо́льшы ве́льма ўхват. Барб.

УШУ′ЛА *(ушу́ло) ніяк.* Шула. Ушу́ло до́брае будзе. Байл. На ўшу́ло ўскінь. Кл.

УЯ′ДЛЫ *(уя́длы).* Ужываецца з назвамі асоб і жывёл. У адносінах уядлага чалавека растлумачылі (Зуб.): спрактыкаваны і нядобрасумленны працаўнік, які можа абманьваць, абкрадаць, прысвойваць дабро, але раскрыць яго цяжка ці не ўдаецца. У в. Клетнае растлумачылі, што ўжываецца толькі з назвамі жывёл-драпежнікаў (воўк, ліс), якія лоўка і беспакарана крадуць птушку, дробных жывёл.

УЯ′ПА *(уя́па) жан.* Нарост на целе, вальбука. Уя́па ву́расла. Кас. Параўн.: я́па.

## Х.

ХАВА′ЛКА *(хава́лка) жан.* Хованкі. У хава́лку гуля́лі. Зуб. Параўн.: закованка (гл.).

ХАДА′ *(хада́) жан.* Па хадзê пазна́ла. Кл.

ХАДО′К *(хадо́к) мужч.* Чалавек, які хутка і лёгка ходзіць. Ве́льмі хадо́к буў, зва́лі куле́м. Сл.

ХА′ЎКАЦЬ *(ха́ўкаць).* Побач з пазяхаць, зяхаць. Чаго́ тут ха́ўкаць? Рабе́це рабо́ту. Сл.

ХАЎЦЕ'ЦЬ (*хаўцець*) *II спраж.* (*-ч-у, -ц-іш*), *неперахадны.* Выражаць прагнасць да яды (у часе яды ці бачачы ежу). Галóдные, дак за сталóм аж хаўцяць. Кл.

ХВАРСІ'СТЫ (*хварсісты*). Касáрыцкіе (дзяўчаты) ніхварсістые. Касар. У хварсістага галавá пустáя. Касар.

ХВАРСУ'Н (*хварсýн*) *мужч.* А мой Мішачка хварсýн,—тóлькі гáльштучак да чýб. З частушкі. Кл.

ХВІСТ (*хвіст*) *мужч.* Знак забароны пасвіць жывёлу (на сенажаці, канюшыне, пожні); гэта тычка, на якой, для прыкметнасці, пакідаюць і скручваюць верхнія галінкі з лісточкамі ці ігліцаю або (часцей) накручваюць жмут саломы, травы, моху.

Там Кісéль хвіст пастáвіў, касіцьмуць. Кл. Хвіст нагадвае падвязаны хвост каня. Параўн.: украінскае хвіст — хвост; хист, зáхист — абарона, забарона.

ХВО'Я (*хвóя*) *жан.* Сасна. У нас—хвóя й хвóя (у нас усе і заўсёды гаворадь: хвоя). Кл.

ХЛІСНУ'ЦЬ (*хліснýць*) *I спраж.* (*-у, -еш*). Хутка з'есці, прычым крышку якой-небудзь стравы (крупніку, капусты). Хлісні йшчэ на дарóгу гарáчае капýсты. Кл.

ХЛУС Гл. маней, манькут, манека, маніць. Кл.

ХОП (*хоп*). Выклічнікава-дзеяслоўная форма. Што лêтам нôжкаю топ, тóе зімóю б рýчкаю хоп. Кл.

ХО'РАША (*хорашэ* і *хораша*). Хорашэ расказвалі. Зуб. Хораша́ гуляюць. Вільча. На дварэ́ хорашэ́. Кл.

ХРАМАЛІ'Н (*храмалін*) *мужч.* Крэм для абутку. Храмалін сусім сухі. Байл. Храмаліну купіў. Кл.

ХРА'ПА [1] (*храпа*) *жан.* Ножка качана. Хра́пу каро́ўцэ сабра́ць. Барб. Хра́па до́брэ каро́ве. Кл. Параўн.: карова з хрумстаннем з'ела храпкі. І. Шамякін, Крыніцы, 1957, стар. 164.

ХРА'ПА [2] Замёрзлая няроўная паверхня зямлі. На ву́ліцы храпа. Зуб. Па такой хра́пе ніко́ваны ко̂нь дале́ко ні зо́йдзе. Кл.

ХРО'СНІК (*хро́сьнік*). Хросны бацька. Хро́сьнік твой пам'ёр. Хро́сьнік ето хро́сны ба́цько, ето хто хрысьці́ў. Кл. Параўн.: у «Русско-белорусском словаре» хроснік адпавядае рускаму крестник, а рускае крестник—крёстный сын. С. І. Ожагаў, «Словарь русского языка».

ХРО'СНІЦА (*хро́сьніца*). Назоўнік. Хросная маці. Бач—пута́ясса й ні вє̂даў, хто хро́сьніца твая́. Хро́сьніца й хро́сна ма́ці—то́е са́мае. Параўн.: у «Русско-белорусском словаре»: хросніца адпавядае рускаму крестница, а рускае крестница — крёстная дочь. С. І. Ожагаў, «Словарь русского языка». Параўн.: хрышчо́ніца (гл.).

ХРЫШЧО'НІК (*хрышчо́нік*) *мужч.* 1. Хросны сын. Кл. Параўн.: хроснік (гл.). 2. Набіты, «адсвенчаны». Тваê хрышчо́нікі, му́сіць, больш ні пале́зуць у са́д. Барб.

ХТОЛЬ *(хтоль)*. Хто-небудзь і нехта. Мо хтоль бýдзе йці да ўкіне пісьмó ў я́шчык. Кл. Хтоль нóйдзе й рад бýдз[е]. Поб. Ужываюцца і хто-небудзь, нехта.

ХУ'НТЫ *(хýнты)*. Назоўны склон множнага ліку ад хунт.

ХУНТЫ' *(хунты́ і хýнты) толькі ў множн.* Памольны збор у млыне. Хунты́ павéзьлі на станцыю. Барб. Каб на грóшы малóлі, а ні на хунты́. Кл.

ХУРАВА'ЦЬ *(хураваць) I спраж. (-ую, -уеш)*. Кіраваць (запрэжаным канём, коньмі). Хурава́ць магý. Байл. Нідóбра хурава́ў. Кл.

## Ц.

ЦАЛІ'К *(цалік) мужч.* Цалік—цэлы, не пратаптаны снег (па непратаптанай дарозе—па цаліку). Па цалікý ця́жко йсці. Задýло дарóгу, дак па цалікý й па цалікý—аж у са́мы Глуск. Сл.

ЦАЦКО'ВАНА *(цацкóвано)*. Упрыгожана. На грудзя́х цацкóвано (вышытая, расшытая вопратка). Сл.

ЦВІРКУ'Н *(цьвіркýн і цыркýн)*. Цвыркун. І я́к ён цьвíркае, éты цьвіркýн? Кл. Гл. цыркун.

ЦЕРАБІ'ЦЬ *(церабіць) II спраж. (-бл-ю, -б-іш), пераходны.* 1. Высякаць лес, кустарнік, каб зрабіць участак сенажаццю, полем або для праезду. Шчэ й ні пачына́лі церабíць. Кл. 2. Абсякаць галлё на дрэве. Вы—рэ́заць, а я церабíць гальлé. Кл. 3. Пераноснае. Есці хутка,

з смакам, не зважаючы на смак і спажыўнасць стравы. Гало́дные, дак ц[е]рэ́б[е]ць. Сл.

ЦЁ'ГАМ Цёгам ц[е]гну́ць. Сл.

ЦЁ'МНАЧЫ (*цёмначы*). Упацёмках. Ні рабіцьму цёмначы. Кл. Што́ ты цёмначы там калупа́ў? Кл.

ЦЁ'САЧКА (*цёсачка*). Памяншальнае ад цёска (гл.). Цёсачак назьбіра́й. Пас. Янкі Купалы.

ЦЁ'СКА (*цёска*) *жан.* Палачка, лучына (гл.). Цёсак назьбіра́ла й дроў ні палі́ла. Пас. Янкі Купалы.

ЦІ'ПЕЦ (*арф.*) *мужч.* Жорсткая невысокая расліна. Ціпцу ні касілі, ве́льма цьво́рды. Барб. Параўн.: сівец. Радашковіцкі і Заслаўскі раёны.

ЦІ'ПЧЫК (*ціпчык*). Памяншальнае ад ціпец (гл.). Ціпчык малады́ да з расо́ю—то ко́сіцца. Пас. Янкі Купалы. Параўн.: сіўчык. Заслаўскі раён.

ЦМЫ'ГА'ЦЬ (*цмыга́ць*) *I спраж.* (*-аю, -аеш*), *непераходны.* Прыгаць. Ну, цмыга́й. А то ўкіну ў кана́ву. Вольн.

ЦОП (*цоп*). Выклічнікава-дзеяслоўная форма. 1. Нечакана схапіць, у значэнні хоп. Цоп саба́ка за ру́ку. Поб. 2. Нечакана стукнуць, выцяць. У Лукаша́ було́ так, што біч атарва́ўса да цо́п па йлбу. Кл.

ЦУКРО'ЎКА (*цукро́ўка* і *цукро̂ўка*) *жан.* Гатунак салодкіх яблык. Цукро́ўка — такіе я́блыкі, што ве́льмі сало́дкіе. Кл.

ЦЫ'Б'Е' (*цыб'е* і *цыб'е́*) *зборны, ніяк.* Табачныя сцяблы без лісця. Цы́б'[е] на го́ру занёсьці, хай бу́дз[е]. Поб.

ЦЫБУ'К [1] (*цыбу́к*) *мужч.* Курэцкая прылада. Цыбу́к сам зрабі́ў. Н.-Андр.

ЦЫБУ'К [2] Пяро цыбулі, якое нясе насенне. Інакш (прычым часцей) называюць стрэ́лка. Адны́ цыбукі́, сусі́м нідо́бра расьце́ цыбу́ля. Барб. Цыбу́к на цыбу́лі, што бізу́н. Кл.

ЦЫКА'ЦЦА (*цыка́цца*) *I спраж. (-аю-ся, -аеш-ся)*. Хістацца. І галі́нка ні цыкне́цца. Байл. У табурэ́ццэ нôжкі цыка́юцца. Пас. Янкі Купалы. Аж два́ зу́бы цыка́юцца. Кл.

ЦЫКА'ЦЬ (*цыка́ць*) *I спраж. (-аю, -аеш), пераходны.* Хістаць, вагаць. Ты цыка́й (забіты ў дошку цвік), дак ву́рв[е]цца. Ні цыка́й засло́на. Кл.

ЦЫРКУ'Н (*цыркýн* і *цьвіркýн*) *мужч.* Цвыркун. Ужэ цыркýн запêў,—во́с[е]нь. Хал. Цыркуна́ злаві́ць хо́чу. Кл. Гл. цвіркун.

ЦЯ'ЖКАЯ [1] (*ця́жка*). Цяжкая. М'ёд ве́льмі ця́жкі. Сл. Мо́кры дуб, [е]к во́лаво ця́жкі. Хал.

ЦЯ'ЖКАЯ [2] Цяжарная (жанчына). Твая́ Ма́р'я ця́жка? Барб. Гл. тоўстая. Гл. уцяжку. Параўн.: obtěžkati—зацяжараць, абцяжарыць.

ЦЯЛЕ'Ш (*цяле́ш*) *мужч.* 1. Кавалак калоды, бервяна. Разраза́лі цяле́ш на дошкі. Вайц. 2. Пераноснае. Тоўсты, непаваротлівы (чалавек, конь). Но! Ц[е]ле́ш ты! Кл.

ЦЯРЭ'МХА (*цярэ́мха* і *ц[е]рэ́мха*). Чаром-

ха. Цярэ́мхі наламлю́. Кл. Параўн.: калакалу́ша. Мсціслаў. Какалуша. Пярэжары Радашковіцкага раёна.

ЦЯСЛА′ (*цясла́*) *жан.* Прылада, якою робяць начоўкі, вулей з калоды і інш. Цяслу́ німаве́д дзе дзеў. Кл. Параўн.: цясло́ (ніякі род). Радашковіцкі раён.

ЦЯСНІ′ЦА (*ц[е]сьніца, цясьніца*) *жан.* Дошка з падлогі. Цясьні́ца—е́то памасьні́ца. Кл. Гл. масніца, памасніца.

## Ч.

ЧАПЛЯ′ (*чапля́*) *жан.* Чапяла. Чапля́ ў нас гаво́раць. Сл. Параўн.: ёмка (гл.).

ЧАРАНА′ (*чарана́*) *жан.* Пляцоўка, верх рускай печы. На чаране́ сушы́ла я́гады. Кл. Чарана́, [е]к паля́нка. Барб. Параўн.: черен, чрен—солеварный котел или глубокая сковорода для выпарки соли. Даль, «Толковый словарь».

ЧАСІ′НКА (*часі́нка*) *жан.* 1. Крышачку часу, хвіліначку. Часі́нку пачака́й нас. Кл. Параўн.: часінка. Пярэжыры Радашковіцкага раёна. 2. Хвіліна. Мо й часі́нка ні прайшла́. Кл. Параўн.: часінка—хвіліна. Пярэжыры Радашковіцкага раёна. Параўн.: чэшскае časek—кароткі час, нядоўга.

ЧАСЦЯКО′М Часта, часцютка. Часцяком заходзіць у школу *(арф.)*. Кл.

ЧАСЦЯЧКО′М Прыслоўе. Часцютка. Часцячко́м у я́блычкі бегаюць. *(арф.)*. Барб.

ЧАЦВЯРТА'К (*чацьв*[*е*]*рта́к, чацьвярта́к*). Назоўнік. Конь, карова, бык на чацвёртым годзе. Чацьв[е]рта́к ужэ ў рабо́ту по́йдзе. Кл.

ЧО'БАТ (*чо́бат*) *мужч., множн.* — чобаты. Скіда́й чо́баты да лажы́са. Кл.

ЧУЖНІ'К (*чужні́к*) *зборны мужч.* Не тутэйшыя, прышлыя людзі. У на́с бага́то чужніку́ рабо́тае (на будаўніцтве). Кл. Параўн.: чэшскае cizinec—нетутэйшы, наезджы, чужаземец.

ЧЫКІРДА' (*чыкірда́*) *жан.* Чахарда. Гульня: адзін пераскоквае другога. У чыкірду́ гуля́юць. Зуб.

ЧЫ'СТЫ [1] (*чы́сты*). 1. Чы́сьцянькі шшы́так. Зуб. 2. Чы́сты (не засмечаны) аўёс. Хал. Перша́к ве́льмо чы́сты. Сл. 3. Брыгадзі́р буў вінава́ты, а ву́йшаў чы́сты. Сл. 4. У чы́сты чацьве́р прыхо́дзіла сюды́. Кл. Параўн.: чысты [2].

ЧЫ'СТЫ [2] Часціца якраз, акурат, як. Е́ты хло́п[е]ц чы́сты Рымашэ́ўські. Сл.

## Ш.

ШАБЕ'ТА (*шабе́та*) *жан.* Скураны бумажнік, невялічкая скураная торбачка. Шабе́ту е́ту (партфель) во́зьме й хо́дзіць. Вольн. Нашто́ та́я каму́ шабе́та. Кл.

ША'МНУЦЬ (*ша́мнуць*) *I спраж.* (*-у, -еш*), *непераходны.* Нечакана, раптоўна рухнуць пры праломе лёду або ў балотнай дрыгве. Гадо́ў два́ццаць (назад), му́сіць, ката́ліся на рацэ́, лёд улама́ўся й ша́мнулі або́два. Кл.

ШАСТАКО'Л (*шастакол* і *шастакôл*). Частакол. Шастакол чуць ліпіць. Кл.

ША'ТКА (*шатко*). Вельмі рухава, спрытна, паваротліва; ужываецца пры дзеясловах рабіць, упраўляцца і падобн. Маладзіца хароша, так шатко ўпраўля[е]цца, л[е] печы завіха[е]цца. Сл.

ША'ТКІ (*шаткі*). Вельмі рухавы і спрытны ў рабоце, паваротлівы. Казалі, што Васілёва жонка шатка вельмі, пака ўстануць, усе паробіць. Кл. Параўн.: у рускай мове: 1. Такой, который шатается, качается, неустойчивый... 2. Переносн. Колеблющийся, ненадежный, непрочный. «Толковый словарь русского языка», пад рэд. Д. Н. Ушакова.

ША'ЦЕНЬКА (*шацянько, шац[е]нько*). Памяншальнае ад шатка (гл.). Шац[е]нько ўсе робіць. Сл.

ША'ЦЕНЬКІ (*шацянькі*). Памяншальнае ад шаткі. Ётае дзіцяня спраўнае, шацянькае, ўсе й убачыць і падмож[э]. Кл. Гл. шаткі, шатка.

ШВЕ'НДАЦЦА (*швендацца*). Зваротная форма ад швендаць. Кл., Барб.

ШВЕ'НДАЦЬ (*швендаць*) *I спраж.* (*-аю, -аеш*), *непераходны*. Бадзяцца, хадзіць без справы, без патрэбы. Ідзêце на работу, ні швендайце па вуліцы. Барб.

ШВІ'ВА (*швіво* і *швіва*) *ніяк.* Шыццё. Багата швіва (Вільча)—багата заказаў шыць, багата шыцця. Швіво ні ўц[е]чэ. Сл. Параўн.: Не

прыйшлося сесці за шытво. А. Чарнышэвіч, Світанне, 1957, стар. 167.

ШКЛЮД (*шклюд*) *мужч.* Цяслярская прылада, сякера, якою ачэсваюць тоўстыя бярвенні, у адрозненне ад пуца (гл. пуц)—мае шырокае лязо. І шклю́д ы пу́ц цяга́ў. Вольн. Шклю́дам часа́лі. Кл. Параўн.: Сцены гладка склютаваны. Я. Купала.

ШКЛЯ'НКА (*шкля́нка*) *жан.* Даўней гаварылі: дай шкля́нку. Хал. Та́то наш: шкля́нка й шкля́нка (г. зн. гаворыць толькі шклянка, не стакан). Кл. Адну́ шкля́начку ўра́ньні надайіла. Кл.

ШЛЁГ (*шлёг*). Выклічнікава-дзеяслоўная форма тыпу гоп, хоп. Рэзкі, нечаканы ўдар пугай, дубцом (па кім-небудзь). Шлёг дубцо́м каня́, а ён брыкану́ў. Кл.

ШЛЁ'ГАЦЬ (*шлёгаць*) *І спраж.* (*-аю, -аеш*), *пераходны.* Ударaць пугай, дубцом. Трэба думаць, з нямецкага schlagen. Што ты шлёга[е]ш (каня) бес канца́? Вазьму́ да само́га нашлёгаю. Кл.

ШЛЁ'ГНУЦЬ Зак. тр. ад шлёгаць. Шлёгнуць. Кл.

ШЛУ'ННЕ (*шлу́ньне*). Вантробы, нутро, унутранасці жывой істоты ці якога прадмета. Так выцяў, што й шлу́ньне палёзла. Пас. Янкі Купалы. У фразеалагізме: шлу́нне выцягнуць (параўн.: вантробы дастаць, вантробы выцягнуць, жылле выцягнуць). Кл.

ШЛЯ́ХЧЫЧ (*шля́хчыч*). *Шляхціч.* Шля́хчыч з Загальшчыны прадаваў вала. Кл.

ШМАТО́К (*шматóк*) *мужч.* Невялічкі кавалачак (чаго-небудзь, звычайна сала, мяса, калбасы), крышку. У фразеалагічным спалучэнні: разарва́ць на шматкі́ (Сл.)—разарваць на кавалачкі (вопратку, матэрыял).

ШМУК Гл. шмык.

ШМУ́КНУЦЬ Гл. шмы́кнуць.

ШМЫК (*шмук, шмык*). Выклічнікава-дзеяслоўная форма тыпу хоп, гоп. Пасьне́дае й шмук с ха́ты на ўве́сь дзень. Пас. Янкі Купалы. Гл. шмы́кнуць.

ШМЫ́КНУЦЬ (*шму́кнуць* і *шмы́кнуць*) *І спраж. (-у, -еш), непераходны.* Выскачыць (з хаты, двара) нечакана, раптоўна, ве́льмі хутка, імгненна. Шму́кнуў за дзьве́ры, то́лькі й ба́чылі. Кл.

ШО́ФЕР (*шóф[е]р*). Шафёр. Шóф[е]р казаў, што рухункаво́д да Глу́ська зьбіра́яцца. Кл. Мо гадо́ў тры ўжэ за шо́фяра. Н.-Андр. Адзі́н (сын) шо́фярам, а два трактары́стымі. Кл.

ШТАНДА́РА (*штанда́ра*) *жан., множн.* — штандары. Штандары—дубовыя ці смалістыя хваёвыя круглякі, на якіх стаіць будыніна; штандары ставяцца старчаком. Штанда́ры са́мо ле́п[е]й, каб з ду́бу. Вайц. Навазі́ў штанда́раў аж лі́шняго. Барб.

ШТОЛЬ (*штоль*). Займеннік. Што-небудзь і нешта. Штоль прынясу́ й табе̂. Барб. Штоль

трэ́ба рабіць. Кл. Дайце мне штоль. З сачынення вучня 6-га класа́. Кл. Ужываюцца і што-небудзь і нешта.

ШТУКА'НТ (*штука́нт*) *мужч.* Жартаўнік, майстар расказваць цікава і многа (гісторыі, прыгоды), майстар на выдумкі і фокусы. Ве́льмо ўжэ штука́нты. Кл.

ШТУКА'Р (*штука́р*). Тое, што і штука́нт. Скажэ́це, ніграматные, а такіе штукарэ́. Кл.

ШУМ (*шум*) *мужч.* 1. Шум. Не́йкі шум у маёй галаве́. Вольн. 2. Пена (на вадзе, на кані). Ко́ні (коней) пач шу́мам прыгна́лі. Кл. Набра́ў (у прыґаршчы) шу́му з начо́вак. Пас. Янкі Купалы.

ШУ'ПЕЛЬ (*шу́п[е]ль, шу́пель*) *мужч.* Шуфель. Шу́п[е]ль раскало́ўся. Пас. Янкі Купалы.

ШУ'ТЫ [1] (*шу́ты*). Прыметнік. Бязрогі (бык, карова). Шу́ты буга́й буў. Та́я шу́та каро́ва. Кл. Параўн.: лабатая карова. Заслаўскі раён. Параўн.: галамо́ўзая карова. Сіняўская Слабада Карэліцкага раёна.

ШУ'ТЫ [2] (*шу́ты*). Побач з пазыўным шу́ткі-шу́ткі (для авечак). Шу́ты маê, шу́ты-шу́ты-шу́ты. Кл.

ШЧА'ВЕЛЬ (*шча́в[е]ль, шча́вяль*) *мужч.* Шчаўе. Шча́ўлю зварыць хо́чу. Пас. Янкі Купалы. Шча́вель засо́львала на зіму (*арф.*). Кл.

ШЧАКО'ЎЗЬ (*шчако́ўзь*). Выклічнікава-дзеяслоўная форма тыпу хоп, бразь. Нечакана з'ехаць, скаўзнуцца. Побач з коўзь. Кл. Шчако́ўзь с сто́гу. Кл.

ШЧЫТ (*шчыт*) *мужч.* Вяршыня дрэва. Шчыты́ зьбіра́юць. Вільча. Шчыт усо́х. Кл. У са́мым шчытку́. Кл.

ШЫБУ'НАК (*шыбу́нак*) *мужч.* Пагрозныя падзеі, вайна. Стаў еты шыбу́нак (вайна з белапольскімі акупантамі). Кл. Каб шыбу́нку (вайны) ні было́. Кл.

ШЫТНА'Я (*шытна́я*) *множн.* — шытные. Ужываецца з назоўнікам нітка, ніткі. Ніткі для шыцця. Шытных нітак купіць хо́чу. Кл. Параўн.: шаўна́я. Пярэжыры Радашковіцкага раёна.

# Я.

ЯДА'К (*яда́к*) *мужч.* Член сям'і. Зямлю давалі на ядакоў. Пас. Янкі Купалы.

ЯДКІ' (*ядкі́*). Смачны, які добра, ахвотна есца. Ужываецца ў спалучэнні з назоўнікамі сена, мурог, салома, сенакос (сена з сенакосу). У Ліпцэ сенако́с ядкі́ (сена з сенажаці ў Ліпцы ядкое). Кл.

ЯЗДЖА'ЛАЯ (*яжджа́ла*, [*е*]*жджа́ла*). Ужываецца з назоўнікам дарога. Язджа́лая — у супрацьвагу такой, па якой не ездзяць. З Зубарэвіч у Ра́цьмяравічы (ст. Ратміравічы) лёгко тра́піць, бо там адна́ яжджа́ла даро́га. Кл.

Я'КІЛЬ (*я́кіль*). Як-небудзь і неяк. Якіль, ба́бо, гібе́цьмам, нашто́ б[е]дава́ць. Кл. Каб я́кіль хоць да Малі́нава дату́паць. Сл. Ужываюцца і як-небудзь, неяк.

ЯКІ'ЛЬ (*якіль,* [*е*]*кіль*). Займеннік. Які-небудзь, нейкі. Якіль вўрасьце (які-небудзь вырасце ячмень). Кл.

Я'ПА (*я́па*) *жан.* Грыжа ў жывёліны. Япу нагн[е]лí каню́. Кл. Той вóлік, што я́па на баку́. Байл. Параўн.: уя́па (гл.).

ЯРЭ'МЕЦ *мужч.* Своеасаблівы хамут для валоў. Бываюць прызначаныя на запрэжку аднаго вала і двух. На двух валоў складаюцца з такіх частак: ярэмец—чатырохкантовая перакладзіна (таўшчыня яе 8—13 см), 2 кульбакі (гл.) і 2 занозы (гл.). Валовая шыя закладаецца ў кульбаку і ўстаўляецца заноза ў адтуліны, якія маюцца ў канцах ярэмца і кульбакаў. Ярэмец на аднаго вала—палова апісанага. 2. Частка ярэмца—перакладзіна, якая зверху ляжыць на шыях валоў. Кл.

ЯРЭ'МЧЫК Памяншальнае ад ярэмец. За зіму дзéсяць ярэ́мчыкаў зрабіў на малады́х вóлікаў (*арф.*). Кл.

Я'СІК (*я́сік*) *мужч.* Маленькая падушачка, якою завяршаецца «гара падушак». Ясік зраблю́. Ясік с пу́ху. Кл.

Я'ТРАСЬ (*я́трась*) *жан.* Вакол раны, прышчыка прыкідвае: пачырваненне, свярбіць і балюча. К ёй хадзілі я́трась лячы́ць. Кл. Параўн. грэчаскае jatros — доктар. Параўн.: чэшскае jitřeniti se.

ЯТРО'ЎКА (*етрóўка*) *жан.* Аднагó бра́та жóнка й другóга бра́та жóнка—éто етрóўкі. Сл.

Я'ТРЫЦЦА (*ятрыцца*) *II спраж.* (*-у-ся, -ыш-ся*). Вакол раны, скулы, прышча чырванее, свярбіць, баліць, вельмі непакоіць. Кл. Параўн.: чэшскае jitřeniti se—гнаіцца, злавацца.

## ПРЫКАЗКІ, ПРЫМАЎКІ, ФРАЗЕАЛАГІЧНЫЯ СПАЛУЧЭННІ

АБЕ'Д НА АБЕ'Д—НЕ ТО'Е, ШТО КІ'Й НА КІ'Й *(арф.)*. Сым.

АБШЧАПІ'ЦЬ АБЕ'РУЧ. Апшчапіла абéруч. Кл.

АБЫ ЎМЕЎ ТА'НЧЫЦЬ, А ГАРАВА'ЦЬ І ГО'РА НА'ЎЧЫЦЬ. Абы ўмêў тáнчыць, а гаравáць і гóрэ наўчыць. Кл.

АВЁ'С КА'ЖА: СЕЙ МЯНЕ' Ў ГРАЗЬ, ДЫК БУ'ДЗЕШ КНЯЗЬ *(арф.)*. Кл.

АГРАНО'МЫ ДЫ МАШЫ'НЫ ПАРА'ДКІ БО'ГАВЫ ЗМЯНІ'ЛІ. Агранóмы да машы́ны парáдкі бóгавы зьм[е]нілі. Кл.

АД ВІДНО'ГА ДА ВІДНО'ГА. Усю ноч. Ат віднóга да віднóга спáлі. Кл. Параўн.: Каб з відна да відна не сціхала. А. Куляшоў.

АДНА' (АДЗІ'Н) ДУШО'Ю. Жывé аднá душэ́ю. Сл.

АДНЫ' ВО'ЧЫ ЗАСТАЛІ'СЯ. Ця́жка хвóры буў, дак адны́ вóчы засталíса. Кл.

АДНЫ'М ГАРБУ'ЗІКАМ НЕ ПАД'ЯСІ' *(арф.)*. Вольн.

АКУНІ′ ВУ′ДЗІЦЬ. Спахопліваацца дрэмлючы. Ужэ́ акуні ву́дзіць. Хал.

АКУНІ′ ЦЯГА′ЦЬ. Гл. акуні вудзіць. Хо́піць акуне́ ц[е]га́ць. Хал.

А МА′МАЧКІ! А ма́мачкі! А матачкі! Выклічнік. Выражае ў залежнасці ад сітуацыі здзіўленне, захапленне, спалох. А ма́мачкі! Дзе́ ты тако́е ры́бы налавіў? Кл. А ма́тачкі! Чаго́ ты такі́ мо́кры й мурза́ты прышо́ў? Байл.

А МА′МАЧКІ МАЕ′! Гл. А ма́мачкі! А ма́мачкі маê! Што ж рабіць і што́ чыні́ць? Цёмначы ні знайду́, й сьце́жкі ні віда́ць. Пас. Янкі Купалы.

БАГА′ТА ДЗЕ. Бага́та дзе йшоў дож, а ў на́с ні ка́пнуў. Пас. Янкі Купалы.

БАГА′ТА КАТО′РЫЯ. Бага́то като́рые хадзі́лі. Барб. Маê тава́рышкі бага́то като́рые павыхо́дзілі за́муж. Кл.

БАГА′ТА ХТО. Бага́то хто купі́ў. Кл.

БАГА′ЦЦЯ ЯК У ПАГАРЭ′ЛЬЦА. У йіх бага́цьця [е]к у пагарэ́лца. Сл.

БАКІ′ САРВА′ЦЬ. Така́я сьме́шна (дзіўная), што бо́кі сарва́ць. Сл. Бакі́ сарва́лі, так сьме́шна было́. Кл. А гавары́ць ста́не, дак бо́кі сарва́ць—жыву́е сьме́хі. Хал.

БА′ЦЬКА БЫЎ СТРАЛО′К, А Я ЯГО́ СЫНО́К. Пас. Янкі Купалы.

БЕ′ДНАЯ Я ДЫ СТРА′ДНАЯ. Бêдна я да стра́дна. Кл.

БЕЗ ГНО′Ю ЦІ ЛУ′БІНУ ХЛЕ′БА НЕ ЧАКА′Й. Б[е]з гно́ю ці лу́біну хле́ба ні чака́й. Кл.

БЕЗ ДАЙ ПРЫЧЫ′НЫ *(арф.)*. Кл.

БІ′ЛІСЯ, ДЫК Я ЯМУ ТАК НАДАВА′Ў, ШТО ЁН ЧУЦЬ ПАБЕ′Г, А Я ЧУЦЬ ПАЙШО′Ў *(арф.)*. Глуск.

БЛІШЧЫ′ЦЬ, ЯК ВО′ЎЧАЕ ВО′КА *(арф.)*. Пас. Янкі Купалы.

БО′КІ ПАРВА′ЦЬ. Кл.

БО'КІ САРВА'ЦЬ. Глуск.

БО'КІ ПАПАДРЫВА'ЦЬ. Кл. Гл. бóкі парвáць, бакі сарваць.

БРАЦЬ У КЛЯ'МАРЫ *(арф.)*. Змацоўваць дошкамі комін, калі яму пагражае разбурэнне. Браць у лісіцы, йшчэ кáжуць: браць у клямары. Кл.

БРАЦЬ У ЛІСІ'ЦЫ. Кл. Гл. браць у клямары.

БУ'ДЗЕ КІЙ, ДЫ НЕ ТАКІ'. І на вас, ой, бýдзе кій, да не такі! Кл.

БЫ'ТУ НЕ ДА'ЦЬ. Бýту не дáлі. Сл.

БЯСКІ'ШКІХ У МАРАКІ' НЕ БЯРУ'ЦЬ. Сым. Гл. бяскішкі.

ВЕ'РАД УЗЯ'Ў *(арф.)*. Глуск.

ВІЛЯ'ЦЬ ХВАСТО'М. Хто рабіў, а хто віляў хвастом. Вайц.

ВО'КА МЕЦЬ. За нéшта ж вóко мáе на вáс. Кл. Параўн.: у тым жа значэнні вóка ня мáя. Пярэжыры Радашковіцкага раёна.

ВО'ЎЧЫЯ Я'ГАДЫ. Любыя ягады, не прыдатныя да яды. Усякія вóўчыя ягады скупляе аптэка *(арф.)*. Пас. Янкі Купалы.

ВЫБІРА'ЦЬ КАРО'ВУ НЕ КАБ ПАЗО'РНАЯ, А КАБ МАЛО'ЧНАЯ *(арф.)*. Глуск.

ВЫ'БІЦЬ НАТУ'РУ. Вольн.

ВЫ'ГНАЦЬ НАТУ'РУ *(арф.)*. Пас. Чырвоны. Вýганю натýру. Барб.

ВЫ'ГНАЦЬ ХВАРО'БУ *(арф.)*. Кл.

ВЫ'ЛУПІЎ ВО'ЧЫ, ЯК САВА' *(арф.)*. Вільча.

ВЫ'ЛУПІЎСЯ, ЯК САВА' *(арф.)*. Вільча.

ВЫ'РУЧЫЦЬ З БЯДЫ *(арф.)*. Глуск.

ВЯЛІ'КІЯ ГАДЫ' *(арф.)*. Многа год. З тагó вялікія гады прайшлі *(арф.)*. Зуб. А яму — вялікія гады *(арф.)*. Кл.

ГАДЗІ′ЦЬ, ШТО ЛІХО′Й СКУЛЕ′. Гадзí, што ліхóй скулê. Сл.

ГАЛАВЫ′ НЯМА′. У мянé тáк ц[е]пéр галавы́ німá. Кл.

ГАРА′ЧКА ХАПІ′ЛА *(арф.)*. Байл.

ГАСПАДА′Р ЗА ЧАРКУ′, А ЖО′НКА Ў СВА′РКУ *(арф.)*. Глуск.

ГАСПАДЫ′НЯ ПА ГРА′ДАХ ВІДА′ЦЬ, А ПАСТУ′Х ПА ГО′ЛАСЕ ЧУВА′ЦЬ. Кл.

(ЯК ТАЯ) ГАСПАДЫ′НЯ, ШТО Ў ПЕЛЯНЕ′ ЖАР НАСІ′ЛА *(арф.)*. Кл. Гл. пелянá.

ГВА′ЛТУ НАРАБІ′ЦЬ. Гвáлту нарабíлі. Хал., Зуб. Параўн.: вэ́рхал падняць.

ГІ′ДКІ, ЯК КАЖА′Н *(арф.)*. Кл.

ГНАЁ′К ДЫ ЛУБІНО′К — ХЛЕ′БА І НА ДРУГІ′ ГАДО′К *(арф.)*. Кл.

ГОД МА′Е БАГА′ТА ПРЫГО′Д. Год мáе багáтэ прыгôд. Кл.

ГО′ЛЫ ГАЛЬЦО′М. Прышóў к нам гóлы-гальцэ́м. Кл.

ГО′ЛЫ, ШТО БІЗУ′Н *(арф.)*. Кл.

ГО′ЛЫ, ЯК БІЗУ′Н *(арф.)*. Кл.

ГУБЕ′ НЕ ВЕ′Р, А ПАКАЖЫ′ ПРЫМЕ′Р, ДЫК ЯНА І ПЛЯ′МКАЕ. Праўду казала пакойна маці: гýбе ні вêр, а пакажы́ прымêр, дак яна й пля́мкае. Глуск.

ГУ′БЫ ЗАКАПЫ′ЛІЦЬ. Гýбы закапы́ліць — і ні падыйцí! Ні закапýльвай губ, а рабí што трэ́ба. Кл. Параўн.: гýбы закапы́зіць. Пярэжыры Радашковіцкага раёна.

ГУЛЬТАЯ′ КАВА′ЛАК *(арф.)*. Кл.

ГУЛЬТАЯ′ КУСО′К *(арф.)*. Кл.

ДАВЕ′СЦІ ДА БЕ′ЛАЕ ГАРА′ЧКІ. Да бêлае гарáчкі давелí. Сл.

ДАЙ АБРО′КУ ДЫЙ БІ′ КАНЯ′ ПА БО′КУ. Дай абро́ку, дай бі каня́ па бо́ку. Кл. Гл. аброк.

ДАЙ, БО′ЖА, УСЁ ЎМЕЦЬ, ДЫ НЕ ЎСЁ РАБІ′ЦЬ *(арф.)*. Кл., Вайц.

ДАЙСЦІ′ СВАЁ′Ю ГАЛАВО′Ю. Сам ра́дзіва зрабіў, сам ру́чку наліўну́ю зрабіў—а ніграматны, дайшо́ў сваёю галаво́ю. Барб.

ДАЛЕ′Й-НА-ДАЛЕ′Й. Праходзіў час. Да́ляй-нада́ляй, а йіх німа́. Вольн.

ДАСТА′ЦЬ ВАНТРО′БЫ. Кл. Пачка́йце, ён з вас вантро́бы даста́не. Кл.

ДАЎГАНО′ГІ, ЯК БУ′СЕЛ. *(арф.)*. Хал., Сым.

ДАЎ ЛАТАТЫ′. Поб. Ба́чыць, што тру́дна бу́дз[е] да лататы́ даў. Вольн.

ДАЦЬ ГА′НЬБУ. Сам—які́, а ўсім дась га́ньбу. Кл.

ДАЦЬ ДЗЕРАКА′. Сл. Хто ва[е]ва́ў, а ён—дзерака́ даў, шынэ́ль палучы́ўшы. Хал.

ДАЦЬ КІЯ′ЖЫНЫ. Ні йгру́ш, а кія́жыны даду́ць там. Кл. Гл. кіяжына.

ДАЦЬ ХВА′ЯРУ. Ён і старшыні́ дась хва́яру. Параўн.: нямецкае Feuer—агонь.

ДВАІ′Х ДУШО′Ю. Жыву́ць двайі́х душэ́ю. Кл. Параўн.: адна́ душо́ю.

ДВОР, ЯК ПА′НІ СЕ′СЦІ. Така́я цясно́та ў нас, а двôр як па́ні сêсьці. Вольн.

ДНЁМ ЛЕ′ТА НЕ ПО′ЗНА. Адзін дзень не вырашае. Днем лêто ні пôзно. Кл.

ДО′БРАМУ ЧАЛАВЕ′ЧКУ ДО′БРА І Ў ЗАПЕ′ЧКУ, А ПУСТАЦЕ′ ЛІХО′ І НА КУЦЕ′. До́браму чалаве́чку до́брэ й у запе́чку, а пустацê ліхо́ й на куце́. Кл. Параўн.: До́браму чалаве́чку до́бра й у запе́чку, а благаце́ ке́пска й на куце́. Маладзечна.

ДО'БРАЯ ГУ'ШЧА НАВЕ'РХ НЕ ЎСПЛЫВА'Е. До́бра гу́шча наве́рх ні ўсплыва́е. Кл.

ДО'БРА ЖЫЎ! — ПЕХАТО'Ю ЗА КАНЁ'М ХАДЗІ'Ў *(арф.)*. Зуб.

ДО'БРА І ЧЫНІ'ЛІ. До́бра й чыні́лі, што на су́д падалі́. Пас. Янкі Купалы.

ДО'БРАЯ СЛА'ВА ДАЛЁ'КА ЧУВА'ЦЬ, А ЛІХА'Я ЯШЧЭ' ДАЛЕ'Й. До́бра сла́ва дале́ка чува́ць, а ліха́я шчэ да́л[е]й. Глуск. До́бра по́галаска дале́ка чувацъ, а ліхая по́галаска шчэ да́л[е]й. Вольн.

ДО'ХЛЯ НАЙШЛА'. Чаму́ на йі́х до́хля ні но́йдзе?

ДО'ХЛЯ ЎКІ'НУЛАСЯ. До́хля ўкі́нуласа, дак мо со́рак сьвіньне́й загі́нуло. Кл.

ДУБЦА' ДАЦЬ. Папа́лі мо́ду чыта́ць на страсе́. Другі́ раз дубца́ дам. Хал.

ДУ'РАНЬ ГАТО'ВЫ. А што́ таму ду́рню гато́ваму трэ́ба? Пас. Янкі Купалы. Параўн.: чэшскае to je hotovy blazen.

ДУ'РАНЬ ХОЦЬ НА КАГО' СКА'ЖА: «ДУ'РАНЬ» *(арф.)*. Бяр.

ДУХ ЗАНЯЛО' *(арф.)*. Вільча.

ДУХІ' ПАДЦЯГЛО'. Аж духі́ падцягло́. Ці ско́ра е́сьцімам? Так вы́галадаўса, што аж духі́ пацьц[е]гло́. Зуб.

ДЗЕ'НЬ ПРЫ ДНІ' *(арф.)*. Вольн.

ДЗЕ СЯЛЬЦО', ТАМ І НАРАЎЦО'. Дзе сяльцэ́, там і нараўцэ́. Зуб.

ДЗЯРЖА'ЦЬ НА СУ'СЕ. Абыякава, ненармальна сім-тым карміць, недакормліваць. Сама́ ніўда́ліца така́я, падзяржа́ла йі́х на су́се. Кл.

Е'СЦІ, ЯК ВЕРАБЕ'ЙКУ. Нếйкі нігадốўны (гл. негадоўны). Ếсь [е]к верабе́йко. А дай м'яса, й ні ếсьціме. Барб.

Е'СЦІ, ЯК СІ'НЬДЗІКУ *(арф.)*. Барб. Гл. сіньдзік.

ЖА'БА АПО'ЎЗЛАЯ. Ацэначна-зневажальнае. Гл. апоўзлая. Жа́ба апо́ўзла. Байл. Жа́бу ту́ю апо́ўзлу ні пасыла́й. Ах, ты жа́ба апо́ўзла. Кл.

ЖА'РУ ША'ПКАЮ НЕ НАНО'СІШ *(арф.)*. Пас. Янкі Купалы.

ЖЫВЕ'ЦЦА, ЯК САВЕ'. Кепска жывецца (каму-небудзь): не любяць, няма ходу, як днём саве. Той ба́бе жыве́цца, [е]к саве́. Кл.

ЖЫВЫ'Я СМЕ'ХІ. Вельмі смешна, смех з глыбокай душы. А гавары́ць ста́не, дак бо́кі парва́ць (гл. бакі сарваць),—жыву́е сьме́хі. Хал.

ЖЫ'ЛЛЕ ВЫ'ЦЯГНУЦЬ *(арф.)*. Гл.

ЗА'ВАДУ НЯМА'. Ужэ́ й ні се́юць сацьві́цы, мо й за́ваду німа́. Кл.

ЗАГАВЕ'ЦЬ ДУШО'Ю. Там і душо́ю загавêў бêдны. Кл.

ЗАГУЛЯ'ЦЬ НА ВЯРО'ЎКАХ. Быць павешанаму ці спушчанаму на вяроўках у магілу. Дзе ты буў? Гуля́ў? Што б на вяро́ўках загуля́ў! Кл.

ЗАДЗІ'РЛІВЫ, ЯК ПЕ'ВЕНЬ *(арф.)*. Кл.

ЗАДЗІ'РЫСТЫ, ЯК ПЕ'ВЕНЬ *(арф.)*. Кл.

ЗА ДУРНО'Ю ГАЛАВО'Ю НАГА'М НЯМА' СПАКО'Ю. За дурно́ю галаво́ю нага́м німа́ спако́ю. Пас. Чырвоны.

ЗАКАПЫ'ЛІЦЬ ГУ'БЫ. Гл. закапы́ліць і закапуліць. Не́што ні так сказа́ла, дак і закапу́ліла губу (губы). Кл. Параўн.: закапы́зіць гу́бы. Пярэжыры Радашковіцкага раёна.

ЗАКУСІ'ЦЬ ЯЗЫКО'М *(арф.)*. Гл.

ЗАМАЎЧЫ', КАБ ТЫ НАВЕ'КІ ЗАМАЎЧА'Ў *(арф.)*. Хал.

ЗАРАБІ'Ў, ЯК НА ВАЛА'Х СЕДАКО'Ў ВО'ЗЯЧЫ *(арф.)*. Кл.

ЗА ЦІ'ТА ВЫ'НЕСЦІ. Вынесці за Ціта—пахаваць.

Могілкі за Цітаваю сядзібаю. Кл. Мýсіць скóра за Ціта вы́несуць *(арф.)*. Кл. Наштó паўнóсілі (павыносілі)? Каб за Ціта вýнясьлі. Кл.

ЗБІЦЬ УПЕ′НЬ. Зусім збіць (жывёлаю, градам) гарод, збажыну. Зьбілі ўпень вáшы[е] грады (гарод). Пас. Янкі Купалы. Град упень зьбіў усю пашню. Кл.

ЗДАРО′ВЫ, ШТО ДРО′Т *(арф.)*. Зуб.

З ДУГІ′ АГЛО′БЛІ НЕ ЗРО′БІШ. Наштó мудравáць? З дугí, брат, аглóблі не зрóбіш. Хал.

З КАМАРО′ВУЮ ДЗЮ′БУ. Вельмі мала чаго-небудзь. Сáла с камарóву дзюбу зьзеў. Кл.

З ЛО′ЖКА ЎСТАЕ′ СЯРДЗІ′ТЫ, А НА ЛО′ЖАК ЛАЖЫ′ЦЦА НАБІ′ТЫ *(арф.)*. Глуск.

ЗНА′ЦЬ НЕ ЗНА′Ю І ВЕ′ДАЦЬ НЕ ВЕ′ДАЮ. Путáліса, дак я нічóга ні сказáла. Гавару йім: Знáць ні знáю й вêдаць ні вêдаю. Хал.

З ПО′ЦЯГАМ *(с пóцягам, с пóц[е]гам)*. Ударыць (ляснуць, секануць, сцебануць) пугаю жывёлу, спалучыўшы ўдар з імгненным процягам. Кл.

ЗРАБІ′ЦЬ—І СА′М ЗРО′БІЦЬ, ТО′ЛЬКІ ПЕРАРАБЛЯ′ЦЬ ПРО′СІЦЬ *(арф.)*. Глуск.

ЗРАБІ′ЦЬ ЛАТАТЫ′. А вы ні зрабілі лататы́? Вайц.

З ШЫ′ЛА НЕ ЗРО′БІШ МЫ′ЛА. Ш шыла ня зрóбіш мýла. Кл.

ІДУ′ЦЬ, ЯК НА ШПА′ЦЫР *(арф.)*. Хал.

І ЗА′ВАДУ НЯМА′. Малíн і зáваду німá. Кл. Скóро кáчак дзíкіх і зáваду ні бýдзе, зьністóжылі птáство. Хал. Ужэ й ні сéюць сацьвіцы (гл. сацьвіца), мо й зáваду німá. Кл.

І КЛЯ′МКА! Канец, капут! Тут у нас е швэ́даў затóн. Кóлісь швэ́ды на плытóх плылí, заплылí ў затóн, а на йíх с усіх бакóў (напалі). Тут йім і кля́мка булá. Хал.

ІЛЛЯ′ НАРАБІ′Ў ГНІЛЛЯ′. Ілья́ нарабіў гніль-

ля́. Пас. Янкі Купалы, Кл. Пры́дзе Йілья́ — нарóбіць гнілья́. Вайц.

І НА ЗЕ′ЛЛЕ НЯМА′. І на зéльле німá. Кл. Гл. зелле.

ІНДЫ′К ДУ′МАЎ, ДУ′МАЎ, ПАШО′Ў У МО′Х ДЫЙ ЗДО′Х. Інды́к дýмаў, дýмаў, пашóў у мох дай здох. Кл.

ІСЦІ′ НА ВАДУ′. Ісці гнаць плыты, ісці за плытніка. Хадзілі на вóду. Кл. Трэ́ба пайці на вóду. Зуб.

І ТЫ (ЁН, ЯНА) НЕ ЗЛО′МАК! *(арф.)*. Пас. Янкі Купалы.

І Ў ЗУ′Б НЯМА′. Зусім няма кармоў, фуражу, прадуктаў; няма чым і зубы прачысціць. І ў зýб німá сéна! Зуб.

І Я′ Б КАСІ′Ў, КАБ ЧОРТ КАСУ′ НАСІ′Ў. І я б касíў, каб чорт кóсу насíў. Кл.

КАБ ЗНЕ′ХТАВАЦЬ, РО′ЗУМУ НЕ ТРЭ′БА. Каб зьнéхтаваць, рóзуму ні трэ́ба. Сл. Гл. знехтаваць.

КАБ НА ЦЯБЕ′ СУМАРО′К НАЙШО′Ў! *(арф.)*. Барб.

КАБ НЕ ТОЙ «ЧУЦЬ» — ДО′БРЫ ЧАЛАВЕ′К... Чуць—субстантаванае слова, добры чалавек—прыдатак да яго. Жартоўная заўвага на паведамленне тыпу: чуць не ўпаў, чуць не разбіў (што-небудзь), чуць не памыліўся і да іх падобныя.—Чуць у кана́ву з вóзам ні п[е]ракулíўса.—Але ж. Каб ні той чýць, дóбры чалавéк, то ў кана́ве пла́ўваў. Кл.—Чý[е]ш? А сéні чуць ні ўскóчылі ў пéльку (гл. пелька).—Дóбра, што éты чýць — дóбры чалавéк. Кл.

КАБ РОТ ХЛЯСЦЕ′Ў! Каб рот хл[е]сьцéў! Пас. Янкі Купалы.

КАБ ТАК СМЫ′КАМ, ЯК ЯЗЫ′КАМ *(арф.)*. Глуск.

КА′Б ТЫ (ЁН, ЯНЫ, ВЫ) СПРАСО′НКУ КРЫЧА′Ў *(арф.)*. І чагó там раскрыча́ліса? Унíмку німá на вáс. Каб вы спрасóнку крыча́лі! Кл.

КАБ ЦЯБЕ МАЛА'НКА-РАСЦЕРАЗА'НКА! *(арф.)*. Кл.

КАВА'ЛАК ГУЛЬТАЯ'. Кл.

КАВА'ЛАК МАНЬКУТА'. Кл. Гл. манькут.

КАВА'ЛАК П'Я'НІЦЫ. Кл.

КАМУ' КАМЯ'К, А КАМУ' НІЯ'К. Каму́ кам'я́к (і камяк), а каму́ нія́к (і аніяк). Вайц.

КАМУ' ШАНЦУ'Е НА ГАДО'ЎЛЮ, А КАМУ НА ГАРО'ЎЛЮ. Каму́ шанцу́я на гадо́ўлю, а каму́ на гаро́ўлю. Вольн.

КАНЕ'Ц ЛА'ПЦЯМ — БО'ТЫ ПАЙШЛІ' *(арф.)*. Поб.

КАНЧА'Й І ПРАБАЧА'Й. Кл.

КАПАНІ'ЦАЮ ТРА'КТАР ПУЖА'ЦЬ *(арф.)*. Кл. Гл. капаніца.

КАПЫТЫ' СКЛА'СЦІ *(арф.)*. Байл.

КА'ЧЧЫНАЯ НЯДЗЕ'ЛЯ. Дзися́та ат каля́д нядзе́ля, дак е́то й е ка́ччына нядзе́ля. Кл. Мабыць, у гэты час звычайна вяртаюцца з выраю качкі.

КІДУ'Н КІ'ДАЕ. Прыпадак, прыступ падучай хваробы (эпілепсіі). Кінуў сваê да йдзé на чужы́[е] (дзеці). Што б йіх кіду́н кідаў. Пас. Янкі Купалы. Каб ва́с кіду́н кідаў! Кл.

КІ'ПЦІ, ШТО САХАРЫ'. Кіпці, што сахарэ́. Кл. Гл. кіпець. Гл. сахор.

КЛЯВА'ЦЬ НО'САМ *(арф.)*. Кл. Гл. акуні ву́дзіць.

КРАМ, ЯК РЭ'ШАТА. Рэдкі крам, радабоддзе (гл.). Купіў кра́му, як рэ́шато. Кл.

КРУ'ЦІЦЦА, ЯК УЮ'Н *(арф.)*. Кл.

КУДЫ' НЕ ЗАВУ'ЦЬ, АБЫЙДЗІ'. Куды́ ні заву́ць, абуйдзí. Сл.

КУ'ПЧЫЦЦА, ЯК КУ'РЫ НА КУБЛЕ' *(арф.)*. Кл. Гл. кубло.

КУ'РЫ НЯМА' КУД'Ы ВЫ'ПУСЦІЦЬ. Ку́ры німа́ куды́ ву́пусьціць. Кл.

КУСО'К ГУЛЬТАЯ'. Кл.

КУСО'К МАНЬКУТА'. Кл. Гл. манькут.

КУСО'К П'Я'НІЦЫ. Кл.

ЛА'ТА НА ЛА'ЦЕ *(арф.)*. Сым.

ЛА'ХІ ПАД ПА'ХІ. Хутка рушыць, не збіраючыся. Ла́хі пад па́хі й пашлі́. Барб.

ЛЕ'ЗЦІ СЛЯПІ'ЦАЮ Ў ВО'ЧЫ. Пяраста́нь ты ў во̂чы лё̂зьці! Каб за што́, ато за німа́ нішто́ ле́зе сьл[е]піцаю ў во̂чы. Барб.

ЛЕПШ КРО'ШКУ ЗРАБІ'ЦЬ, ЯК БАГА'ТА НАГАВАРЫ'ЦЬ *(арф.)*. Баян.

ЛЁ'ГКІ НА НО'ГІ *(арф.)*. Сым.

ЛІСА' І ПАД БАРАНУ' ХАВА'ЛАСЯ: ТО Ў ЗУ'Б, ТО Ў ПРУ'Т, ДЫ ЎСЁ МІ'МА. Ліса́ й пуд бара́ну хава́ласа: то ў зу́б, то ў пру́т, да ўсе мімо. Кл.

ЛІ'ХА НЕ ВО'ЗЬМЕ. Ліхо йіх не во́зьме. Кл.

ЛІХА'Я ГАДЗІ'НА *(арф.)*. Сл., Хал., Кл.

ЛІХА'Я СКУЛА'. Гадзі́, што ліхо́й скуле́. Сл.

ЛІХІ' САБА'КА СПАДЦІШКА' КУСА'Е. На то́е й ка́жуць: ліхі́ саба́ка спацьцішка́ куса́[е]. Пас. Янкі Купалы.

ЛІЦА' НЯМА'. Пра чалавека, надта знясіленага, схварэлага або перапалоханага, — яго па твары не пазнаць. Ліца́ на ё́м німа́. Сл.

ЛУПЦОЎ'КІ ДАЦЬ *(арф.)*. Сл.

ЛЫ'ТКА ЗАДРЫЖА'ЛА *(арф.)*. Страшна стала. Вайц.

ЛЮ'БІШ КАТА'ЦЦА, ЛЮБІ' І СА'НАЧКІ ВАЗІ'ЦЬ. На то́е й ка́жуць: як лю́біш ката́цца, то любі́ й са́нячкі вазі́ць. Кл. Гл. санечкі.

ЛЮ′БІШ УЗЯ′ЦЬ, ЛЮБІ′ І АДДА′ЦЬ. Й сын быў такі, што любіў узяць, а ні любіў аддаць. Праўду кажуць: любіў узяць, любі й аддаць. Вайц.

ЛЯЙЧЫ′НА ПАД ХВОСТ ТРА′ПІЛА (і папала) *(арф.)*. Кл. Што і шалёная муха ўкусіла.

ЛЯНО′ТА АДАЛЕ′ЛА *(арф.)*. Пас. Янкі Купалы.

ЛЯНЫ′ ГОРШ ЗА БЯЗРУ′КАГА *(арф.)*. Кл. Гл. ляны.

— МАЛЫ′, ПАСІ′ ВАЛЫ′!

— А ТЫ, ВЯЛІ′КІ, ПАСІ′ ІНДЫ′КІ.

— Малы, пасі валы.

— А ты, в[е]лікі, пасі йіндыкі. Кл., Байл., Глуск.

МАТКА КРЭ′ПКА ЗАМАХНЕ′, А ПАМАЛЕ′ЧКУ ВЫ′ТНЕ. На тое маці,—й крэпко замахне, а памалечку вутне. Кл.

МАТЫ′ЛІЦУ ВЫ′ГНАЦЬ. Што і выгнаць натуру. Вайц.

МАЎЧЫ′, ТО БУ′ДЗЕШ РАЗУМНЕ′ЙШЫ ЗА РАЗУ′МНАГА. Маўчы, то будз[е]ш разумнейшы за разумнага. Пас. Янкі Купалы.

МАЦУ′НКУ НАБРА′ЦЦА. А там то так і наб[е]рэсься мацунку? Вайц.

МІХА′СЬ КАГО′ ХО′ЧАШ ПРАДА′СЦЬ. Міхась каго хочаш прадась. Гл.

МНЕ ХОЦЬ ВО′ЎНА, АБЫ КІ′ШКА ПО′ЎНА. Мне хоць воўна, абы кішка поўна. Пас. Янкі Купалы.

МО′ВУ АДАБРА′ЛА. Мову атабрало. Кл. Мову адабрала. Сым.

МО′ВУ АДНЯЛО′ *(арф.)*. Кл.

МУ′ДРЫ БУДЗЬ, АЛЕ НЕ МУДРУ′ЙСЯ *(арф.)*. Вольн.

МУЖЫКА′ НІЖЭ′Й НЕ РАЗЖА′ЛУЕШ *(арф.)*. Глуск.

«МУ′СІЦЬ» ЗА ВУХА ЎКУ′СІЦЬ *(арф.).* Глуск.

НА ВАДУ′ ІСЦІ′ (хадзіць). Гнаць плыты. Любіў на воду хадзіць. Хал. На воду хадзіў. Зуб.

НА ВО′КА ЎСКІДА′ЦЬ *(арф.).* Кл.

НАВУ′КУ ЗА ПЛЯЧЫ′МА НЕ НО′СЯЦЬ *(арф.).* Вільча.

НАГУЛЯ′ЎСЯ, ЯК НА ПЕ′ЎНЕВЫМ ВЯСЕ′ЛЛІ. Нагуляўса, [е]к на пеўнявым в[е]сельлі. Зуб.

НА ДЗЕ′НЬ ЗАЙМА′ЕЦЦА *(арф.).* Часіны світання, пачатак світання. Кл.

НАЕ′ДКУ, ШТО (ЯК) З РА′КУ *(арф.).* Кл.

НА І′Х (ЦЯБЕ, ВАС) ЛІ′ХА! Кас., Зуб., Кл.

НАМАНІ′ЦЬ, ШТО І Ў КАРО′БКУ НЕ ЗБЯРЭ′Ш. Наманіў, што й у каробку ні зьбярэш. Кл.

НАРАБІ′ЦЬ КАЛАТУ′ШЫ. Калатушы нарабілі, што й ні разабраць. Сл. Гл. калатуша.

НАРАБІ′ЦЬ КРЫ′КУ *(арф.).* Кл.

НАРАБІ′ЦЬ ШКО′ДЫ. Пастухом працаднёў назьнімалі, што шкоды нарабілі. Байл.

НАРАБІ′ЦЬ ПО′ГАЛАСКІ. А нашто нарабіў погаласкі на ўвесь сьвет? Пас. Янкі Купалы. Гл. погаласка.

НА СКО′РЫМ ЧА′СЕ. Штоб на скорам часе, то й атратавалі б. Кл.

НА СТРАСЕ′ ВАЛА′ ПА′СВІЦЬ. Розуму, што ў таго, што хацеў на страсе вала пасьціць. Кл.

НАЎСКЛАДА′ЦЬ ПА КАЎНЯРЫ′ *(арф.).* Набіць. Што і наўскладаць у каўнер. Кл. Гл. наўскладаць у каўнер.

НАЎСКЛАДА′ЦЬ У КАЎНЕ′Р. Набіць. Кл. Гл. наўскладаць.

НЕ ВУЧЫ′ КУЛЬГА′ЦЬ: І ТАК НО′ГІ БАЛЯ′ЦЬ *(арф.).* Пас. Янкі Купалы.

НЕ ГАСПАДЫ′НЯ, ШТО АПО′ЎДНІ Ў ПЕ′ЧЫ ПА′ЛІЦЬ *(арф.)*. Кл.

НЕ ГАСПАДЫ′НЯ, ШТО АПО′ЎНАЧЫ Ў ПЕ′ЧЫ ПА′ЛІЦЬ *(арф.)*. Кл.

НЕ ДА′Й БОГ ДВА РАЗЫ′ ЖАНІ′ЦЦА І ДВА РАЗЫ′ СТРО′ІЦЦА. Ні да́й бог два раз жані́цца й два раз стро́йіцца (будавацца). Кл. Гл. строіцца.

НЕ ДА′Й, ДО′ЛЯ, У ПРЫ′МАХ ЖЫЦЬ І НА ЧУЖЫ′НЕ ЗАГІ′НУЦЬ. Ні да́й, до́ля, ў пры́мах жыць і на чужы́не загі́нуць. Хал.

НЕ КРУЦІ′ ВЕ′ЛЬМІ: ПЕРАКРУ′ЦІШ. Не круці́ ве́льма: пяракру́ціш. Кл.

НЕ ЛА′Й І НЕ ПЕРАПРАША′Й *(арф.)*. Кл.

НЕ МАЕ′ ГАДЫ′ (н[е] мае́ гады́). Не мой час, не ў мае гады (рабіць што-небудзь). Н[е] маê гады́ на ры́бу хадзі́ць, — у ву́рай зьбіра́цца пара́. Дак. Ні маê гады́ на се́но хадзіць (хадзіць на сена — грэбці сена, складаць у копы). Кл.

НЕ РЫБА, ШТО Ў РАЦЭ′, А РЫ′БА, ШТО Ў РУЦЭ′ *(арф.)*. Глуск.

НЕ ТА′Я МА′ЦІ, ШТО СПАРАДЗІ′ЛА, А ТА′Я, ШТО ВЫ′ГАДАВАЛА *(арф.)*. Зуб.

НЕ Ў ГАЛАВЕ′. Мне й ні ў галаве́, што́ ты ро́біш. Кл.

НЕ ЎГНО′ІШ ПО′ЛЯ, НЕ ПРЫВЯЗЕ′Ш З ПО′ЛЯ *(арф.)*. Ст. Ратміравічы.

НЕ ХАЧУ′, НЕ ХАЧУ′, АДА′ЛЕ І ПА′ПЛІСКАЮ НЕ АДГО′НІШ. Пазаві́, дак—«ні хо́чу». Ні хо́чу, ні хо́чу, ада́ле й па́пліскаю ні адго́ніш. Кл.

НІ НЯБО′Ж НІ ХРЫШЧЭ′НІК *(арф.)*. Барб.

НІ ПО′РАХУ НІ СІ′НЯГА. Анічога. Ні було́ ж у йіх ні по́раху ні сіняго. Кл.

НІ СВАТ НІ БРАТ І НІ ХРО′СНІК *(арф.)*. Вайц.

НІ СЛАВЕ′ЧКА НІ БЕ′ДНАГА. Маўчыць, ні славечка ні беднаго ні сказаў. Кл.

НІ Ў САЛДА′ТЫ, НІ Ў МАТРО′СЫ, А ПАДМА′ЗВАЦЬ КАЛЁ′СЫ *(арф.)*. Глуск.

НІ ШАВЕ′Ц, НІ КРАВЕ′Ц, НІ КАВА′ЛЬ, НІ СТРУ′ГАЛЬ, — ПРО′СТА ГАВАРЫ′ЛЬШЧЫК *(арф.)*. Глуск.

НО′ГІ АДАБРА′ЛА. У пельку ўскочыў зімою, дак ногі атабрало. Кас.

НОС ЗРЫВА′Е *(арф.)*. Хал.

НЯЛЮ′ДСКАЯ КАМПА′НІЯ І ДО′БРАГА ЗВЯДЗЕ′. Нілюдзка кунпаняя й добраго зьв[е]дзе. Барб.

НЯМА′ І НА ЗЕ′ЛЛЕ. Так жжыласа, што німа й на зельле. Сл.

НЯЧЫ′СТЫ ДУХ *(арф.)*. У тым жа значэнні нячысцік *(арф.)*. Кл.

ПАД БО′ГАВАЮ СТРАХО′Ю. Не накрыта, не прыбрана. Амеці й сені пад богаваю страхою. Сл.

ПАДКРА′ЎСЯ, ШТО КОТ. Паткраўса, што кот. Кл.

ПАДКРА′ЎСЯ, ЯК КОТ *(арф.)*. Н.-Андр.

ПАЖАНІ′ЛІСЯ, ШТО МАЛАДЫ′ КОНЬ І СТАРЫ′ ВОЛ СПРЭ′ГЛІСЯ. Ён стары, а маладую ўзяў. Куды ето варт? Пажаніліса, што малады конь і стары вол спрэгліса. Хал.

ПАЙСЦІ′ Ў СКО′КІ. Ён шчэ ў скокі мог пайці. Хал.

ПАЙСЦІ′ Ў СТОЛЬ. Гл. столь [2]. Буракі пашлі ў столь. Морква йдзе ў столь. Кл.

ПАЛЕ′ПШАЛА! ТО НУ′ДЗІЛА, А ТО ВАНІТУ′Е *(арф.)*. Кл.

ПАЛІ′ЦЬ МАЛА′НКАЮ. Ні робіць, а маланкаю паліць. Вайц.

ПА МАЛАКУ′ НОГ НЕ ПАВАЛАКУ′. Па малаку ног ні павалаку. Байл.

ПАПА'СЦІ МО'ДУ. Папáлі мóду чытáць на страсé. Другі раз дубцá дам. Хал.

ПА'РА КАСЦЕ'Й НЕ ЛО'МІЦЬ. Лепш хай гóрачэ, [е]к хóладно,—пáра касцéй ні лóміць. Хал.

ПАРАСЯ'ТЫ, ЯК ПАЧЫ'НКІ *(арф.)*. Гладкія, тоўстыя парасяты. Кл. Гл. пачы́нак.

ПАСЛЯ' ІЛЛІ' ВАДА' З ЗЯМЛІ'. Пóсьле Йільлí вадá й зь з[е]млí. Кл., Хал.

ПАСЛЯ' ПЕ'ЎНЯЎ *(арф.)*. Пасля поўначы. Кл. Слова певень у родн. склоне множн. ліку ўжываецца з націскам на першым (пéўняў) і на другім складзе (пяўнёў), часцей—на другім.

ПАСПЫТА'ЦЬ ДУБЦА' (паспытáць і паспутáць). Ці аўсá спýтвалі (незак. тр.), а ў такóга рабóцька паспутáлі (коні) дубцá. Кл. Ігрýшы паспутáў і дýбчыка паспутáў. Барб.

ПАСПЫТА'ЦЬ ПУ'ГІ (паспытáць і паспутáць пугі). Каб ён паспутáў мóкрае пýгі, то ні перасьміхáў бу (бы) бóльшых. Кл.

ПАЎТАРА' ЛЮДСКО'ГА. У нáс нéшто паўтарá людзкóго вýйшло. Сл.

ПАШЛА' ПО'ГАЛАСКА. Пашлá пóгаласка, што Кандрáт вéльмо дóбры варажбíт. З казкі. Кл. Параўн.: пошла писать губерния. Гл. погаласка.

ПІШЧО'М ЛЕ'ЗЦІ. А囲 нащтó было так дамагáцца? Нащтó пішчóм лéзьці былó? Кл. Так і трэ́ба йім, чагó пішчóм лêзьлі? Кл.

ПЛЁ'ТКІ ПЛЕ'СЦІ *(арф.)*. Вольн.

ПО'ГАЛАСКУ ПУСЦІ'ЦЬ. Пусьцíлі пóгаласку, што бáчылі ў Міньську. Кл. Гл. погаласка.

ПО'КУЛЬ БА'ЦЬКА КАПУ' ЖЫ'ТА ЗМАЛАТА'Ў, ДЫК Я ЛА'ПЦЯ СХВАТА'Ў. Пóкуль бáцько кóпу жы́та змалатáў, дак я лáпця схватáў. Кл.

ПРА'ЎДА НЕ ЎТО'НЕ І НЕ ЗГАРЫ'ЦЬ. На тóе й

ка́жуць, што пра́ўда ні ўто́не й ні згары́ць. Пас. Янкі Купалы.

ПРА′ЦЫ І СВІ′ТКІ НЕ САРО′МЕЙСЯ. Пра́цы й сьві́ткі не саро́м[е]йся. Зуб.

ПРЫ′ДЗЕ МЕ′СЯЦ ЛІЗУ′Н *(арф.)*. Кл.

ПРЫ′ДЗЕ, ТА′ТА, І НА′ША СВЯ′ТА. Каза́ў жэ вам: Пры́дзе, та́то, й на́шае сьвя́то. Ст. Ратміравічы.

ПРЫСТА′Ў, ШТО (ЯК) КАРО′СТА *(арф.)*. Пас. Чырвоны.

ПРЫШО′Ў БАГА′Ч (у першай палове верасня) — КІДА′Й РАГА′Ч, БЯРЫ′ СЯВЕ′НЬКУ ДЫЙ СЕЙ ПАМАЛЕ′НЬКУ *(арф.)*. Кл., Хал., Сл., Вольн., Вільча.

ПУСЦІ′ЦЦА Ў СКО′КІ. Бува́ла пу́сьціцца ў ско́кі, дак здэ́цца ні датро́гваяцца з[е]млі́. Зуб.

ПУСЦІ′ЦЬ НА СВЕ′Т. Пусьці́лі на сьвет му́чыцца. Сл.

ПЧАЛЯ′Р ДЫ ДО′КТАР І Ў ЛЕ′СЕ НЕ ПАМРЭ′. Пчаля́р да йшчэ до́ктар мо й у ле́се ні прападзе́. Сл.

ПЭ′ЙСЫ РАСПУСЦІ′ЦЬ. Запл[е]ці́са! Ці хо́рашэ, што ні запле́цяна, што пэ́йсы распусьці́ла? Кл.

РАБІ′ЦЬ, ДУШЫ′ ПАСЛУХА′ЮЧЫ *(арф.)*. Кл. Параўн.: рускае работать не покладая рук.

РАБО′ЦЬКА!—З ХВАІ′НЫ ДУ′ГІ ГНЕ, А З Я′СЕНЯ НАЧО′ЎКІ ВЫДО′ЎБАЕ. Рабо́цько! З хвайі́ны ду́гі гне, а зь я́сеню начо́ўкі выдо́ўбае. Кл.

РАЗ—ГУ′СТА, РАЗ—ПУ′СТА. Німа́ ла́ду: раз гу́сто, раз пу́сто. Барб.

РАЗДУ′РНАЯ, ЯК ПА′НІНА КО′ШКА. Кл.

РАЗЛУ′ЧНІКУ ВЕ′РЫ НЯМА′. Разлу́чніку ве́ры німа́. Барб. Гл. разлучнік.

РО′ЗУМУ НА КІРМАШЫ′ НЕ КУ′ПІШ І Ў СЛА′ЎКАЎШЧЫНЕ НЕ ЗНО′ЙДЗЕШ *(арф.)*. Вольн.

РО′ЎНЫ, ШТО СТРУНА′ *(арф.)*. Глуск.

РУ′КІ АДАБРА′ЛА. Но́гі й ру́кі атабра́ло. Гадо́ў мо шэсь страда́ў. Кл.

РУПЛІ′ВЫ!—КАБ З′Е′СЦІ СМАЧНЕ′Й І БОЛЬШ, А ЗРАБІ′ЦЬ ЛЯГЧЭ′Й І МЕНШ. Руплівы!—каб зьесьці смашнêй і бо́л[е]й, а зрабіць лягчэ́й і ме́н[е]й. Глуск.

РЫБАКІ′ — ГО′ЛЫЯ БАКІ′, А АБЕ′Д ПА′НСКІ *(арф.)*. Кас.

САВА′ НЕ РО′ДЗІЦЬ САКАЛА′, А ТАКО′ГА ЧО′РТА, ЯК САМА′ *(арф.)*. Кл., Барб.

САЛДА′Т НЕ БАІ′ЦЦА І ПЕ′КЛА. Салда́т не байіцца й пе́кла. Зуб.

САМ КАПЕ′ЙКІ НЕ ВА′РТЫ, КАЛІ′ ЧА′РЦЫ РА′ДЫ *(арф.)*. Глуск.

СА′НІ НАГАТАЎЛЯ′Й УЛЕ′ТКУ, А КАЛЁ′СЫ (ВОЗ) УЗІ′МКУ *(арф.)*. Кл.

САПЕ′, ЯК КАВА′ЛЬСКІ МЕХ *(арф.)*. Поб.

САРО′ЧКІ СВАЁЙ БАЯ′ЦЦА. Вар’яцець, быць вар’ятам. Што́ б тые паліца́йі саро́чкі сваê бая́ліса, [е]к я йіх набая́ласа. Сл.

САТАНА′ ЗМУ′СЦІЦЬ І Я′СНА САКАЛА′. Сатана́ змусьціць і я́сна сакала́. Зуб.

СВЕТ НЕ БЕЗ ДО′БРЫХ ЛЮДЗЕ′Й, ДЫЙ СВІННО′ТА НЕ ЗВЯЛА′СЯ. Сьвет ні б[е]з до́брых людзе́й, дай сьвінно́та не зьв[е]ла́са. Кл.

СВОЙ СВАЯКА′ БА′ЧЫЦЬ ЗДАЛЯКА′ *(арф.)*. Вільча.

СВЯТА′Я МАНА′ *(арф.)*. Пас. Янкі Купалы, Кл.

СЕДАКО′Ў НА ВАЛА′Х ВАЗІ′ЦЬ. Тут так ву́гадно, што с[е]дако́ў на валох вазіць. Кл.

СЕМ СЕДАКО′Ў НЕ ВО′З, — АБЫ КО′НЬ ВЁЗ! *(арф.)*. Кл.

СЕРАДА′ З-ПАД ПЯ′ТНІЦЫ ВІДА′ЦЬ *(арф.)*. Кл.

СІ′ЛАЮ НЕ БЫ′ЦЬ МІ′ЛАЮ. Сі́лаю не бу́ць мі́лаю. Кас., Зуб.

СІ'ЛЫ, ЯК У СІ'НЬДЗІКА *(арф.)*. Кл. Гл. сіньдзік.

СКАЗА'Ў — ШТО ПУ'ГАЮ ПА ВАДЗЕ' ПЛЯ'С-НУЎ *(арф.)*. Сым.

СЛІ'ЗКІ, ШТО ЎЮ'Н *(арф.)*. Кл.

СЛЯПЫ'Я Ў КА'РТЫ НЕ ГУЛЯ'ЮЦЬ *(арф.)*. Кл.

СМА'ГУ ПРАГНА'ЦЬ *(арф.)*. Хал., Поб.

СМАЛІ'ЦЬ МАЛА'НКАЮ. Про́сто што мала́нкаю сма́ліць, так лоўко ро́біць. Кл.

СНЕГ САЛО'МАЮ ТУШЫ'ЦЬ *(арф.)*. Відавочная мана, хлусня, небыль. Зуб.

СПАДЗЯЕ'ШСЯ Ў КУМЫ' ПАД'Е'СЦІ,—АЛЕ ЦІ ВАРЫ'ЛА ЯНА' Е'СЦІ? *(арф.)*. Глуск.

СПІЦЬ І АДНЫ'М ВО'КАМ ГЛЯДЗІ'ЦЬ *(арф.)*. Н.-Андр.

СТО ГАДО'Ў ХАДЗІ'ЦЬ І СТО НА КАРА'ЧКАХ ПО'ЎЗАЦЬ! *(арф.)*. Кл.

СЦЕ'НКІ, ЯК ПАПЕ'РКІ. Вельмі чыстыя сценкі. З песні: Сце́нкі—як папе́ркі, ла́ўкі — як кіта́йкі *(арф.)*. Кл.

ТАМ ТАБЕ' (ЯМУ, ВАМ) І КАПЕ'Ц. Там табе́ й капе́ц будзе. Н.-Андр.

ТО'ЛЬКІ ВУГЛЫ' ПАКІ'НУЦЬ. Абрабаваць, нічога не пакінуць. То́лькі вуглы́ пакіну́лі (нямецкія акупанты), апро́ч вады́ нічо́га ні было́. Вільча.

ТРЭ'ЦІМ РАЗКО'М ЛЕ'ПШЫМ ЧАСКО'М. Трэ́йцім разко́м, ле́пшым часко́м. Сл.

У БАКА'Х САТКА'ЛА (СЦЯЛО'). Сціснула дыханне. У бако́х сатка́ло, й ні дыхну́. Кл.

УВЕ'СНУ НЕ ПРЫСЛУХА'ЙСЯ, ШТО БАЛІ'ЦЬ *(арф.)*. Кл.

УВО'СЕНЬ ДА'ВАЙ КА'РОВЕ, ШТО ЕСЦЬ, А УВЕ'СНУ, ШТО ЁСЦЬ. Уво́с[е]нь дава́й каро́ве, што ёсь, а ўве́сну, што есь. Кл.

У ВО'ЧЫ ЛЕ'ЗЦІ. Парастань ты ў вочы лёзьці!

Каб за штó, а то за німа ніштó лéзе сьл[е]піцаю ў вочы. Барб.

У ВЫРАЙ ЗБІРА′ЦЦА (у вы́рай, у вýрай зьбірáцца). Дажываць дні (на старасці, пасля хваробы). Н[е] маê гады́ на ры́бу хадзіць, — у вýрай зьбірáцца парá. Дак.

У ВЯЛІ′КІХ ГАДА′Х. Бáба ў в[е]лікіх гадóх. Зуб. Ямý ўжэ вялíкія гады *(арф.)*. Кл.

УЗБІ′ЦЦА НА ЖЫЦЦЁ′. Ні мôг ніяк на жыццé ўзьбіцца. Кл.

УЗГРЭ′БЦІСЯ НА НО′ГІ *(арф.)*. Кл. Гл. варсануць.

УЗЯ′ЦЬ ВЕРХ *(арф.)*. Глуск.

УЗЯ′ЦЬ ЗА ШЧЭ′ЛЕПЫ. Хварóбу вýлужацца: ўзялí за шчэ́ляпы. Кл.

УЗЯ′ЦЬ МО′ДУ. Як вам ні сóрам! Ето ўзялí мóду— што сыбóты в[е]чары́нка. Пас. Янкі Купалы.

У ІХ КІРМА′Ш, А Ў НАС РАБО′ТЫ НЯМА′Ш. У йіх кірмáш, а ў нас—рабóты німáш. Кл.

У КІЯ′Х. У кутку каля печы, дзе стаяць вілкі, камяня (гл.), ёмка (гл.). Пры́дзе, стáне ў парóзе або ў кіёх. Чагó ето ты так? Кл.

У ЛА′ДКІ СПЛЯСКА′ЦЬ (у лáдкі сплéшчуць). Ён так умée сказáць і прыказáць, што ў б[е]сéдзе й у лáдкі сплéшчуць. За éтае варт у лáдкі сьпл[е]скáць. Кл.

У ЛУ′ЦЦЕ (у лýцьце). Гл. лýцце. Мы с Трахімам хадзілі ў лýцьце—хадзілі ў лес драць ліповае лыка. Кл.

У НА′ШАЕ АКУРА′ТНІЦЫ ВІДА′ЦЬ СЕРАДА′ З-ПАД ПЯ′ТНІЦЫ. А ў нáшае акурáтніцы відáць с[е]рада спат п'ятніцы. Хал.

У ПА′СКІ. Харóшае матэ́райі ў пáскі купіла. Кл. На кóхту ў пáскі ніхóрашэ. Кл. У пáсачкі крам. Барб.

УПЯЧЫ′СЯ Ў БАКІ′ *(арф.)*. Кл.

У САБА′КІ ВО′ЧЫ ПАЗЫ′ЧЫЎШЫ *(арф.)*. Пас. Янкі Купалы.

УСЁ Ў ЖЫЦЦІ′ ТРЭ′БА, АДНО′ ЛІ′ХА НЕ ТРЭ′-БА *(арф.)*. Глуск, Кл.

У СТРАЛЬЦА′ І МУЗЫ′КІ ХЛЕБ НЕВЯЛІ′КІ. У стральца́ й музы́кі хлеб нів[е]лікі. Кл.

УСЯ′КІ БА′ЧЫЦЬ, ШТО НА МНЕ, ДЫ НІХТО′ НЕ БА′ЧЫЦЬ, ШТО ЎВА МНЕ *(арф.)*. Сл.

У ЦЯЖКУ′ *(арф.)*. Цяжарная. Га́нна ў цяжку́ тады хадзі́ла *(арф.)*. Кл. Гл. цяжкая. Параўн.: чэшскае obtěžkati—зацяжарацъ, абцяжарыць.

ХАДЗІ′ЦЬ З ПРЫПО′ЛАМ. Жывіцца, выпрошваючы ў сваякоў і суседзяў. Йіха ма́ці да сьме́рці хадзі́ла с прыпо́лам. Зуб.

ХАДЗІ′ЦЬ З ТО′РБАЮ. Жабравацъ. Ні бу́дам рабі́ць, а хто́ дась хле́ба гультаю́? С то́рбаю хадзі́ць? Зуб.

ХАЦЯ ШТО МА′ЛЕЧКУ. Чуць што. Хаця́ што ма́лячку, дак ён ужэ й крычы́ць. Кл.

ХВАРО′БА НЕ ПЕ′РНІК: НЕ ПРАКАЎНЕ′Ш І НЕ АДКА′ЖАШСЯ *(арф.)*. Глуск.

ХВО′РАМУ ЎСЮ′ДЫ МУ′ЛКА. А хво́раму ўсю́ды му́лка. Барб.

ХІБА ХВАРЭ′Е (ХВАРЭ′ЮЦЬ)! Можа, могуць! Хіба хварэе сам накасі́ць? Кл.

ХЛЕБ КА′ЖА: КІНЬ СТРЭ′ЛЬБУ І ВУ′ДУ, Я Ў ЦЯБЕ′ НА СТАЛЕ′ БУ′ДУ *(арф.)*. Кл.

ХЛЕБ—НЕ ЗЯЦЬ, ДО′БРЫЯ ЛЮ′ДЗІ З'ЯДЗЯ′ЦЬ *(арф.)*. Кл.

ХЛО′ПЕЦ, ЯК КАМЕ′ЛЬ *(арф.)*. Кл.

ХО′ДЗІЦЬ ЦІХО′М, А ВАЛО′ЧЫЦЬ (ЦЯГАЕ) МЯХО′М. Хо́дзіць ціхо́м, а вало́чыць м[е]хо́м. Пас. Янкі Купалы.

ХО′ДЗІЦЬ, ЯК ПАДМЕ′ЦЕНЫ *(арф.)*. Вайц.

ХО′ДЗЯЦЬ, ЯК ЗЛЫ′ГАНЫЯ *(арф.)*. Дружна ў пары, неразлучна. Гл, злыгаць, залыгаць. Кл.

ХОЦЬ КА′ЛІЎЦА, ХОЦЬ ЦАВІ′НКУ (ЦАВІ′НАЧКУ). Хоць крышку (крышачку). Дай хоць ка́ліўцэ, хоць цаві́нку. Кл.

ХОЦЬ ТЫ РО′ВАМ РАВІ′ *(арф.)*. Барб., Кл.

ХТО ГО′РБАМ, А ХТО ГО′РЛАМ *(арф.)*. Глуск.

ХТО — КАБ ГО′РБАМ, ХТО — КАБ ГО′РЛАМ, А ХТО—КАБ ХІ′ТРЫКАМІ *(арф.)*. Глуск.

ХТО КАПЕ′ЙКІ НЕ БЕРАЖЭ′, ТОЙ САМ РУБЛЯ′ НЕ ВАРТ. Хто капе́йкі ні беражэ́, той сам рубля́ ні ва́рт. Кл. Глуск.

ХТО САМ СЯБЕ′ ХВА′ЛІЦЬ, ХАЙ ТАГО ПЯРУ′Н СПА′ЛІЦЬ. Хто сам сябе́ хва́ліць, хай таго́ пе́рун спа́ліць. Кл.

ХУ′ТКА РО′БІЦЬ, АЛЕ ПЕРАРАБЛЯ′Е ДОЎГА. Ху́тко рабіў, але перарабля́ў до́ўго. Кл.

ЦАПУ′-ЛАПУ′. Хапаючыся, абыякава. Кл.

ЦЁ′ГАМ ЦЯГНУ′ЦЬ *(арф.)*. Зуб., Сл.

ЦІ БЫЛА′ Ў САБА′КІ ХА′ТА? *(арф.)*. Зуб.

ЦІ—ЗА НАЧА′ЛЬНІКА, ЦІ — ЛЯ НАЧА′ЛЬНІКА, А ДА ГРАБЕ′ЛЬ РУ′КІ НЕ ДАХО′ДЗЯЦЬ *(арф.)*. Гл.

ЦІ КЛО′ЧЧА, ЦІ ВО′ЎНА — АБЫ КІ′ШКА ПО′ЎНА. Ці кло́чч[э] ці во́ўна, абы (і абу) кішка по́ўна. Кл.

ЦІ ЯШЧЭ′, ЦІ ГО′ДЗЕ? Ці йшчэ ці годзе? Барб.

ЦЭ′ЛАЯ ВАЙНА′ (цэла і цэ̂ла вайна́). 1. Багата (пра людзей). Ад Заха́рйі цэ́ла вайна́ людзе́й ву́йшла. Кл. 2. Сварка з бітваю. Там цэ̂ла вайна́ йшла. Барб.

ЦЯЛЯ′ТЫ ЯЗЫ′К АДЖАВА′ЛІ *(арф.)*. Пас. Янкі Купалы. Параўн.: маўчыць, як вады́ ў рот набра́ўшы.

ЧАГО′ НЕ ХО′ЧАШ САМО′МУ, НЕ ЧЫНІ′ ДРУГО′МУ *(арф.)*. Кл.

ЧО′БАТАМ ЗНО′СУ НЯМА′: ГАДО′Ў ДЗЕ′СЯЦЬ У РУКА′Х НО′СІЦЬ *(арф.)*. Барб.

ЧОРТ НА ФО′РМУ ЎКРАЎ *(арф.)*. Кл.

ЧУЖЫ′М ЦЯ′ЖКА ЗАПАМАҐЧЫ′СЯ. Чужы́м ця́жко запамагціса. Кл. Гл. запамагчыся.

ШАЛЁ′НАЯ МУ′ХА ЎДЖЫГНУ′ЛА ЗА ВУ′ХА *(арф.)*. Сым.

ШАЛЁ′НАЯ МУ′ХА ЎКУСІ′ЛА ЗА ВУ′ХА *(арф.)*. Сым.

ШАНУ′ЮЧЫ ВАС (ЦЯБЕ). Сінонім да прабача́йце (прабача́й); шану́ючы вас (цябе)—прабачэнне, якога просяць, калі ў гутарцы называюць што-небудзь непажаданае ці не зусім прыемнае для прысутных або не зусім прыстойнае. Разрэ́залі (скулянку), дак, шану́ючы вас, бру́ду мо шкля́нка. Кл.

ШЛУ′ННЕ ВЫ′ЦЯГНУЦЬ *(арф.)*. Кл.

ШТО ЛЕ′ТАМ НО′ЖКАЮ ТОП, ТОЕ ЗІМО′Ю Б РУ′ЧКАЮ ХОП. Што лётам нôжкаю топ, то́е зімо́ю б ру́чкаю хоп. Кл.

ШЧЫРАЯ ПРАЎДА. Ні мана, а шчы́рая пра́ўда. Кл.

ЯК АБЫЯ′КАЯ ПРЫСМА′КА, ТО ЛЕПШ НІШЧЫ′МНАЕ. Я́к абыя́ка прысма́ка, то лепш нішчы́мнае. Кл.

ЯК АБЫЯ′КІ, ДЫК ЛЕПШ НІЯ′КІ. [Е]к абыя́кі, дак ле́п[е]й нія́кі. Зуб.

ЯЗЫКО′ВАЕ МЛІ′ВА НЕ ГАДЗІ′ВАЕ. [Е]зыко́вае млíво ні гадзíвае. Кл.

ЯЗЫКО′М СЕ′НА НЕ НАКО′СІШ *(арф.)*. Глуск.

ЯК БАЙЧ! Гл. як бач.

ЯК БАЧ! Хутка, спрытна, імгненна. Як ба́йч прыпру́. Кл. Гл. бач і байч.

ЯК БА′ЧЫШ! Хутка, спрытна, імгненна. Як ба́чыш зро́біць. Кл.

ЯК ВА′РАМ АБЛІ′ТЫ *(арф.)*. Сл.

ЯК ВО′КАМ ДАСТА′ЦЬ. Завішава́ло бало́то, як во́кам даста́ць. Байл.

ЯК ЗА СЯБЕ′ ЗАКІ′НУЦЬ *(арф.)*. Хутка, не разбіраючыся ў якасці і смаку стравы, з'есці. Кл.

ЯК ЗДАЕ′ЦЦА, ТО ХРЫСЦІ′СЯ *(арф.)*. Жартоўны адказ (заўвага) таму, хто няўпэўнена гаворыць, прыпускаючы меркаванні. Кл.

ЯК МА′ЦІ ПАМЕ′РЛА, ДЫК БА′ЦЬКА АСЛЕ′П. Як мáці памéрла, дак бáцька асьлёп. Зуб.

ЯК НАВУЧЫ′ЎСЯ, ТО І НА МА′ТКУ ЗАБЫ′ЎСЯ. Як навучы́ўся, то й на мáтку забы́ўся. Пас. Янкі Купалы.

ЯК НАЛІВА′НЫЯ. Параўнанне да вельмі прыгожых, гладкіх і бліщчастых яблыкаў, ягад і да жывых істот (парасяты, быкі). Парася́та — што наліва́ный[е]. Кл. Яблыкі [е]к наліва́ныйе. Барб.

ЯК НА ТО′Е ЛІ′ХА *(арф.)*. Сым.

ЯК ПО′ЙДЗЕШ НАЦЯНЬКІ′, ДЫК ПРАХО′ДЗІШ ТРЫ ДЗЯНЬКІ′ *(арф.)*. Кл.

ЯК ПУ′ГАЮ ПА ВАДЗЕ′ *(арф.)*. Глуск.

ЯК СКА′ЖА «МА′БЫЦЬ», ТО ПРА АДКЛА′Д ЗАЛА′ДЗІЦЬ. [Е]к ска́ж[э] «ма́быць», то пра аткла́д зала́дзіць. Кл.

ЯК ТАБЕ′ ДО′БРА, ТО І Ў НО′ГІ ЛІЗНЕ′, А ЯК ТАБЕ′ НЕВЫХО′ДНА, ТО Ў ЯМУ КАПСАНЕ′. Як табе до́бр[э], то й у но́гі лізьне́, а як табê нівыхо́дно, то ў я́му капсане́. Глуск.

ЯК У ЛУ′ЖУ СЕЎ *(арф.)*. Барб.

ЯК У РА′КУ СМА′КУ *(арф.)*. Кл.

ЯКУРА′Т ЯК У СУ′К *(арф.)*. Вайц.

ЯК У СУ′К УЛЯПІ′Ў *(арф.)*. Пас. Янкі Купалы.

ЯК У ТРА′СЦЫ КІ′ДАЕ *(арф.)*. Вольн.

ЯК ЯЗЫЧКО′М, ТАК СМЫЧКО′М *(арф.)*. Сым.

---

# ПАКАЗЧЫК

***моў, з якіх прыводзяцца ў слоўніку прыклады; раёнаў Беларусі, з якіх даюцца словы; аўтараў на якіх робяцца спасылкі. Лічба паказвае старонку ў слоўніку.***

## ЗМЕСТ

*Стар.*

На белорусском языке
*Федор Михайлович Янковский*
ДИАЛЕКТНЫЙ СЛОВАРЬ
Издательство АН БССР, Минск, 1959 г.

* * *

Рэдактар Выдавецтва *Ів. Чыгрынаў*
Тэхнічны рэдактар *І. Валахановіч*
Карэктар *О. Цэрашчатава*

*

АТ 02767. Здана ў набор 30/IX-1958 г. Падпісана да друку 3/IV-1959 г. Тыраж 1800 экз. Папера $70\times92^1/_{32}$. Выд. арк. 9,0. Друк. арк. 8,5, Выд. заказ 024. Друк. заказ 1794. Цана 4 р.

*

Друкарня Выдавецтва АН БССР
Мінск, праспект Сталіна, 110